**Алесь ЗАЙКА**

# Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны

ААТ «Брэсцкая друкарня», 2014

**УДК 811.161.3’373.72(038)**
**ББК 81.411.3-36-4**
**З 17**

Рэцэнзент

М.М. Аляхновіч, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі УА «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт» імя А.С. Пушкіна».

**Зайка А. Ф.**
З 17 **Фразеалагічны слоўнік Касаўшчыны/Алесь Зайка. - Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2014-308 с.**

**ISBN 978-985-524-168-4**

Багатай крыніцай папаўнення і ўзбагачэння фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы з’яўляецца фразеалогія асобнага дыялекту.

У “Фразеалагічным слоўніку Косаўшчыны” прадстаўлена фразеалогія насельнікаў паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Да кожнага фразеалагізма даецца тлумачэнне, прыводзіцца прыклад з жывой гутарковай мовы, што зноў жа такі дазваляе вызначыць сэнс кожнага выразу, пабачыць яго ў кантэксце.

Кніга разлічана на самыя шырокія колы чытачоў, для ўсіх, хто любіць, шануе народную словатворчасць.

**УДК 811.161.3’373.72(038)**
**ББК 81.411.3-36-4**

**ISBN 978-985-524-168-4**

***Маёй любай жонцы Антаніне прысвячаю.***

# Ад складальніка

«Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» – плён маёй доўгай руплівай працы. Працы, якая, праўда, аніяк не абцяжарвала. Наадварот, прыносіла радасць, адчуванне споўненага абавязку перад людзьмі, што зберaглі, захавалі ў маўленні жывое народнае слова. Усім ім – мой шчыры дзякуй.

Я ўдзячны майму навуковаму кіраўніку М.М. Аляхновічу, дацэнту, загадчыку кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі УА «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт» імя А.С. Пушкіна», які паспрыяў друкаванню «Фразеалагічнага слоўніка Косаўшчыны» ў зборніках навуковых артыкулаў, што рыхтаваліся на кафедры, заахвоціў да збірання і выдання больш поўнага збору ўстойлівых адзінак мовы маёй роднай Косаўшчыны.

У час працы і падрыхтоўкі выдання да друку я нязменна адчуваў падтрымку, моцнае плячо маіх даўніх сяброў Алеся Разанава і Зміцера Санько. Тэхнічнае вырашэнне: вонкавы выгляд, вёрстку – здзейсніў В.М. Гапееў, добрай душы чалавек. Сардэчны дзякуй вам!

У працяглай і напружанай працы побач са мной была жонка Антаніна. Яна – мой першы чытач, зычлівы дарадца, прынцыповы крытык. А яшчэ Антаніна Іванаўна, праявіўшы ўмельства і цярпенне, зрабіла камп’ютарны набор. Дзякуй табе.

# Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны

Сучасны Івацэвіцкі раён, так склалася спрадвеку, умоўна дзеліцца на тры рэгіёны: Быценшчыну, Косаўшчыну ды Целяханшчыну. І кожны куточак адметны, своеасаблівы, непаўторны, варты пільнага вока і гісторыка, і этнографа, і мовазнаўцы. 63 вёскі належаць да Косаўшчыны (39 з іх вядомыя з 16 ст.), і кожнае паселішча лучыць з мястэчкам Косава свая дарога. З поўначы, захаду і ўсходу край здаўна атуляюць Буленская, Бялавіцкая ды Любішчыцкая пушчы, з поўдня да яго падступаюць целяханскія балоты.

Само Косава (упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1494 годзе) ляжыць на высокай градзе – мяжы вялікага водападзелу паміж Чорным і Балтыйскім морамі. Праз Косава праходзіў старажытны шлях, «дорога звычайная звечная» з Вільні на Валынь. Тут ад сярэдзіны 16 ст. ладзіліся шумныя кірмашы. З 1594 па 1765 гады мястэчкам і маёнткам Косава (7 фальваркаў, 17 вёсак) валодалі знакамітыя Сапегі (пабудавалі касцёл, царкву, адкрылі школы пры іх). Усё 19 стагоддзе Косава з вакольнымі вёскамі – уласнасць багатых прамыслоўцаў Пуслоўскіх (заклалі суконную, дывановую і коўдраткацкую фабрыкі, працавалі гута, бровар, цагельня, смалакурня). З 1921 па 1939 гг. мястэчка – цэнтр Косаўскага павета, з 1939 па 1947 – цэнтр Косаўскага раёна [1.с.439 – 516]. Як бачым, ад самага пачатку і да сягоння Косава было і ёсць тым ядром-цэнтрам, які аб΄ядноўваў, групаваў вакол сябе мясцовы люд.

Размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, характэр-

най для Гарадзенска-Баранавіцкай дыялектнай групы, якая вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку: дзеканне і цеканне, пераход *в, л* у пэўнай пазіцыі ў *у* нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, *р, ц*, аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і склада перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова, чаргаванне *ро, ло, ле* з *ры, лы, лі* і інш. Разам з тым у слоўнікавых артыкулах адлюстраваны дыялектныя адметнасці Косаўшчыны, а іменна: а) захаванне канцавога ненаціскнога *о* ў назоўніках, прыслоўях (*сонцо, жыто, просо, мамо, тато, моцно, кепско, мало, много*); б) прыстаўное *г* перад пачатковымі *а, у* (*гарэшнік, ганучa, гараць, гарабіна, гуліца*); в) канчатак *-а* ў назоўным склоне множнага ліку ў назоўніках ніякага роду (*вокна, кацянята, гнёзда*); г) ужыванне старой, сінтэтычнай формы будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання (*пісацьму, рабіцьму, касіцьму)*; д) наяўнасць моцнага якання ў канчатках дзеясловаў другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку (*будзяш, трымаяш, танцуя, спявая*), першай і другой асобы множнага ліку (*выбіраям, колям,гуляяця, сябруяця);* е) *о* на месцы *а* ў афіксе *-ся* зваротных дзеясловаў прошлага часу ў ніякім родзе і ў безасабовых дзеясловах *(сонцо схаваласё, дрэво зламаласё, змяркаласё, сніласё)*; ж) канчатак *-і* ў месным склоне назоўнікаў мужчынскага роду (*у лесі, у хлебі)* і канчатак *- э* ў месным склоне адзіночнага ліку ў назоўніках з асновай на шыпячыя і *р ( на шашэ, на пячэ, на дварэ, на мяжэ);* з) канчатак *–ом* у назоўніках мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне (небом, горадом, светом, медом); і) наяўнасць выбухнога *г (ганок, гузік);* к) разам з поўнай формай прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў ужываецца сцягнутая форма *(добра карова, нова хустка, гэто сяло, сёма гадзіна);* л) пашыранасць

прыназоўніка *да* з родным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *пайшоў жыць да сына, паехоў да Косава, пайшоў да шаўца* і прыназоўніка *па* з вінавальным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *ісці па воду, ісці па хлеб.*

Адзначым, што ў фразеалагічны склад Косаўшчыны, акрамя ўласна дыялектнай фразеалогіі, уваходзяць агульнанародныя, літаратурныя, фальклорныя фразеалагізмы, зразумелыя кожнаму беларусу. У «Фразеалагічным слоўніку Косаўшчыны» можна знайсці ўсе тыпы дыялектнай фразеалогіі, класіфікацыю якой у свой час распрацаваў І.Я.Лепешаў і дапоўніў М.А.Даніловіч.

Слоўнікавыя артыкулы падаюцца ў алфавітным парадку. Тлумачэнне фразем найчасцей даецца праз сінанімічную літаратурную лексему або раскрываецца шляхам разгорнутага апісання. Асобныя дыялектызмы для зручнасці тлумачацца ў слоўнікавых артыкулах.

У фразеалагізмах прастаўлены націскі.

## А

АБАБІ´ЦЬ НО´СА. Спраўдзіць жаданне, збіць ахвоту. *Людзі ягады валочаць, а на мяне нека немач напала. Яно трохі паздаравела – хутчэй у лес. Абабіла носа, аж паздаравела.* Альшаніца Квас.

АБВЯСЦІ´ КРУГО´М ПА´ЛЬЦА. Ашукаць. *Купіў карову на базары. Прывёў дахаты, жонка села даіць – адно тры цыцкі дояцца. Як схацелі, абвялі мяне кругом пальца.* Заполле Кос.

АБГАВАРЫ´ЦЬ З НОГ ДА ГАЛАВЫ´. Зняславіць, зганьбіць. *Мая свякроў была ліхая. Бало, назбірая бабоў каля сябе і мыя мае косці, абгаворыць з ног да галавы.* Скураты Квас.

АБЕ´Д АДБЫ´ЦЬ. Выканаць дакучлівы абавязак. *Кароў адпасвілі, абед адбылі – і добра.* Заполле Кос.

АБІВА´ЦЬ (АБІЦЬ) КАПЕЙКУ. Зарабляць. *Робіць мой швагер на падсочцы, то добрую капейку абівая.* Ёдчыкі Квас.

АБІВА´ЦЬ ПАРО´ГІ. Прасіць, дамагацца. *Памятаю, паўгода абіваў парогі начальнікам, пакуль шыферу далі хату накрыць.* Квасевічы Квас.

АБІ´ЖАНЫ БО´ГОМ І ЛЮДЗЬМІ´. Пра няшчаснага чалавека (найчасцей так скажуць пра калеку ці сірату). *Ні крычы на яго: ён і так абіжаны Богом і людзьмі.* Альшаніца Квас.

АБЛАМА´ЦЬ РО´ГІ. Уціхамірыць, сцішыць. *Зяць да дачкі ўсё з кулакамі скакаў, то я яму хутко рогі абламаў.* Мілейкі Міл.

АБЛІВА´ЦЬ ГРА´ЗЗЮ (ПАМЫ´ЯМІ). Зневажаць, несправядліва вінаваціць, распускаць плёткі. *Свякроў па ўсём сяле ходзіць граззю мяне аблівая, і трэба гэто цярпець.* Грыўда Міл.

АБЛІ´ЦЦА СЛЯЗЬМІ´. Горка, наўзрыд заплакаць. *Напалі на майго хлопца, шчо ён ровара ўкраў у Мацвея Адзінцоваго. Ці гэтаму праўда? Ён цалюткі дзень*

*за мною картоплі капаў. Ажно міліцанера вызвалі. Аблілося маё дзіця слязьмі, душою не вінаватае.* Хрышчонавічы Квас.

АБМЫ́ЦЬ І АБШЫ́ЦЬ. Паклапаціцца, дагледзець. *Цяжко цётцы: дзесяцёро дзяцей. Гэто ж абмый і абшый такое сям'іско.* Бялавічы Кос.

АБО́Я РАБО́Я. Аднолькавыя. *Ты за імі ні заступайся: абоя рабоя. І яна акалуха – у хаці ні пераступіць, і ён ні лепшы – парадку на надворку німа.* Размеркі Стайк.

АБО́Я ЯК АДЗІ́Н. Пра людзей, падобных у чымнебудзь адзін на аднаго. *І трэба так – абоя як адзін і ростом, і натураю.* Заполле Кос.

АБРАСЦІ́ ГРА́ЗЗЮ. Так скажуць, калі непарадак у хаце, бруд. *Капалі картоплі цэлы тыдзянь, ні было калі і ў хаці прыграбці. Абраслі граззю так, шчо цэлы дзень пратала, наводзіла парадкі.* Альшаніца Квас.

АБРАСЦІ́ МО́ХОМ. Адзічэць, прыйсці ў запусценне. *Усяго год, як маці памярла, а ўжэ хата мохом абрасла.* Даргужы Міл.

АБРЫ́ДЗЕЦЬ БО́ГУ І ЛЮ́ДЗЯМ. Надакучыць, апрыкраць. *Німа цярпення на яго, абрыд Богу і людзям.* Міхнавічы Стайк.

АБСЫ́ПАЦЦА ДЗЕ́ЦЬМІ. Мець вялікую сям'ю. *Маладыя, а гэтак дзецьмі абсыпаліся, адно з-пад аднаго.* Аўсто Стайк.

АБУ́ЦЬ У ЛА́ПЦІ. Ашукаць. *Сказалі ў сельсавеці: як здасі, дзед, тону малака, то прэмію выпішам. Здаў ім тону, а прэміі німа, абулі ў лапці старого.* Мілейкі Міл.

АБЦІРА́ЦЬ ВУГЛЫ́. Туляцца. *Чаго ты на му́зыкі ходзіш? Прышоў, то танцуй, а гэто ано вуглы абціраяш.* Альшаніца Квас.

АБЫ́ ВО́ЧЫ МАЕ́ НІ БА́ЧЫЛІ. Так выказваюць абурэнне ўчынкам чалавека і нежаданне яго ба-

чыць. *Едзь у свет і рабі, шчо хочаш, абы мае вочы ні бачылі.* г.Косава.

АБЫ´ ДЗЕНЬ АДБЫ´ЦЬ. З неахвотай працаваць. *На калхозной рабоці абы дзень адбыць, усё раўно ніц ні плацяць.* Альшаніца Квас.

АБЫ´ ДЗЕНЬ ДА ВЕ´ЧАРА. Так скажуць, калі займаюцца непрадуктыўнай, марнай працай. *Бало, пойдзям касіць у калхоз, то так і косім: абы дзень да вечара.* Заполле Кос.

АБЫ´ ЗБЫЦЬ З РУК. Скажуць тады, калі жадаюць пазбавіцца ад нечага малакаштоўнага. *Прадала картоплі за гнілую рыбу: абы збыць з рук.* Хрышчонавічы Квас.

АБЫ´ З РУК. Абы-як. *Неакуратны чалавек Хведар, век пражыў, а ўсё робіць абы з рук, цяп-ляп.* Гошчава Стайк.

АБЫ´ КАНЕ´Ц З КАНЦО´М СЦЯГНУ´ЦЬ. Так скажуць, калі адчуваюць нястачу ў нечым. *От, жыву як усе: ад палучкі да палучкі, абы канец з канцом сцягнуць.* Руда Падст.

АБЫ´ КІ´ШКА ПРУ´ТОМ СТАЯ´ЛА. Пра непераборлівасць у ежы, адчуванне сытасці. *От, наеўся сяго-таго: абы кішка прутом стаяла.* Гошчава Стайк.

АБЫСЦІ´ БО´КОМ. Не чапаць, не звязвацца. *Дурного чалавека абыдзі боком, лепш ні звязвайся з ім.* Размеркі Стайк.

АБЫСЦІ´ ЗА ВЯРСТУ´. Ухіліцца ад сустрэчы з кім-небудзь. *Дзе твае вочы, дзеўка? Прышоў п'яны кавалер да цябе – абыдзі такого за вярсту.* Любішчыцы Люб.

АБЫСЦІ´ КРУГО´М. Пазбегнуць сустрэчы. *Не зачэпайся ты з ім, абыдзі кругом, то даўжэй пражывеш.* Сенькавічы Падст.

АБ'ЯДА´ЦЬ (АБ'Е´СЦІ) ВУ´ШЫ. Так скажуць, калі не апраўдваюцца затраты на ўтрыманне жыўнасці ў гаспадарцы. *Купіла качок, то аб'елі вушы: давай і давай ім есці, такія пражэрлівыя.* Быч Стайк.

АБЯЦА´ЦЬ ЗАЛАТЫ´Я ГО´РЫ. Абяцаць матэрыяльны дастатак, багацце. *Як сватаўся да мяне, то абяцаў залатыя горы. Пасля вяселля завёз у Расію, а там – вецяр свістаў па завуголлях. Пакуль абжыліся, завялі гаспадарку, то цяжко прышлося. Але зараз, дзякаваць Богу, усё е.* г.Косава.

АГАРО´Д ГАРАДЗІ´ЦЬ. Пустасловіць. *Хопіць агарод гарадзіць, сама работа ні зробіцца, трэба варушыцца.* г.Івацэвічы.

АГЛЯНУ´ЦЦА НІ ПАСПЕ´ЯШ. Пра тое, што вельмі хутка праходзіць, мінаецца. *Жыццё прабяжыць – ні згледзіш: аглянуцца ні паспеяш, а ўжэ ў зялёны гаёк трэба збірацца.* Бусяж Міл. Зялёны гаёк - тут: могілкі.

АДАБРА´ЦЬ ХЛЕБ. Пазбавіць заробку. *Бач, які хітры: паглядзеў, як я пляту кошыкі, навучыўся ад мяне, а зараз і ён людзям прадае, адабраў у мяне хлеб.* Размеркі Стайк.

АДАЛЬЮ´ЦЦА СЛЁЗЫ. Г.зн. крыўда, зло не застануцца непакаранымі. *Не крыўдзі сірату, Андрэй, бо гэто велькі грэх, адальюцца табе сірочыя слёзы.* Хадоркі Кос.

АДАРВА´ЦЬ ГАЛАВУ´. Звычайна кажуць, калі пагражаюць за нейкую правіннасць пакараць. *Будзяш пrыставаць да мае дачкі, адарву галаву: я ні для цябе яе гадаваў.* Зыбайлы Жытл.

АДАРВА´ЦЬ КУСО´К СЭ´РЦА. Прыняць няпростае рашэнне. *Адарву кусок сэрца, перастану памагаць, хай жывуць, як хочуць. Смяшаць людзей: то сходзяцца, то расходзяцца, то б'юцца, то мірацца. Ано мая душа выбольвая. Хай жывуць, як хочуць.* Альшаніца Квас.

АДАРВІ´ ДЫ ВЫ´КІНЬ. Пра нехлямяжага чалавека. *Хіба гэто мужык? Адарві ды выкінь, ніц ні варты.* Сярадава Жытл.

АДБІВА´ЦЦА РУКА´МІ І НАГА´МІ. Наадрэз адмаўляцца. *Хочуць дзеці забраць у горад. Адбіваюся*

*рукамі і нагамі, ні выняся мая галава таго тлуму.* Жытлін Жытл.

АДБІ´ЦЦА АД РУК. Не слухацца. *Як паехоў хлопяц у горад, то зусім ад рук адбіўся: курыць пачаў, дахаты ні едзя.* Гічыцы Ягл.

АДБІ´ЦЦА АД ХА´ТЫ. 1. Здзічэць, зрабіцца бадзяжным. Сабака *адбіўся ад хаты, упыну німа.* Грыўда Міл. 2.Стаць валацугам; пакінуць надоўга родныя мясціны. *Тры годы ў арміі, пасля на цаліне – адбіўся ад хаты.* Заполле Кос.

АДБІ´ЦЬ БРЫДУ´. Пазначыць граніцы ўчастка на сенажаці. *Перад тым, як пачынаць касіць, адбіваюць брыду.* Заполле Кос. Брыда – мяжа, пратаптаная на сенажаці, якая аддзяляе адзін участак ад другога.

АДБІ´ЦЬ НУТРО´ (ПЕ´ЧАНІ). Моцна збіць. *Пайшоў мой хлопяц на музыкі ў суседняе сяло, то гэдык збілі, усё нутро адбілі, у бальніцы ляжыць.* Хрышчонавічы Квас.

АДБО´Ю НІМА´. Многа, больш як трэба. *Сіратою вырасла, ладная дзеўка, ад жаніхоў адбою німа.* Скураты Квас.

АДБЫ´ЦЬ ЧАРГУ´. Выканаць пэўны абавязак. *На вяселья мне, старой, так не хочацца ісці, але трэба адбыць чаргу, бо яны да мяне прыходзілі.* Заполле Кос.

АДВАРО´ЧВАЦЬ (АДВЯРНУ´ЦЬ) НО´СА. 1. Грэбаваць. *Не адварочвай носа ад місы, еш, шчо дала.* Ёдчыкі Квас. 2. Пазбягаць сустрэчы, ігнараваць. *Бач, адвярнуў носа. Яшчэ раз скажу: ты пакраў гарбузы ў мяне з поля.* Заполле Кос.

АД ВЕ´ТРУ ВАЛІ´ЦЦА (ПАВАЛІ´ЦЦА). Быць вельмі слабым. Т*ак вымучыла грыпа, гатоў ад ветру паваліцца.* Скураты Квас.

АД ВІДНА´ ДА ЦЯМНА´. Увесь светлавы дзень. *У сяле летом кі´на німа калі глядзець: ад відна да цямна ў градах.* Быч Стайк.

АДВІ´ЛУ НІМА´. Занадта, больш як трэба. *Дач-*

*ку маю хлопцы любяць – адвілу німа: надто хароша.* Альшаніца Квас.

АДВЯСЦІ´ ДУ´ШУ. Здаволіцца. *Люблю боцманы – аладкі з мясом, ажно пяць штук з'еў, адвёў душу.* Альшаніцв Квас.

АДДАВА´ЦЬ (АДДА´ЦЬ) ДУ´ШУ. Моцна любіць, песціць. *Маці дзецям душу аддае, песціць, а яны павырастаюць, то пісьмо лянуюцца напісаць.* Квасевічы Квас.

АДДАВА´ЦЬ (АДДА´ЦЬ) ЗА´МУЖ. Садзейнічаць уступленню ў шлюб жанчыны. *Аддалі замуж дачку, ды адны засталіся. Скучно, добра, што яшчэ маладыя праведваюць.* г.Косава.

АДДА´ЦЬ БО´ГУ ДУ´ШУ. Памерці. *І еў смачно, і спаў, колькі хацеў, але ад смерці не схаваўся, аддаў Богу душу.* Боркі Люб.

АДДА´ЦЬ ЗА ДЗЯ´КУЙ. Танна, нядорага. *Парасята так падаражалі, а я тыдзянь назад аддаў за дзякуй. Размеркі Стайк.*

АДДА´ЦЬ ЛЯНО´ШЧУ. Перакінуць на іншага санлівасць, млявасць. *Калі хто пасля сну пацягваецца, кажуць: аддае ляношчу.* Заполле Кос.

АДДА´ЦЬ У ЛЮ´ДЗІ. На працу па найме. *Мяне бацько ў 12 гадоў у людзі аддаў: у Сіняўцы пастушком быў. Згаварыліся на пяць пудоў жыта.* Заполле Кос.

АД'Е´СЦІ (ВЫ´ЕСЦІ) ДУ´ШУ. Дакучаць пастаяннымі прыдзіркамі, папрокамі, сваркамі. *Ад'еў душу – пакіну я яго.* Бялавічы Кос.

АДЗІ´Н АДЗІНЮ´ТКІ. Адзінокі. *Памярлі яго равеснікі, німа з кім і пагаварыць, адзін адзінюткі. А яму ўжэ за дзявяносто.* Жамайдзякі Міл.

АДЗІ´Н БОГ СВЯТЫ´ ВЕ´ДАЯ. *Нікому невядома. Адзін Бог святы ведая, шчо з намі будзя. Нашчо наперад загадваць.* Верашкі Квас.

АДЗІ´Н З-ПАД АДНАГО´. *Адзін за аднаго меншыя. Сядзіць мая дачка дома: абсыпалася дзецьмі,*

*адзін з-пад аднаго. Альшаніца Квас.*

АДЗІ´Н КАНЕ´Ц. Так скажуць, калі не знаходзяць выйсця з цяжкага становішча, пагаджаюцца з абставінамі. *Расказвалі ў вайну смаленскія бежанцы пра калхозы, якая там беднота была. То мы моцно ні хацелі ўступаць. Але не было дзе падзецца. Адзін канец – усе запісаліся.* Заполле Кос.

АДЗІ´Н У АДЗІ´Н (АДНА´ Ў АДНУ´, АДНО´ Ў АДНО´). 1.Падобныя. *Хлопцы – адзін у адзін: і з твару, і ростом.* Азярцо Падст. *2.* Добрыя па якасці. *Сосны – адна ў адну: высокія, стромыя.* Кушняры Падст. *3.* Аднолькавыя па велічыні. *Гэта курыца нясе яйца адно ў адно.* Альшаніца Квас.

АДЗІ´Н ЦЕНЬ ЗАСТА´ЎСЯ. Зблажэць, змарнець. *Хварэў доўго мой сват, адзін цень ад яго застаўся.* Яглевічы Ягл.

АДЗІ´Н ЧОРТ. Усё роўна, без розніцы. *Ці много заробіш, ці мало – адзін чорт. Гэтых грошай век мало.* Даргужы Міл.

АДЗЯВА´ЦЬ (АДЗЕ´ЦЬ) САБЕ´ ХАМУТА´ НА ШЫ´Ю. 1. Набываць сабе лішні клопат. *Качанят купіла, аб'елі ўсе вушы. І давай, і давай есці, без перастанку. От адзела сабе хамута на шыю.* Бялавічы Кос. *2.* Папасці ў залежнасць. *Казаў, нігды жаніцца ні буду. Папалася смела дзеўка, сама ў хату прышла. Усё раўно адзеў хамута на шыю.* Альшаніца Квас.

АДЗЯМЛІ´АДАРВА´ЦЦАІНЕ´БАНЕДАСТА´ЦЬ. Памыліцца ў выбары. *Была работа добрая, трактарыстом рабіў. Не, пакінуў, стаў брыгадзіром, начальніком захацеў быць. То зараз клянуць людзі: надто паганы. Так яму і трэба, ад зямлі адарваўся і неба ні дастаў.* Заполле Кос.

АДКАВЕ´ЗІЦЬ ГУБУ´. 1. Паквапіцца, пагнацца на чужое, дармовае. *Бач ты яго, адкавезіў губу на чужоя, а ў самого леташняго снегу ні выпрасіш.* Заполле Кос.

2. Пакрыўдзіцца, сабрацца плакаць. *Ну, чаго адкавезіў губу? Ні плач, ні маленькі.* Альшаніца Квас. 3. Пануры, унураны. *Век сядзіць, губу адкавезіўшы, ні засмяецца зроду.* Скураты Квас.

АД КАМІЗЭ´ЛЬКІ РУКАВЫ´. Нічога не атрымаць, не мець. *Паехаў на заробкі зяць, палучыў за месяц ад камізэлькі рукавы.* Заполле Кос.

АДКІ´НУЦЬ КАНЬКІ´. Памерці. *Гэта не штука староме, раз – і адкінуў канькі.* Альшаніца Квас.

АДКІ´НУЦЬ КУСО´К СЭ´РЦА. Адмовіцца ад таго, што вельмі блізкае, чым вельмі даражыш. *Замучыў ты, сынок, мяне. Адкіну кусок сэрца – жыві як хочаш, ано ні трывож мяне.* Альшаніца Квас.

АДКРЫ´ЦЬ ДУ´ШУ. Адкрыцца, выдаць патаемнае. *Чалавеку душу адкрыяш, а ён пойдзя і пасмяецца з цябе.* Сярадава Жытл.

АДКУ´ЛЬ ВЕ´ЦЯР ДЗЬМЕ. Ведаць, разумець, арыентавацца. *Ні загаворвай зубы, ведаю, адкуль вецяр дзьме: гэто мацi твая падбухторыла прадаць матацыкла. То хай зара машыну нам купляя, я аўтобусом ездзіць да яе ні буду.* Гошчава Стайк.

АДЛЕ´ГЧЫ АД ДУШЫ´ (АД СЭ´РЦА). Супакоіцца, адчуць палёгку. *Пазваніў сын з Мінска, шчо добра заехоў: мне і адлягло ад сэрца.* Быч Стайк.

АДЛЕ´ЖВАЦЬ БАКІ´. Ленавацца, нічога не рабіць. *Прыйдзя з работы мой гаспадар ды адлежвае бакі, бо ён, бач, стаміўся. А я бегаю адна да цямна: і свіней накарміць, пачысціць трэба, і карові даць, падаіць, і есці наварыць яму і дзецям.* Старажоўшчына Кос.

АДЛЯТА´ЦЬ АД ЗУБО´Ў. Добра ведаць. *Так вывучыла вершыка – ад зубоў адлятая.* г.Івацэвічы.

АДНАГО´ ПО´ЛЯ Я´ГАДЫ. Падобныя адзін на аднаго (па характару, паводзінах). *І ён, і яна – аднаго поля ягады: п'юць у цёмную голоў, дзеці як сіраты гадуюцца.* Альшаніца Квас.

АДНА´ ДУША´. Адзін, адзінокі. *Зараз паўсяла – адна душа ў хаці.* Скураты Квас.

АДНАМУ´ БО´ГУ ВЯДО´МА. Усё ведае толькі Бог. *Ні трэба загадваць наперад, ніхто ні ведая, шчо да´ляй будзя, аднаму Богу вядома.* Аляксейкі Стайк.

АДНА´ НАГА´ ТУТ, ДРУГА´Я ТАМ. Пра хуткае, неадкладнае выкананне даручэння, просьбы. *Бяжы, унучок, да доктара – адна нага тут, другая там, дзеду благо.* Любішчыцы Люб.

АДНА´ СЛА´ВА (ХВАЛА´). Пра аднолькавасць ацэнкі, падыходу. *Як ты ні рабі – адна хвала, як ні старайся – адна слава.* Заполле Кос.

АДНА´ ТРА´СЦА. (АДНО´ ЛІ´ХО, АДНА´ ХАЛЕ´РА). Усё аднолькава. *У нас так было: рабі ні рабі – адна трасца, усім аднолькаво заплацяць.* Грыўда Міл. *Як здаровы чалавек, то ў смак і паронікоў, і пірага наесца – адна халера.* Быч Стайк.

АДНА´ ЧА´РКА. Адзін клопат, адна турбота. *Дрова парубалі і паскладалі – адна чарка.* Заполле Кос.

АДНА´ ШКУ´РА ДЫ КО´СЦІ. Худы, благі (чалавек, жывёла). *Прыйшоў у водпуск з арміі, зблажэў: адна шкура ды косці.* Заполле Кос. Шкура – скура.

АДНО´ ВО´КО НА БЯРО´ЗУ, ДРУГО´Е НА ПЯ´ТКУ. Пра касавокага чалавека. *І як гэта дзеўка замуж за яго пайшла? Ён глядзіць, а ў яго адно воко на Бярозу, другое на пятку.* Альшаніца Квас. Бяроза – горад.

АДНО´ ДА АДНАГО´. Скажуць тады, калі чалавеку не шанцуе, адольваюць непрыемнасці адна за адной. *Як не шанцуя, то не шанцуя: прапало цяля, а цяпер вось свінчо, адно да аднаго, бяда за бядою.* Була Міл.

АДНО´ ЗА АДНО´ ЧАПЛЯ´ЯЦЦА. Так скажуць, калі чалавеку шанцуе. *Майму сыну шанцуя, адно за адно чапляяцца: прэмію добру палучыў і ў латарэю выгроў.* Дубітава Міл.

АДНО´ ЗА ДРУГО´Я НЕ ЗАХО´ДЗІЦЬ. Няма лішку,

запасу. *Грошай німа – адно за другоя не заходзіць.* Ёдчыкі Квас.

АДНО´ ЗВА´ННЕ. Так скажуць, калі асоба ці прадмет трацяць сваю адпаведнасць, вартасць, якасць. *Адно званне засталося ад Івана: так схуднеў, зблажэў.* Падстарынь Падст. *Зусім не ўрадзілі гэты год картоплі – адно званне.* Альшаніца Квас.

АДНО´Й ВЯРО´ВАЧКАЙ ЗВЯ´ЗАНЫ. Скажуць пра тых, хто паяднаны нечым агульным, часцей адмоўным. *У нас кладаўшчык з брыгадзірам адной вяровачкай звязаны – абоя зладзяе.* Мілейкі Міл.

АДНО´Й КЛЁ´ПКІ Ў ГАЛАВЕ´ НІМА´. Так скажуць пра дурнаватага чалавека. *Чалавеча, ці так трэба гараць? Мусіць, у цябе адной клёпкі ў галаве німа.* Альшаніца Квас.

АДНО´Й НАГО´Й СТАЯ´ЦЬ У МАГІ´ЛЕ. Аслабнуць, знясілець, быць блізкім да смерці. *Пабачыў свата, а ён зусім нікудышні – адной нагой стаіць у магілі.* Бялавічы Кос.

АДНО´ НА АДНО´ ВЫХО´ДЗІЦЬ. Аднолькава, бязвыйгрышна. *Куранят бройлярных купіла, а камбікорм дарагі, то німа выгады. Лепш гатовых курэй купіць: адно на адно выходзіць.* Падстарынь Падст.

АДНО´ ПТУШЫ´НАГО МАЛАКА´ НІМА´. Пра матэрыяльны дастатак. *Жывуць – дай Бог кожнаму: адно птушынаго малака німа.* Размеркі Стайк.

АДНО´Ю РУКО´Ю Е´СЦІ. Пра беднага чалавека. *Ён адною рукою есць, бо ў другую німа шчо ўзяць.* Скураты Квас.

АДНО´ ЯЗЫ´КОМ РАБІ´ЦЬ. Пра гультаяватага, ахвочага толькі да пустой гаворкі чалавека. *Гультай, што з яго ўзяць, адно языком робіць.* Размеркі Стайк.

АДНЫ´ ВО´ЧЫ БЛІШЧА´ЦЬ (ЗАСТАЛІ´СЯ). Моцна схуднець. *Так змарнеў гэты чалавек, адны вочы блішчаць.* Альшаніца Квас.

АДНЫ´ ГО´ЛЫЯ ВУГЛЫ´ ЗАСТАЛІ´СЯ. Усё панішчана, разграблена. *Хаваліся ад немцоў у лесі. Прыйшлі ў сяло – адны голыя вуглы засталіся.* Квасевічы Квас.

АДНЫ´ ДРА´БЫ (ДРЭ´БЫ). Вельмі худы. *Прыйшоў з нямецкаго лагера – адны дрэбы, страшно глядзець было.* Альшаніца Квас.

АДНЫ´ КО´СЦІ (РЭ´БРЫ). Вельмі худы, марны, благі. *Худы, аж свіціцца, адны косці.* Заполле Кос. *Пайшоў у лазню з ім, распрануўся ён – адны рэбра.* Альшаніца Квас.

АДНЫ´М ВО´КОМ ГЛЯ´НУЦЬ. Трошкі, нядоўга. *Гэдак дадому хочацца з гэтае бальніцы. Здэцца, каб хоць адным воком глянуць на хату, на надворок свой, то адразу паздаравеў бы.* Ятвезь Квас.

АДНЫ´М ВУХО´М. Няўважліва слухаць. *Адным вухом слухаю, што яны кажуць, а сам думаю пра сваё.* Любішчыцы Люб.

АДНЫ´М МА´ХОМ. Хутка, адразу. *Як узяліся талакою, а ўсе свае, родныя, то адным махом і хату паставілі, і хлява.* Сенькавічы Падст.

АДНЫ´М МІ´РОМ МА´ЗАНЫ. Аднолькавыя. *І даўней, і зараз начальнікі адным міром мазаныя – кожны стараяцца сабе.* г.Івацэвічы.

АДНЫ´М ПЭ´НДОМ. Хутка, імгненна. *Адным пэндом прыляцеў з Косава дахаты.* Заполле Кос.

АДНЫ´ СЛЁЗЫ. Мала, вобмаль. *Палучыў грошы за месяц – адны слёзы, на хлеб ні зарабіў.* г.Івацэвічы.

АДНЯ´ЦЬ ПА´МЯЦЬ. Пра няпамятлівасць. *Ушчэнт адняло памяць, нават свайго вяселля ні помню.* Заполле Кос.

АДНЯ´ЦЬ РО´ЗУМ. Нешта зрабіць не падумаўшы. *Вынясла жар з печы на агарод, а вецяр раздзьмуў, а блізко стажок з саломаю, ледзьве бяды ні нарабіла, зусім розум адняло.* Рацкевічы Міл.

АД ПУ´ЗА. Уволю, колькі хочацца. *Грыбы збіралі да нарваліся на маліны – ад пуза наеліся.* Халап'я Падст.

АД ПУСТО´Е БО´ЧКІ ЗА´ТЫЧКА. Няўмека, няўдаліца. *Які ты мужчына? Ад пустое бочкі затычка: ровара і того ні паладзіш.* Альшаніца Квас.

АД РА´ННЯ ДА ЗМЯРКА´ННЯ. Увесь дзень. *Ад рання да змяркання ні выла´жу з агарода, усё грады палю.* Заполле Кос.

АДРЭ´ЗАНЫ АКРА´ЯЦ (КУСО´К). Скажуць пра таго, хто пакінуў сям'ю, жыве асобна. *Мая дачка ўжэ адрэзаны кусок: пайшла замуж – мужыка пільнуяцца.* Скураты Квас.

АДСАДЗІ´ЦЬ ПЕ´ЧАНІ. Моцна набіць. *Брыгадзіром быў, залез людзям пад шкуру, то нехто гаду такому адсадзіў печані.* Ёлкі Ягл.

АДСЕ´КАЦЬ ПЯ´ТЫ. Вельмі хутка бегчы, ляцець. *Гром пачаў грымець, то пяты адсекла, ляцела з лесу дахаты.* Заполле Кос.

АД СІ´ЛЫ. Сама болей. *Які зараз сенакос? Дадуць пайку, а там ад сілы тона таго сена. І бегаяш, шукаяш, дзе яшчэ ўкасіць, каб было на карову.* Альшаніца Квас.

АД СТРА´ХУ КО´СЫ ПАДНЯЛІ´СЯ. Моцна спалохацца. *Пасклізнуўся, упаў, а тут машына. Думоў, капцы мне. Ад страху косы падняліся. Але шафёр паспеў затармазіць.* Яглевічы Ягл.

АДУ´ЖАЦЬ ХВАРО´БУ. Ачуняць, выздаравець. *Мой сын у Афганістані быў, прастрэлілі яму лёгкія. Але, дзякуй Богу, адужоў хваробу, жыве, дзеток гадуя.* Стайкі Стайк.

АДУ´РА ГАЛАВЫ´. Назола, дакука. *Выключ гэты цілівізар, адуру галавы. Каб што добрае паказвалі, а то ўсё б'юць ды страляюць.* г.Косава.

АДУРЫ´ЦЬ ГО´ЛОЎ´. Надакучыць. *Адурыла голаў унука: купі да купі, баба, відзіка некаго. Мусіла купляць. А зараз і сама з ёю кіна гляджу.* Альшаніца Квас.

АД ЦЁ´МНАГО ДА ЦЁ´МНАГО (АД ЦЯМНА´ ДА ЦЯМНА´). Працаваць увесь светлавы дзень. *У калхозі на мельніцы рабілі ад цёмнаго да цёмнаго.* Альшаніца Квас.

АДЧЫНЯ´ЦЬ ІЛБО´М ДЗВЕ´РЫ. Выганяць, выпіраць. *Збрыд сусед, ходзячы ў пазыкі на гарэлку. Пажалілася сыну. Як турнуў, то той сусед ілбом дзверы адчыніў, выляцеў як корок з бутэлькі.* Ёдчыкі Квас.

АД´ЯДА ДУШЫ´ (СЭ´РЦА). Так скажуць пра таго, хто сваімі паводзінамі, учынкамі нервуе, прычыняе клопат, турботы, неспакой. *Прывязла дачка малых унукоў на лето, прывязла ад'яду сэрца: усюды лезуць, шкоду робяць. Дальбог, каб чужсыя, то зраклася б пілнаваць.* Бялавічы Кос.

АЖ АДСКО´КВАЕ АД ЗУБО´Ў. Добра ведаць. *Вывучыла вершыка на памяць, аж ад зубоў адскоквая.* Гошчава Стайк.

АЖ ВО´ЧЫ ЗЛІПА´ЮЦЦА. Вельмі марозна. *Такі мароз узяўся, аж вочы зліпаюцца.* Заполле Кос.

АЖ ВО´ЧЫ КО´ЛЯ. Надта яркі (пра колер). *Сукенка такая, аж вочы коля.* Альшаніца Квас.

АЖ ГАЙ ШУМІ´ЦЬ. Пра нястрымнасць дзеяння. *Ляцеў на кане, аж гай шумеў.* Бялавічы Кос.

АЖ ДАРО´ГА СТО´ГНЯ. Пра вялікае мноства людзей. *Жну жыто ў Пагарэлой Лазе, а парцізаны ідуць, аж дарога стогня.* Альшаніца Квас.

АЖ ЗА ВУША´МІ ТРАШЧЫ´ЦЬ. Прагна есці. *Выбегаўся за цэлы дзень, то есць зацерку, аж за вушамі трашчыць.* Заполле Кос.

АЖ З ГО´РЛА ПРЭ. Вельмі многа чаго. *Багацця – аж з горла прэ.* Бусяж Міл.

АЖ КІШЫ´ЦЬ. Многа, шмат чаго. *Рыбы ў рэчцы вясною столькі, шчо аж кішыць.* Хрышчонавічы Квас.

АЖ МО´ВУ АДНЯЛО´. Моцна спалохацца. *Ідзем па лесі, ужэ добра сцямнело, а сава як закрычыць, то*

*нам аж мову адняло*. Грыўда Міл.

АЖ (ТО´ЛЬКІ) ПЯ´ТЫ БЛІ´СКАЮЦЬ. Хутка ўцякаць. *Напалохалі дзяцей русалкаю, то ляцелі з рэчкі без аглядкі, аж пяты бліскалі.* Грыўда Міл.

АЖНО´ ВУ´ШЫ ВЯ´НУЦЬ. Немагчыма слухаць. *На прыпынку гэдык маладыя мацюкаюцца, ажно вушы вянуць слухаць.* Дубітава Міл.

АЖНО´ ЖЫ´ЛЫ ПРУ´ТОМ ПАСТА´ЛІ. Да знямогі (працаваць). *Натаміла рукі, ажно жылы прутом пасталі.* Скураты Квас.

АЖНО´ З НЕ´БОМ ГАВО´РЫЦЬ. Высокі. *Жыто ажно з небом гаворыць, гэдак на яго годзіць.* Альшаніца Квас.

АЖНО´ І´СКРЫ З ВАЧЭ´Й ПАСЫ´ПАЛІСЯ. Пра адчуванне імгненнага вострага болю. *Стукнуў малатком па пальцы, то ажно іскры з вачэй пасыпаліся.* Галенчыцы Ягл.

АЖНО´ ЛЕС РАЗЛЯГА´ЯЦЦА. Хораша, прыгожа спяваць (пра птушак, чалавека). *Птушкі спяваюць – ажно лес разлягаяцца.* Альшаніца Квас.

АЖНО´ МОХ ПАСТА´Ў НА ЁМ. Моцна зблажэць, схуднець. *Такі худы, ажно мох пастаў на ём.* Заполле Кос.

АЖНО´ ПАЗУРЫ´ ПАЗАДЗІРА´ЛІСЯ. Моцна перажываць, хваляваццa. *Паехалі ў бальніцу ды доўго ні было, ажно пазуры пазадзіраліся ждучы.* Заполле Кос.

АЖНО´ ПЕ´Р’Е ПАЛЯЦЕ´ЛО. Моцна набіць. *Сабаку свайго вечне не прывязвая Максім. Ішлі мае дзеці ў школу ды кінуўся да іх, спалохаліся. Як узяла мяне злосць, пайшоў у хату, як страсянуў гаспадара, то ажно пер’е з яго паляцело.* г.Івацэвічы.

АЖНО´ СВІЦІ´ЦЦА. Вельмі худы хто. *Худы, ажно свіціцца.* Гічыцы Ягл.

АЖНО´ СПІНА´ АДЗЕРАВЯНЕ´ЛА. Знямажыцца ад доўгае працы. *За цэлы дзень нарабіўся, ажно спіна*

*адзеравянела.* Руда Падст.

АЖ ПЛЕ´ЧЫ ШУМЯ´ЦЬ. Цяжка працаваць. *У пограб вада падышла. Паўдня вычэрпвоў, выносіў вядром, аж плечы шумяць.* Сакоўцы Міл.

АЖ ПУП ТРАШЧЫ´ЦЬ. Нешта цяжкае рабіць, падымаць. *Ох і лес быў даўней у Гуліні. Памятаю, пасля вайны коньмі лес на школу вазілі, то такія былі сосны: грузілі на сані – аж пуп трашчаў.* Заполле Кос.

АЖ ПЫЛ КУРЫ´ЦЬ. 1. Хутка рабіць. *З ёю ў рабоці ніхто ні справіцца. Бывало, як пачне лён рваць, то аж пыл курыць. Усіх ззаду пакіня.* Альшаніца Квас. 2. Хутка бегчы. *Васіль бяжыць у магазін, аж пыл курыць. Шчо там прывязлі?* Няхачава Стайк.

АЖ ПЯ´ТКІ БЛІШЧА´ЦЬ. Хутка ўцякаць. *Вечаром ля могліц ішлі. А ручнікі на крыжах ад ветру як заварушыліся, то ўцякалі, аж пяткі блішчалі.* Скураты Квас.

АЖ РУКА´МІ ПЛЯ´СНУЎ (-ЛА, -ЛІ). Моцна ўразіцца, здзівіцца. *Пахаронка прышла, а сын праз два месяцы вярнуўся. То маці аж рукамі пляснула і аслабела.* г.Івацэвічы.

АЖ СЛІ´НКІ ПАЦЯКЛІ´. Так скажуць, калі ўбачаць перад сабою багаты стол або пачуюць пах смачнай ежы. *Зайшоў да суседа, а ў іх свежына. Аж слінкі пацяклі, як убачыў. То ж ні паклікалі за стол! От скупярдзяі!* Бусяж Міл.

АКНО´ Ў АКНО´. Побач, па-суседску, насупраць. *Нашы хаты стаяць насупраць, праз дарогу, акно ў акно.* Квасевічы Квас.

АЛЁША З БАТО´НАМІ (З ТРУДАДНЯ´МІ). Няўмека, недарэка, разявака. *Шчо то за кавалер? Ходзіць да дзеўкі, хаваючыся па вуглах. Алёша з батонамі, а ні кавалер.* Альшаніца Квас.

АЛЬБО´ ВЫ´ЙГРАЎ, АЛЬБО´ ПРАЙГРА´Ў. Пра магчымы поспех ці, наадварот, няўдачу. *Ні ведаю, ці е дарога праз лес, ці зарасла. Але паеду напрамкі: альбо*

*выйграў, альбо прайграў.* Заполле Кос.

А́НІ ЛА́ДУ А́НІ СКЛА́ДУ. Ніякага толку, парадку. *Гляняш да яго на надворок – ані ладу ані складу, усё разбэрсано.* Заполле Кос.

А́НІ НУ А́НІ ТПРУ А́НІ КУКАРЭ́КУ. Ні на што не здатны, нікуды не годны хто. *Што ты ад яго хочаш: ані ну ані тпру ані кукарэку.* Альшаніца Квас.

А́НІ ПО́ДСТУПУ А́НІ ПРЫ́СТУПУ. Не падступіцца, не знайсці паразумення. *Да яго ані подступу ані прыступу, не даецца і гаварыць.* Скураты Квас.

АНО́ ПА СМЕРЦЬ ПАСЫЛА́ЦЬ. Так кажуць пра таго, хто доўга не вяртаецца, атрымаўшы даручэнне. *Паслала ў Косаво мужыка па дрожджы. Думаю, пірага спяку, заўтры дзеці прыедуць. То во цямнея і німа. Ужэ недзі заехоў да швагра. Яго ано па смерць пасылаць, то нажывешся.* Альшаніца Квас.

АНО́ ШКУ́РА ДА КО́СЦІ. Вельмі худы, змарнелы. *Здэцца, і ем, як усе. А пайду да дохтара на прасвятлення, то ажно брыдко распранацца: ано шкура да косці.* Размеркі Стайк. Шкура – скура.

АПІ́ЛКІ (МЯКІ́НА) Ў ГАЛАВЕ́. Пустадомак, гультай і дурань. *У цябе апілкі ў галаве, трэба каб па табе дрын добры пахадзіў.* Квасевічы Квас.

АПО́ШНЮЮ ГУ́НЬКУ ЗАБРА́ЦЬ. Давесці да галечы. *Пры калхозі падаткамі замучвалі, гатовы былі апошнюю гуньку забраць. Адзін Бог ведая, як людзі выжылі.* Альшаніца Квас.

АПО́ШНЮЮ САРО́ЧКУ ПРАДА́ЦЬ. Аддаць усё, што магчыма. *Трэба былі грошы на лячэнне дачкі, апошнюю сарочку прадаў.* Заполле Кос.

АПО́ШНЮЮ ШКУ́РУ ЗДЗЕ́РЦІ. Забраць апошняе з нажытага, прыдбанага. *Цяжко было пры калхозі, гатовы былі апошнюю шкуру здзерці.* Ятвезь Квас.

АПО́ШНЯЯ Ў ПАПА́ ЖО́НКА. Так скажуць, калі не верацць, што чалавек зрабіў дрэнны ўчынак у

апошні раз. *Не кажы, шчо смаліш цыгарку апошні раз. Апошняя ў папа жонка, німа веры табе. Колькі ты раз ужэ заракаўся.* Жамайдзякі Міл.

АПРАНУ´ЎСЯ ЯК АМЯЛЯ´Н НА ПАКРО´ВУ. Неахайна. "*Некалі жыў у сяле дзядзько Амялян. На Пакрову ён апрануўся па-святочнаму, але гузікі на пінжаку зашпіліў не ў лад. Адгэтуль і показка: апрануўся як Амялян на Пакрову*". Пархута Г.У., 1925 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

АПРАСТА´ЦЬ (АТРАСЦІ´) РУ´КІ. Парваць адносіны, пакінуць. *Пакінь ты гэтаго п'яніцу, апрастай рукі.* Размеркі Стайк. *Забудзься на яго, атрасі рукі, кавалера ты сабе яшчэ знойдзяш.* Альшаніца Квас.

АПУСКА´ЦЬ ВУ´ШЫ. Губляцца, адчайвацца. *Прапала карова, а ты ўжэ вушы апусціў: німа статку, німа ўпадку. Разжывешся, то купіш, каровяча маці ні звялася.* Альшаніца Квас.

А ПЯРУ´Н (ХАЛЕ´РА) ЯГО´ ВЕ´ДАЯ. Невядома, ніхто не ведае. *А Пярун яго ведая, калі ён з таго Косава прыедзя.* Бялавічы Кос.

АСІ´НКАЮ ЗАЛАМА´ЦЬ. Пакінуць, забыць. *Хіба гэто кавалер табе? Напіўся, мацюкаяцца. Асінкаю ты яго заламі!* Альшаніца Квас.

АТРУ´ТА НА БЛО´ХІ. Бесцырымонны, надакучлівы хто. *Каб хучэй ужэ ён вываліўся з хаты, не чалавек, а атрута на блохі.* Скураты Квас.

АТ САБЕ´. Даволі добры, някепскі. *Картоплі ат сабе, грэх Бога гнявіць.* Хадоркі Кос.

**Б**

БА´БСКІЯ ЗАБАБО´НЫ. Выдумкі. Кажуць, *як чорны кот дарогу перабяжыць, то не пашанцуя. Я ні веру гэтаму, гэто ўсё бабскія забабоны*. Сенькавічы Падст.

БАГРО´М (КРУКО´М) НО´СА НЕ ДАСТА´ЦЬ. Ганарлівы хто. *Ён высоко сябе нясе, у яго багром носа*

*не дастаняш.* Руда Падст.

БАЗА´РНАЯ БА´БА. Нявыхаваны, сварлівы чалавек. *Шчо ты за мужчына? Вішчыш, крычыш, баба ты базарная.* Гошчава Стайк.

БАЛУ´-БАЛУ´. Размаўляць працяглы час. *Ой, Максім, пайду я дахаты. А то мы з табою балу-балу, а ўжэ пара каравам сена даваць.* Заполле Кос.

БАРАНІ´ БОГ. Так скажуць, каб папярэдзіць непажаданае. *Даўней барані Бог шчо кепская сказаць на бацька, а зараз сын за грудкі бярэ: "Давай, бацько, грошы на бутэльку".* Бараны Ягл.

БА´ЧЫЦЬ БОГ. Скажуць, калі хочуць запэўніць, пераканаць, пацвердзіць сваю невінаватасць, праўдзівасць сказанага. *Бачыць Бог, шчо гэто ні я акалечыў тваю карову.* Бялавічы Кос.

БА´ЧЫЦЬ НАВЫЛЁТ (НАСКРО´ЗЬ). Ведаць, прадбачыць намеры іншага чалавека. *Ты мяне ні правядзеш. Я цябе наскрозь бачу.* Альшаніца Квас.

БА´ЧЫЦЬ НА РАЖНЕ´. Не любіць, жадаць зла. *У вочы лісом глядзіш, а так – на ражне ты мяне бачыў.* Воля Жытл.

БА´ЧЫЦЬ НА СВАЕ´ ВО´ЧЫ. Бачыць самому. *І ты ні лепшы: бачыў на свае вочы, як мех мукі з кароўніка валок дахаты. Усе мы грэшныя.* Быч Стайк.

БА´ЧЫШ (БАЧ) ТЫ. Гэтымі словамі выказваюць здзіўленне. *Бачыш ты яго, ён разумней за бацька сябе лічыць.* Старажоўшчына Кос.

БАШ НА БАШ. Без усякай выгады мяняць, абменьваць па ўзаемнай згодзе. *Давай так: я табе двоя парасят, а ты мне цялушачку. Баш на баш у нас выдзя.* Заполле Кос.

БАЯ´ЦЦА СВАЙГО´ ЦЕ´НЮ. Усяго баяцца. *Бачыў, як чалавека забівалі. Гэдак апалохоўся, шчо зараз ценю свайго баіцца.* Хрышчонавічы Квас.

БАЯ´ЦЦА ЯК АГНЮ´. Моцна (баяцца). *Я яе,*

*чмутаркі, як агню баюся: зробіць шчо-небудзь, то па полі бегаць будзяш, як дурная тая.* Альшаніца Квас.

БЕЗ АГЛЯ´ДКІ. Вельмі хутка, паспешліва (бегчы, імчацца і пад.). *Як грымнуў гром, то беглі дахаты без аглядкі.* Аўсто Стайк.

БЕЗ ГАЛАВЫ´. Не мець розуму, развагі. *Без галавы трэба быць, каб ісці ў балото ў чаравіках: вада ж усюды.* Хадакі Жытл.

БЕЗ ГАНАВІ´Ц ЗАСТА´ЦЦА. Збяднець. *Пакуль пабудаваўся, то без ганавіц застаўся.* Альшаніца Квас.

БЕЗ ДАЙ РА´ЦЫІ. Без сур'ёзнай на тое прычыны, наўмысна. *Без дай рацыі зрэзаў яблыню: яна ж яшчэ не старая.* Заполле Кос.

БЕЗ ЗА´ДНІХ НОГ. Моцна спаць. *Набегоўся мой унучок за цэлы дзень, то спіць без задніх ног.* г.Івацэвічы.

БЕЗ КАНЦА´. Вельмі, надта. *Без канца добры чалавек мой сусед.* Заполле Кос.

БЕЗ МЫ´ЛА ЛЕ´ЗЦІ. Ліслівіць, дагаджаць. *Гэдак стараяцца брыгадзіру дагадзіць, што гатоў без мыла ў адно место лезці.* Бялавічы Кос.

БЕЗ НАЖА´ РЭ´ЗАЦЬ. Моцна хваляваць. *Зноў надумоўся ехаць у тую Польшчу на заробкі. Ты мяне без нажа рэжаш. Зноў мая душа ні на месці будзя.* г.Косава.

БЕЗ ПА´МЯЦІ. 1. Моцна кахаць. *Як маці ні прасіла, як бацько ні адгаварвоў, а я ўсё раўно за яго замуж пайшла. Бо любіла без памяці.* г.Косава. 2. Непрытомны. *У аварыю сусед папаў, другую нядзелю без памяці ляжыць у бальніцы.* Бялавічы Кос.

БЕЗ САРО´ЧКІ ПАКІДА´ЦЬ. Усё аддаць або забраць. *У мяне пяць дачок. А як кажуць, дочкі пакінуць без сарочкі, бо кожной прыданае трэба даць.* Альшаніца Квас.

БЕЗ СПРО´СУ. Не пытаючыся, самавольна. *Даюць табе – бяры, а без спросу ні чапай, бо ні тваё.* Гошчава Стайк.

БЕЗ УСЯ´КАГО-Я´КАГО. Без прычыны, беспадстаўна. *Без усякаго-якаго напаў на мяне. Гэто я даўней мало яму за цяля заплаціў, ашукаў яго. А дзе твая галава тады была? Мы ж з табою барыш пілі!* Заполле Кос.

БЕЗ ЦАРА´ Ў ГАЛАВЕ´. Невялікага розуму хто. *Ні зачэпай ты яго, абыдзі боком: гэто чалавек без цара ў галаве. Пасля бяды ні абярэшся.* Аўсто Стайк.

БЕ´ЛЫЯ МУ´ХІ. Сняжынкі. *Як першы снег пачне злятацца, то кажуць белыя мухі паявіліся. Даўней кароў пасвілі да самых белых мух.* Мілейкі Міл.

БЕ´ЛЫ СВЕТ. Усё наваколле. *Цэлы месяц у бальніцы праляжала, ано зараз белы свет пабачыла, аж на душэ палягчэло.* Альшаніца Квас. *Не сядзі дома, выдзі паглядзі на белы свет, май на дварэ.* Заполле Кос.

БЕ´ЛЫ СВЕТ НЯМІ´ЛЫ. Так кажуць, калі здараецца бяда. *Ой, цётачку, мне белы свет нямілы. Я ледзьве клеваю. Гэтым летом у аварыю папалі мая дачка з зяцём. То зяць выжыў, а дачушка мая памярла.* г.Івацэвічы.

БІ´ТАЯ ГАДЗІ´НА. Вельмі доўга (чакаць). *Прышоў на брыгаду каня ўзяць картоплі абгараць, бітую гадзіну ждаў, пакуль конюх прышоў.* Сярадава Жытл.

БІ´ЦЦА ЯК РЫ´БА АБ ЛЁД. Вельмі старацца, прыкладаць шмат намаганняў. *Шкада гэтае жаночыны: адна, німа каму памагчы, б'ецца як рыба аб лёд.* Любішчыцы Люб.

БІЦЬ БІ´БІКІ (БІМБІКІ). Бадзяцца без справы. *Цэлы дзень бімбікі б'е, а маці дрова рубая.* Альшаніца Квас.

БІЦЬ (ЗВАНІ´ЦЬ) ВА ЎСЕ ЗВАНЫ´. Шукаць рады, калі здарылася бяда. *Ні паспея дзіця захварэць, як маці ва ўсе званы б'е, бо гэто маці.* Жамайдзякі Міл.

БІЦЬ КУЛАКА´МІ Ў ГРУДЗІ´. Клясціся, пераконваць у сваёй праваце. *Б'е сябе ў грудзі, даказвая ўсім, што яго дзед першым на ўсю акругу шафёром быў. Кажа, картачку вам прынясу, пакажу. А можа, і*

*праўда?* Размеркі Стайк.

БІЦЬ ЛЫ´НДЫ. Лайдачыць. *Дождж на дварэ, на гуліцу носа ні высуняш, цэлы дзень б'ем лынды.* Азярцо Падст.

БІЦЬ НІМА´ КАМУ´. Скажуць таму, хто заслугоўвае пакарання. *Дзе ў цябе галава? У новом пальце сеў у трактар. Біць цябе німа каму.* Альба Квас.

БІЦЬ НО´ГІ. Хадзіць і не дасягнуць мэты. *Паўдня біла ногі, а грыбоў ано паўкошыка назбірала.* Грыўда Міл.

БІЦЬ ПА КІШЭ´НІ. Панесці грашовую страту. *Паехоў на курорт. Цэны там моцно кусаюцца, б'юць па кішэні.* Жамайдзякі Міл.

БІЦЬ ПАКЛО´НЫ. Прасіць. *У сяле так: сена накасіць, картоплі пасадзіць, дроў прывязці – усё трэба біць паклоны начальнікам.* Скураты Квас.

БІЦЬ (ПЛЯ´СКАЦЬ) У КАЦЁ´ТЫ. Апладзіраваць. *І я, старая, пайшла на канцэрт. Гэдак біла ў кацёты, ажно чырвоныя сталі.* Заполле Кос. Кацёты – далоні.

БІЦЬ У НОС. Непрыемна пахнуць. *Не люблю я бальніцу. Ано зайдзеш, то адразу б'е ў нос бальнічным духом.* Няхачава Стайк.

БІЦЬ ЯЗЫ´КА АБ ЗУ´БЫ. Гаварыць без надзеі быць пачутым. *І прашу, і крычу, каб кінуў курыць, бо кашляя, як у бочку, ано даром б'ю языка аб зубы, ні хоча і слухаць.* Ятвезь Квас.

БЛЁКАТУ НАЕ´СЦІСЯ. Здурнець, ачмурэць. *Ты блёкату наеўся, ці шчо? Гаворыш ні па парадку, альбышто.* Халап'я Падст.

БЛІ´ЗКІ СВЕТ. Далёка. *Замуж пайшла блізкі свет.* Альшаніца Квас.

БЛІ´СКАЦЬ ВАЧЫ´МА. Гневацца. *Ты ні бліскай вачыма, ніхто цябе ні баіцца.* Даргужы Міл.

БЛУ´ДНАЯ АВЕ´ЧКА. Так скажуць пра таго, хто не знаходзіць сябе ў жыцці. *Усе дзеці вучацца, а гэта блудная авечка ад школы па лесі хаваяцца.* Грыўда Міл.

БЛУ´ДНЫ СЫН. Так скажуць пра чалавека, які не слухаў бацькоў, пакінуў дом, а пасля вярнуўся, павініўся перад роднымі. *Ну, Пятрусёў блудны сын вярнуўся. Гадоў з дзесяць дома ні было, усё па свецi валачыўся.* Любiшчыцы Люб.

БЛЫ´НТАЦЦА ПАД НАГА´МІ. Перашкаджаць, замiнаць. *Ні блынтайся пад нагамі, сядзь і вучы ўрокі.* Быч Стайк.

БЛЫ´ТАЦЬ БОБ З ГАРО´ХОМ. Апеляваць несумяшчальнымі доказамі. *Э-э-э, брат, саломаю кормячы, малака не надоіш. Трэба сена, бурачка і мукі даць карові, не блытай боб з гарохом.* Верашкі Квас.

БО´БУ НАЕ´СЦІСЯ. Мець цярпенне. *Перш чым з табою гаварыць, трэба бобу наесціся.* Быч Стайк.

БО´ГА НА ЦЯБЕ´ (НА ЯЕ´, ЯГО´, ІХ) НІМА´. Так скажуць, калі чалавек недастойна паводзіць сябе. *Бога на цябе, чалавеча, німа. Ці так можно да старых адносіцца? Мацюкамі бацька крыяш. А ён жа цябе гадаваў! Пабачыш, дажджэшся і ты ад сваіх дзяцей такого.* г.Івацэвічы.

БОГ ДАСЦЬ. Скажуць, калі спадзяюцца на лепшае. *Бог дасць пагоду, то ўзаўтры зграбем сено.* Хрышчонавічы Квас.

БОГ ДАЎ. Гэткімі словамі выказваюць падзячнасць лёсу. *Захварэла мая дачка моцно, але, Бог даў, паправілася.* Альба Квас.

БОГ З ТАБО´Ю. Так выказваюць згоду, прымірэнне, уступку. *Ні хочаш слухаць бацька, едзь сабе на заробкі, Бог з табою, але памятай: на адном месці і камянь абрастая.* Жамайдзякі Міл.

БОГ МІЛА´ВОЎ. Гэтымі словамі выказваюць падзяку за тое, што спадзяванні спраўдзіліся. *Баялася, што карова будзя цяжко цяліцца. Усё бегала ў хлеў пілнаваць. Ажно Бог мілавоў: ацялілася сама, я і ні бачыла.* Альшаніца Квас.

БО´ГОМ ПАКРЫ´ЎДЖАНЫ. Скажуць пра чалавека, які ад нараджэння мае фізічны недахоп. *На яго грэх кепская казаць, ён і так Богом пакрыўджаны: замест рук кульці.* Бялавічы Кос.

БОГ ПАКАРА´Ў. Скажуць пра таго, хто трапіў у цяжкае становішча. *Ва ўсіх дзеці як дзеці, слухаюць маці, а мяне вамі Бог пакараў: расцяце неслухамі.* Воля Жытл.

БОГ ПАСЛА´Ў. Моцна пашчасціць. *Мне цябе, Тэкля, Бог паслаў: сама з гэтым сеном ніяк ні ўправілася б.* Гошчава Стайк.

БОГ ПО´МАЧ! Пажаданне поспеху, удачы ў працы. *– Чаму, тату, мне "Бог помач!" людзі ні кажуць? – А ты, сынку, устань раняйько, да пачні касіць ад сцежкі, то будуць ісці гаварыць табе "Бог помач!"* Заполле Кос.

БОГ ПРЫБРА´Ў. Скажуць пра памерлага, які жыў не па-людску. *Піў, піў, дапіўся: Бог прыбраў.* Юкавічы Стайк.

БОГ СВЯТЫ´ ВЕ´ДАЯ. Так кажуць, калі не ведаюць, што будзе далей. *Яблык гэты год – гальё ломіцца. Адзін Бог святы ведая, што на той год будзя.* Быч Стайк.

БОГ СУДДЗЯ´. Так скажуць чалавеку, які творыць крыўду. *Бог табе суддзя, але адальюцца табе мае слёзы.* Жамайдзякі Міл.

БО´ГУ ДУШО´Й НЕ ВІНАВА´Т. Зусім не вінаваты. *Дарма ты, чалавеча, на мяне наваліўся, ні браў я твайго сена, Богу душой не вінават.* Куляшы Міл.

БО´ЖА ЗБАЎ. Так выказваюць перасцярогу. *Божа збаў ад дурное жонкі і п'яніцы-мужыка.* Размеркі Стайк.

БО´ЖА ЛІТАСЦІ´ВЫ. Так выказваюцца розныя пачуцці. *Божа літасцівы! Колькі перанёс народ у гэту вайну, дзе і сілы знайшліся ўсё выцярпяць.* Панкі Люб.

БО´ЖА МОЙ! Выказванне радасці, здзіўлення,

роспачы, іншых пачуццяў. *Божа мой! Якія шчаслівыя людзі, у якіх жывыя бацькі!* Альшаніца Квас.

БО´ЖЫ СВЕТ. Усё, што акружае чалавека. *Радуйся, пакуль Божы свет бачыш. Німа чаго плакаць, німа чаго Богу грашыць.* Галік Мíл.

БО´ЙКІ НА ЯЗЫ´К. Смелы ў размове, знаходлівы. *Мой зяць як у людзей пяць: бойкі на язык, вясёлы, нідзе з ім ні прападзяш.* г.Івацэвічы.

БО´КІ НАДРЫВА´ЦЬ. Рагатаць. *Маладымі былі. Бало, пальца пакажы, то бокі надрывалі.* Куляшы Міл.

БО´КІ СКЛА´СЦІ. Адлупцаваць. *Добра бокі склаў, хай ні лазіць па чужых агародах.* Скураты Квас.

БО´КОМ ВЫ´ЛЯЗЦІ. Пэўны ўчынак, дзеянне будуць пакараны, не пройдуць дарма. *Гарэлка гэта боком вылязя табе.* Заполле Кос.

БОЛЬШ-МЕНШ. У пэўнай ступені. *Мне зіма ні страшная, больш-менш гатовы да яе: дроў прывёз, брыкету купіў – у хаці цяпло будзя.* Хрышчонавічы Квас.

БРА´ЗНУЦЬ ДЗВЯРЫ´МА. Выказаць рэзкі пратэст. *Рабіў прарабом у калхозі. Паглядзеў: німа парадку, жулік на жуліку едзя і жулікам паганяя. Бразнуў дзвярыма ды паехоў у горад.* г.Косава.

БРА´СКАЦЬ ЗУБА´МІ. Нічога не мець. *Ні будзяш рабіць, то будзяш браскаць зубамі. Карміць такого бугая ніхто ні будзя.* Сенькавічы Падст.

БРАХА´ЦЬ НА ВО´ДУ. Хацець прагна піць. *Ні еш много следзёў, перасоляныя, будзяш на воду брахаць.* Альшаніца Квас.

БРАХА´ЦЬ ЯК НАНЯ´ТЫ. Гаварыць многа і пустое. *І мінуты не памаўчыць, брэша цэлы дзень як наняты. І скуль у яго бярэцца.* г.Івацэвічы.

БРА´ЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ´. Моцна смяяцца. *Як стала расказваць Надзя пра свайго свата, то ад смеху ўсе за жываты браліся. Гэто ж на старасці на гармоні пачаў вучыцца.* г.Косава.

БРА´ЦЦА (УЗЯ´ЦЦА) ЗА РО´ЗУМ. Разумнець. *Пабыў у арміі мой хлопяц, пазнаў ліха, прыйшоў – узяўся за розум, паступіў вучыцца на інжынера.* г.Іваццэвічы.

БРА´ЦЦА ЗА ЧУПРЫ´НУ (ЗА ЧУБ). Задзірацца, біцца. *Працудкі дый годзе: гэто каб бацько з сыном браліся за чупрыну.* Альшаніца Квас.

БРА´ЦЦА Ў РО´ЖКІ. Уступаць у спрэчку, сутычку. *Бач ты яго, сапляк яшчэ, а бярэцца ў рожкі са старэйшым чалавеком.* Бялавічы Кос.

БРАЦЬ БЛІ´ЗКО ДА СЭ´РЦА. Перажываць, хвалявацца. *Ні бяры, Маня, блізко да сэрца, ачуняя твой Іван.* Заполле Кос.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) БО´ГА ЗА БАРАДУ´. Скажуць пра таго, хто лічыць сябе вышэй за другіх. *Стаў начальнікам, думаў, шчо Бога за бараду ўзяў, людзям спуску ні даваў. Але і яго зволілі: краў муку ў калхозі.* Аўсто Стайк.

БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) ВЕРХ. Узвышацца, падпарадкоўваць другіх. *Прымак, а ўзяў верх: і жонкай камандуя, і цешчай з цесцём.* Альшаніца Квас.

БРАЦЬ ГО´РЛОМ. Дабівацца свайго крыкам, лаянкай. *Добра, хай будзе па-твойму. Ты слухаць ні ўмеяш, заўсёды горлом бярэш.* Сакоўцы Міл.

БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) ГРЭХ НА ДУ´ШУ. Утаіць, крывіць душою. *Кажы праўду, усё, як было, ні бяры грэх на душу: з-за цябе нявінны чалавек можа пацярпець.* Харошча Міл.

БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ´. Многа, бесперастанку думаць аб нечым (звычайна адмоўным, непрыемным). *Не бяры да галавы, не бядуй па грашах, заробіш.* Аўсто Стайк.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ЗА ГО´РЛО. Пакараць. *Браў ён у людзей, узялі яго за горло: пяць гадоў цюрмы далі.* Яглевічы Ягл.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ЗА´ГРУДКІ (ЗА ГА´ЛСТЫК). Счапіцца біцца. *Згінуў хамут. А людзі падказалі, што*

*бачылі майго хамута на Аляксашыной кабылі. Я да яго. Даказвая, я ні браў. Як узяў за галстык, то тут жа аддаў.* Заполле Кос. Галстык – гальштук: тут – загрудкі.

БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) ЗА ДУ´ШУ (ЗА СЭ´РЦА). Трывожыцца, хваляваццa. *Як заспяваюць у радзіві народныя песні, то за душу бярэ: маладосць прыпамінаяцца.* г.Косава.

БРАЦЬ ЗА ЖА´БРЫ. Прымушаць, прымяняючы сілу. *Ні хоча рабіць гультаіна, вазьмі ты яго за жабры, добра страсяні, то пабаіцца, будзя рабіць як міляныкі.* Міхнавічы Стайк.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ЗА ЖЫВО´Е. Моцна хвалявацць. *Як пачну ўспамінаць, як мучыліся ў калхозі, то ажно за жывое бярэ.* Лазаўцы Міл.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ЗА МО´ДУ. Часта паўтарацца, увайсці ў сістэму, у звычку. *Узяў за моду кідаць раней работу: то жонка ў яго хворая, то карову з пашы трэба сустрэць. Гэто прыехоў мой хлопяц з рыбы, кажа: "Дзядзько Коля сёні много налавіў". О, то во куды ён спяшыць! А я за яго бітоны на кароўніку мыю.* Квасевічы Квас.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ЗА ПЛЕ´ЧЫ. Адчуваць холад, мерзнуць. *Здэцца, і вясна, а выдзяш ранянько на двор – холад, мароз бярэ за плечы.* Була Міл.

БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) ЗА ШКІ´РКУ. Караць. *Гэты прайдзісвет ні дае праходу маёй дачцэ, ано каб замуж ішла за яго. Убачыў неяк, узяў за шкірку: "Я табе пакажу замуж, папробуй яшчэ падыдзі да яе!" Тут жа адстаў.* Альшаніца Квас.

БРАЦЬ ЛЕ´ЙЦЫ Ў СВАЕ´ РУ´КІ. Браць адказнасць на сябе. *Хочаш, каб быў парадок у сям'е, каб табою бабы ні камандавалі – бяры лейцы ў свае рукі.* Альшаніца Квас.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) НА АРА´ПА. Дабівацца свайго крыкам. *Прывык ты браць на арапа, горлом усё, а тут*

*чалавека трэба было паслухаць, бо ён праўду кажа.* г.Косава.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) НА КАРАНДА´Ш (НА ПАВЕ´Р). Браць у доўг у краме; пазычыць. *Німа грошай, а бяз хлеба жыць ні будзяш, то на карандаш бяру, а з пенсіі тады аддам. Заполле Кос. Набрала на павер у магазіні мукі, з палучкі аддам.* Альшаніца Квас.

БРАЦЬ НА ПУП. Падымаць цяжар, напружвацца. *Пастой, ні рвіся, ні бяры на пуп, давай удвох пыдымям дзеравіну.* Бусяж Міл.

БРАЦЬ НА ЦУГУ´НДАР. Прымушаць. *Ні хоча ехаць лес вазіць, прытварыўся хворым. Бяры яго на цугундар, то паедзя як міляныкі.* Заполле Кос. На цугундар – тут: за каўнер, за шкірку.

БРАЦЬ (УЗЯЦЬ) НА ЯЗЫ´К. Смакаваць. *Вазьмі на язык, паглядзі, ці солі хапая.* Альшаніца Квас.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) У АБАРО´Т. Падпарадкоўваць. *Дзіця з маленькага бяры ў абарот, бо як пачуя сілу, то цяжко будзя з ім справіцца.* Гічыцы Ягл.

БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ) ХАМУТА´ НА ШЫ´Ю. Узяць на сябе лішні клопат. *Дзесяць гадоў як мужык памёр, адна жыла. А гэто ўзяла сабе хамута на шыю – прымака прыняла. Нашчо ён мне быў? І выгнаць ужэ брыдко.* Яглевічы Ягл.

БРОНЬ БО´ЖА. Ні ў якім разе. *Бронь Божа лезці святом да трактара, грашыць.* Заполле Кос.

БУДЗЬ ЗДАРО´Ў. 1. Вельмі добра. *Мая цешча выглядая будзь здароў, хоць ужэ за шэсцьдзесят.* Альшаніца Квас. 2. Вельмі многа. *Грыбоў гэты год у лесі будзь здароў.* г.Косава.

БУ´НЧЫКІ БЯРУ´ЦЬ. Упарціцца, зацінацца. *Ні псіхуй, а бярыся за работу. А то цябе бунчыкі бяруць.* Заполле Кос. Бунчыкі – псіхі, страта псіхічнай раўнавагі.

БУ´ХАЦЬ ЯК У БО´ЧКУ. Моцна, надрыўна кашляць. *Пабегоў малы па вуліцы, нахапаўся сырого паве-*

*тра, цяпер бухая як у бочку.* Размеркі Стайк.

БЫЛА´ Ў ПАПА´ АПО´ШНЯЯ ЖО´НКА. Так скажуць, калі нехта сцвярджае, што зрабіў дрэнны ўчынак у апошні раз. *Ні кляніся, шчо астатні раз выпіў, была ў папа апошняя жонка.* Бялавічы Кос.

БЫЛА´ Ў САБА´КІ ХА´ТА. Так скажуць пра чалавека, які хваліцца тым, чаго ў яго няма. *Хваліцца, шчо грошай много мая. Была ў сабакі хата: каб былі грошы, то ні жыў бы ў такой халупі.* Альшаніца Квас.

БЫЛО´, ДЫ БЫЛЛЁМ ПАРАСЛО´. Усё мінула, забылася. *У маладосці ўсё было: і здароўе, і любоў. Але, як кажуць, было, ды быллём парасло.* Альшаніца Квас.

БЫЛО´, ДЫ З ВАДО´Ю СПЛЫЛО´. Нічога няма, згінула, прапала. *Што ты ўсё, як папугай, паўтараяш: даўней было, даўней было. Было, ды з вадою сплыло.* Быч Стайк.

БЫЦЬ НА КАНІ´ І ПАД КАНЁМ. Пра таго, хто шмат паездзіў, пабачыў, спазнаў, хто мае вялікі жыццёвы вопыт. *Ён біты чалавек: быў на кані і пад канём.* Яглевічы Ягл.

БЫЦЬ ПРЫ ПАМЯ´ЦІ. Не траціць свядомасці. *Да апошняга дня маці пры памяці была. Сказала, у шчо апрануць, каго на вячэру паклікаць, дзе пахаваць. У той дзень, і памярла.* Гошчава Стайк.

Б´ЮЦЬ І ПЛА´КАЦЬ НІ ДАЮ´ЦЬ. Здзекуюцца. *Ні пачулі духу ад майго хлопца , то Міпановы бэйбусы б'юць і плакаць ні даюць.* Заполле Кос.

БЯЗДО´ННАЯ БО´ЧКА. Так скажуць пра чалавека, якому ўсяго мала. *Цябе ніколі ні здаволіш, табе ўсяго мало, колькі ні дай, бочка ты бяздонная.* Альшаніца Квас.

БЯРЫ´ НІ ХАЧУ´. Шмат, многа. *Баравікоў гэты год – бяры ні хачу.* г.Косава.

**В**

ВАДЗІ´ЦЬ ЗА НОС. Абяцаць, але не выконваць.

*Годзе нас вадзіць за нос, німа табе веры, ні кіняш ты піць гарэлкі, ты ў ёй смак пачуў.* Хрышчонавічы Квас.

ВАДО´Й НЕ РАЗЛІ´ЦЬ. Не разлучыць, не прымусіць расстацца. *Іх вадой не разальеш, яны ўсюды разам: і на рабоці, і сем'ямі дружаць.* г.Косава.

ВАДЫ´ НЕ ЗАМУ´ЦІЦЬ. Так скажуць пра добрага, сумленнага чалавека. *Ціхі, спакойны Міхасёў хлопяц, ён і вады не замуціць.* Харошча Міл.

ВАЗІ´ЦЬ ВО´ДУ. Карыстаючыся тым, што чалавек спакойны, памяркоўны, падатлівы, нагружаюць яго цяжкай работай. *Трэба часом і рожкі паказаць, бо будуць на табе воду вазіць. Будуць пхаць у кожну дзірку.* Альба Квас.

ВАЛА´З'Е´СЦІ. Моцна прагаладацца. *Выгаладаўся, вала з'еў бы.* Квасевічы Квас.

ВАЛАСА´ТАЯ РУКА´. Так скажуць пра таго, хто мае заступніка, абаронцу. *Ні можа быць, каб ён ні меў валасатай рукі. Усё яму з рук сходзіць, усё яму даруюць. А сам п'яніца горкі, хоць і начальнік.* г.Івацэвічы.

ВАЛІ´ЦЦА (ЗВАЛІ´ЦЦА) З НОГ. Моцна стаміцца. *Бегом сено граблі, маладзіласё надто, то пад вечар з ног валіліся.* Альшаніца Квас. Маладзіцца – брацца на дождж.

ВА´ЛІЦЦА З РУК. Так скажа чалавек, якога апанавалі клопаты, турботы, перажыванні, у якога нічога не ладзіцца, не атрымоўваецца, не выходзіць. *За што ні вазьмуся, усё валіцца з рук, адно ў галаве: як там мужык пасля аперацыі.* Мілейкі Міл.

ВАЛІ´ЦЬ З ХВО´РАЙ ГАЛАВЫ´ НА ЗДАРО´ВУЮ. Перакладаць віну на другога. *Ні дохтар вінаваты, што карова прапала, а ты. Раней трэба было яго паклікаць. А зараз валіш з хворай галавы на здаровую.* Мілейкі Міл.

ВАЛІ´ЦЬ У АДНУ´ ГО´РБУ. Аб´ядноўваць рознае ў адно. *Я табе адно слово сказала пра сваю нявестку, шчо трохі неакуратная, а ты ўжэ спомніла і мацяру*

*яе, і бабу, і халера ведая каго, усё валіш у адну горбу. Каб ведала, то ніц табе ні казала б.* Панкі Люб.

ВАЛО´ВЫМ СІ´КОМ. Крыва, няроўна. *Але ж і прайшоў ты першу баразну – валовым сіком. І як ты зараз яе выраўняяш?* Альшаніца Квас.

ВА´ЛОМ ВАЛІ´ЦЬ. Пра тое, чаго многа, што доўгі час не канчаецца. *Вячоркі ставяць у клубі, то людзі валом валяць, каб паслухаць даўнейшыя песні.* Заполле Кос. *Ужэ будзя зіма: снег валом валіць праз каторы дзень.* Бялавічы Кос.

ВАРО´НЫ ЗА СЫ´РА ЎХО´ПЯЦЬ. Пра святочна апранутага чалавека. *Бач як прыбраўся, глядзі, а то вароны за сыра ўхопяць.* Альшаніца Квас.

ВАРО´ЧАЦЬ (ЗВЯРНУ´ЦЬ) ГО´РЫ. Выканаць вялікі аб'ём работы. *З гэтым чалавеком можно горы варочаць: на ўсё ён здатны.* г.Івацэвічы.

ВАРУШЫ´ЦЬ (ПАВАРУШЫ´ЦЬ) МАЗГА´МІ. Думаць, разважаць. *Ні маўчы, варушы мазгамі, шукай рады, трэба ж нечым выцягнуць трактара з балота.* Няхачава Стайк.

ВАСТРЫ´ЦЬ (НАВАСТРЫ´ЦЬ) ЛЫ´ЖЫ. Рыхтавацца ўцячы. *Ні вастры, сынку, лыжы, нікуды я цябе з хаты ні выпушчу, пакуль кашаль ні пройдзя.* Быч Стайк.

ВАСЬ-ВАСЬ. Быць з кімсьці нараўне, запанібрата. *Ён з аграномом вась-вась, заўсёды сенакос добры мая, ні тоя, шчо я.* Скураты Квас.

ВАЧЭ´Й НЕ АДАРВА´ЦЬ. Так скажуць пра нешта вельмі прыгожае, уражлівае. *Вяргіні як зацвілі ў агародзі – вачэй ні адарваць. Якія хочаш. І цагляныя, і белыя, і бурдовыя, і лімонныя.* Альшаніца Квас.

ВАЧЭ´Й НІ ЗВО´ДЗІЦЬ. Пільна глядзець. *Мусіць, табе мая дачка спадабалася: ты з яе вачэй ні зводзіш.* Харошча Міл.

ВАЧЭ´Й НІМА´ ДЗЕ ПАДЗЕ´ЦЬ. Адчуць вялікі сорам. *У злосці накрычаў на жонку, а яна ж цэлы*

*дзень картоплі капала, зараз вачэй німа дзе падзець.* Жамайдзякі Міл.

ВЕ´ДАЦЬ, АДКУ´ЛЬ ВЕ´ЦЯР ДЗЬМЕ. Ведаць, што прыносіць выгаду, карысць. *І бацько яго, і сам ён былі камуністамі. Ведалі, адкуль вецяр дзьме. Лёгко пражылі на свеці, у гнае ні капаліся так, як мы.* Заполле Кос.

ВЕ´ДАЦЬ (ЗНАЦЬ) МЕ´РУ. Праяўляць умеранасць. *Ва ўсём трэба ведаць меру – і ў пітве, і ў ядзе.* Була Міл.

ВЕ´ДАЦЬ (ЗНАЦЬ) САБЕ´ ЦАНУ´. Правільна ацэньваць сябе. *О-о-о, яна ведая сабе цану, яе ні ўбачыш абы-як апранутую.* Сенькавічы Падст.

ВЕ´ДАЦЬ (ЗНАЦЬ) СВАЁ´ МЕ´СТО. Правільна ацэньваць свае магчымасці. *Ні лезь куды ні трэба, ведай сваё место, без цябе разбяруцца.* Мілейкі Міл.

ВЕ´ДАЦЬ (ЗНАЦЬ) ТОЛК. Разбірацца. *Мой сын у машынах ведая толк, усе прыходзяць да яго рады шукаць, як шчо паломіцца.* Хадоркі Кос.

ВЕ´ДАЦЬ УСЕ´ ХАДЫ´ І ВЫ´ХАДЫ. Так скажуць пра бывалага чалавека, які знойдзе выхад з любой сітуацыі. *Ён умея ладзіць з начальствам, з ім на любой рабоці заробіш: ён усе хады і выхады ведая.* Була Міл.

ВЕ´ДАЦЬ, ЯКО´МУ БО´ГУ МАЛІ´ЦЦА. Умець прыстасоўвацца. *Каб выжыць у вайну, трэба было ведаць, якому Богу маліцца: бо днём немцы ў сяле, а ўночы – парцізаны.* Квасевічы Квас.

ВЕК ВЕКАВА´ЦЬ. Жыць, існаваць. *Век вякую адна, ано радзіво мне як жывы чалавек.* Заполле Кос.

ВЕ´КУ ДАЖЫВА´ЦЬ. 1. Састарэць. *Мая цешча веку дажывая, а яшчэ леткая: без кіпцюроў на слуп залезя і лямпачкі паўкручвая.* Альшаніца Квас. 2. Моцна хварэць. *Ужэ зусім благая мая свякроў, ано веку дажывая.* Альшаніца Квас.

ВЕРАБ'Ю´ ПА КАЛЕ´НО. Плытка. *Наша рэчка абмялела – вераб'ю па калено.* Хрышчонавічы Квас.

ВЕ´РЫЦЬ (ПАВЕ´РЫЦЬ) НА СЛО´ВО. Давяраць.

*Так і быць, паверу табе на слово, пазычу грошай. Але як ашукаяш, то каб і нагі твае на маём надворку ні было.* Старажоўшчына Кос.

ВЕ´ТРОМ НАДЗЬМУ´ЦЬ. Зацяжарыць без мужа. *Кацярына без мужыка жыве, а жывот на нос лезя. Мусіць, ветром надзьмуло.* Гошчава Стайк.

ВЕ´ЦЯР ГУЛЯ´Я (СВІ´ШЧА) Ў КІШЭ´НЯХ. Так скажуць пра таго, у каго няма грошай. *Двоя здаровых хлапчыскоў у бацькавой хаці жывуць. Ні акыш, ні аюсь німа, лянуюцца рабіць. Пабіраюцца па людзях, у іх век вецяр у кішэнях свішча.* Заполле Кос.

ВЕ´ЦЯР У ГАЛАВЕ´. Легкадумны, несур´ёзны. *Дзяцей поўна хата, іх абуць, адзець трэба, а яна ўсё сабе абновы купляя – вецяр у галаве, больш ніц ні скажаш.* Руда Падст.

ВЕ´ЦЯР У ПЛЕ´ЧЫ. 1. Пажаданне шчаслівай дарогі. *Едзьця здаровыя, вецяр вам у плечы.* Альшаніца Квас. 2. Так скажуць услед чалавеку, які надакучыў. *Спаць пара класціся, заўтры думаям ехаць па сено, а ён усё гавэнды гавэндзіць. Ледзь переражылі: вецяр яму ў плечы.* Заполле Кос.

ВЕ´ШАЦЦА НА ШЫ´Ю. Так скажуць пра жанчыну, якая настойліва імкнецца звярнуць на сябе ўвагу мужчыны. *Брыдко глядзець, як Верка вешаяцца Тэклінаму кватаранту на шыю. Экскаватаршчыком тут у нас, канавы капая. Грошы добрыя зарабляя. Але ж, кажуць, жанаты чалавек: і жонка е, і дзеці.* Хадакі Жытл.

ВЕ´ШАЦЬ (ПАВЕ´СІЦЬ) ГАЛАВУ´ (НОС). Перажываць, маркоціцца. *Ні вешай галаву, ні адчайвайся, прапала карова – другую нажывеш, каровяча маці ні звялася.* Альшаніца Квас.

ВЕ´ШАЦЬ ЛАПШУ´ НА ВУ´ШЫ. Ашукваць. *Кажаш, шчо пенсію дабавяць? Вешаюць лапшу на вушы: сто рублёў дабавяць, а цэны ўдвая падымуць.* Размеркі Стайк.

ВІДА´ЦЬ ПА´НА ПА ХАЛЯ´ВАХ. Можна пазнаць, які чалавек, па знешнім выглядзе. *Відаць пана па халявах: колькі ты ў горадзі ні жыві, а відно, шчо з сяла. І гаворка, і паходка ні тая.* Заполле Кос.

ВІ´ДУ НЕ МЕЦЬ. Быць непрыгожым, непрывабным. *Сама стройнянькая, высокая, а начапурыла пальто як балахона, зусім віду ні мая.* Сенькавічы Падст.

ВІ´ЛАМІ ПА ВАДЗЕ´ ПІ´САНО. Пра тое, што можа не адбыцца, што малаверагоднае. *Не загадвай наперад, шчо купіш пальто. Гэто яшчэ віламі па вадзе пісано. Як бацько грошай дасць.* Бялавічы Кос.

ВІЛЯ´ЦЬ ХВАСТО´М. Хітрыць. *Не віляй хвастом, кажы, дзе дастала боты.* Харошча Міл.

ВІСЕ´ЦЬ (СТАЯ´ЦЬ) КРУ´КОМ. Наглядаць, пільнаваць, не спускаць вачэй. *Паехалі моркоў рваць, думалі, шчо сабе па торбачцы прывязем. То дзе там: брыгадзір круком над намі стаяў.* Квасевічы Квас.

ВІСЕ´ЦЬ НА ВАЛАСКУ´. Быць у небяспецы. *На вайне ў кожнаго жызня на валаску вісела. Сёні жывы, а заўтры заб'юць, а жыць усе хацелі.* Грыўда Міл.

ВІСЕ´ЦЬ НАД ДУШО´Ю. Дакучаць, назаляць. *Ні вісі над душою, німа грошай у касі ні капейкі, заўтры прыходзь.* Мілейкі Міл.

ВІСЕ´ЦЬ (СЯДЗЕ´ЦЬ) ЯК НА КАЛКУ´. Так кажуць пра адзенне, якое не аблягае цела, а пашытае навырост. *Даўней нам, малым, навыраст пальта купляли. Адзеняш, а яно вісіць як на калку. Але пасля ўрасталі ў гэтае пальто.* Заполле Кос.

ВІ´СКОМ ВІШЧА´ЦЬ. Пранізліва, нема крычаць. *Памятаю, малым заблудзіўся ўночы на пячэ, то віском вішчаў.* Заполле Кос.

ВІЦЬ (ЗВІЦЬ) СВАЁ´ ГНЯЗДО´. Уладкоўваць сямейны быт. *Сын ажаніўся, тут жа аддзяліўся, узяўся хату будаваць, сваё гняздо віць. Зараз маладыя ні хочуць жыць са старымі.* Азярцо Падст.

ВО´КО ГАРЫ´ЦЬ. Моцна нешта захацець. *У мяне воко гарыць на грыбы. Убачыла, як сусед цэлы кошык нёс, то ўсё кінула і паляцела ў лес.* Альшаніца Квас.

ВО´КО НАБІ´ТО. Так скажуць пра спрактыкаванага чалавека. *Гадоў дваццаць брагадзірам робіць, у яго воко набіто: ано гляня на палеток, адразу скажа, колькі гактароў у ём*. г.Косава.

ВО´КО НЕ ЗАПАРУ´ШЫЦЬ. Так скажуць пра добрага, згоднага чалавека. *Жыве, нікому вока не запарушыць.* Заполле Кос.

ВО´ЛАС З ГАЛАВЫ´ НІ ЎПАЎ. Скажуць пра чалавека, які лёгка, спакойна пражыў жыццё. *Марыля як у казцы пражыла: і мужык добры быў, і дзеці шанавалі, у яе волас з галавы ні ўпаў.* Альшаніца Квас.

ВО´ЛЬНАМУ ВО´ЛЯ. Так скажуць чалавеку, які не зважае на парады, робіць па-свойму. *Ні слухаяш нас, бацькоў, то вольнаму воля, ідзі, папробуй свайго хлеба.* Быч Стайк.

ВО´ЛЯ ВА´ША. Г.зн. як пажадаеце, як лічыце правільным. *Забралі маю карову ў калхоз, то бярэця і мяне з дзецьмі, воля ваша. Я ні ведаю зараз, як мне дзяцей гадаваць без каровы.* Заполле Кос.

ВОТ ТАБЕ´ БОГ, А ВОТ ПАРО´Г. Такімі словамі праганяюць з хаты непажаданага чалавека. *Ты прышоў і ў маёй хаці мяне гудзіш. Вот табе Бог, а вот парог!* Квасевічы Квас.

ВОЎК ДАРО´ГУ ПЕРАЙШО´Ў. Так скажуць пра чалавека, які лёгка ўзбуджаецца, запаляецца. *Ты чаго ўсхадзіўся, як бура? Што табе – воўк дарогу перайшоў?* Скураты Квас.

ВО´ЎКОМ ВЫЦЬ (ЗАВЫ´ЦЬ). Галасіць ад роспачы. *Пахаваў жонку, застаўся адзін у хаці, то воўком выя.* г.Косава.

ВОЎК У ЛЕ´СІ ЗДОХ. Здарылася нешта незвычайнае. *Мусіць, воўк у лесі здох, шчо ты мяне схацеў праве-*

*даць. Ужэ гадоў пяць ні быў.* Скураты Квас.

ВО´ЎЧЫ БІЛЕ´Т. Даведка, якая сведчыць пра вызваленне з турмы. *Адсядзеў пяць гадоў, а зараз з воўчым білетом ніхто ні хоча браць на работу.* г.Івацэвічы.

ВО´ЧЫ ВЫ´ВАЛІЦЬ. Выказаць здзіўленне. *Пайшла пытаць сваю мідніцу да суседкі, а яна вочы вываліла: "Я ні брала!". Вот і пазыч.* Альшаніца Квас. Мідніца – вялікая міса.

ВО´ЧЫ ГАРА´ЦЬ. Саромецца чужых учынкаў. *Ехалі з суседкаю на аўтобусі, кантралёры зайшлі, а яна без білета, то ёй хоць бы шчо, а ў мяне вочы гарэлі.* Хрышчонавічы Квас.

ВО´ЧЫ ЗАКРЫВА´ЦЬ. Рабіць выгляд, што нічога не заўважаеш. *Крадуць у калхозі, а брыгадзір вочы закрывая: пражане, то рабіць ні будзя каму.* Сярадава Жытл.

ВО´ЧЫ ЗЛІПА´ЮЦЦА. Пра неадольны сон. *Набегоўся, натаміўся за каравамі, і ні прысеў, і ні прылёг. Так хочацца спаць – вочы зліпаюцца. Але ж трэба яшчэ ісці цялушцы травы ўкасіць на ноч.* Бусяж Міл.

ВО´ЧЫ КАЛО´ЦЬ. Быць вельмі яркім. *Радзюжку суседка такімі яркімі ніцямі выткала – вочы коля, да таго харошая.* Аляксейкі Стайк.

ВО´ЧЫ ЛО´МЯЦЦА ГЛЯДЗЕ´ЦЬ. Страшна глядзець. *Вочы ломяцца глядзець гэты целявізар: адно б'юцца да рэжуцца.* Заполле Кос.

ВО´ЧЫ МАЕ´ НІ ГЛЯДЗЕ´ЛІ Б. Так скажуць, калі нехта непрыстойна паводзіць сябе. *Вочы мае ні глядзелі б на цябе, гэто ж трэба ні падвязці старого чалавека з бальніцы.* Любішчыцы Люб.

ВО´ЧЫ НА ЛОБ ЛЕ´ЗУЦЬ (ПАЛЕ´ЗУЦЬ). 1. Так скажуць, калі адчуюць нясцерпны боль. *Дрова рубаў. Сук адляцеў ды па барадзе. То вочы на лоб палезлі ад болю.* 2. Так скажуць, калі моцна здзівяцца. *Пайшоў па грыбы. Як нарваўся на месціну, то вочы на лоб палезлі – адных праўдзівікоў цэлы кош нарэзоў.* Альшаніца Квас.

ВО´ЧЫ НА МО´КРОМ МЕ´СЦІ. Пра таго, хто часта плача. *Не бядуй па свіне, шчо прапала. Каб ано горшае бяды ні было. А то вочы на мокром месці, плачаш па ўсём.* Грыўда Міл.

ВО´ЧЫ ПАРО´ЦЬ. Папракаць. *Дачка байстручка зрабіла, а мацяры вочы поруць.* Бялавічы Кос.

ВО´ЧЫ ПРАГЛЯДЗЕ´ЦЬ. Доўга чакаць. *Паехоў мой гаспадар па дрова. Цямнея, а яго німа. Усе вочы праглядзела. А ён, бач, на грыбы нарваўся. Цэлы мех прывёз!* Була Міл.

ВО´ЧЫ РАЗБЯГА´ЮЦЦА. Пра разнастайнасць уражанняў. *Зайшла ў новы магазін – вочы разбягаюцца: шчо твая душа жадая – усё е.* Жамайдзякі Міл.

ВО´ЧЫ Ў САБА´КІ ПАЗЫ´ЧЫЦЬ. Пра выключнае нахабства, нялюдскасць. *Забраў дзве капіцы майго сена, людзі даказалі. Не, божыцца, клянецца, што ні браў. Кажу: "Чалавеча, ты вочы ў сабакі пазычыў. Мяне можно ашукаць, а людзей ні ашукаяш».* Аўсто Стайк.

ВОШ УКУ´СІЦЬ. Г.зн. рана ці позна жыццё кожнаму пасылае выпрабаванні. *Як вош укусіць, як перастрадая, то ўспомніць бацькоў, пашкадуя, што ні слухоў іх.* Панкі Люб.

ВУ´ХАМ НІ ВЯСЦІ´. Не зважаць. *Прашу гаспадара, каб поліка ў свінінцы паправіў, а ён і вухам не вядзе. Цэлы дзень ляскаюць свіня дошкамі.* Заполле Кос.

ВУ´ШЫ АПУСЦІ´ЦЬ. Зняверыцца. *З першага разу ні здаў на права і адразу вушы апусціў. Людзі за дзясятым разом здаюць, здасі і ты.* Міхнавічы Стайк.

ВУ´ШЫ ВЯ´НУЦЬ. Непрыемна слухаць. *Стары чалавек, а пачне з маладымі бабамі жартаваць, німа як слухаць – вушы вянуць.* Кушняры Падст.

ВУ´ШЫ ПУ´ХНУЦЬ. Так скажа чалавек, які вельмі хоча курыць. *Цэлы дзень кароў пасвіў, а курыво забыўся, то вушы пухнуць.* Быч Стайк.

ВУ´ШЫ РАЗВЕ´СІЦЬ. Даверліва слухаць. *Вучыць*

*яго Ўладзё, як зайца ці лісу ўпаляваць. Кажа, вазьмі моркоў ці кусочок кураціны, пасып іх табаком, пакладзі на пень. Заяц убачыць моркву, пачне есці, а табак у нос пападзя, заяц як чыхня, стукняцца галавою аб пень і ногі адкіня. Бяры цёпляняькаго. Гэдык і ліса. А ён стаіць, вушы развесіў ды слухая, верыць.* Заполле Кос.

ВУ´ШЫ СВІЦЯ´ЦЦА. Так скажуць пра старога чалавека. *У яго ўжэ вушы свіцяцца, а на маладзіц заглядаяцца.* Альшаніца Квас.

ВЫБІРА´ЦЬ ВО´ЧЫ. Папракаць. *Дачка разышлася з мужыком, то сваха мне вочы выбірая, кажа, што я ўлезла ў іхню жызню. А ці гэтаму праўда?* Скураты Квас.

ВЫ´БІЦЦА З ГРО´ШАЙ. Адчуць нястачу. *Ушчэнт выбілася з грошай, булку хлеба німа за шчо купіць.* Размеркі Стайк.

ВЫ´БІЦЦА З СІЛ. Вельмі стаміцца, знясіліцца, аслабець. *Заблудзіўся ў лесі, зайшоў у некая балото, ушчэнт выбіўся з сіл. Ледзьве прыпоўз дахаты.* Ёдчыкі Квас.

ВЫ´БІЦЦА СА СНУ. Доўга не спаць, варочацца. *Як раздумоўся, як нашы бацькі цяжко жылі, выбіўся са сну, цэлу ноч ні спаў.* Гічыцы Ягл.

ВЫ´БІЦЦА Ў ЛЮ´ДЗІ. Стаць уплывовым чалавекам, дабіцца вядомасці. *Бач, бацько конюхом у калхозі, а сын высокім начальніком у горадзі, выбіўся ў людзі.* Куляшы Міл.

ВЫ´БІЦЬ ДУ´РАСЦЬ З ГАЛАВЫ´. Адвучыць ад дрэнных звычак. *Трэба рабіць, што ўсе людкі робяць. А ты чаго гарачаю парою рыбу лавіць паехоў? Сено грабці трэба! Я выб'ю дурасць у цябе з галавы!* Яглевічы Ягл.

ВЫ´БІЦЬ ЗЕ´МЛЮ З-ПАД НОГ. Стварыць няпэўнае становішча ці няспраўджанасць спадзявання. *Я так спадзяваўся, што мой сынок заменіць мяне, а ён, бедняньcommitted, у том Афганістані галаву склаў, выбілі ў мяне землю з-пад ног.* Стайкі Стайк.

ВЫ´ВАЛІЦЬ ГА´ГАВІЦУ. Хадзіць у мароз з адкрытым горлам. *Дзе твой шалік? Чаго тыываліў гагавіцу на мароз?* Альшаніца Квас. Гагавіца – горла.

ВЫВАРО´ЧВАЦЬ (ВЫ´ВЯРНУЦЬ) ДУ´ШУ. Ванітаваць. *Такая гідлівая. Сядзям абедаць, не дай Бог чарвячок ці муха пападзя ў міску, то з яе душу вываротвая.* г.Косава.

ВЫ´ВЯРНУЦЬ КАЖУ´ХА. Раззлавацца, вызверыцца. *Папрасіла суседа, каб трымаў сабаку на прывязі, то як вывярнуў кажуха на мяне.* Альшаніца Квас.

ВЫ´ВЯСЦІ З ЦЯРПЕ´ННЯ. Раззлаваць. *Прывёз сын унука на лето, то кожны дзень вывядзя з цярпення – такі неслух, што сілы мае німа на яго.* Аўсто Стайк.

ВЫ´ВЯСЦІ НА ПЕНЬ СРАЦЬ. Выкрыць, выявіць. *Украў у мяне касу і прытаіўся, думае, што прамаўчу. Я вывёў яго на пень сраць.* Заполле Кос.

ВЫ´ВЯСЦІ НА ЧЫ´СТУЮ ВО´ДУ. Выкрыць. *Хавайся ні хавайся, а я цябе на чыстую воду вывяду, хай усе ведаюць, які ты добры.* Скураты Квас.

ВЫДЗІРА´ЦЬ ВО´ЧЫ. Быць нахабным, не ўступаць ні старому, ні малому. *Пасаромся, ні выдзірай вочы старому, бо сам старым будзяш.* Заполле Кос.

ВЫДЗІРА´ЦЬ (ВЫ´ДРАЦЬ) З ГО´РЛА. Так скажуць пра сквапнага чалавека. *Антось такі: ён з горла выдзяра, ён свайго ні ўпусціць.* Жамайдзякі Міл.

ВЫ´ЙСЦІ НА КО´РАНЬ. Абжыцца. *Выйшлі на корань, ано пачалі жыць, а тут вайна.* Заполле Кос.

ВЫ´ЙСЦІ СУХІ´М З ВАДЫ´. Застацца беспакараным. *З любой бучы, сваркі выходзіць сухім з вады, такі ліс, такі ўгоднік.* Бялавічы Кос.

ВЫКІ´ДВАЦЬ (ВЫ´КІНУЦЬ) ГРО´ШЫ НА ВЕ´ЦЯР. Трацішча на непатрэбнае. *Нашто табе гэта шаляноўка трэба была? Да яшчэ ў цыганоў. Яна тут жа аблезя. Ано выкінула грошы на вецяр.* Гошчава Стайк.

ВЫКІ´ДВАЦЬ КО´НІКІ. Рабіць ці гаварыць непа-

трэбшчыну, глупства. *Трошкі корка панюхая – і пайшоў конікі выкідваць: то біцца яму хочацца, то сварыцца, то сядзя песні спявая.* Хрышчонавічы Квас.

ВЫ´КІНУЦЬ З ГАЛАВЫ´. Пазбавіцца непрыемных думак. *Што было, то мінуло, выкінь з галавы, жыві ды Божым светом радуйся.* Панкі Люб.

ВЫ´КЛАСЦІ (ВЫКЛАДА´ЦЬ) БО´КІ. Уволю наесціся. *Была ў гасцях у дачкі, от выклала бокі, маладыя цяпер умеюць смачно наварыць.* Руда Падст.

ВЫКРУ´ЧВАЦЬ РУ´КІ. Нахабна дамагацца свайго. *Мой бацько ў калхоз ні схацеў уступіць, то ўсякімі спосабамі рукі выкручвалі: падаткамі замучвалі, пастаўкамі, шарваркамі.* Заполле Кос.

ВЫЛА´ЗІЦЬ (ВЫ´ЛЕЗЦІ) БО´КОМ. Не пайсці на карысць. *Ніхай табе маё дабро вылязя боком, як ты пайшоў да мяне ў хату красці.* Альшаніца Квас.

ВЫЛА´ЗІЦЬ (ВЫ´ЛЯЗЦІ) З САРО´ЧКІ. Бегчы з усіх сіл. *Як ляснуў гром, то дзеці з лесу ляцелі, гатоў з сарочкі вылязці.* Размеркі Стайк.

ВЫЛА´ЗІЦЬ (ВЫЛЕ´ЗЦІ) СА СКУ´РЫ. Старацца, імкнуцца. *Наш брыгадзір ажно са скуры вылазіць, каб дагадзіць начальству, а на людзей яму напляваць.* г.Косава.

ВЫ´ЛАМАЦЬ З КАЛЕ´НА. 1. Дабіцца свайго. *Ён табе з калена выламая, а дастаня.* Заполле Кос. 2. Пра неадольнае жаданне штосьці мець. *Маёй жонцы з калена вылamі, а дай грошы на абноўку.* Альшаніца Квас.

ВЫ´ЛУПІЦЬ ЗЕ´БРЫ (БЕ´ЛЬМЫ, ВО´ЧЫ). Утаропіцца, пільна ўглядацца. *Чаго ты на мяне гэдык зебры вылупіў? Першы раз убачыў?* Заполле Кос. Зебры, бельмы – вочы.

ВЫЛЯТА´ЦЬ (ВЫ´ЛЯЦЕЦЬ) З ГАЛАВЫ´ (З ПА´МЯЦІ). Забывацца, не захавацца ў памяці. *Вылецяло з галавы, як той гарадок называяцца, дзе ў арміі служыў. Зусім німа памяці.* Яглевічы Ягл.

ВЫМА´ЦЬ (ВЫ´НЯЦЬ) ДУ´ШУ. Замучваць, знясільваць. *Пакуль памярці, то хваробы душу вымуць.* Скураты Квас.

ВЫМО´ТВАЦЬ (ВЫ´МАТАЦЬ) ДУ´ШУ. Прычыняць мукі, пакуты. *Сын усю душу выматоў: як ано нядзеля прыдзя, то паб'ецца, то нап'еецца, то пасварыцца.* г.Івацэвічы.

ВЫ´ПЛАКАЦЬ ВО´ЧЫ. Пераджыць вялікую бяду. *Не прышоў мой адзіны сынок з вайны, выплакала ўсе вочы па ём.* Альба Квас.

ВЫПУСКА´ЦЬ (ВЫ´ПУСЦІЦЬ) З ВІ´ДУ. Запамятаваць. *Што за галава? Выпусціла з віду, што заўтры калейка кароў пасвіць.* Яблонка Жытл.

ВЫПУСКА´ЦЬ (ВЫ´ПУСЦІЦЬ) З РУК. Страчваць. *Шчасце ў рукі плыло – сама выпусціла з рук. Не схацела замуж ісці за Івана, а з гэтым сваім боўдзілом увесь век прамучылася.* Альшаніца Квас.

ВЫ´ПУСКАЦЬ (ВЫ´ПУСЦІЦЬ) КІ´ШКІ. Параніць у бойцы. *Прыехалі хлопцы з чужого сяла да нас на танцы, то нашы галаварэзы і патанцаваць ім ні далі, гатоў выпусціць кішкі, як сталі біцца.* Заполле Кос.

ВЫ´РАБІЦЦА НА ІРХУ´. Схуднець, зблажэць. *Даўно не бачыў свата, а ён вырабіўся на ірху.* Заполле Кос. Ірха – аблямоўка.

ВЫ´РВАЦЬ З РО´ТА. У час размовы сказаць тое, што хацеў сказаць другі чалавек, апярэдзіць яго. *Ты загаварыла пра пажар у Косаві, з рота ў мяне вырвала, і я хацела пра гэто расказаць.* Бялавічы Кос.

ВЫ´РВАЦЬ РУ´КІ. Цяжка працаваць. *Усе рукі вырвала, ходзячы ў калхоз. Як нагрузіш пяць прыцэпоў сяналжу – а ён зляжалы, трактаром утоптаны – то начамі ні спіш: ні ведаяш, дзе рукі падзець.* Хрышчонавічы Квас.

ВЫ´РВІ І ПАДА´Й. Так скажуць пра хуткага, рухавага, хапаткога чалавека. *Ні хлопяц, а агонь – вырві і падай.* Грыўда Міл.

ВЫРЫВА´ЦЬ (ВЫ´РВАЦЬ) З ГО´РЛА. Дамагацца свайго любымі сродкамі. *Ты чаму мне выхады ні запісаў? Я ў цябе іх з горла вырву!* Заполле Кос.

ВЫ´САЛАПІЦЬ ЯЗЫ´КА. Сказаць не падумаўшы. *Ты нашчо высалапіў языка? Хто цябе прасіў? Прайшло б, і ніхто ні знаў бы, шчо цяля прапало. А так плаціць будзям.* Жамайдзякі Міл.

ВЫ´САХНУЦЬ НА НІ´ТКУ (НА ТРЭ´СКУ, НА ЦЕНЬ, НА ШЧЭ´ПКУ). Зблажэць, схуднець. *Суседка з бальніцы прыйшла. Убачыла, то не пазнала – высахла на нітку.* Размеркі Стайк.

ВЫСКАЛЯ´ЦЬ (ВЫ´СКАЛІЦЬ) ЗУ´БЫ. Смяяцца, рагатаць. *Прышла палоць буракі, то палі, а ні ты ано зубы выскаляяш.* Гошчава Стайк.

ВЫСМО´КТВАЦЬ (ВЫ´СМАКТАЦЬ) КРОЎ. Мучыць, эксплуатаваць. *Рабіла даяркаю ў калхозі, рукамі даіла, па калено ў гразі хадзіла, усю кроў маю высмакталі, ніякаго здароўя німа, а пенсія – курам на смех.* Альшаніца Квас.

ВЫСО´КО ЛЕ´ТАЦЬ. Важнічаць, ганарыцца. *Высоко ты, сусед, летаяш, начальнікам стаўшы, глядзі, каб нізко ні ўпаў.* Скураты Квас.

ВЫХО´ДЗІЦЬ (ВЫЙСЦІ) З ГАДО´Ў (ЛЕТ). Так скажуць пра жанчыну, у якой наступае клімакс. *Збіраюць зёлкі толькі тыя жанкі, шчо з гадоў вышлі. Тады гэтыя травы памоцныя. Маладым збіраць ні можно.* Альшаніца Квас.

ВЫХО´ДЗІЦЬ (ВЫ´ЙСЦІ) З СЯБЕ´. Траціць самавалоданне. *Плача ўнук, аж з сябе выходзіць: ні ўзялі мужчыны з сабою на балото.* Була Міл.

ВЫХО´ДЗІЦЬ (ВЫ´ЙСЦІ) НА БЕЛЫ СВЕТ. Ачуняць пасля доўгай хваробы. *Два месяцы ў бальніцы была, ано сёні на белы свет вышла, аж галава закружылася.* г.Косава.

ВЫХО´ДЗІЦЬ (ВЫЛА´ЗІЦЬ) НАВЕ´РХ, ВЫ´ЙСЦІ

(ВЫЛЯ´ЗЦІ) НАВЕ´РХ. Выяўляцца, выплываць. *Колькі вош ні хавай, яна наверх вылязя, гэдак, памятаю, гаварыла мая бабуля. Так і гэто: валачыў буракі калхозныя праз усю восянь, а ўсё раўно паймалі.* Галік Міл.

ВЫХО´ДЗІЦЬ СУХІ´М З ВАДЫ´. Пазбягаць пакарання. *Яму шанцуя: ці ўкрадзя, ці ашукая каго – усё сухім з вады выходзіць, бо ні хочуць людзі з ім звязвацца.* Руда Падст.

ВЫЦІРА´ЦЬ ВУГЛЫ´. Туляцца, бяздзейнічаць. *Ты чаго прышоў: танцаваць ці вуглы выціраць? Глядзі, а то ўсіх дзяўчат паразбіраюць.* Бялавічы Кос.

ВЫЦІРА´ЦЬ (ВЫ´ЦЕРЦІ) НО´ГІ. Падпарадкаваць. *Ажаніўся сын на гарадской, то ногі выцірая аб яго, усё калхознікам называя.* Панкі Люб.

ВЫ´ЦЯГВАЦЬ (ВЫ´ЦЯГНУЦЬ) ЖЫ´ЛЫ. Знясілець. *Усе жылы на калхозной рабоці выцягнула, зараз ложку да рота ні давяду.* Альшаніца Квас.

ВЫЦЯ´ГВАЦЬ (ВЫ´ЦЯГНУЦЬ) ЗА ВУ´ШЫ. Насільна застаўляць. *Не хацеў вучыцца, то за вушы выцягнулі са школы. А зараз во за зваршчыка вучыцца.* Жытлін Жытл.

ВЫ´ЦЯГНУЦЬ З-ПАД ПАЗУРА´ КРОЎ. Дапячы. *Яна як той вуж, з-пад пазура кроў выцягня.* Альшаніца Квас.

ВЫ´ЦЯГНУЦЬ (ПРАЦЯГНУ´ЦЬ) НО´ГІ. Памерці. *Бегоў, стараўся, згубіў здароўя, а зараз во выцягнуў ногі ды ляжыць – ніц ні трэба.* Воля Жытл.

ВЫЧВАРА´ЦЬ ШТУ´КІ. Рабіць глупства, абы-што. *Цэлы канцэрт Мікалай Кегут устроіў ля магазіна: выпіў добра – і давай вычвараць штукі: і спяваў, і танцаваў, што ён толькі ні рабіў.* Яглевічы Ягл.

ВЫЯЗДЖА´ЦЬ (ВЫ´ЯХАЦЬ) НА ЧУЖО´М ГАРБЕ´. Карыстацца чужой працай. *Ён прывык вечне выязджаць на чужом гарбе: і дрова яму прывязуць, і сено, і згаруць, і пасеюць. Як жа, амбар у руках.* Хадакі Жытл.

ВЯРНУ´ЦЦА З ТАГО´ СВЕ´ТУ. Ачуняць, выздара-

вецъ. *Я ўжэ перад апярацыяю папрашчаўся з усімі, ні думоў, шчо выжсыву. Дзякаваць Богу, дактара з таго свету вярнулі.* Міхнавічы Стайк.

ВЯРНУ´ЦЬ НОС. Пазбягаць сустрэчы, адварочвацца. *Як пазычала грошы, то я добра была, а зараз верня носа, бо аддаваць трэба.* Лазаўцы Міл.

ВЯРО´ЎКА ПЛА´ЧА. Пра таго, хто заслугоўвае суровага пакарання. *Акалечыў хлопца маладого гэты біндзюжнік, а даўно бацьку казалі: "Глядзі сына, па ём даўно вяроўка плача".* Жытлін Жытл. Біндзюжнік – бандыт.

ВЯРО´ЎКІ ВІЦЬ. Падпарадкоўваць сваёй волі. *Нявестка з майго сына вяроўкі ўе: паддаўся ўшчэнт, што яна ні скажа, то ён усё робіць. Але ніхай. Мяне ні слухоў, то хай хоць яе слухая.* Рацкевічы Міл.

ВЯРХО´М СЕ´СЦІ. Дамагчыся перавагі, падпарадкаваць. *Што гэто за начальнік? На яго рабочыя вярхом селі: калі схочуць – прыдуць на работу, калі схочуць – пайдуць з работы*. г.Івацэвічы.

ВЯРЭ´ДЗІЦЬ ДУ´ШУ (СЭ´РЦА). Трывожыць, хваляваць. *Паехалі мае мужчыны на заробкі ў Польшчу, даўно пісьма німа. Суседка прышла ды расказвае страхі пра тую Польшчу. Кажу, не вярэдзь мне душу, яна і так баліць.* Стайкі Стайк.

**Г**

ГАВО´РЫЦЬ З НЕ´БОМ. Так скажуць пра гонкае, высокае дрэва ці расліну. *Ах, і жыто ўрадзіло, з небом гаворыць, трудно будзя пераламаць на серп.* Заполле Кос.

ГАВЭ´НДЫ ГАВЭ´НДЗІЦЬ. Гаварыць пустое. *Ну, хопіць вам гавэнды гавэндзіць, пара садзіцца абедаць.* Заполле Кос.

ГАД ПЕ´ЧАНЫ. Нягоднік. *Гад печаны, нікому ні выбачыць: ні старому, ні малому.* Бялавічы Кос.

ГАДЫ´ Ў РАДЫ´. Зрэдку сустракацца, бачыцца,

бываць і інш. *Маладыя былі, то часто ездзілі адзін да аднаго, а пастарэлі, то сустракаямся гады ў рады.* Размеркі Стайк.

ГАЛАВА́ АПІ́ЛКАМІ (МЯКІ́НАЮ) НАПХА́НА (НАБІ́ТА). Пра бесталковага, дурнога чалавека. *Купіў гармоню на старасць, што з яго возьмяш, – галава апілкамі напхана.* Альшаніца Квас. *Павёз мужык мой парасят прадаваць. То за паўцаны аддаў. Даўно кажу: у яго галава мякінаю набіта.* Бялавічы Кос.

ГАЛАВА́ БАЛІ́ЦЬ. Перажываць, непакоіцца, турбавацца. *Малыя дзеткі – малыя бедкі, а павырастаюць, раз'едуцца па свеці, вот і баліць галава за кожнаго.* Альшаніца Квас.

ГАЛАВА́ ВА́РЫЦЬ. Разумны, кемлівы. *О-о-о, у твайго хлопца галава варыць: як бач задачку рашыў.* Яглевічы Ягл.

ГАЛАВА́ ГУ́ЗА ЗНО́ЙДЗЯ (ШУКАЯ́). Нарывацца на непрыемнасць. *Казала, каб ездзіў памалей, то не слухоў. Во і знайшла галава гуза: падбіў чалавека.* Размеркі Стайк.

ГАЛАВА́ – ДВА ВУ́ХІ. Нездагадлівы, праставаты чалавек. *Эх, ты, галава – два вухі, лічы, за так аддаў цялушку, а за яе можно было добрыя грошы ўзяць.* г.Івацэвічы.

ГАЛАВА́ ДУБО́ВАЯ. Пра чалавека, які зрабіў неабдуманы ўчынак. *Галава твая дубовая, ты ж бачыў, шчо навальніца пачынаяцца. Чаго ты паехоў дахаты? Перачакаў бы ў дзеда.* Альшаніца Квас.

ГАЛАВА́ ЗАБІ́ТА. Увесь у клопатах, думках хто. *Прышла вясна, адным галава забіта: як пасадзіць картоплі.* Размеркі Стайк.

ГАЛАВА́ ЗВАРЫ́ЛА. Пра таго, хто зрабіў неабдуманы ўчынак. *Галава зварыла ў цябе: і трэба было поначы ехаць на балото. Дарога абы-якая, прабуксаваў во ноч.* Старажоўшчына Кос.

ГАЛАВА´ ІДЗЕ´ (ПАЙШЛА´) КРУ´ГОМ. Так кажуць, калі шмат клопатаў. *Вяселле трэба рабіць сыну, а дзеўку гарадскую бярэ, не ведаю, за шчо ўхапіцца, галава кругом ідзе.* Корачын Жытл.

ГАЛАВА´ ПУ´ХНЯ. Шмат думак, перажыванняў. *Памятаю, забралі сына ў Афганістан, пісям доўго ні было, то галава пухла з думы.* г.Івацэвічы.

ГАЛАВА´ СЛАБА´Я. Пра дрэнную памяць. *Меншы ўнучок кепско вучыцца, галава слабая, але трактарыстом будзя і вучыцельку замуж вазьме.* Заполле Кос.

ГАЛАВО´Й ВАРЫ´ЦЬ ТРЭБА. Прымаць правільнае рашэнне, абдумваць, перш чым брацца за справу. *Трохі галавой варыць трэба, ні маленькі: пакіня ён жонку з малымі дзецьмі і паедзя на заробкі! А яна шчо адна рабіцімя?* Жамайдзякі Міл.

ГАЛАВУ´ ДА ПАДУ´ШКІ НЕ ДАВЯСЦІ´. Хутка заснуць. *Так натамілася, картоплі полючы, – галаву да падушкі не давяла.* Альшаніца Квас.

ГАЛАВУ´ СКРУЦІ´ЦЬ. Згінуць, прапасці. *Брыгадзіром рабіў, уеўся людзям у пячонкі, радаваліся, як у свет паехоў. А там недзі галаву скруціў.* Квасевічы Квас.

ГАЛАВУ´ СУШЫ´ЦЬ. Знясільваць сябе разумовай працай. *Ажно шкада ўнучка: прыехоў на лето і кожны дзень галаву за кніжкамі сушыць.* Грыўда Міл.

ГАЛАВЫ´ НІ ПРЫКЛАДУ´. Не разумець, не разважыць. *Галавы ні прыкладу, як будзя адпасвіць кароў: са´мы старыя і наняць німа каго.* Аўсто Стайк.

ГА´НІЦЬ НА ЧЫМ СВЕТ СТАІ´ЦЬ. Абражаць, лаяць. *Мужык як панюхая корка, то прыдзіраяцца да ўсяго. Ганіць мяне, на чым свет стаіць, як тая баба.* Заполле Кос.

ГА´НЬБУ ДАЦЬ. Зганьбаваць. *Такую цялушачку спраўную купіла, а то ж мужык ганьбу даў, кажа, малая.* Бялавічы Квас.

ГАНЯ´ЦЬ САБА´К. Бадзяцца без справы. – *Шчо*

*робіш? – А нічого. Парабіў работу: сено прывёз, картоплі выкапоў, дрова парубаў – зараз сабак ганяю.* Альшаніца Квас.

ГАРА´ З ПЛЕЧ СПА´ЛА (ЗВАЛІ´ЛАСЯ). Пазбавіцца ад клопатаў, перажыванняў, адчуць палёгку. *Перарабіў печы ў хаці, то як гара з плеч спала.* Зыбайлы Жытл.

ГАРА´ЧАЯ ГАЛАВА´. Нястрыманы, неразважлівы чалавек. *Вечар з дзеўчынаю пасядзеў, прышоў: "Жаніцца буду!" Астудзі сваю гарачую галаву, адумайся, ты ж яе зусім ні знаяш.* Куляшы Міл.

ГАРО´Д ГАРАДЗІ´ЦЬ. Хлусіць, выкручвацца. *Э-э-э, пачала ўжэ гарод гарадзіць. Сказала б, што праспала цэлы дзень, а то хвораю прыкінулася.* Жытлін Жытл.

ГАРЫ´ЦЬ У РУКА´Х. Хутка спраўляцца з работай. *Мая жонка, за што ні возьмяцца, – усё ў руках гарыць.* Няхачава Стайк.

ГАРЫ´ ЯНО´ ГА´РОМ. Так выказваюць абурэнне, раздражненне. *Ано палучу пенсію – адразу кіну работу. Гары яно гаром, усіх грошай ні заробіш.* г.Косава.

ГАРЭ´ЦЬ АГНЁ´М. Тэмпературыць. *Унучка захварэла, гарыць агнём. Градусніка дала – пад сорок. Шчасце, шчо сусед дома быў. Хутчэй у машыну да ў Косаво, у бальніцу. Ажно пад ранок жара спала. Добра, шчо ў людзей машыны зараз е. Каб даўней, то згарэло б дзіця.* Скураты Квас.

ГАРЭ´ЦЬ СІ´НІМ ПО´ЛЫМЯМ. Не шкадаваць таго, што можа прапасці. *Хай тыя картоплі гарэць сінім полымям, каб я іх у такі холад палола. Будзя яшчэ цяпло, у Бога ўсякіх дней много.* Альшаніца Квас.

ГАТО´Ў ВЫ´СКАЧЫЦЬ З САРО´ЧКІ. Уцякаць з усіх сіл. *Пайшла па ягады, пачалася навальніца, то ўцякала з лесу – гатоў з сарочкі выскачыць.* Заполле Кос.

ГАТО´Ў ПАЛЬЦО´М ДАСТА´ЦЬ. Празмерна наесціся. *Наеўся, гатоў пальцом дастаць.* Размеркі Стайк.

ГАТО´Ў САМ СЯБЕ´ ЗА ЛО´КАЦЬ УКУСІ´ЦЬ. Так скажуць, калі пачынаюць са шкадаваннем разумець неабдуманасць, паспешлівасць сваіх учынкаў, дзеянняў. *Мой чалавек пазычыў суседу грошы, то ніяк ні зышча: гатоў зара сам сябе за локці кусаць.* Заполле Кос. Зыскаць – атрымаць, вярнуць доўг.

ГАТО´Ў СВАЁ´ ГАЎНО´ ПАЕ´СЦІ. Так скажуць пра вельмі скупога чалавека. *Ён за капейку гатоў вош да Бярозы завясці, гатоў сваё гаўно паесці.* Альшаніца Квас. Бяроза – раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці, ад Альшаніц 25 км.

ГАТО´Ў СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ´ ПРАВАЛІ´ЦЦА. Так скажуць, калі адчуваюць вялікі сорам. *Сватоў ждалі. А жаніх не прыехоў. То гатоў былі скрозь зямлю праваліцца. Думалі, перадумоў. А яны на поязд спазніліся. Позно ўвечары прыехалі.* Заполле Кос.

ГАТО´Ў У ВЯРО´ЎКУ ЛЕ´ЗЦІ. Так кажуць, калі трапляюць у бязвыхаднае становішча. *Ехалі з бежанства з Расіі. Свякроў і залоўка захварэлі на ціф, знялі іх з поязда. Прыехала дахаты – у адзін дзень пахавала двоя дзяцей. Гатоў была ў вяроўку лезці.* Заполле Кос.

ГЛА´ДЗІЦЬ ПА ГАЛАВЕ´. Патураць. *Гладзіш ты яе па галаве, глядзі, каб ні вырасла белаўчкаю.* г.Івацэвічы.

ГЛА´ДЗІЦЬ ПА ШЭ´РСЦІ. Ва ўсім дагаджаць. *Добры, добры, як гладжу па шэрсці, а як супраць шэрсці, то начую ў падпаветцы.* г.Косава.

ГЛУХАЯ´ ЦЯЦЕ´РА. Скажуць пра асобу, якая не дачувае. *Крычу, крычу, што ў магазін свежу рыбу прывязлі, а ты, глухая цяцера, ні чуяш.* г.Івацэвічы

ГЛЫТА´ЦЬ СЛІ´НКУ. Пазіраць на нешта смачнае, але недаступнае. *І даўней каўбаса была ў магазіні, але зайдзеш, паглядзіш, ано слінку глытаяш: якія грошы ў калхозі плацілі, за шчо было купіць?* Альшаніца Квас.

ГЛЯДЗЕ´ЦЬ ДРУГІ´МІ ВАЧЫ´МА. Па-другому

ацэньваць чалавека, інакш адносіцца. *Малады настаўнік, але як стаў гаварыць без лістка, да харашэ, да доўго, да складно, то другімі вачыма глядзець сталі на яго.* г.Івацэвічы.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ЗВЕ́РХУ ЎНІЗ. Пагарджаць. *Стаў начальнікам, то на ўсіх глядзіць зверху ўніз, забыўся, бач, як разом малымі свіней пасвілі.* Заполле Кос.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ ЗНІ́ЗУ ЎВЕРХ. Г.зн. лісліва, угодліва. *Пайшла другі раз замуж, то сын на айчыма знізу ўверх глядзеў: і баяўся, і дагадзіць хацеў, што-то значыць ні родны бацько.* Хрышчонавічы Квас.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НІМА́ НА ШЧО. Скажуць пра тое, што выклікае расчараванне. *І хто гэто прыдумоў поначы парасят прадаваць? Купіла, рано пашла карміць – глядзець німа на шчо: малыя, худыя, каб днём, павек я іх ні купіла б.* Бялавічы Кос.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ПАГЛЯДЗЕ́ЦЬ) ПРА́ЎДЗЕ Ў ВО́ЧЫ. Цвяроза ацэньваць становішча, якое склалася. *Ну, які з цябе музыкант? Паглядзі праўдзе ў вочы: ты ано і ведаеш польку ды вальса, увесь твой рэпертуар.* г.Косава.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ СКО́СА. Непрыязна. *Стаў старшынёю ў нас, усе глядзяць на яго скоса, бо чужы чалавек. Ведаям: хату пабудуя за калхозныя грошы, пасля прадасць, наб'е грашыма кішане ды паедзя.* Размеркі Стайк.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ СКРОЗЬ ПА́ЛЬЦЫ. Не звяртаць увагі. *Памёр Кандраш. А добры чалавек быў. Бало, вазьмеш торбачку картоплёў у калхозі, то глядзеў скрозь пальцы, адверняцца, каб ні бачыць. Увесь свой век брыгадзіром прарабіў.* Заполле Кос.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ СМЕ́РЦІ Ў ВО́ЧЫ. Падвяргацца смяртэльнай небяспецы. *На вайне кожны дзень салдаты смерці ў вочы глядзяць.* Боркі Люб.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ У КНІ́ГУ, А БА́ЧЫЦЬ ФІ́ГУ. Не ўдумвацца ў тое, пра што чытаеш. *Праз каторы час*

*сядзіш за кніжкаю, а вершыка ні вывучыў: глядзіш у кнігу, а бачыш фігу, так выходзіць.* Плехава Люб.

ГЛЯДЗЕ´ЦЬ У РОТ. Угодліва слухаць. *Не глядзі яму ў рот, свой розум май, не маленькі.* Панкі Люб.

ГЛЯДЗІ´ Ў МЯНЕ´! Так выказваюць перасцярогу ці пагрозу. *Глядзі ў мяне! Каб на абы-што грошы ні траціў, на бацькаву пенсію жывем.* г.Івацэвічы.

ГНА´ЦЦА (ПАГНА´ЦЦА) ЗА ДВУМА´ ЗА´ЙЦАМІ. Адначасова брацца за дзве справы. *Мой мужык сем работ пачыная: гоніцца адразу за двума зайцамі, а ніц у яго ні выходзіць. Ні адну работу толком ні зробіць.* Воля Жытл.

ГНАЦЬ (ЗАГНА´ЦЬ) У МАГІ´ЛУ. Губіць, знішчаць, даводзіць да смерці. *Што ты робіш, чалавеча? Пасярод зімы сына з нявесткаю да малым дзецём выгноў з хаты. Усіх ты нас загоніш у магілу! І я з імі пайду, а ты жыві адзін у пустой хаці!* Заполле Кос.

ГНУ´ЦЦА (ЗГІНА´ЦЦА) Ў ТРЫ ПАГІ´БЕЛІ. Дагаджаць. *Узяў яе з байстручком, то яна ў тры пагібелі гнецца перад ім, баіцца наперакор слова сказаць.* Бялавічы Кос.

ГНУЦЬ КІРДУ´. Многа і цяжка працаваць. *Німа каму памагчы картоплі капаць, усю восянь адна кірду гну.* Заполле Кос. Кірда – спіна.

ГНУЦЬ (ЗАГНУ´ЦЬ) У ДУГУ´. Пагроза падпарадкаваць сваёй волі. *Бярыся за вучобу, а ні будзяш слухаць, у дугу загну! Ведай: без вучобы сёні і ні туды, і ні сюды.* Хадоркі Кос.

ГО´ЛАСОМ ГАЛАСІ´ЦЬ. Наўзрыд плакаць. *Аддавала дачку замуж, то голасом галасіла. Ажно людзі смяяліся.* Воля Жытл.

ГО´ЛАСУ НІ ПАДАВА´ЦЬ. Не даваць знаць пра сябе. *Вывезлі іхнюю сям'ю ў 39-м як кулакоў, бо тры каровы трымалі. Казалі, у Сібір. І голасу ні падавалі. А тут аказаліся, шукаюць сваякоў праз праграму "Жди*

*меня". Усё сяло загудзело. Яшчэ цётка іх старэнькая жывая.* Квасевічы Квас.

ГО´ЛКАЮ НІМА´ ДЗЕ ТКНУЦЬ. Многа, шматлюдна. *Столькі людзей напхаласё ў клуб – голкаю німа дзе ткнуць.* Гошчава Стайк.

ГО´ЛОЎ НА АДСЯЧЭ´ННЕ АДДА´ЦЬ. Узяць на сябе адказнасць, паручыцца. *Голоў на адсячэнне даю: ні брала яна вашаго ровара!* г.Косава.

ГО´ЛЫМІ РУКА´МІ. Без ніякага прыстасавання. *Зараз усе збіраюць ягады грабалкамі, а я голымі рукамі збіраю. Ні люблю грабалок.* Ёдчыкі Квас.

ГО´ЛЫМ ЦЕ´ЛОМ СВЯЦІ´ЦЬ. Абнасіцца. *У вайну так абарваліся, голым целом свяцілі.* Альшаніца Квас.

ГО´ЛЫ ЯК БІЗУ´Н. Вельмі бедны. *Паехоў мой унук на заробкі, то ледзьве жывы прыехоў. Голы як бізун. Кажа, некія бандзіты яшчэ там, у Маскве, абрабавалі.* Дубітава Міл.

ГОЛ ЯК САКО´Л. Вельмі бедны. *Мой дзед прыехоў з бежанства, з Расіі, гол як сакол, як стаю. Усё прышлося пачынаць з нуля. То ён хоць прыехоў з сям'ею, а колькі нашых людзей палягло ў той Расіі, аж страх.* Заполле Кос.

ГО´РАЙ ЗА ГО´РКУЮ РЭ´ДЗЬКУ. Вельмі, надта (надакучыць, абрыднуць). *Абрыд ты мне, уеўся ў душу горай за горкую рэдзьку.* Альшаніца Квас.

ГО´РКАЕ ДЗІЦЯ´. Наіўны, нявопытны. *Паехала мая дзеўчына паступаць. Шкада, яшчэ дзіця горкае, далей Івацэвіч ні была. Аж сэрцо баліць, як яна там будзя*? Квасевічы Квас.

ГО´РКІ П'Я´НІЦА. Алкаголік. *Пайшла дачка за свет замуж, а мужык – горкі п'яніца. Пагаварылі з гаспадаром, паедзям забіраць дзіця сваё.* Хрышчонавічы Квас.

ГО´РЛО ДРАЦЬ. Моцна крычаць. *Чаго ты горло дзярэш? Скажы спакойно дзіцяці, а то ажно збялело во. Апалохоў!* Яблонка Жытл.

ГО´РЛО ШЫРО´КАЕ. 1. Вельмі зайздросны, сквапны чалавек. *У зяця гэдакае горло шырокае, шчо каб прымеў, то гуньку з каня здзёр бы.* Бялавічы Кос. 2. П'яніца. *Яму німа меры, горло шырокае, ніяк ні нап'ецца, ніяк ні здаволіцца. Нойдзя сабе прыкрутку.* Скураты Квас.

ГО´РЫ ВАРО´ЧАЦЬ (ЗВЯРНУ´ЦЬ). Многа і плённа працаваць. *За летні дзень горы можно звярнуць, як схацець, а ты картоплі асыпаць часу ні знайшоў.* Жамайдзякі Міл.

ГО´СТРЫ НА ЯЗЫ´К. Дасціпны. *Міхась Баравец – гостры на язык чалавек. Як ён у настроі, то надарвем жываты ад смеху.* г.Івацэвічы.

ГО´СЦЕМ У ХА´ЦІ ЖЫЦЬ. Гультаяваць, пазбягаць працы. *Такая лянівая нявестка, госцем у хаці жыве.* Заполле Кос.

ГРАБЦІ´ ПАД СЯБЕ´. Нажывацца, шукаць ва ўсім выгаду. *Кожны чалавек пад сябе грабе, адна курыца ад сябе.* Альшаніца Квас.

ГРАБЦІ´СЯ ЯК КУ´РЫЦА НА СМЕ´ТНІКУ. Марудзіць. *Хучэй варушыся, а то грабешся як курыца на сметніку.* Заполле Кос.

ГРА´ЙКІ ГРА´ЮЦЬ. Хрыпы ў грудзях. *Гэдак прастудзілася, аж грайкі ў грудзях граюць.* Размеркі Стайк.

ГРАЦЬ НА НЕ´РВАХ. Нерваваць. *Ты праз увесь час мне на нервах граяш. Шчо кепскаго мае бацькі табе зрабілі? Хату паставілі, дзяцей памаглі гадаваць, а ты ўсё нідавольны.* Сенькавічы Падст.

ГРАШЫ´ЦЬ БО´ГУ. Без прычыны наракаць на свой лёс. *Грэшыш ты Богу, чалавеча. Усё табе кепско жывецца, усяго табе мало. Ні жыў ты ў вайну, ні бачыў бяды.* Хадакі Жытл.

ГРО´ШАЙ – КУ´РЫ НІ КЛЮЮ´ЦЬ. Вельмі многа. *Добра зараз жыць старым: дзве пенсіі ў хаці, грошай*

*– куры ні клююць. У магазіні ўсё е, купляй , што хочаш.* Бялавічы Кос.

ГРО´ША ЛО´МАНАГО НІ ВА´РТЫ. Нешта нявартаснае, няякаснае. *Купіла халадзільніка – гроша ломанаго ні варты: парабіў месяц ды сапсаваўся.* Старажоўшчына Кос.

ГРОШ ЦАНА´ Ў БАЗА´РНЫ ДЗЕНЬ. Нічого не варты. *Украў ён у мяне калясо ад воза, грош яму цана ў базарны дзень. Я думоў, шчо ён чалавек, шчо ў яго совясць е.* Альшаніца Квас.

ГРО´ШЫ ГРАБЦІ´ ЛАПА´ТАЙ. Так скажуць пра чалавека, які шмат зарабляе. *От Васілёў хлопяц маладзец – сем кароў трымая. Цяжко робіць, але грошы грабе лапатай.* Заполле Кос.

ГРО´ШЫ НА БО´ЧКУ. Кажуць, калі робяць складчыну. *Добра нашым мужыкам: прыдзя палучка – грошы на бочку і гуляюць да ночы.* г.Косава.

ГРЭЦЬ (ПРЫГРЭ´ЦЬ) ЗМЯЮ´ НА СВАІ´Х ГРУДЗЯ´Х. Рабіць дабро таму, хто плаціць няўдзячнасцю. *Прыгрэў змяю на сваіх грудзях: узяў бежанца ў хату, пашкадаваў. Карміў, паіў, а сталі калхозы – стаў начальнікам, то першаго мяне заставіў заяву напісаць.* Яглевічы Ягл.

ГРЭЦЬ (ПАГРЭ´ЦЬ) РУ´КІ. Нажывацца. *Добра пагрэў рукі, калі стаў кладаўшчыком: і сабе, і сыну хату паставіў за калхознае дабро.* Боркі Люб.

ГУ´БЫ ЗАКАПЫ´ЛІЦЬ. Зазлавацъ, пакрыўдзіцца. *І што я табе кепскаго сказаў, што ты губы закапыліў?* Заполле Кос.

ГУ´БЫ НАДЗЬМУ´ЦЬ. Пакрыўдзіцца. *Палучку жонцы ні ўсю аддаў, то губы надзьмула. Гэто ж я хацеў ёй на Новы год падарок купіць, то хай зараз сама купляя.* Бялавічы Кос.

ГУЛЯ´Й-ВА´СЯ. Ветрагон. *Вясёлы мой швагяр – гуляй-Вася, адны бабы ў галаве.* Альшаніца Квас.

## Д

ДА АДВА́ЛУ Е́СЦІ (НАЕ́СЦІСЯ). Уволю, колькі захочацца. *Марылін сын на мясакамбінаці робіць: да адвалу есць мясо.* Була Міл.

ДАБА́ВІЦЬ ХО́ДУ. Паспяшацца. *Трэба дабавіць ходу, каб ззавідна прыйсці дахаты.* Галік Міл.

ДА БЕ́ЛЫХ МУХ. Да пачатку зімы. *У нас кароў пасуць да белых мух.* Рацкевічы Міл.

ДАБІ́ЦЬ ДА РУ́ЧКІ. Зрабіць непрыгодным для карыстання. *Цэлымі днямі мой унук ганяя на ровары, зусім яго ні глядзіць, даб'е да ручкі.* Воля Жытл.

ДАБЫВА́ЦЬ СМЕ́РЦІ. Жыць у каго-небудзь у старасці. *У дачкі смерці дабываю, сама ўжэ і вады ні прынясу.* Альшаніца Квас.

ДАВА́ЦЦА (ДА́ЦЦА) Ў ЗНА́КІ. Надоўга запомніцца. *Будаваўся, па дзеравінцы збіраў на хату. Далася яна мне ў знакі – шмат здароўя паклаў я тады.* Грыўда Міл.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) АДСТА́ЎКУ. Адмовіць. *Хадзіў два гады ў суседняя сяло да дзеўчыны, пайшоў у армію, а яна мне адстаўку дала – замуж пайшла.* г.Івацэвічы.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) АСЕ́ЧКУ. Памыляцца. Э-э-э, *а я думоў, што ты ў том канцэ сяла жывеш, даў асечку, прышлося вярнуцца назад.* Лазаўцы Міл.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) БУ́БНА. Лупцаваць. *Пайшоў мой кавалер у чужоя сяло, то там добра далі бубна.* Харошча Міл.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) БУ́СІ. Цалаваць. *Унучок падрос, такі жвавы, вясёлы, ано прыду да дачкі, бяжыць: бусі яму давай.* Мілейкі Міл.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) ВЕ́РЫ. Верыць. *Ці гэто можно даць веры, шчо нам газ правядуць?* Альшаніца Квас.

ДАВА́ЦЬ (ДАЦЬ) ВО́ЛЮ. Дазваляць. *Каб яму волю далі, то ён усіх нас парабкамі парабіў бы.* Хадакі Жытл.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ВО´ЛЮ РУКА´М. 1. Біцца. *Ты каб волю рукам не даваў: сінякі з жонкі ні злазяць.* Жамайдзякі Міл. 2. Абдымаць. *Ці гэто было даўней так, каб хлопяц з першаго вечара ды волю рукам даваў?* Бялавічы Кос.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ВО´ЛЮ ЯЗЫКУ´. Гаварыць, не кантралюючы сябе. *Бабы як дадуць волю языку, то паўспамінаюць, што было і чаго ні было.* Рацкевічы Міл.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ДЗЁ´РУ (ДРА´ЛА, ДРАПАКА´). Уцякаць. *Памятаю, малымі пайшлі па валошкі ў жыто. Баба Марыля напалохала, шчо ў жыці русалкі водзяцца. Рвем квяткі, а нешчо як зашалясціць, то такого далі драла, аж пыл курэў.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ДУ´БА. Памерці. *Мало ён і пажыў пасля цюрмы. Прышоў, а недзі праз год даў дуба. Злыдзянь быў, а ні чалавек.* Гошчава Стайк.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ДУ´ЛЮ ПАД НОС. Не даць нічога, адмовіць. *Дулю табе пад нос, а ні прыданае: трэба было сядзець за кроснамі, а ты па вечарках бегала.* Скураты Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ДУ´ХУ. Біць. *Я яму дам духу за тоя, шчо цябе гэдак падмануў.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЖА´РУ. З ахвотаю працаваць. *Прышлі на поле, а бульба вытрасяна. Як узяліся – далі жару: да паўдня пазбіралі.* Ёдчыкі Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЗДА´ЧЫ. Адплачваць тым самым. *Хлопяц мой меншы ано пайдзе да дзяцей, ужэ бяжыць дахаты жаліцца: набілі яго. Раз заступілася, другі, а пасля кажу: "Давай здачы, колькі будзяш бегаць па маму". Усё, па той раз больш ні клікоў мяне.* г.Косава.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЗНАЦЬ. Паведамляць. *Паехоў сын на цаліну і ўжэ во колькі гадоў і пісьма німа. Каб хоць даў знаць пра сябе, больш мне ніц ні трэба, абы жывы быў.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) КАРБУ´НЦОЎ. Сварыцца. *Дала карбунцоў шафёру, шчо ні схацеў мне, старой, спыніцца ля хаты.* Заполле Кос.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) КО´ЗЫР У РУ´КІ. Аддаць перавагу. *Ты надто много крыцікуеш начальство. Яны на цябе даўно зуб маюць. Не пі, не давай ім козыр у рукі, а то звольняць.* Боркі Люб.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) КРУГАЛЯ´. Ісці акружной дарогай. *Кладку паводка знясла, прышлося кругаля даваць, натамілася ісці па гэтой роскваві.* Хрышчонавічы Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЛАТАТЫ´. Уцякаць. *Дзецьмі былі. Пайшлі ў заклад, хто вечаром ні пабаіцца пайсці на могліцы. А яны далёко былі ад сяла, ля лесу. Зайшлі, вецер падзьмуў – ручнікі на крыжы як затрапяталіся, ну, то і далі мы лататы, ано ў сяле дух перавялі.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЛЕ´ЙЦЫ Ў РУ´КІ. Кіраваць. *Жонцы лейцы ў рукі ні давай, бо будзяш чыгуны шараваць.* Гічыцы Ягл.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) МА´ХУ. Памыляцца. *Узялася ткаць, бачу, дала трохі маху: прапусціла нітку ў адно вочко, як накідала ў бердо.* Бялавічы Кос.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) НА ЛА´ПУ. Падкупіць. *Як хочаш, каб вылячылі дактара, то трэба на лапу даваць, а так будзяш без толку ляжаць у гэтай больніцы.* г.Івацэвічы

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПАД ЗАД КАЛЕ´НОМ. Выганяць. *Рабіў лясніком, то ні глядзеў лесу, а глядзеў, каб хто бутылку за дрова паставіў. Цярпелі, бо камуніст, а пасля далі пад зад каленом ды ідзі пад халеру.* Альба Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПАД ХВОСТ. Караць. *Хочаш, каб толк з сына быў, часцей пад хвост давай.* г.Косава.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПА ЗУБА´Х (ПА МАЗГАВЕ´ШЦЫ, ПА ШЫ´І, ПА РЭ´БРАХ). Набіць.

*Пайшоў у суседняе сяло на музыкі, гогалём там хадзіў. То далі па зубах, боляй ні пойдзя.* Галенчыцы Ягл.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПА РУКА´Х. Адбіць ахвоту. *Так дзіця стараласё, вершыка вучыло, ад зубоў адлятало. Прышла са школы, кажа: "Настаўніца тройку паставіла, больш так вучыць ні буду". Дала дзіцяці па руках, усю ахвоту да вучобы адбіла.* Скураты Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПАТА´ЧКУ. Патураць. *Дзіцяці ніколі ні давай патачкі, хай прывыкая слухаць старэйшых.* Заполле Кос.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПА ША´ПЦЫ (ПА ШЫ´І). Прагнаць. *Думоў, век начальнікам будзя, усё яму людзі рабіцімуць за так. Э, не, прышлі граматнейшыя за яго, пасля інсцітута. Далі па шапцы ды ідзі з віламі ў калхоз.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПРЫКУРЫ´ЦЬ. Сварыцца, ушчуваць. *Цяслярыназываюцца, да паўдня адну дзеравінку прыпусцілі. Прышоў брыгадзір, то даў ім прыкурыць.* Хадакі Жытл.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ПЫ´ТЛЮ. Распякаць. *Пастух заснуў каля кароў, а яны ўсе ў шкоду, у канюшыну. То аграном даў яму пытлю.* Заполле Кос.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) РА´ДЫ. Спраўляцца. *Гэдак зараслі картоплі, што страх. Нічого, далі рады, апалолі. Нездарма кажуць: вочы баяцца, а рукі робяць.* Хрышчонавічы Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) У КО´СЦІ. Моцна лаяць, сварыцца, крычаць. *Бацько зрабіў лыжы, паехоў я на горку – зламаў адну. То далі мне ў косці.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) У НОС. Непрыемна пахнуць. *Свінарніка зрабілі за сялом у полі. Паверня вецяр на сяло – дасць у нос, то дыхаць німа чым.* Альшаніца Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) У ХАМУ´Т. Адступіцца. *Хваліўся, што сваім канём тры кубы дзерава павязе. А паклалі – ды даў у хамут. Крычыць: "Буду я вам рваць*

*каня"*. Аляксейкі Стайк.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ХО´ДУ (ЦЯ´ГУ). Уцякаць. *Трэба даваць адгэтуль ходу: ніякага заробку тут німа.* Аўсто Стайк.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ХРАПАКА´. Моцна спаць. *На Вялікдзень цэлу ноч ні спала, у цэрківі была. А прышла, паснедалі, з'елі свянцонае – цэлы дзень храпака давала.* Хрышчонавічы Квас.

ДАВА´ЦЬ (ДАЦЬ) ЧО´СУ. Сварыцца. *Сказала дачцэ пасуду памыць, а яна з дзецьмі прабегала да вечара, ніц ні зрабіла. Дала я ёй чосу.* Альшаніца Квас.

ДАВО´ДЗІЦЬ ДА БЕ´ЛАГО КАЛЕ´ННЯ. Моцна раззлаваць. *Цяперашнія дзеці такія нялюцкія. Цяхнічкаю раблю ў школі, то кожан дзень да белаго калення даводзяць.* Яглевічы Ягл.

ДАВО´ДЗІЦЬ (ДАВЕ´СЦІ) ДА ЛА´ДУ (ДА ТО´ЛКУ). Упарадкаваць, закончыць пачатае. *Пачаў дзесяць работ і не давёў да ладу ні адной.* Альшаніца Квас.

ДАВО´ДЗІЦЬ (ДАВЕ´СЦІ) ДА СЛЁЗ. Моцна крыўдзіць. *Як учэпіцца за што: і тоя яму ні так, і гэто – часто і густо даводзіць да слёз.* Лазаўцы Міл.

ДАГАРЫ´ ДНОМ ПЕРАВЯРНУ´ЦЬ. Зрабіць беспарадак. *Пакінула адных дзяцей у хаці, то ўсё дагары дном перавярнулі.* Бусяж Міл.

ДА ДВУХ НІ ГАВАРЫ´. Пра ўспыльчывага чалавека. *Ён такі запанчлівы, з ім да двух ні гавары. Яму пасварыцца, як запалка запаліць.* г.Косава. Запанчлівы – запальчывы.

ДА ДНА. Цалкам, поўнасцю, *Госцейкі, за здароўе маладых першую чарку вып'ем да дна!* г.Івацэвічы.

ДА ДУШЫ´. Вельмі падабацца. *Сын ажаніўся, нявестка мне да душы: і есці зварыць, і ў хаці прыбярэ – усё ўмея.* Стайкі Стайк.

ДАЖЫВА´ЦЬ ВЕ´КУ. Жыць апошнія дні. *Захварэў моцно свёкар, веку дажывая.* г.Косава.

ДАЖЫ´ЦЬ ДА СІВЫ´Х ВАЛАСО´Ў. Пастарэць. *Дажыў да сівых валасоў, але так і ні навучыўся карову даіць. Усё кажа: ні мужчынскі гэто заняток.* Грыўда Міл.

ДА ЗАРЭ´ЗУ ТРЭ´БА. Вельмі, надзвычай (трэба). *Да зарэзу трэба ў бальніцу папасці: балячкамі абсыпало.* Скураты Квас.

ДАЙ БОГ КО´ЖНАМУ (УСІ´М). Пажаданне дабра. *Дай Бог усім нам здароўя, шчасця, дабрабыту.* г.Івацэвічы.

ДАЙ БОГ НО´ГІ. Уцякаць. *Даўней яблыку былі жадныя. Залезям да каго ў агарод, а згледзіць гаспадар ці гаспадыня, то дай Бог ногі. І страшно было, і весяло. Зараз ужэ дзеці ні лазяць па агародах, бо ўсім здаволяны, усё ў іх е.* Скураты Квас.

ДАЙ БОГ (БО´ЖА) ПА´МЯЦЬ. Гэтымі словамі выказваюць жаданне ўспомніць штосьці. *Ганна ні мясцовая, яна бежанка. Дай Бог памяць, здэцца, адразу пасля вайны тут у нас асела з хлопцом малым.* г.Косава

ДАЙ БО´ЖА ЧУ´ТАЕ БА´ЧЫЦЬ. Гэтымі словамі жадаюць, каб згаданае, абяцанае здзейснілася. *Новы старшыня паабяцаў лазню ў сяле адрамантаваць. Дай Божа, як кажуць, чутае бачыць.* Мілейкі Міл.

ДАЙСЦІ´ (ДАХО´ДЗІЦЬ) ДА ВУШЭ´Й. Пачуць. *Дайшло да вушэй маіх, што ты ажаніцца надумоў. Даўно пара, колькі будзяш у кавалерах хадзіць? Нябось трыццатка мінула?* Любішчыцы Люб.

ДАЙСЦІ´ (ДАХО´ДЗІЦЬ) ДА РО´ЗУМУ. Усвядоміць, зразумець. *Думаю, нашто яны тут агароджу ставяць? Дайшло да розуму – сад будуць садзіць.* г.Косава.

ДАЙСЦІ´ (ДАХО´ДЗІЦЬ) ДА РУ´ЧКІ. Збяднець. *Як наваліліся беды: і карова прапала, і свіння – дайшлі да ручкі. Каб ні картоплі, то з голаду памярлі б.* Яглевічы Ягл.

ДАЙСЦІ´ ДА ТРО´ПУ. Разабрацца, дабіцца толку.

*Дайшла да тропу, разабралася, калі аўтобус прыходзіць.* Стайкі Стайк.

ДАЙ ТЫ ВЕ´РЫ. Так выказваюць сумненне ў тым, што пачулі. *Дай ты мне веры, скажы: праўда гэто ці не, што Маня ўзяла сабе прымака з Вацэвіч?* Стайкі Стайк.

ДА КА´ЛЬВА. Усё, дарэшты, да апошняга. *Падаткі назначылі, а плаціць ні было чым, то прышлі выграблі жыто да кальва.* Лазаўцы Міл.

ДА КАПЕ´ЯЧКІ. Усё, цалкам, поўнасцю патраціць. *Усю пенсію ўнуку на вучобу аддаў, да капеячкі.* г.Івацэвічы.

ДА КО´ЖНАЕ БО´ЧКІ ЗА´ТЫЧКА. Чалавек, які любіць умешвацца не ў свае справы. *Бало, мой свёкар усюды свой нос усадзіць, быў да кожнае бочкі затычка.* Альшаніца Квас.

ДА КУ´ПЫ. Сабрацца ўсім разам. *Вяселле буду сыну рабіць, то ўся радня да купы збярэцца.* Квасевічы Квас.

ДАЛЕ´Й АД ГРАХУ´ (АД ЛІ´ХА). Уцячы, пазбегчы непрыемнасцей. *Убачыў, як б'юцца брыгадзір з аграномом, ды ходу, далей ад граху.* Мілейкі Міл.

ДА´ЛЕЙ-БО´ЛЕЙ. Так скажуць пра падзеі, якія імкліва развіваюцца. *Паехала і забрала сваю дачку: пачаў біцца, далей-болей – з хаты выганяя.* г.Косава.

ДАЛЁ´КО ПАЙСЦІ´. Пра таго, хто здольны дасягнуць вялікіх поспехаў. *Маладзец, добра малюяш, далёко пайдзяш.* г.Івацэвічы.

ДАЛЁКО ХАДЗІ´ЦЬ НІ ТРЭ´БА. Лёгка згадаць прыклад, факт, каб пацвердзіць што-небудзь. *Далёко хадзіць ні трэба, вазьмецця маю суседку. На работу ні хадзіла, а пенсію добру палучая.* Альшаніца Квас.

ДА ЛІ´ХА. Многа, шмат. *У яе да ліха адзежы.* Бялавічы Кос.

ДА МАГІ´ЛЫ. Да апошніх дзён жыцця. *Да магілы ні забуду, як ты мяне выручыў, пазычыў грошай на вя-*

*селле, як я сына жаніла.* Размеркі Стайк.

ДА НАГІ´. Якраз па памеру (пра абутак). *Ездзіла да сына ў Брэсць і купіла меншой дзеўчыні боцікі. Баялася, шчо малыя будуць. Не, памерылі – якраз да нагі.* Галенчыцы Ягл.

ДА НІ´ТКІ. Наскрозь. *Да ніткі прамок: такі дождж хлібнуў.* Альшаніца Квас.

ДА НІЧЭ´ГО. Ні на што не здатны. *Мой зяць да нічэго: ні заспяваць, ні патанцаваць, ні пагаварыць – маўчыць, як вады ў рот набраўшы.* Заполле Кос.

ДА ПАРАСЯ´ЧАГО ВІ´СКУ. Моцна напіцца. *Як палучка, так мужык да парасячаго віску напіваяцца.* г.Івацэвічы.

ДА ПАЎСМЕ´РЦІ. Моцна набіць. *Палез красці сало ў каморку. Залез праз стрэху. Хоць ноч была, пачулі, паймалі, то збілі да паўсмерці.* Заполле Кос.

ДАРМА´ Е´СЦІ ХЛЕБ. Ленавацца, нічога не рабіць. *Жывеш трутнём, яно дарма хлеб ясі, хоць палено перарубаў бы.* Ёлкі Ягл.

ДАРМА´ СВЕТ ЗА´СЦІЦЬ (КАПЦІ´ЦЬ). Жыць, не прыносячы нікому карысці. *Прапіў ты дзяцей, прапіў ты жонку, нікому зараз ты ні трэба, дарма свет засціш.* Квасевічы Квас.

ДАРО´ГІ РАЗЫШЛІ´СЯ. Так скажуць, калі блізкія адносіны перарываюцца. *Дзецьмі адзін безаднаго дня пражыць ні маглі. Пасля школы дарогі разышліся, ужэ дваццаць гадоў ні бачыліся.* г.Івацэвічы.

ДАРО´ГУ ЗАБЫ´ЦЦА. Не праведваць, не паказвацца. *Нешто ты дарогу забыўся да нас, зрокся, ні заходзіш.* Заполле Кос.

ДА СЁ´МАГО ПО´ТУ. Шчыра працаваць. *Сенакос на дзялкі падзялілі. Каб на другі дзень ні ехаць, касіў з ранку да вечара – да сёмаго поту.* Жамайдзякі Міл.

ДА СЛО´ВА ПРЫШЛО´СЯ. Дарэчы, якраз. *Да слова прышлося, памятаяш, гэто ж мы ў адзін год з та-*

*бою хаты ставілі.* Заполле Кос.

ДА СМЕ´РЦІ. 1. Моцна напалохаць. *Ішлі понача з клуба, з музык. Хлопяц некі выскачыў з кустоў, як закрычыць, то да смерці напалохоў.* Гошчава Стайк. 2. Памятаць усё жыццё. *Да смерці ні забуду, як велька бура была ў сяле: прысаддзе паваліло, хаты параскрывало, коняй у канюшні пабіло.* Заполле Кос.

ДАСТАВА´ЦЬ (ДАСТА´ЦЬ) ДУ´ШУ. Здзекавацца, мучыць. *Пакуль жылі са свекрывёю, душу яна мне дастала: што ні зраблю, усё ні так, як яна хоча.* г.Косава.

ДАСТАВА´ЦЬ (ДАСТА´ЦЬ) З-ПАД ЗЯМЛІ´. 1. Абавязкова знайсці. *Абы памагло, я табе гэтыя лекі з-пад зямлі дастану.* г.Косава. 2. Знайсці і пакараць. *Акалечыў мне дзіця сваім матацыклом, ляціш, як шалёны. Ты ад мяне нідзе ні схаваяшся, я цябе з-пад зямлі дастану.* г.Івацэвічы.

ДАСТАВА´ЦЬ (ДАСТА´ЦЬ) ЦА´ЦКУ. Акалечыцца па сваёй віне. *І казала табе: ні бяры малатка ў рукі. Ні паслухоў, дастаў цацку, хадзі зараз з пабітым пальцом.* Бялавічы Кос.

ДА ТВА´РУ. Пасаваць. *Харошаму, прыгожаму – усё да твару.* Хрышчонавічы Квас.

ДА ТО´РБЫ ДАВЯСЦІ´. Да вялікай беднасці. *Ты мяне, сынок, са сваімі выкрунтасамі да торбы давядзеш. Колькі я буду плаціць штраф за тоя, шчо ты без правоў на машыні ездзіш?* Быч Стайк.

ДА ЎПА´ДУ. Да знямогі. *Шчо сёні за танцы? Стаяць у крузі і як тыя каравайніцы таўкуць рукамі. Бало, як заграюць польку, то да ўпаду танцуяш, да сёмаго поту.* Альшаніца Квас.

ДА ХАЛЕ´РЫ. Вельмі многа. *– Ці е грыбы ў лесі? – Ой, да халеры! Хоць касою касі.* Була Міл.

ДАХО´ДЗІЦЬ (ДАЙСЦІ´) ДА ЛА´ДУ (ДА ТО´ЛКУ). Прыводзіць у парадак. *Ніяк ні дайду да ладу ў хаці пасля рамонту: печы перарабляялі.* Аўсто Стайк.

ДАХО´ДЗІЦЬ (ДАЙСЦІ) ДА ПА´МЯЦІ. Апрытомнець, ачуцца. *Пасля аварыі два тыдні ў рэанімацыі ляжаў, нарэшці дайшоў да памяці.* г.Івацэвічы.

ДАХО´ДЗІЦЬ (ДАЙСЦІ´) ДА РО´ЗУМУ. Разумець. *Бачу, яны адна без адной жыць ні могуць, усё разом ды разом. Нядаўно да розуму дайшло: яны ж свае.* Грыўда Міл.

ДА´ЦЦА Ў ЗНА´КІ. Даняць, дапячы. *Купіў каня ў косаўскага мешчаніна. А той конь заценлівы, даўся ён мне ў знакі. Ледзьве прадаў другому такому даверліваму Мікалаю.* Заполле Кос.

ДАЦЬ КУ´ХТАЛЯ. Стукнуць, набіць. *Пакіну дзяцей дома адных, то старэйшы дасць кухталя малому, а сам бяжыць на рэчку.* Грыўда Міл.

ДАЦЬ МАРЦЫПА´НОЎ. Пачаставаць адмысловай, вельмі смачнай ежай. *Не хочаш капусту есці, то, можа, скажаш табе марцыпаноў даць?* Альшаніца Квас.

ДАЦЬ МА´ХУ. Памыліцца. *Эх, і даў я маху: прамаргаў, як са´мо грыбы пайшлі.* Квасевічы Квас. .

ДАЦЬ НА АРЭ´ХІ. Набіць. *Ні будзяш слухаць, дам на арэхі.* Заполле Кос.

ДАЦЬ НА ЛА´ПУ. Даць хабар. *Надумоў будавацца. Пайшоў пытаць пляца ў гарсавет. Пакуль на лапу ні даў, нічого выхадзіць ні мог.* г.Івацэвічы.

ДАЦЬ МЁ´ДУ. Уджаліць. *Пчала мёду дала, аж рука апухла.* Альшаніца Квас.

ДАЦЬ НЫРЦА´. Спатыкнуцца, паляцець уніз галавою. *От я сёні нырца даў: зачапіўся за корч да носом у мох.* Альшаніца Квас.

ДАЦЬ ПА РУКА´Х. Накрычаць, адбіць ахвоту да працы. *Трэба ўмець з дзецьмі. Часом, словом можно так даць па руках, што нічого рабіць ні схочуць.* Бялавічы Кос.

ДАЦЬ ПА ХВАСЦЕ´. Зняць з работы. *Зваршчыком рабіў мой сусед. Усе просяць зварыць то тоя,*

*то другоя, а расплачваюцца гарэлкаю. А каму трэба п'яны работнік? Далі па хвасце – ды ідзі, куды хочаш.* Заполле Кос.

ДАЦЬ ПА ХІ´МЕЛІ. Выгнаць, зняць з работы. *Далі па хімелі – ды ідзі, шукай зноў работу.* Заполле Кос. Хімель – карак.

ДА ЧА´СУ. Часова. *Куратніка збілі з досок, да часу. Пасля лепшаго зробім, з цэглы.* Альшаніца Квас.

ДВА (ТРЫ І ІНШ.) З КАЛІДО´РОМ. Так жартуюць са сваёй невялікай адукацыі. *Пайшоў у армію, пытаюцца ў мяне, колькі класоў скончыў. Кажу, два з калідором. Смяюцца мае камандзіры.* Галенчыцы Ягл.

ДВА САКАЛА´ ПА´РА. Аднолькавыя, падобныя ва ўсім. *Счапіліся сварыцца, адзін аднаму ні выбачаць – два сакала пара.* Заполле Кос.

ДВУХ СЛОЎ НІ ЗВЯЗА´ЦЬ. Косназыкі, неразвіты чалавек. *Здэцца, у школу хадзіў, а двух слоў ні звяжа.* Міхнавічы Стайк.

ДЗЕ БОГ ПАШЛЕ´. Дзе прыйдзецца. *Начую, дзе Бог пашле, і ем, што Бог дасць, бо свае хаты ні маю.* г.Івацэвічы.

ДЗЕ БО´КОМ ДЗЕ СКО´КОМ. Як прыходзіцца, як выпадае. *– Як жывеш? – Дзе боком дзе скоком: п'ю воду і спяваю свабоду.* Заполле Кос.

ДЗЕ БЫЛІ´ ВО´ЧЫ. Пра таго, хто не прадбачыць далейшае развіццё падзей. *Дзе былі твае вочы, як ты за яго замуж ішла? То ж відно было, што вечны гультай.* Любішчыцы Люб.

ДЗЕ ВО´ЧЫ ПАДЗЕ´ЦЬ. Адчуваць сорам. *Бацько мой расказвоў. Было іх троя братоў. Двоя старэйшых на багатых пажаніліся, а ён бедну ўзяў, але харошу. «То мы, Гнат, будзям сеяць на полі, а ты на сундуку пасеяш», усё смяяліся. Ано паміж сабою гешэфт вялі, бацька ні прызнавалі. Старэйшы брат радзіны рабіў, то Кандраша паклікоў, а майго бацька не. Бацько пажар-*

*таваць любіў. Кажа мацяры: "Матруна, прыходзіў Андрэй на радзіны клікоў. То я ўжэ адзін каравы пажану, а ты нечаго схадзі". Пайшла маці, а яны, як убачылі, то і мову адняло. Шэпчуцца: "А чаго яна прышла? Мы ж яе ні клікалі". Але пасадзілі за стол. "Сяджу, – кажа маці,– ні ведаю, дзе вочы падзець, і яда ў рот ні лезя". Ніхто ні любіць бедных, нават брат брата.* Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

ДЗЕ НА´ШО НІ ПРАПАДА´ЛО. Так выказваюць гатоўнасць да рызыкі. *Купіў машыну на старасці гадоў, ні горшы я за другіх. Дзе нашо ні прападало, можа, навучуся ездзіць.* г.Івацэвічы.

ДЗЕНЬ АДА ДНЯ. Паступова, з кожным наступным днём. *Майму свату дзень ада дня горш робіцца, мусіць, нядоўго яму засталося жыць.* Заполле Кос.

ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ. Кожны дзень. *Дзень пры дні работа, работа і работа, ніякага спачыну німа.* г.Косава.

ДЗЕНЬ У ДЗЕНЬ. Штодзень. *Даяркай раблю, трэба дзень у дзень хадзіць. І выхадных німа: німа каму ў калхозі рабіць.* Хадоркі Кос.

ДЗЕ РА´КІ ЗІМУ´ЮЦЬ. Так выказваюць пагрозу. *Я пакажу табе, дзе ракі зімуюць, будзяш знаць, як прыставаць да мае жонкі!* Размеркі Стайк.

ДЗЕ´РЦІ (ДРАЦЬ) ГО´РЛО. Моцна крычаць. *Ты горло ні дзяры. Я цябе ні баюся. Сам умею крычаць.* Уласаўцы Жытл.

ДЗЕ САБА´КА ЗАКАПА´НЫ. Ведаць, у чым сутнасць справы. *Ты мяне ні абвядзеш. Я ведаю, дзе сабака закапаны: гэто ты хочаш маё место заняць.* г.Косава.

ДЗЕ СЯ´ДЗЯШ, ТАМ І ЗЛЕ´ЗЯШ. Пра гультаяватага чалавека. *На ём дзе сядзяш, там і злезяш: як ні прасі, ён ні паможа, бо гультай спрадвечны.* Мілейкі Міл.

ДЗЕ ТАМ! Вокліч, якім выказваюць расчараванне, калі просяць, але чуюць адмову. *Папрасіла суседа, каб дрова памог прывязці. Але дзе там! І гаварыць ні*

*схацеў: нешчо сярдзіты на мяне.* Азярцо Падст.

ДЗЕ ТЫ БА´ЧЫЎ (ДЗЕ ВЫ БА´ЧЫЛІ). Так выказваюць крыўду, калі хто не выконвае просьбу. *Папрасіла Васіля Міранаваго дачку з поязда сустрэць. Дзе ты бачыў! І слухаць ні схацеў!* Бялавічы Кос.

ДЗЕ ТЫ ДЗЕ´НЯШСЯ (НІДЗЕ НІ ДЗЕ´НЯШСЯ). Не мець выхаду, змушаны пагадзіцца. *Пойдзяш у армію як міленькі, дзе ты дзеняшся. А то прывык: мамка падай, мамка аднясі.* г .Косава.

ДЗІ´ВУ ДАВА´ЦЦА (ДА´ЦЦА). Моцна здзіўляцца. *Дзіву даюся, як яны жывуць: ні паспеюць палучыць грошы, як ужэ німа. Бутэлькі збіраюць па сяле ды здаюць у магазін.* Лазаўцы Міл.

ДЗІРА´ВАЯ ГАЛАВА´. Скажуць пра таго, у каго слабая памяць, хто забываецца. *Паехоў касіць, а мянташку забыўся. Як жэб, стары – дзіравая галава.* Галенчыцы Ягл.

ДЗІРА´ВЫЯ РУ´КІ. Так скажуць пра таго, хто ўсё губляе. *У цябе дзіравыя рукі. Як можно было згубіць сумку, якая вісела на ровары, перад носом? Адзін Бог ведая!* Куляшы Міл.

ДЗІ´РКА АД АБАРА´НКА. Нічога. *У цябе ні рукі, а коцаўбы. Як ты гэту печ зрабіў? Крывая, дыміць. Я б за такую работу табе дзірку ад абаранка заплаціў.* Воля Жытл.

ДЗІ´РКА НА ДЗІ´РЦЫ. Увесь у дзірках. *Новыя штанікі ўнук адзеў. Прышоў дахаты – дзірка на дзірцы. І як гэдык парваць?!* Сакоўцы Міл.

ДЗЬМУЦЬ У АДНУ´ ДУ´ДКУ. Быць, дзейнічаць заадно. *Людзі бачылі, хто калхозная сено краў, але маўчаць. А яны дзьмуць у адну дудку: гэто ні мы. І паспрабуй дакажы.* Заполле Кос.

ДЗЯ´КАВАЦЬ (ДЗЯ´КУЙ) БО´ГУ. Так выказваюць падзяку з якой-небудзь прычыны. *Дзякаваць Богу, пагода вытрымала, сено сухенькае зграблі.* Жытлін Жытл.

ДЗЯ´КУЕМ НЕ АДБУ´ДЗЯШ. За работу трэба разлічыцца. *Не, дзякуем не адбудзяш, стаў гарэлку на стол.* Заполле Кос.

ДЗЯЛІ´ЦЬ НІМА´ ЧАГО´. Г.зн. паміж людзьмі няма прычын для сваркі, разладу, варожасці. *Мы з табой, Алена, на нашом грудку двоя ано засталіся, нам ужэ німа чаго дзяліць.* Альшаніца Квас.

ДЗЯСЯ´ТАМУ ЗАКАЗА´ЦЬ. Заракацца. *Соткі далі – адна камяніца. Пакуль згараў канём, рукі выцягнуў. Дзясятаму закажу гэдак гараць. Трэба было трактара наймаць.* Ятвезь Квас.

ДЗЯСЯ´ТАЯ ВАДА´ НА КІСЯЛ´Е. Далёкая радня. *Дзяды нашы былі траюрадныя, а мы з табою ўжэ дзясятая вада на кісяле.* Заполле Кос.

ДЗЯЦЕ´Й НІ ХРЫСЦІ´ЦЬ. Не мець інтарэсу да каго-небудзь; не мець патрэбы ў чыёй-небудзь лаяльнасці. *Мне з табой дзяцей ні хрысціць.* Скураты Квас.

ДЛЯ АДВО´ДУ ВАЧЭ´Й. Адцягнуць увагу, падмануць. *Ішоў, браў з сабою касу для адводу вачэй, а сам бег у лес па грыбы.* Быч Стайк.

ДНЁМ З АГНЁ´М НІ ЗНАЙСЦІ´. Зусім не знайсці. *Такого зяця, як у мяне, днём з агнём ні знайсці.* Куляшы Міл.

ДНЯВА´ЦЬ І НАЧАВА´ЦЬ. Пастаянна знаходзіцца ў адным месцы. *Гатоў дняваць і начаваць у Хведара – гэдак яго дачку ўпадабаў.* г.Косава.

ДОЖДЖ ЗА КАЎНЕ´Р НІ КА´ПАЯ. Так скажуць, калі адкладваюць работу на потым. *Ні пары гарачку, дождж за каўнер ні капая. Давай добра падумаям, як і куды будзям перацягаць хату.* Бялавічы Кос.

ДО´МА НІ АПЫНЯ´ЦЦА. Мала часу быць дома. *Падрос хлопяц, на дзяўчат стаў заглядацца, то дома ні апыняецца. Да паўдня ў школі, а пасля на гулі. Німа калі і ўрокі вучыць.* Альшаніца Квас.

ДО´ЎБНЯ ДО´ЎБНЯЮ. Чалавек невялікага розуму. *От Бог пакараў мяне мужыком: доўбня доўбняю.*

*Ніц ні ўмея, ніц ні зная.* Жамайдзякі Міл.

ДОЎБНЯЮ НІ ЗАБІЦЬ. Здаровы, моцны чалавек, які толькі прытвараецца хворым. *Ні прытварайся, што хворы, цябе доўбняю ні заб'еш.* Размеркі Стайк.

ДОЎГАЯ ПЕСНЯ. Скажуць пра тое, што патрабуе часу, што не хутка можа быць зроблена, расказана і пад. *Маладымі ездзілі на заробкі аж на Кубань. Будзя час, то раскажу, бо гэто доўгая песня.* Скураты Квас.

ДОЎГІ РУБЕЛЬ. Добры і лёгкі заробак. *Паехалі нашы мужыкі ў Расію за доўгім рублём.* г.Івацэвічы.

ДОЎГІ ЯЗЫК. Пра таго, хто разносіць плёткі. *У твае жонкі жаба на языку ні спячэцца: доўгі язык мая.* Альшаніца Квас.

ДОЎГІЯ РУКІ. Кажуць пра таго, хто схільны да зладзейства. *Нічого ад яго ні схаваяш: доўгія рукі мая.* Альшаніца Квас.

ДОЎГО НЕ ДУМАЮЧЫ. Тут жа, адразу, неадкладна. *Іду з дзеўчынаю, а півоні аж гараць у агародзі. Доўго не думаючы – дзыгіць у той агарод. Нарваў, ано вылазіць – цётка з хаты вышла. От брыдко мне было.* Квасевічы Квас. Дзыгаць – скакаць.

ДРАЦЬ (ЗАДЗІРАЦЬ) НОС. Зазнавацца. *Мае суседкі дачка стала дакторкаю, то так дзярэ носа, што багром ні дастаняш.* Галік Міл.

ДРАЦЬ (ЗДЗІРАЦЬ, ЗЛУПІЦЬ) СЕМ ШКУР. 1. Прыгнятаць. *Новы прадсядацяль у калхозі, то гатоў здзерці сем шкур з нас. Да ночы на полі буракі цукровыя полям.* 2. Задорага прадаваць. *Хацеў купіць цялушачку, то чалавек гатоў сем шкур злупіць за цяля. Ажно людзі пачалі смяяцца з яго: такое цаны німа на базары.* Яглевічы Ягл.

ДРОБНАЯ СОШКА. Неўплывовы, невялікага рангу начальнік. *Дробная ты, выходзіць, сошка, ні даб'ешся, каб аўтобус у сяло хадзіў.* Заполле Кос.

ДРУГІ КАЛЕНКОР. Зусім другая справа, іншая

размова. *Мыць машынаю – ні рукамі аджымаць, гэто другі каленкор.* Хрышчонавічы Квас.

ДРУГІ´М РА´ЗОМ. Не цяпер, калі-небудзь. – *Зайдзі, чарку вып'ям, жонкі мае дома німа, крычаць ні будзя каму. – Не, другім разом, твае німа, то мая дома.* Гічыцы Ягл.

ДРЫЖА´ЦЬ НАД КО´ЖНАЮ КАПЕ´ЙКАЮ. 1. Так кажуць пра скупога чалавека. *І пабудаваўся, і дзяцей пагадаваў, а дрыжыць над кожнаю капейкаю.* Сакоўцы Міл. 2. Так кажуць пра беднага чалавека, які лічыць кожную капейку. *Пенсія малая, а сын яшчэ вучыцца, то над кожнаю капейкаю дрыжу, бывая, і хлеба сабе ні купляю.* Хадоркі Кос.

ДУ´ЛЮ З МА´КОМ. Нічога не даць, не атрымаць. *Не хочаш есці салёнікоў, то з'еш дулю з маком.* Уласаўцы Жытл.

ДУ´ЛЮ ПАД НОС. Нічога не даць. *Прышоў мужык з работы, пытая на бутылку. Во табе – дулю пад нос, а ні грошы. Я гляджу, каб на хлеб было.* Альшаніца Квас.

ДУМА´ ДУ´МУ ПАГАНЯ´Я. Пра неадчэпнасць думак, якія вярэдзяць, трывожаць душу. *Це´перся пайшоў у лес і дагэтуль німа. У галаве ў мяне дума думу паганяя.* Уласаўцы Жытл.

ДУРНЫ´Я ЖА´РТЫ. Няўдалыя, нікуды не вартыя. *На стары Новы год падлеткі вешніцы здымаюць ды хаваюць. Гэто дурныя жарты: кругом адны старыя людзі. Валакуць тыя вешнічкі назад ды клянуць гэтых бэйбусоў.* Заполле Кос.

ДУРНЫ´ ЯК БОТ З ЛЕ´ВАЕ НАГІ´. Вельмі дурны. *Ні сватайця мне яго, ён дурны як бот з левае нагі. Я з ім і гаварыць ні хачу, ні тоя што замуж ісці.* Хадоркі Кос.

ДУРЫ´ЦЬ ГАЛАВУ´. Надакучаць, забаўляць. *Дурыш ты мне галаву пустой гаворкай, а мне трэба ісці ўпраўляцца. Сві´ня зараз хлява развернуць.* Гічыцы Ягл.

ДУХ ВЫПАДА´Я. Задыхацца (ад хуткага бегу, ад хады). *Не бяжы гэдак, дух выпадая, давай аддыхаямся.* Заполле Кос.

ДУХІ´ ЗАНЯЛО´. Засапціся, задыхацца. *Спяшыў з лесу, каб да цямна дахаты папасці, то аж духі заняло, пакуль прыбег.* Няхачава Стайк.

ДУ´ХУ НІ АКАЗА´ЦЬ. Моўчкі цярпець. *Мая мама, бывало, як убачыць, шчо бацько сярдзіты з работы прышоў, то нам, дзецям, прыказвая, каб і духу ні аказалі. І сама маўчала.* Альшаніца Квас.

ДУ´ХУ НІ ПАЧУ´ЦЬ. Не баяцца. *Прышла мая дачка ды расказвая пра маладого настаўніка. Кажа, ні слухаюць дзеці, дурэюць на ўроках. А што? Духу ні пачулі ды робяць, што хочуць.* Бялавічы Кос.

ДУША´ (СЭ´РЦО) БАЛІ´ЦЬ (ВЫ´САХЛА, -О). Трывожыцца па некім. *Забралі сынка ў армію, то душа баліць. Як ён там, маладзенькі, у чужых людзях?* Яблонка Жытл.

ДУША´ (СЭ´РЦО) НІ ЛЯЖЫ´ЦЬ. Не адчуваць прыхільнасці. *Дваццаць гадоў у Сібіры жыву, а душа ні ляжыць да гэтаго краю. Выраблю пенсію і паеду дахаты.* г.Косава.

ДУША´ РАЗРЫВА´ЯЦЦА. Цяжка перажываць, моцна шкадаваць. *Як гляну на гэтаго бедалагу – абедзьве нагі пояздом адрэзало, – то душа разрываяцца з жалю.* г.Івацэвічы.

ДУША´ Ў ДУ´ШУ. Дружна, у згодзе. *Мае бацькі пражылі ўсё жыццё душа ў душу. А ўсяго было: і радасці, і гора. Адно ведаю: працавалі много.* Заполле Кос.

ДУША´ Ў ПЯ´ТКАХ. Так кажуць, калі моцна спалохаюцца. *Хадзіў да дзеўкі каля могліц. Мінаяш іх, а душа ў пятках.* г.Косава.

ДУШО´Й І ЦЕ´ЛОМ. Усёй істотай, цалкам. *Ні наводзь, чалавеча, на мяне пляцень, ні гарадзі гарод: ду-*

*шой і целом я перад табою ні вінаваты. Ні браў я твае касы.* Квасевічы Квас.

ДУ´ШУ ДАСТА´ЦЬ. Надакучыць кпінамі, сваркай, скаргамі. *Гэты гад сваімі прыдзіркамі душу дастаня.* Альшаніца Квас.

ДУШЫ´ЦЬ ПАДУ´ШКУ. Спаць. *Свято, рабіць ніц ні будзяш, цэлы дзень падушку душу.* г.Івацэвічы.

ДЫМ ДЫ НІ´ТКА. Хутка, мігам. *Не садзецяся вячэраць без мяне, я зараз, дым ды нітка.* Заполле Кос.

ДЫ´ХАЦЬ НА ЛА´ДАН. 1. Цяжка хварэць. *Вясною яшчэ сам картоплі пасадзіў, а зараз на ладан дыхая, капаць ужэ ні будзя.* Старажоўшчына Кос. 2. Станавіцца непрыгодным. *Мой трактар ужэ на ладан дыхая: надто часто псуецца.* г.Косава.

ДЫ´ХАЦЬ (ДЫХНУ´ЦЬ) НІ ДАВА´ЦЬ (НІ ДАЦЬ). 1. Прымушаць працаваць, не даваць адпачынку. *І дыхнуць брыгадзір ні дае: рабі ды рабі яму. Хоча, каб да вечара буракі апалолі.* Заполле Кос. 2. Прыставаць,назаляць. *Упадабаў сусед маю дачку, то дыхнуць ні дае: куды яна – туды і ён.* Альшаніца Квас.

ДЫ´ХНУЦЬ ДУ´ХУ. Перавесці дыханне, зяўнуць. *Давай адпачнем, дыхнем духу.* Хадакі Жытл.

ДЫХНУ´ЦЬ НІМА´ КАЛІ´. Шмат работы, няма калі адпачыць. *У сяле жывеш, то дыхнуць німа калі: жджэш таго свята, каб хоць рукі адышлі ад работы.* Альшаніца Квас.

## Е

Е БОГ НА СВЕ´ЦІ. Так кажуць, калі бачаць, што зло пакарана. *Казалі, што много людзей ён за нішто панішчыў у вайну. Е Бог на свеці: як яго параліч разбіў, то папамучыўся сам і сямейнікоў папамучыў, пакуль памёр.* Няхачава Стайк.

ЕЙ-БОГУ. Так клянуцца, запэўніваюць у праўдзівасці сваіх слоў. *Ей-Богу, на свае вочы бачыў:*

*тваю авечку воўк украў, а ні чалавек.* Стайкі Стайк.

Е СВАЯ´ ГАЛАВА´ НА ПЛЯЧА´Х. Так кажуць, калі спадзяюцца на свой уласны розум. *Не вучы мяне жыць, у мяне свая галава на плячах е.* г.Івацэвічы.

Е´СЦІ ВАЧЫ´МА. Пільна ўглядацца. *У аўтобусі сёні бачыў: дзеўка села, а хлопяц малады ехоў, то ўсю дарогу вачыма еў яе, відаць, упадабаў.* Заполле Кос.

Е´СЦІ З ДВУХ РУК. Так скажуць пра сквапнага чалавека. *Ну, ты, Іван, і зайздросны, каб прымеў, то з двух рук еў бы.* г.Косава.

Е´СЦІ НІ ПЫТАЕ. Так скажуць, калі нешта адкладваюць на потым, на запас. *– Нашто ты прывалок гэтае жалезо на надворок? Завалы мало? – Хай будзя, есці ні пытаае.* г.Косава.

Е´СЦІ ПО´ЯДОМ. Без перастанку папракаць, выказваць незадавальненне. *Дваццаць гадоў са свекрывёю пражыла. А яна такая ліхая была, поядом ела, усё здароўе адняла. Аддзяліліся, то я як зноў на свет нарадзілася. Тагды і яна палепшала ўжэ.* Альшаніца Квас.

Е´СЦІ ПРАСІ´ЦЬ. Пра тое, што парвалася, знасілася. *Мой хлопяц лясніком стаў. Усяго тыдзянь па лесі пахадзіў, а ўжэ чаравікі есці просяць.* Падстарынь Падст.

Е´СЦІ СВОЙ ХЛЕБ. Стаць самастойным. *Я ўжэ свой хлеб ем, прафесію добрую маю – зваршчык. Ажаніўся, хату пабудаваў, яшчэ і бацькам памагаю.* г.Івацэвічы.

Е´СЦІ ХЛЕБ. 1. Зарабляць на пражыццё пэўным заняткам. *Хлопцы Мазюковыя ўсе музыканты, з гэтаго хлеб ядуць.* Заполле Кос. 2. Жыць за чужы кошт. *Не бядуй, што хлеб наш ясі, станяш на свае ногі, то нам, старым, паможаш.* Бялавічы Кос.

Е´ХАЦЬ (ПАЕ´ХАЦЬ) НА РЫ´ГУ. Ванітаваць. *З'еў у ахвоту грыбоў, а яны былі кепско высмажаныя, то пару разоў на рыгу ездзіў.* Бялавічы Кос.

Е´ХАЦЬ У ПІРАГІ´. Праведаць бацькоў маладое праз тыдзень пасля вяселля. *У пірагі ездзілі да сватоў, добра пачаставалі.* Азярцо Падст.

ЕШ НІ ХАЧУ´. Есці ў волю, колькі схочацца. *Служсыў ажно на Дальнём Востоку. У артылерыі. За сто трыццаць кіломятроў ад мора. Сярод сопок наш дзівізіён стаяў. Казалі, як японцы будуць лезці, то мы страляць па іх будзям. Прывык за тры годы. Кармілі – еш ні хачу.* Скураты Квас.

## Ё

Ё´ЛКІ ЗЯЛЁНЫЯ (ЁЛКІ-МАТА´ЛКІ, ЁЛКІ-ПА´ЛКІ). Такімі словамі выказваюць розныя пачуцці: захапленне, здзіўленне, прыкрасць і пад. *Ёлкі зялёныя! О гэто грыбы! Глядзі, сынок, нікому ні кажсы, дзе збіралі.* Альшаніца Квас. *Ах, ёлкі-маталкі! На пяць хвілін спазніўся – аўтобус ужэ пайшоў.* Заполле Кос. *Ёлкі-палкі, але і харашэ табе ў гэтой сукенцы.* г.Косава.

## Ж

ЖА´БА ДУ´ШЫЦЬ. 1. Скажуць, калі некага бярэ зайздрасць. *Я па ягады хаджу, кожны дзень па вядру прыношу. А яе жаба душыць: унучку малую прывязлі глядзець, то дома сядзіць.* Заполле Кос. 2. Так выказваюць нездавальненне сабою. *Ні апалола картоплі, то жаба душыць, гатоў поначы ісці на поля.* Заполле Кос.

ЖА´БА НА ЯЗЫ´КУ НІ СПЯЧЭ´ЦЦА. Так кажуць пра таго, хто не ўмее захоўваць тайны. *Як хочаш, каб усе ведалі, то скажсы Мані: у яе жаба на языку ні спячэцца.* Бялавічы Кос.

ЖА´БА ЦЫ´ЦКІ ДАСЦЬ. Пра непазбежнасць смерці. *Не, браток, ад смерці ні ўцячэш, хутко і нам жаба цыцкі дасць.* Альшаніца Квас.

ЖА´БІ ПА КАЛЕ´НО. 1. Плытка. *Была рэчка, асушылі, зрабілі канаву, вады ў ёй – жабі па калено.*

Хрышчонавічы Квас. 2. Малы ростам. *Які з яго салдат? Жабі па калено, на яго і формы німа.* г.Івацэвічы.

ЖАВА́ЦЬ ЖВА́ЧКУ. Паўтараць адно і тое ж. *Ні жуй жвачкі, скажы ясно, што ты ад нас хочаш.* г.Івацэвічы.

ЖАРТАВА́ЦЬ З АГНЁМ. Не лічыцца з небяспекай. *Ні жартуй з агнём, бо бяды ні абярэшся: галалёд, ні едзь нікованым канём на базар, акалечыш скаціну.* Заполле Кос.

ЖА́РТЫ ЖА́РТАМІ. Што ні гавары, але... *Жарты жартамі, але на свято нікому нічого ні пазычай, бо, кажуць, усё пойдзя з хаты.* г.Косава.

ЖУ́ЛІК НА ЖУ́ЛІКУ Е́ДЗЯ І ЖУ́ЛІКОМ ПАГАНЯ́Я. Так скажуць, калі кругом адны махляры, ашуканцы. *Ты хочаш, каб калхоз быў нечаго варты? Тут жулік на жуліку едзя і жулікам паганяя.* Заполле Кос.

ЖЫВА́Я КАПЕ́ЙКА. Пра ўсё, што дае прыбытак, даход. *Летом кожан дзень жывая капейка: то ягад назбіраяш здасі, то грыбоў, то парэчок.* Альшаніца Квас.

ЖЫВ́Е ЯК СЫР У МА́СЛІ КУПА́ЯЦЦА. Заможна, у дастатку. *Жыве як сыр у маслі купаяцца, ано птушынаго малака німа.* Воля Жытл.

ЖЫВО́ГО МЕ́СТА НІ ЗАСТАЛО́СЁ (НІ ПАКІ́НУЦЬ). Так скажуць пра таго, каго моцна збілі, знявечылі пабоямі. *Так збіў, так змардаваў гэты бандзіт майго хлопца – жывого места ні засталосё.* Скураты Квас.

ЖЫВО́Е ДУШЫ́ НІМА́. Нікога, ні аднаго чалавека. *Летом у сяле жывое душы німа: усе ў ягадах. Смяюцца: амерыканскі заробок знайшлі.* Альшаніца Квас.

ЖЫВО́Т ДА СПІНЫ́ ПРЫСО́Х. Вельмі зблажэў, схуднеў хто. *Але ж ты і худы, Іван, цябе як з канцлагера выпусцілі: жывот да спіны прысох.* г.Івацэвічы.

ЖЫВО´Т НА НОС ЛЕ´ЗЯ. Так скажуць пра цяжарную жанчыну. *Восенню на радзінах была ў яе, а ўбачыла вясною – зноў жывот на нос лезя.* г.Косава.

ЖЫВЫ´ ВЕ´ЦЯР ХО´ДЗІЦЬ. Пра адчуванне руху халоднага паветра ў жылым памяшканні. *Жывы вецяр ходзіць па хаці.* Заполле Кос.

ЖЫВЫ´ НЯБО´ЖЧЫК. Вельмі худы. *Язва мучыць майго чалавека. То схуднеў – жывы нябожчык.* Мілейкі Міл.

ЖЫЎЦО´М Е´СЦІ (З'Е´СЦІ). Прычыняць мукі, пакуты. *У прымах жыву, то цешча жыўцом есць. Цярплю радзі дзяцей.* Альшаніца Квас.

ЖЫЦЬ АДНЫ´М ДНЁМ. Не задумваючыся пра будучае. *Людзі сёні жывуць адным днём, без ніякіх запасоў.* Заполле Кос.

ЖЫЦЬ З КАПЕЙКІ´. Толькі на заробак, не разлічваючы на іншыя даходы (жыць). *Прапала карова, во і прыходзіцца жыць з капейкі.* Размеркі Стайк.

ЖЫЦЬ СВАІ´М РО´ЗУМОМ. Быць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках. *Чаго вы трымаяця хлопца каля сябе? Хай едзя ў горад да сваім розумом жыве.* Міхнавічы Стайк.

ЖЫЦЬ ЧУЖЫ´М РО´ЗУМОМ. Не мець самастойнай думкі. *Век чужым розумом жыць ні будзяш, трэба і свайго трохі мець: бацькі ні вечныя.* г.Івацэвічы.

ЖЫЦЬ ЯК НАБЯЖЫ´ЦЬ. Як выпадае, спадзеючыся на лепшае (жыць). *Забудзьця пра ўчарашняя, ні дбайця пра будучая, трэба жыць як набяжыць.* Заполле Кос.

## З

ЗАБІВА´ЦЬ (ЗАБІ´ЦЬ) АСІ´НАВЫ КОЛ У МАГІ´ЛУ. Так выказваюць адмоўныя адносіны да іншага чалавека.*Ты мне гэдак сваею п'янкаю да гулямі ўпёкся, што як памрэш, то замест памятніка асінавы кол у магілу заб'ю.* г.Косава.

ЗАБІВА´ЦЬ (ЗАБІ´ЦЬ) ГАЛАВУ´. 1. Абцяжарваць сябе непатрэбнымі думкамі, клопатамі. *Ні перажывай, ні забівай галавы, хвароба ні цяжкая, дасць Бог, хутка дачушка выздаравяя.* г.Івацэвічы. 2. Назапасіць памяць непатрэбнымі ведамі. *Ні забівай сабе галавы, нашчо яна табе, гэта гісторыя? Ведаяш, калі вайна была, дый будзя.* Альшаніца Квас.

ЗАБІВА´ЦЬ (ЗАБІ´ЦЬ) ДУХІ´. 1. Перахапіць, сперці дыханне. *Такая бура, шчо духі забівая, ледзь прышоў да вас.* Ёдчыкі Квас. 2. Не даць другому аказацца, вымавіць слова. *Не паспеяш і рота адкрыць, як гэта ведзьма духі заб'е.* Альшаніца Квас.

ЗАБІРА´ЦЬ ХЛЕБ. Пазбаўляць каго-небудзь заробку, беручыся за тую ж работу, справу. *Летась я адна прымала ягады ад людзей, а гэты год і Васіль узяўся. Сустрэла яго, кажу: "Ні забірай, Васіль, хлеб ад мяне, бо выдзя так: і ты ні заробіш, і я ні зараблю".* Заполле Кос.

ЗАБРА´ЦЬ З САБО´Ю Ў МАГІ´ЛУ. Памерці і панесці з сабою тайну. *Як ні дапытвалася ў мамы, хто мой бацько, так і ні прызналася. Забрала з сабою ў магілу тайну.* г.Косава.

ЗАБУ´ДЗЬ ЯК ЗВА´ЛІ. Пажаданне іншаму перастаць нават думаць пра яго, успамінаць. *Я з табою мірыцца ні хачу ні за якія грошы. Ідзі і забудзь як звалі мяне.* Майск Люб.

ЗАБЫВА´ЦЬ (ЗАБЫ´ЦЬ) ДАРО´ГУ. Перарваць адносіны, перастаць наведваць, бываць. *Развялася я з табой – забудзь сюды дарогу, знаць і ведаць цябе ні хачу.* Гошчава Стайк.

ЗАБЯГА´ЦЬ (ЗАБЕ´ГЧЫ) НАПЕ´РАД. Прыспешваць падзеі. *Ты маладзейша, забягаць наперад я табе ні дам, хай спачатку старэйша сястра замуж пайдзе.* Скураты Квас.

ЗАВАЛІ´ЦЬ РУ´КІ. Быць цяжарам для некага. *Захварэла во, заваліла рукі дзецям і мужыку, і Бог смерці*

*ні дае.* Руда Падст.

ЗАВЕ´СЦІ ШАРМА´НКУ. Доўга і нудна гаварыць. *Зноў завёў шарманку: то цесць прыданага добраго ні даў, то цешча злая. А я табе шчо – кепскае прыданае?* Альшаніца Квас.

ЗАВІЛЯ´ЦЬ ХВАСТО´М. Адмовіцца ад ранейшых намераў. *Сын прышоў, абрадавоў: "Жаніцца буду". Мы ўжэ да вяселля давай прыбірацца. А тут ён ні з таго ні з сяго завіляў хвастом. Кажа, перадумоў.* Размеркі Стайк.

ЗАВО´ДЗІЦЦА (ЗАВЯСЦІ´СЯ) НА ВАДЗЕ´. Запальчывы чалавек. *Майму мужыку да двух ні кажы: на вадзе заводзіцца.* Альшаніца Квас.

ЗА ВО´ЧЫ. Даваць характарыстыку чалавеку ў яго адсутнасці. *У вочы лістом сцеля, а за вочы з зямлёю мяшая.* Хрышчонавічы Квас.

ЗА ВУША´МІ ТРАШЧЫ´ЦЬ. Есці з апетытам. *Як наробішся, сядзяш за стол, то за вушамі трашчыць. А як прасядзіш ці праляжыш цэлы дзень, то і есці ні хочацца.* Боркі Падст.

ЗАВЯ´ЗВАЦЬ (ЗАВЯЗА´ЦЬ) ВУЗЯЛО´К НА ПА´МЯЦЬ. Запамінаць, улічваць на будучыню. *Завяжы сабе вузялок на памяць, помні: з чужого надворка і пярыны ні вазьмі.* Жамайдзякі Міл.

ЗАВЯ´ЗВАЦЬ (ЗАВЯЗА´ЦЬ) САБЕ´ СВЕТ. Зрабіцца нявольнікам сваіх учынкаў. Т*ы ж яшчэ маладзенькая, пахадзі дзеўкаю, нашто табе той замуж? Яшчэ паспееш завязаць сабе свет.* Була Міл.

ЗАГАВО´РВАЦЬ (ЗАГАВАРЫЦЬ) ЗУ´БЫ. Адцягваць увагу. *Ты мне ні загаворвай зубы, ні віляй хвастом. Гэто ні кот, а ты разбіў збанка з малаком.* Харошча Міл.

ЗАГАДА´ЦЬ ЗАГА´ДКУ. Ствараць цяжкасці, якія трэба пераадолець. *Дроў ты мне даў, але загадаў загадку: як мне іх з гэтай гушчэры выцтраляваць?* Ёдчыкі Квас.

ЗАГА´ДВАЦЬ (ЗАГАДАЦЬ) ДАЛЁ´КО НАПЕ´РАД.

Будаваць планы на будучае. *Ні загадвай далёко наперад, жыві сёняшнім днём. Сёняшні дзень паклапоціцца пра наступны.* г.Косава.

ЗАГАНЯ´ЦЬ (ЗАГНА´ЦЬ) НА ТОЙ СВЕТ (У МАГІ´ЛУ). Адымаць здароўе. *Ты сваімі папрокамі на той свет мяне загоніш. І на старасці ні разумнеяш.* Гічыцы Ягл.

ЗАГАНЯ´ЦЬ (ЗАГНА´ЦЬ) СЯБЕ Ў КУТО´К. Паставіць сябе ў бязвыхаднае становішча. *Бегоў ад аднае да другое, усё выбіраў дзеўку. Пастарэў, загнаў сябе ў куток: нікому ні патрэбны. Смяюцца бабы: польскі кавалер.* г.Косава.

ЗАГАРА´ЦЬ НО´СОМ. Упасці ніцма. *Галалёд на гуліцы, пасклізнуўся і загараў носом.* г.Івацэвічы.

ЗАГІНА´ЦЬ (ЗАГНУ´ЦЬ) У КАЗІ´НЫ РОГ. Сілай падпарадкаваць. *Я цябе навучу бацькоў слухаць, у казіны рог загну, а будзяш рабіць тое, што я скажу.* г.Івацэвічы.

ЗАГЛЯ´ДВАЦЬ У БУТЭ´ЛЬКУ. Часта выпіваць. *Як пачнеш заглядваць у бутэльку, то ні будзя ні акыш, ні аюсь у хляве.* Заполле Кос.

ЗАГЛЯ´ДВАЦЬ (ЗАГЛЯНУ´ЦЬ) У ДУ´ШУ. Старацца зразумець іншага чалавека. *Каб можно было заглянуць у душу чалавека, то менш на свеці было б бяды. Але ў душу чалавека ні загляняш.* Скураты Квас.

З АГЛЯ´ДКАЙ. Асцярожна, абачліва. *Кажуць, у калхозі ні грэх красці. Але ўсе кралі з аглядкай, бо як паймаюць, то ні абярэшся бяды.* Любішчыцы Люб.

ЗА ГНІЛУ´Ю РЫ´БУ ПРАДА´ЦЬ. Вельмі танна. *Столькі было парасят на базары, а купцоў вобмаль. То прадаў за гнілую рыбу.* Заполле Кос.

ЗАГНУ´ЎСЯ ЯК СВІНЫ´ ТА´ТКО. Скурчыцца (ад холаду). *Малады, а загнуўся як свіны татко, гэдак холаду баіцца.* Альшаніца Квас. Загнуўся – сагнуўся.

ЗАГНУ´ЦЦА Ў ДУГУ´ (У КРУК). Згорбіцца.

*Зрабілі аперацыю суседу, мусіць, грыжу выразалі на пазваночніку, бо загнуўся ў дугу.* г.Івацэвічы.

ЗАГНУ´ЦЬ У ТРЫ ПАГІ´БЕЛІ. Ад цяжкай працы скруціць, згорбіць. *Цэлы дзень буракі палола, то загнуло ў тры пагібелі.* г. Косава. *Ззамаладу рабіў цяжко, то на старасці загнуло ў тры пагібелі.* Альшаніца Квас.

З АГНЮ´ ДЫ Ў ПО´ЛЫМЯ. Трапляць з адной непрыемнасці ў другую. *Думаю, ні пайду нядзеляю на работу, паеду хоць свата праведаю ў Косаві, чарку вып'ям. Схаваўся ад брыгадзіра, то ў Косаві на прадсядацяля наткнуўся. Пытаяцца: "А ты чаго ні на рабоці?" Во папаў то папаў: з агню ды ў полымя.* Старажоўшчына Кос.

ЗАГРАБА´ЦЬ (ЗАГРАБЦІ´) ЖАР ЧУЖЫ´МІ РУКА´МІ. Спадзявацца на дапамогу другіх. *Ні спадзявайся на мяне, я табе ні пайду гной з-пад каровы выкідаць, рвацца. Прывык заграбаць жар чужымі рукамі.* Халап'я Падст.

ЗАГРЫМЕ´ЦЬ КАСЦЯ´МІ. Упасці. *Прыйшоў сусед да мяне на разборкі. Як шурануў яго праз парог, то загрымеў касцямі і пайшоў вушы ўтуліўшы.* Майск Люб. Шурануць – штурхануць.

ЗАДАВА´ЦЬ (ЗАДАЦЬ) ЖА´ЛЮ. Расчуліць. *Гадавіна была па сыну. Прышла суседка, пачала ўспамінаць, які добры быў. Ано мне жалю задала.* Жамайдзякі Міл.

ЗАДАВА´ЦЬ ЗАДА´ЧУ. Ствараць цяжкасці. *Кажаш, машына сапсавалася. От задаў ты мне задачу то задаў. І як гэто будзя цілівізара з рамонту прывязці?* Плехава Люб.

ЗАДЗЕ´РЦІ БОРАДУ´. Памерці. *Стары, а без шапкі па гуліцы ходзіш. Апранайся, а то хутко бораду задзярэш.* Альшаніцы Квас.

ЗАДЗЕ´ЦЬ ЗА ЖЫВО´Е. У гутарцы закрануць справы, учынкі, што моцна хвалююць. *Ты мяне задзеў*

*за жывое. Што ты пляцеш людзям, што я ў вайну ў паліцыю пайшоў?! Мяне ж сілаю забралі ў самаахову! Што я мог зрабіць? Каб адказаўся, то забілі б. А ў мяне ж трое малых дзяцей было.* г.Івацэвічы.

ЗАДЗІРА´ЦЬ (ЗАДРА´ЦЬ) НО´СА. Зазнавацца. *Бачыш, задраў носа і пазнаваць ні хоча. Аж некалі малымі разом свіней пасвілі.* Стайкі Стайк.

ЗАДЗІРА´ЦЬ (ЗАДРА´ЦЬ) ХВАСТА´. Спяшацца. *Ты чаго мяне ні пачакаў? Разом паехалі б у Косаво. А то задраў хваста і паляцеў.* Сакоўцы Міл.

З АДНАГО´ ЦЕ´СТА ЗРО´БЛЯНЫ. Аднолькавыя. *Усе бабы з аднаго цеста зробляныя: кожна любіць грошы.* г.Косава.

ЗА´ДНІМ РО´ЗУМОМ МО´ЦНЫ. Чалавек, які запознена прымае патрэбнае рашэнне. *Яўрэй так казаў: "Каб майму дзіцяці той розум, што ў мужыка ззаду. Мужык заднім розумом моцны". Так яно і е: зробіць нешчо чалавек, а толькі пасля падумая, ці добра зрабіў, сказаў.* Заполле Кос.

ЗА ДО´ЎГІМ РУБЛЁМ. Шукаць добрага, але лёгкага заробку. *Зараз нашых людзей пабачыш па ўсём свецi. Усе паехалі за доўгім рублём, бо ў нас ні заробіш.* г.Івацэвічы.

ЗАДУРЫ´ЦЬ ГАЛАВУ´. 1. Прывабіць. *Маладая была, дурная яшчэ. Задурыў галаву ды выскачыла замуж.* г.Івацэвічы. 2. Заблытаць. *Задурыў ты мне галаву, ажно я ні ведаю, што мне рабіць: ці браць гэтаго халадзільніка ці не.* Лазаўцы Міл.

ЗА ДУШО´Ю. У наяўнасці. *Жылі бедно пры калхозі, капейкі за душою ні было.* Альшаніца Квас.

ЗАЕ´ХАЦЬ ПА КА´РКУ. Ударыць па шыі. *Памятаю, падлетком быў. Маці сказала памыі выліць за хлеў. А я ні паслухоў яе, панёс і выліў на гуліцу. Убачыў немяц, паклікоў, то добра заехоў па карку. – Орднунг! Парадок! – крычаў.* Заполле Кос.

ЗАЕ´ХАЦЬ ПА МУХАЕ´ДАХ. Ударыць па твары. *Агрызнуўся сын, то я яму добра заехоў па мухаедах.* Юкавічы Стайк.

З АДНАЕ´ ДЗЯЖЫ´ ХЛЕБ Е´СЦІ. 1. З адной сям'і. *Вядома, нас лёгко пазнаць – з аднае дзяжы хлеб елі.* Заполле Кос. 2. Г.зн. з магазіна. *Даўней кожны сабе хлеб пёк, а зараз з магазіна – з аднае дзяжы хлеб ямо.* Бялавічы Кос.

ЗА ЖЫВАТЫ´ БРА´ЦЦА. Рагатаць. *Паехала мая свякроў у горад. Піць захацела. Зайшла ў магазін: "Дайця мне пшык-вады". Магазіншчыца кажа: "У нас німа такое". – "Як німа, калі вунь стаіць". Прыехала, нам расказала, то мы за жываты браліся.* Альшаніца Квас.

ЗА ЖЫВО´Е БРАЦЬ (УЗЯ´ЦЬ, ЗАДЗЕ´ЦЬ). Моцна хваляваць, крыўдзіць. *Папракнула мяне, што гэто я ад яе пераняла ўзор вышыўкі. Мяне ўзяло за жывое. Што ў мяне, свае галавы німа на плячах?* Размеркі Стайк.

ЗАЙГРА´ЦЬ БУ´БЛІКІ. Адмысловай мелодыяй вывесці з танцаў. *Даўней, як ні схочаш з хлопцом танцаваць, то зайграюць бублікі – сілаю вывядуць з музык.* Альшаніца Квас.

ЗАЙНЯ´ЦЬ ДУХІ´. На нейкі момант перастаць дыхаць (ад хвалявання, ад перажывання і пад.). *Зайшоў у лес: кветкі цвітуць, птушкі спяваюць – ажно духі зайняло. Такая мілата!* Заполле Кос.

ЗАКА´ЙВАЛАСЯ (ЗАРЭ´КАЛАСЯ) СВІНЯ´ Ў ГРАЗІ´ НІ РЫ´ЦЦА. Цяжка чалавеку пазбавіцца шкодных прывычак, якія так моцна трымаюць у палоне. *Ні веру я табе, што ты кіняш курыць – закайвалася свіня ў гразі ні рыцца.* Альшаніца Квас. Закайвацца, зарэкацца – абяцаць.

ЗА КАМПА´НІЮ. Разам з усімі. *З майго бацька смяяліся. Дружбак жаніўся, а каб ад яго ні адстаць, і ён з мамаю за кампанію падаў на аглашэння ў цэркоў. Але пражылі з мацяраю дружно, ні сварыліся.* Заполле Кос.

ЗА КАПЕ́ЙКУ ВОШ ДА БЯРО́ЗЫ (горад) ЗАВЯДЗЕ́. Сквапны, скупы чалавек. *Такога чалавека трэба пашукаць, ён за капейку вош да Бярозы завядзе.* Заполле Кос.

ЗА КАПЕ́ЙКУ ПАВЕ́СІЦЦА. Скупы чалавек. *Гэдыкі скупы, што за капейку павесіцца.* Сакоўцы Міл.

ЗАКАПЫ́ЛІЦЬ ГУ́БЫ. Загневацца, надзьмуцца, пакрыўдзіцца. *Бач ты яго, закапыліў губы, слова папярок ні скажы яму.* Альшаніца Квас.

ЗАКАПЫ́ЛІЦЬ НО́СА. Зазнавацца, ганарыцца. *Не паспеў начальнікам стаць, а ўжэ носа закапыліў, багром ні дастаць.* Заполле Кос.

ЗА КАЎНЕ́Р (ЗА ШЫ́Ю) НІ КА́ПАЯ. Так скажуць, калі апраўдваюць сваё марудства. *Куды мне спяшаць? За каўнер ні капая. Кухню прывёў да ладу, неяк перазімую. А пацяплея, то паціху буду ў хаці падлогу ўсцілаць, паталкі падбіваць, сцены тынкаваць.* Стайкі Стайк.

ЗАКІ́ДВАЦЬ (ЗАКІ́НУЦЬ) ЗА КАЎНЕ́Р. Выпіваць. *Даўней на вяселлі адна чарачка на ўсіх была. Нальюць госцю, устаня ён, скажа добрае слоўцо маладым, вып'я і другому перадасць чарачку. Ніхто ні напіваўся, нікого ні бачылі п'яным. Гэто зараз закідваюць за каўнер, п'юць, колькі ўлезя.* Альшаніца Квас.

ЗАКІ́НУЦЬ СЛО́ВО. Падтрымаць, пахадайнічаць. *Пайдзеш, Міхась, дроў прасіць у лясніцтво, то і за мяне закінь слово.* г.Косава.

ЗА КРАЙ СВЕ́ТУ. Вельмі далёка. *Маладымі былі, за дзяўчатамі за край свету цалялі.* Ёдчыкі Квас.

ЗАКРЫВА́ЦЬ (ЗАКРЫ́ЦЬ) ВОЧЫ. Знарок не заўважаць. *Валакуць з калхоза ўсё, шчо можно, а брыгадзір вочы закрывая. Як ён будзя караць, калі сам бярэ.* Мілейкі Міл.

ЗАКРЫВА́ЦЬ (ЗАКРЫ́ЦЬ) ЛА́ВАЧКУ. Спыніць крыніцу лёгкіх даходаў. *Самагоначку гнала і прадавала.*

*Купіла сыну і машыну, і хату. Але міліцыя закрыла лавачку: добры штраф далі, прыціхла. Праўда, нівядома, ці надоўго.* Заполле Кос.

ЗАКУ´СВАЦЬ (ЗАКУСІ´ЦЬ) РУКАВО´М. Не закусваць пасля выпіўкі. *Выпілі, закусілі рукавом. Кажух пашыты з аўчыны. Чым ні бараніна?* Альба Квас.

ЗАЛА´ЗІЦЬ (ЗАЛЕ´ЗЦІ) ПАД ШКУ´РУ. Чалавек, які робіць прыкрасць іншаму. *Ты даўно залез людзям пад шкуру. Ні глядзі калхоза, глядзі, каб чырвонаго пеўня табе ні падпусцілі.* Яглевічы Ягл.

ЗАЛА´ЗІЦЬ (ЗАЛЕ´ЗЦІ) У ЧУЖУ´Ю КІШЭ´НЮ. Абкрадваць, карыстацца чужым дабром. *Ты прывык залазіць у чужую кішэню, чужым трудом жыць. А твайго зубамі ад цябе ні вырвяш.* г.Івацэвічы.

ЗАЛАМА´ЦЬ АСІ´НКАЮ. Назаўсёды адмовіцца, зарачыся. *Ой, дачушка, заламі ты яго асінкаю. Ён ад свайго бацька ні адышоў: і п'е, і лодыр, і гуляка. Ні завязвай сабе свет, паслухай мацяру.* Альшаніца Квас.

ЗА ЛА´ПЫ (ХВОСТ) ДЫ АБ ВУГО´Л. Назаўсёды расквітацца. *Такі шкодлівы хлопяц удаўся, нікого ні слухая. Здэцца, узяла б за лапы ды аб вугол.* Воля Жытл.

ЗАЛАТЫ´Я РУ´КІ МЕЦЬ. Умелы, дзелавіты чалавек. *Твой чалавек залатыя рукі мая: што ні гляня – усё зробіць.* Няхачава Стайк.

ЗАЛЕ´ЗЦІ ПАД ПАЗУ´Р. Дапячы. *Ох, ён мне добра пад пазур залез, век яго ні забуду.* Заполле Кос.

ЗАЛЕ´ЗЦІ Ў ДАЎГІ´. Напазычаць грошай. *Будаваліся, то залезлі ў даўгі. Прашуся ў людзей, каб паждалі, пакуль аддамо.* Яблонка Жытл.

ЗАЛЕ´ЗЦІ Ў НЕ´РАТ. Апынуцца ў бязвыхадным становішчы. *Пасварыўся з зяцём, а хочацца праведаць унучкоў, і баюся. Залез у нерат. І як выпутацца? Трэба, відаць, мірыцца, пакланіцца зяцю.* г.Івацэвічы.

ЗАЛІВА´ЦЦА (ЗАЛІ´ЦЦА) СЛЯЗЬМІ´. Моцна плакаць. *Выплакала я свае вочы, дзяткі. Прыняслі па-*

*харонку на сына. Як залілася слязьмі, то да гэтаго часу плачу.* Альшаніца Квас.

ЗАЛІ´ЦЦА КРО´ЎЮ. Быць збітым да крыві. *Як даў мне аплявуху, то я і заліўся кроўю.* Альшаніца Квас.

ЗАЛІ´ЦЬ БЕ´ЛЬМА (ГО´РЛО). Выпіць многа спіртнога. *Заліў бельма, то сядзі крыцаю.* Скураты Квас.

ЗАЛУПІ´ЦЬ ХВАСТА´. Уцякаць. *Буракі калхозныя палола, адна на полі. Як загрымело, ну і залупіла хваста, уцякала, ног пад сабою ні чула: надто навальніцы баюся.* Яглевічы Ягл.

ЗА МАЛІ´НУ (ЗА МІ´ЛУЮ ДУ´ШУ). Са смакам з'есці. *Летась грыбоў ні было. А гэто паявіліся. Назбірала лісічок з сыраежкамі, то за малінку з'ела.* Размеркі Стайк.

ЗА МАЛО´Е ДЗІЦЯ´. Без клопатаў, без турбот (жыць). *Добра яму за бацькамі: жыве за малое дзіця.* Заполле Кос.

ЗАМАРЫ´ЦЬ ЧАРВЯКА´. Перакусіць. *Прышоў з калхознае работы, трохі замарыў чарвяка і пабег на балото сено грабці.* Хадоркі Кос.

ЗА ПАСТО´Й ГРО´ШЫ НІ ПЛА´ЦЯЦЬ. Не мець карысці, палёгкі, набытку. *Прышоў, то садзіся: за пастой грошы ні плацяць.* Альшаніца Квас.

ЗАПА´СЦІ Ў ВО´ЧЫ (У ДУ´ШУ). Спадабацца. *Пытаяшся, як з мацяраю пазналіся? Фэст у Бялавічах на Ілью быў. Там я яе і прыгледзёў. Адразу запала ў душу. Хутко пасля гэтаго і пажаніліся.* Скураты Квас.

ЗАПІВА´ЦЬ (ЗАПІ´ЦЬ) ДЗЕ´ЎКУ. Сасватаць. *Даўней запівалі дзеўку перад Пакроваю, каб ужэ ў вялікі пост у хаці была маладая папрадуха і ткалля.* Бялавічы Кос.

ЗАПЛЮ´ШЧЫЎШЫ ВО´ЧЫ. Без ваганняў, без роздуму. *За такого хлопца заплюшчыўшы вочы замуж ідзі, будзяш жыць як у Бога за пазухаю.* Заполле Кос.

ЗА ПЛЯЧЫ´МА. Пад апекай некага. *Добра за*

*бацькавымі плячыма жыць: і заступіцца, і паможа, і параіць.* Альшаніцы Квас.

ЗА ПЛЯЧЫ´МА НІ НАСІ´ЦЬ. Навука, уменне лішнімі не бываюць. *Добра, што ўмееш цэглу класці, тынкаваць, печы рабіць. Умельство за плячыма ні насіць. Усё жывая капейка ў хаці будзя.* г.Івацэвічы.

ЗАПУ´ДРЫЦЬ МАЗГІ´. Увесці ў зман. *Цыганы прыняслі прадаваць хусткі, запудрылі мне мазгі, пяць штук купіла. А на халеру яны мне? У нашом магазіні лепшыя і таннейшыя.* Размеркі Стайк.

ЗА ПЯЦЬ ПА´ЛЬЦОЎ НІ КУ´ПІШ. Пра адсутнасць сродкаў. *Калі ў руцэ пусто, то на кірмаш німа чаго ісці – за пяць пальцоў нічого ні купіш.* Заполле Кос.

ЗАРАБІ´ЦЬ НА АБАРА´НКІ. Пакараць за зробленую шкоду. *Выпацкоў новянькія чаравікі, то зарабіў на абаранкі.* Панкі Любішч.

ЗАРАБІ´ЦЬ ЯК ЗАБЛО´ЦКІ НА МЫ´ЛІ. Патраціць больш, чым атрымаць карысці, прыбытку. *Пайшоў на пенсію, часу вольнаго много. Думаю, буду венікі вязаць да прадаваць у Косаві, хоць якую капейку зараблю. Ой, зарабіў як Заблоцкі на мылі.* Кушняры Падст.

ЗАРАСТА´ЦЬ (ЗАРАСЦІ´) МО´ХОМ. Развесці непарадак, не сачыць за сабою. *На тыдзянь да дачкі паехала. Вярнулася, то мужык мохом зарос. Міскі ўсе німытыя, чыгуны чорныя, і сам аброс, як дзед стары.* Сярадава Жытл.

ЗА РУБЕ´ЛЬ ПАВЕ´СІЦЦА. Вельмі скупы чалавек. *І ў каго ён удаўся? Бацько, здаецца, ні быў такі. А сын за рубель павесіцца, у яго леташняго снегу ні выпрасіш.* Заполле Кос.

ЗАРЫ´ЦЦА НО´СОМ. Упасці ніцма. *Галава закружылася, павяло ўбок – зарыўся носом у снег. Добра, што ні адзін быў, а то і ні ўстаў бы.* Няхачава Стайк.

ЗА СВЕТ. Вельмі далёка. *За свет трэба ехаць, каб жураўлін назбіраць.* Стайкі Стайк. Жураўліны –

журавіны.

ЗА СВЕ´ТОМ. Вельмі далёка. *Мой сын за светом жыве. Забралі ў армію, завязлі ў Хабароўск, там і застаўся. Добра, як раз у пяць гадоў прыедзя.* г.Івацэвічы.

ЗА СЛО´ВОМ У КІШЭ´НЮ НІ ПАЛЕ´ЗЯ. Знаходлівы, востры на слова чалавек. *Міхасёў старэйшы хлопяц акадэмію закончыў. Ні быў бы то вучоны чалавек – за словом у кішэню ні палезя.* г.Косава.

ЗАСЛЯПІ´ЦЬ ВО´ЧЫ. Не ўбачыць сапраўднай сутнасці чалавека. *І казалі людзі, і асцерагалі: глядзі, будзяш па суседзях начаваць. Біў ён сястру, будзя і цябе біць. А мне як вочы засляпіло, нікого ні слухала. То зараз хаджу з чарнякамі*. Скураты Квас. Чарняк – сіняк.

ЗАСТА´ЎСЯ ДУХ І ПЯТУ´Х. Так скажуць пра моцна хворага чалавека. *Такі хвацкі мужчына быў, шчо ні гляня – усё зробіць. Прыпала хвароба – застаўся ад чалавека дух і пятух.* Альшаніца Квас. Пятух – тут: чуб.

ЗАСТА´ЦЦА БЕЗ НОГ. Скажуць, калі хворыя ногі. *Нічого ад мяне ні ўцякло: ні ягады, ні грыбы. А засталася без ног, то ано шчо па хаці прайду.* Альшаніца Квас.

ЗАСТА´ЦЦА БЕЗ РУК. Так скажуць чалавеку, які вельмі многа працуе, не шануе свайго здароўя. *Усяе работы ні пераробіш, пашкадуй сам сябе, бо застанешся без рук.* Заполле Кос.

ЗАСТА´ЦЦА БЕЗ САРО´ЧКІ (БЕЗ НАГАВІ´Ц). Збяднець. *Мая баба казала ўсё: будзяш мець дочкі – застанешся без сарочкі. Бо кожнай дачцэ трэба прыданае даць*. Бялавічы Кос.

ЗАСТА´ЦЦА ЛЫ´САЮ. Выклікаць на сябе агонь, застацца крайняй. *Як за вочы, то ўсе смелыя, а як прышлося сам на сам сварыцца з заацехнікам, каб выдаў новыя халаты, то пахаваліся за маёю спінаю. Адна я засталася лысаю*. Размеркі Стайк.

ЗАСТА´ЦЦА НА БУБНЯ´Х. Аказацца ні з чым. *Ні*

*схацела браць картоплі на Гныцавом полі, то засталася на бубнях.* Размеркі Стайк.

ЗАСТА´ЦЦА Ў ДЗЕ´ЎКАХ. Не выйсці замуж. *Жаніхоў на фронці пабілі, то многія засталіся ў дзеўках, ні вышлі замуж.* Лазаўцы Міл.

ЗА´СЦІЦЬ ВО´ЧЫ. Засланяць. *Ні застуй вочы, ні шкляны.* Заполле Кос.

ЗА´СЦІЦЬ СВЕТ. Марна траціць жыццё. *Ты ано Божы свет засціш. Нікому дабра ні зрабіў. Жывеш пустадомком.* Старажоўшчына Кос.

ЗА ТАК ЖО´НКУ НІ ПАЦАЛУ´Я. Сквапны чалавек. *Ён за так і жонку ні пацалуя.* Любішчыцы Люб.

ЗАТКНУ´ЦЬ ЗА ПО´ЯС. Быць першым ва ўсім. *О-о-о, ён любого заткне за пояс, за ім ні ўгонішся, спраўны хлопяц. Некой дзеўчыні шчасця пападзя. Але хто яго ведая: сам такі рабочы, то і ёй ні дасць пасядзець.* г.Косава.

ЗАТЛУМІ´ЦЬ ГАЛАВУ´. Пазбавіць здольнасці разумна разважаць. *Прастояла я тут з вамі, затлумілі мне галаву. Недзі дрова ў пячэ згарэлі, дасць мне гаспадар карбунцоў.* Жамайдзякі Міл.

ЗА ТРОХ ДУРНЫ´Х З'Е´СЦІ. Вельмі многа. *Рабіць – як папало. А за сталом – за трох дурных з´есць.* Заполле Кос.

ЗАТЫКА´ЦЬ (ЗАТКНУ´ЦЬ) ДЗІ´РКІ. Так кажуць, калі не хапае грошай на самае неабходнае. *Палучыш грошы, то ні ведаяш, якую дзірку заткнуць: дзеўчыні пальцячко трэба і ў хлопца чаравікоў німа. Пра сябе ні думаяш – усё дзецям.* Була Міл.

ЗАТЫКА´ЦЬ (ЗАТКНУ´ЦЬ) РОТ. Прымушаць маўчаць. *Ты мне рота ні затыкай: усім раскажу, што па ўдовах бегаяш. А тваёй Насці першой. Хай ведая, які ты добры.* Куляшы Міл.

ЗА´ТЫЧКА ДА КО´ЖНАЕ ДЗІ´РКІ. Чалавек, якога выкарыстоўваюць для замены іншых. *Ён за ўсё бярэц-*

*ца, ён затычка ва ўсе дзіркі. А як зробіць – гэто ўжо іншая справа.* Квасевічы Квас.

ЗА ХАЛО´ДНУ ВО´ДУ НІ БРА´ЦЦА. Так кажуць пра гультая. *Вырасла дзеўчына, а за халодну воду ні бярэцца.* Альшаніца Квас.

ЗАХВАРЭ´ЦЬ НА ПА´НА. Грэбаваць працай, фанабэрыцца. *Бачыш ты яго, захварэў на пана: паставілі брыгадзіром, то дома рабіць нічого ні хоча. Дай ано паспаць да смачно паесці. А ты душыся і ў калхозі, і дома. Скіну я яго з брыгадзірства.* Заполле Кос.

ЗАЦЯ´ГВАЦЬ (ЗАЦЯГНУ´ЦЬ) ПАПРУ´ЖКУ. Мець нястачу, быць бедным. *Бало, і так німа чаго есці, а пастаўку здасі ў гасударство, то зацягвай папружку, на паронікі садзіся.* Альшаніца Квас.

ЗАЧАПІ´ЦЬ РУ´КІ. Мець заня´так. *Здала карову, закалола во на Коляды паршука, то рук німа за што зачапіць. Ано кот і сабака. Ляжу цэлыя дні.* Размеркі Стайк.

ЗА ЧА´РКАЮ. У час пачастунку. *За чаркаю пра ўсё пагаворыш: і маладосць успомніш, і армію, як служылі, і вучобу.* Ятвезь Квас.

ЗА ЧУЖО´Ю СПІНО´Ю ХАВА´ЦЦА. Ухіляцца ад работы. *У грамадзе заўсёды знойдзяцца чалавек, што за чужою спіною хаваецца.* Альшаніца Квас.

ЗБЕ´ГЧЫ НА РО´ЗУМ. Успомніць. *Во памяць, збегло на розум: на Сёмуху мы пажаніліся, у 35-м гаду.* Заполле Кос.

ЗБІВА´ЦЬ (ЗБІЦЬ) З ПАНТАЛЫ´КУ. Вымусіць чалавека памыліцца. *Сабралася ехаць па парасята ў Вацэвічы. Не, паслухала суседку, паехала ў Ражану. Кажа, там таннейшыя. Зусім яна мяне збіла з панталыку: і ў Ражані ні купіла, бо мало было парасят, а паехалі ў Вацэвічы, то базар разышоўся.* Ёдчыкі Квас.

ЗБІВА´ЦЬ (ЗБІЦЬ) З ТО´ЛКУ (З ТРО´ПУ). Блытаць намеры. *Збіла жонка з толку: хацеў ісці сено грабці, а*

*яна кажа, што сыроя, хай паляжыць. А тут дождж хлібнуў. Зноў варочайся з гэтым сеном. Нездарма кажуць: паслухай жонку, а зрабі наадварот.* Заполле Кос.

ЗБІРА´ЦЦА (САБРА´ЦЦА) З ДУ´ХОМ. Набрацца смеласці, адважыцца. *Збяруся з духом, пайду высабачу Вольку як след: нашчо яна гарэлку прадае нашым мужыкам!* Альшаніца Квас.

ЗБІ´ЦЦА З НОГ. Стаміцца, шукаючы прапажу. *Збілася з ног, пакуль цялушачку шукала. Гэто ж трэба адарвацца з прывязі. На выгані знайшла.* Квасевічы Квас.

ЗБІЦЬ НА ГО´РКАЕ Я´БЛЫКО. Моцна, не шкадуючы набіць. *Век ні забуду. Знайшоў бацько ў кішэні папяросы, а я яшчэ ў школу хадзіў, то збіў на горкая яблыко. З тае пары папяроса ў маіх руках ні было.* г.Івацэвічы.

ЗБІЦЬ НО´ГІ. Стаміцца ад доўгай хадзьбы. *Па грыбы пайшла да заблудзілася. То ні так грыбоў назбірала, як збіла ногі.* Бялавічы Кос.

З БО´ГОМ. Пажаданне шчаслівай дарогі, поспеху. *Пагасцявалі трохі, едзьця, дзеткі, з Богом дахаты.* Мілейкі Міл.

З БО´ГОМ, ПАРА´СЯ. Жартоўнае пажаданне дзяўчыне шчаслівага замужжа. *З Богам, Парася, добра, што чалавек знайшоўся.* Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

ЗБО´КУ ПРЫПЁКА. Непатрэбны, чужы хто. *Як быў мужык, то была радня. А як памёр, то я для яго радні збоку прыпёка.* Скураты Квас.

ЗБЫВА´ЦЬ (ЗБЫЦЬ) З РУК. Пазбавіцца. *Купілі на базары карову, пагналіся, што нідораго пытаюць. Прывялі, пачалі даіць, а яна б'ецца. Збылі з рук дурням. А зараз мы думаям, як збыць.* Аляксейкі Стайк.

ЗБЫЦЬ З ГАЛАВЫ´. Вызваліцца ад непрыемнага. *Збыў клопат з галавы: адпасвіў калейку. Ні люблю каравы пасвіць: дзень годом здаецца.* Гошчава Стайк.

З ВАДО´Ю СПЛЫЛО´. Прайшло, мінула, забылася. *Што было, усё з вадою сплыло: і маладосць, і любоў. Цяпер ужэ адзін на адзін з небом застаўся.* Заполле Кос.

ЗВАЛІ´ЦЦА (УПА´СЦІ) З ДУ´БА. Здурнець. *Ты што робіш? З дуба зваліўся? Хто ж ето травіць жукі у спёку? Трэба вечаром, каб ні выпарылася атрута.* Любішчыцы Люб.

ЗВАЛІ´ЦЦА ЯК СНОП. Імгненна, адразу заснуць. *Як папайшлі пешшу з Бярозы, то парога пераступіў і зваліўся як сноп на ложок.* Бялавічы Кос.

ЗВАЛІ´ЦЦА ЯК ТЫ´ЧКА. Раптоўна памерці. *Ажно дзіво: быў здаровы, харошы, і, бач, зваліўся як тычка.* Альшаніца Квас.

ЗВАЛІ´ЦЬ НА ЧУЖЫ´Я ПЛЕ´ЧЫ. Перакласці цяжар турбот, клопатаў на іншага. *Як е каму, то лягчэй за ўсё зваліць клопаты на чужсыя плечы. Цяжэй самому пра ўсё клапаціцца, самому кірду гнуць.* Заполле Кос.

З ВАЧЭ´Й ДАЛО´Ў, З СЭ´РЦА ВОН. Забыцца. *Пакінуў ён цябе – памаліся Богу, дзеўка. З вачэй далоў, з сэрца вон. Дабра з ім ні было б.* г.Івацэвічы.

З ВЕ´КУ Ў ВЕК. Увесь час. *З веку ў век нашы людзі прывыклі гнуць спіну на чужака. Калі ўжэ будуць рабіць толькі на сябе?* Заполле Кос.

ЗВЕ´СЦІСЯ НА ПШЫК. Збяднець. *Зрабіў вясельля адной дачцэ, а хутко і другой, дый звёўся на пшык.* г.Івацэвічы.

ЗВО´ДЗІЦЬ (ЗВЯСЦІ´) КАНЦЫ´ З КАНЦА´МІ. Пра адсутнасць дастатку, грошай у сям'і. *Дзень пры дні на работу абоя ходзім. Але шчо ў калхозі заробіш? Ледзьве зводзім канцы з канцамі.* Хрышчонавічы Квас.

ЗВО´ДЗІЦЬ (ЗВЯСЦІ´) У МАГІ´ЛУ. Мучыць, здзекавацца. *Такі мой сын абы-які, без пары ў магілу звядзе: нідзе ні робіць, п'янствуя, кампанію шукая такую, як сам. І рады ні ведаю, як даць.* Бялавічы Кос.

З ВО´ЗА – ДЫ Ў ПЕЧ. Адразу пусціць у спра-

ву. *Які з яго, Марылька, гаспадар? У яго німа запасу, сырымі дровамі таплю. Прывязе, то з воза – ды ў печ.* Альшаніца Квас.

З ВО´КА НА ВО´КО. Адзін на адзін, без сведак. *Давай мы дагаворымся з вока на воко, бо дзе двоя – там рада, а дзе троя – там здрада.* Заполле Кос.

ЗВЯ´ЗВАЦЬ (ЗВЯЗА´ЦЬ) БАРАДУ´. Закончыць жніво. *Як звяжам бараду, тады дажынкі будзям святкаваць.* Стайкі Стайк. Барада, абрадвае – лапіна нязжатай збажыны. *"Як канчаюць жаць, то пакідаюць лапіну жыта – бараду. Полюць яе, кладуць у бараду хлеб, соль, свянцовай вадою пасвенцяць, пасля за тры разы сажнуць, сплятуць косу, зробяць снапок і пастаўяць у хаце на покуці"* (тлум. інф.).

ЗВЯ´ЗВАЦЬ (ЗВЯЗА´ЦЬ) ПА РУКА´Х І НАГА´Х. Не мець свабоды, волі. *Усяго майго было, як маці здарова была. І на канцэрты бегала, і на курорты ездзіла. А як захварэла маці, злягла – звязала мяне па руках і нагах.* Альшаніца Квас.

З ВЯЛІ´КАГО РО´ЗУМУ ЗДУРЭ´ЦЬ. Зганьбаваць сябе непрыстойным учынкам. *Шчо яму трэба было? Грошай у яго, як кажуць, куры не клююць. Дачцэ і сыну машыны купіў. Папаўся, крадучы салярку ў калхозі. Нездарма людзі кажуць: "З вялікаго розуму здурэў".* Альшаніца Квас.

ЗВЯСЦІ´ ВАЧЫ´МА. Задрамаць. *Ано звяла вачыма – нехто стукая ў акно. Бачу: сусед мой. Пытаюся: "Што ты хочаш, Андрэй?" Кажа: "З почты перадавалі: сын твой званіў, з арміі едзя! Рыхтуйся".* Зыбайлы Жытл.

З ГАЛАВО´Й. Разумны, талковы чалавек. *Хоць малады наш аграном, а з галавой: ячмень зжалі, то па пяцьдзесят цэнтняроў на круг вышло. Яго заслуга.* Стайкі Стайк.

З ГАЛАВЫ´ НІ ВЫХО´ДЗІЦЬ. Пастаянна турбаваць. *Як мае дзеці дабяруцца гэдакай непагаддзю да*

*Вацэвіч? З галавы ні выходзіць.* Бялавічы Кос.

З ГАЛО´ДНАГО КРА´Ю ПРЫЕ´ХОЎ. Вельмі галодны. *Пагнаў кароў, а торбу з абедом забыўся. Здаецца, і восянь, і дзень кароткі, а так есці захацеў. Вечаром еў, як з галоднаго краю прыехоў.* Заполле Кос.

ЗГАРНУ´ЦЬ РУ´КІ. Памерці. *Бедны, пакуль згарнуў рукі, то намучыўся сам і жонку памучыў: параліч яго разбіў.* г.Івацэвічы.

З ГЛУ´ЗДУ З'Е´ХАЦЬ. Здурнець. *Ты што, з глузду з'ехоў? Чаго ты палез у такі холад купацца?* Грыўда Міл.

З ГО´ЛЫМІ РУКА´МІ. Без гасцінца, падарунка. *У адведкі пайду, унучок нарадзіўся. Думаю, што купіць. З голымі рукамі ні пойдзяш.* Гічыцы Ягл.

З ГО´РОМ ПАПАЛА´М. Паціху, пераадольваючы цяжкасці, нягоды. *Пытаясся, ці зруба паставіў? От, з гором папалам паставіў, сват памог.* Альшаніца Квас.

ЗГУБІ´ЦЬ ЗДАРО´ЎЕ. Захварэць. *Згубіла здароўе на гэтой рабоці, у гарачом цаху.* Заполле Кос.

З ДАРАГО´Й ДУШО´Й. З радасцю. *З дарагой душою пазычыў бы табе грошай, але яшчэ пенсію не прыняслі.* Быч Стайк.

З ДАРО´ГІ. Пасля вяртання. *Не пайду на вечаркі´. З дарогі, натаміўся, буду адпачываць.* г.Косава.

З ДНЯ НА ДЗЕНЬ. Вось-вось, хутка. *З дня на дзень сын павінян з арміі вярнуцца. Прыбіраюся, трэба будзя радню паклікаць.* Скураты Квас.

З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ. Кожны дзень. *Перад пенсіяй з дня ў дзень на работу ў калхоз хаджу. Хочацца, каб большая была.* Воля Жытл.

З ДО´БРАГО ДЗІВА. Без дай прычыны, ні з таго ні з сяго. *З добраго дзіва накінулася на мяне, як шуляк на курыцу.* Размеркі Стайк.

З ДРУГО´ГО ЦЕ´СТА ЗЛЕ´ПЛЯНЫ. Непадобны на іншых. *Хоць і кажуць: муж і жана – адна сатана.*

*Не, мая жонка з другого цеста злепляна.* г.Івацэвічы.

ЗДУРЭ´ЦЬ З ДУМЫ´. Моцна перажываць. *Забралі сына ў падводнікі, па поўгода пісям ні было. Гатоў была здурэць з думы.* Міхнавічы Стайк.

З ДУШО´Ю. Старанна, з любоўю (працаваць). *Усё трэба з душою рабіць, то і жыць весялей будзя.* Любішчыцы Люб.

З ДУШЫ´ ВЕ´РНЯ. Непрыемна, прыкра. *Як пачнуць скакаць да співаць у цілівізары, а голыя, як тыя чэрці. Ажні з душы верня. Выключаю, каб ні бачыць.* Бялавічы Кос.

ЗДЫМА´ЦЬ (ЗНЯЦЬ) ША´ПКУ. Перападаць, кланяцца. *Ні хочаш есці, як хочаш, жыві галоднаю. Я перад табою здымаць шапку ні буду.* Альшаніца Квас.

ЗЕ´МЛЮ ГРЫ´ЗЦІ. Дабівацца, ажыццяўляць. *Землю буду грызці, а вывучу дзяцей, каб ні пакутавалі ў гэтом калхозі. Хваціць, што я век прамучылася.* Квасевічы Квас.

З'Е´СЦІ ДУ´ЛЮ. Нічога не атрымаць. *Ні хочаш салёнікоў есці, то дулю з'еш.* Альшаніца Квас.

З'Е´СЦІ З ВАНТРО´БАМІ. Беспадстаўна нападаць. *Ні дае дыхаць брыгадзір: што ні зраблю, усё яму ні так, гатоў з вантробамі з'есці. Здэцца, і стараюся: во якія ладныя кармушкі цялятам зрабіў.* Стайкі Стайк.

З'Е´СЦІ НЕ´РВЫ. Знервавацца. *Гомаз, аваднёў, слепакоў свет. Карову пакуль падаіла, то з'ела нервы: ніяк стаяць ні хацела.* Бялавічы Кос.

З'ЕС´ЦІ НІ АДЗІ´Н ПУД СО´ЛІ. Добра ведаць адзін аднаго. *Мы з Васілём ні адзін пуд солі з'елі: і ў арміі разом служылі, і за жанок сясцёр пабралі, і будавацца адзін аднаму памагалі. Не, лепшаго за яго на цэлом свеці чалавека німа.* Яглевічы Ягл.

З ЖЫВАТА´ КАЧА´ЦЦА. Захварэць. *З'еў малака кіслаго, то паўдня з жывата качаўся. Мусіць, мне кіслае малако шкодзіць.* Гошчава Стайк.

ЗЖЫВА́ЦЬ (ЗЖЫЦЬ) СА СВЕ́ТУ. Прыдзірацца, абвінавачваць без дастатковых падстаў. *Свякроў са свету зжывая, німа сілы цярпець. Лічу дні, калі ў сваю хату перабярэмся.* Альшаніца Квас.

З ЖЫВО́ГО ШКУ́РУ ЗДЗЕ́РЦІ. Мучыць, здзекавацца. *Як ано вайна скончылася, то падаткамі замучвалі. А плаціць ні было чым, то гатоў былі з жывого шкуру здзерці.* Заполле Кос.

З-ЗА ВУГЛА́. Спадцішка. *Даўней людзі былі прасцейшыя, дабрэйшыя. А зараз кожны стараяцца цябе з-за вугла ўкусіць.* Стайкі Стайк.

З-ЗА СВЕ́ТУ. Здалёк. *З-за свету прывёз сабе жонку. І прыжылася, і па-нашаму гаварыць навучылася. Але ў сяле ўсе Рускаю называюць.* Заполле Кос.

ЗІМО́Й І ЛЕ́ТОМ АДНЫ́М ЦВЕ́ТОМ. Хадзіць з дня ў дзень у адным і тым жа адзенні. *Як я хадзіла ў школу, то форму насілі. І зімою і летом адным цветом усе былі. А зараз адзін перад адным уборамі хварсяць. Не так дзеці, як бацькі стараюцца.* г.Косава.

ЗІМО́Й СНЕ́ГУ НІ ВЫ́ПРАСІШ. Вельмі скупы чалавек. *Мой сусед да таго скупы, што ў яго зімою снегу ні выпрасіш. Зроду нічого ні пазычыць.* г.Івацэвічы.

З КАЛЕ́НА ВЫ́ЛАМАЦЬ. Набыць любым спосабам. *Убачыла дачка ў падружкі дублёнку, настае, каб ёй купілі. З калена вылам і, а дай ёй. А дзе тых грошай узяць? На дарозі ні валяюцца.* Альшаніца Квас.

З КАЛЕ́НА НІ ВЫЛАМІШ. Не мець магчымасці выканаць. *Паляцеў старцяр у трактары. Дзе ні шукаў – нідзе німа. Нічого ні зробіш, з калена ні выламіш.* Заполле Кос.

З КАНДАЧКА́. Абы-як (рабіць што-небудзь). *Які чалавек – такая і работа. Прывык усё з кандачка рабіць.* Скураты Квас.

З КАНЦА́МІ. Знікнуць, прапасці. *Пайшоў мой сусед у армію, завязлі за свет, і з канцамі. А мацяры слё-*

*зы.* г.Івацэвічы.

З КАНЦА́ Ў КАНЕ́Ц. Паўсюль. *Даўней жаніліся, радзіліся – пагалоска па сяле ішла з канца ў канец. Людзі весяліліся, радаваліся. А зараз ано і чуяш: той памёр, той памёр.* Любішчыцы Люб.

З КАПЫТО́Ў. Упасці вобземлю. *Як даў яму пад вухо, то той і паляцеў з капытоў.* Мілейкі Міл.

З КРО́КАЦІ. Многа, шмат. *Ох, і завідная мая суседка, з крокаці ёй трэба. Каб прымела, то ўсё пахватала б.* Альшаніца Квас. Крокаць – багна, прорва.

З КУ́ТА Ў КУТ. Туды-сюды. *Як у нас кажуць пра бабскую работу: з кута ў кут – ды вечар тут. Пратаўчэшся цэлы дзень і работы твае ні відаць.* Альшаніца Квас.

ЗЛАВІ́ЦЬ (ПАЙМА́ЦЬ) ДВУХ ЗА́ЙЦОЎ. Імкнуцца зрабіць дзве справы адначасова. *Адразу двух зайцоў паймалі: на рабоці былі, а ў абед сено зграблі.* Заполле Кос.

ЗЛАВІ́ЦЬ ЗА РУКУ́. Схапіць злодзея. *Пайшоў на поле, бачу: нехто капая мае картоплі. Ну, думаю, я цябе падпільную, злаўлю за руку. Дзве ночы сядзеў, але дапільнаваў. Андрэй Гарбылёў! Грошы прапівая, а есці хоча. Ну, то я яго добра высабачыў, больш ні палезя.* Квасевічы Квас.

ЗЛАЖЫ́ЦЬ СМЕХ. Абсмяяць. *Бач ты іх, злажылі са старого смех: зубы ўставіў. А што вы хочаця, каб я шчарбатым хадзіў? О, я яшчэ да Настусі ў сваты пайду.* Воля Жытл.

ЗЛАМА́ЦЬ ЯЗЫ́КА. Цяжка вымавіць. *У нас кажуць Вацэвічы, ніхто ні кажа Івацэвічы. Бо гэто ано языка зламаць.* Заполле Кос.

З ЛЁГКАЮ ДУШО́Ю. Не трывожачыся, не баючыся. *З лёгкаю душою магу паміраць: дзеці выраслі, свае сем'і маюць. Прыждаў не ано ўнукоў, але і праўнукоў.* г.Косава.

ЗЛІЗА´ЦЬ СМЯТА´НКУ. Пакарыстацца лепшым. *Прывёз шабашнікоў прадсядацяль кароўніка будаваць. То яны сцены паставілі, злізалі смятанку, а мы канчалі ўжэ самы, за капейкі.* Бялавічы Кос.

ЗЛО´СЦІ ПО´ЎНЫЯ КО´СЦІ. Вельмі злы чалавек. *У яе злосці поўныя косці: як пачне сварыцца, то аж слінаю пырская. Як тая хмара, пакуль усю воду ні выльья. Так і яна.* Гошчава Стайк.

ЗЛУПІ´ЦЬ СЕМ ШКУР. Абабраць. *Пастаўкамі пасля вайны замучвалі. Гатоў былі сем шкур злупіць. І ні глядзелі, што дзеці галодныя.* Сенькавічы Падст.

З МАЗАЛЯ´. З працы сваіх рук (жыць). *Век жыву з мазаля, зроду дарэмным ні пакарыстаўся.* Альшаніца Квас.

З МАТЫЛЯ´МІ НЕ ПАЛЯЦІ´Ш. Пра непазбежнасць смерці. *Забярэ смерць, з матылямі не паляціш.* Заполле Кос.

З МІНУ´ТЫ НА МІНУ´ТУ. Хутка. *Ні трапяшчы так. Ні бойся, аўтобус з мінуты на мінуту прыдзя.* г.Івацэвічы.

ЗМО´КНУЦЬ ДА РУБІ´НАЧКІ. Зусім прамокнуць. *Такі вальнуў дождж, я змок да рубіначкі.* Квасевічы Квас. Рубіначка – шво ў адзенні, рубец.

ЗМО´ТВАЦЬ (ЗМАТА´ЦЬ) ВУ´ДАЧКІ. Заканчваць справу. *Канчайця ў карты іграць, змотвайця вудачкі і за работу – начальство едзя.* г.Івацэвічы.

З МУ´ХАМІ Ў НО´СІ. Капрызны чалавек. *Яму цяжко дагадзіць, як ні старайся. Гэты чалавек з мухамі ў носі.* Скураты Квас.

ЗМЯНЯ´ЦЬ (ЗМЯНІ´ЦЬ) ГНЕЎ НА МІ´ЛАСЦЬ. Перастаць злавацца; адпусціцца. *Нешчо мая свякроў змяніла гнеў на міласць. Доўго ні хадзіла, а то прышла, унучку цукеркоў прынясла.* Була Міл.

З МЯ´СОМ. З куском матэрыі. *Столькі напхаласё людзей у аўтобус, што нехто гузіка з мясом адарваў.* г.Івацэвічы.

ЗМЯЯ́ ПАДКАЛО́ДНАЯ. Чалавек, які стараецца нашкодзіць спадцішка. *Змяя падкалодная, як ты ні стараяшся ўкусіць спадцішка, ніц ні выходзіць. Хітрыкі твае табе боком вылязуць.* г.Івацэвічы.

ЗНАЙСЦІ́ ВЯРО́ЎКУ НА ШЫ́Ю. Наклікаць на сябе бяду. *Ідзеш красці сам і хлопца за сабою валчэш. Глядзі – вяроўку на шыю знойдзяш і сабе, і яму.* Мілейкі Міл.

ЗНАЙСЦІ́ ГУ́ЗА НА ГАЛАВУ́. Хто не думае пра свае паводзіны, учынкі, той нарвецца на бяду. *Хто схоча, той гуза на галаву знойдзя.* г.Косава.

ЗНАЙСЦІ́ КАНЦЫ́. Дакапацца да сутнасці справы. *Пакалечылі майго сына, а міліцыя ні хоча шукаць вінаватых. Я знайду на іх управу, знайду канцы.* Стайкі Стайк.

ЗНАЙСЦІ́ ЎПРА́ВУ. Супакоіць, уціхамірыць сілай, пагрозай. *Ты ні думай, шчо як твой бацько начальнік, то ты можаш людзям вочы засіраць. Я на цябе знайду ўправу.* Любішчыцы Люб.

ЗНАЙШО́Ў (-ЛА, -ЛО, -ЛІ) ДУ́РНЯ. Так скажуць, калі адмаўляюцца ад нечага. *І так раблю бяз выхадных, з дня ў дзень. А гэто Вялікаднём, святом велькім гоняць на работу. Знайшлі дурня!* Мілейкі Міл.

ЗНА́КУ НІМА́. Мала што паменела. *Цэлы дзень складвоў дрова, а і знаку німа. Гэдака велька горба, за тыдзянь ні ўпраўлюся.* Старажоўшчына Кос.

ЗНАЦЬ КУ́РАЧУ СЮСЮ́ ДЫЙ ТУЮ НІ ЎСЮ. Пра нетрываласць, павярхоўнасць чыіх-небудзь ведаў. *Не задзірай высоко носа, бо ты знаяш курачу сюсю дый тую ні ўсю.* Заполле Кос.

ЗНАЦЬ МЕ́РУ. Устрымлівацца ад лішняга. *Агонь – і дабро, і зло, і гарэлка – і дабро, і зло. Ва ўсём трэба меру знаць, бо ўсё для чалавека створано на зямле.* г.Косава.

ЗНАЦЬ НІ ЗНА́Ю, ВЕ́ДАЦЬ НІ ВЕ́ДАЮ. Так

скажа чалавек, які не хоча сведчыць пра нешта. *Ні пытайся ты ў мяне, хто тваю дулю абтрос: знаць ні знаю, ведаць ні ведаю. Ні ўпутвай мяне ў гэтыя разборкі.* г.Косава.

ЗНАЦЬ ПА ЧЫ´М ФУНТ ЛІ´ХА. Мець адмоўны вопыт. *Я паездзіў па свеці, знаю па чым фунт ліха. Цяпер мяне ніякімі пірагамі ні заманіш у тую Маскву ці Варшаву. Нідзе лепш німа як дома.* Альшаніца Квас.

ЗНАЦЬ СВАЁ´ МЕ´СТО. Займаць пэўнае становішча. *Ты ні лезь папярод бацька ў пекло, знай сваё место. Е людзі разумнейшыя за цябе.* г.Івацэвічы

З НЕ´БА ЗВАЛІ´ЦЦА. Скажуць таму, хто не разумее відавочнага. *Ты што, з неба зваліўся? Кажуць табе, што машына па рабочых у восім прыходзіць. Будзь ласкаў, точно ў восім стой каля магазіна. Ніхто цябе чакаць ні будзя.* Сярадава Жытл.

З НОГ ДА ГАЛАВЫ´. Поўнасцю, цалкам. *Абгаварылі вы мяне, бабы, пакуль я дома была, з ног да галавы.* г.Івацэвічы.

З НО´СА. Г.зн. з чалавека. *Так жартавалі даўней пры калхозі: па рублю з носа – і на работу ні пайдзем.* Жытлін Жытл.

З НО´СА КАП ДЫ Ў РОТ ХАП. Так скажуць, калі жадаюць папярэдзіць чалавека, каб не ўмешваўся не ў свае справы. *Твая справа старана: з носа кап ды ў рот хап. Заполле* Кос.

ЗНО´СУ НІМА´. Трывалы, моцны. *Хлопцу бацінкі салдацкія купіла – зносу німа, трэйцю зіму носіць.* Дубітава Міл.

ЗО´РЫ З ВАЧЭ´Й ПАСЫ´ПАЛІСЯ. Моцна стукнуцца. *Пасклізнулася, як бразнулася галавою аб лёд, то зоры з вачэй пасыпаліся.* Альшаніца Квас.

З-ПАД ЗЯМЛІ´ ДАСТАВА´ЦЬ (ДАСТА´ЦЬ). Нідзе не знайсці ратунку. *З-за цябе майго бацька ў вайну забілі. Я табе гэтаго ні дарую, я цябе, гад, з-пад зямлі*

*дастану.* Заполле Кос.

З-ПАД КАРО´ВЫ. Сырадой. *Прызналі малакроўе ў дачушкі, то сказалі, каб малаком з-пад каровы паіла.* г.Косава.

З-ПАД НО´СА. Узяць, забраць тое, што блізка, побач. *З-пад носа плуга ўкралі. Каб яны больш нічого, кромі гэтаго плуга, і не мелі.* Старажоўшчына Кос.

З-ПАД СУ´ЧКІ Я´ЙЦА ДАСТА´ЦЬ (УКРА´СЦІ). Адчайны чалавек. *Ён добры вырвус: з-пад сучкі яйца дастаня.* Няхачава Стайк.

З ПАЗУРО´Ў ВЫ´РВАЦЬ. Адабраць сілай. *Курачка маладзенькая забегла ў агарод да суседкі. Пайшла выганяць, ні аддае. Даказвая, што гэто яе. З пазуроў вырвала!* Заполле Кос.

З ПАКО´ТА (З НЕБА) ЗВАЛІ´ЦЦА. Не разумець, ці прыкідвацца, што не разумее таго, што адбываецца навокал. *Ты што – з пакота зваліўся, што гэдык прыдурваясся?* Заполле Кос. Пакот – месца паміж столлю і дахам.

З ПАРО´ГА. Адразу, тут жа. *Памятаю, брыгадзір адчыніў дзверы і з парога крычыць: "Тамаш, хучэй збірайся, па сено паедзям у Самычыно!". Паехалі мы трактарамі, а тое сено нехто пакраў. Так міліцыя і ні знайшла.* Заполле Кос.

З ПА´РЫ ПАЗАХО´ДЗІЦЬ. Моцна балець ад марозу (пра рукі). *Моцно рукі памерзлі. Прыбегла дахаты, усадзіла ў цёплу воду, а яны з пары пазаходзілі. Аж плакала ад болю.* Ёдчыкі Квас.

З ПЛЕЧ ДЫ Ў ПЕЧ. Жыць, не маючы запасаў. *Дроў німа. То палю тым, шчо з лесу прынясу. Як кажуць, з плеч ды ў печ.* Куляшы Міл.

З ПУСТЫ´МІ КІШАНЯ´МІ. Без грошай. *Пры Польшчы ўсё ў Амерыку на заробкі ездзілі. То хто зарабіў даляроў, а хто і з пустымі кішанямі прыехоў.* Заполле Кос.

З ПУСТЫ́МІ РУКА́МІ. Без хабару. *Зараз да дохтара з пустымі рукамі ні падыходзь.* г. Івацэвічы.

З ПЯ́ТАГО НА ДЗЯСЯ́ТАЕ. 1. Чуць не ўсё, урыўкамі. *Здаецца, нам пенсію падвысяць. Але калі – не ведаю, бо чула з пятаго на дзясятае: трактар на гуліцы само гудзеў.* г.Косава. 2. Расказваць не ўсё, выбарачна. *Надто харошу кніжку ўчоры чытала. Раскажу вам з пятаго на дзясятае. А хто хоча ўсё ведаць, хай сам чытая.* Любішчыцы Люб.

ЗРАБІ́ЦЬ З МУ́ХІ СЛАНА́. Значна перабольшыць. *Хлопцы з-за дзеўкі пабілі адзін аднаму насы, а бабы пусцілі пагалоску па сяле, шчо да смерці адзін аднаго пазабівалі. Зрабілі з мухі слана, а хлопцы ўжэ і міравую выпілі.* Заполле Кос.

ЗРАБІ́ЦЬ ПА ЧА́РЦЫ. Выпіць. *Зайшоў да свата, а ён само абедаць сеў. Зрабілі па чарцы, пагаварылі.* Рацкевічы Міл.

ЗРО́БЛЯНЫ НА АДЗІ́Н КАПЫ́Л. Падобныя, аднолькавыя. *Наставілі аграгарадкоў, усе хаты зробляны на адзін капыл. Як падвып'яш, да яшчэ вечаром, то станяш і гадаяш, катора твая.* Гошчава Стайк.

З РО́ТА ВЫ́РВАЦЬ (ВЫ́ДРАЦЬ). Сілаю адабраць. *Бало, пустыя полкі ў магазінах пры камуністах былі. Як прывязуць шчо, то людзі душацца ля того прылаўка, гатовы з рота адзін у аднаго вырваць.* Альшаніца Квас.

З РУКА́МІ АДАРВА́ЦЬ. Раскупіць, расхватаць. *Навязаў кошычкоў мой бацько. Завёз я на базар, то косаўскія мяшчане гатовы былі з рукамі адарваць.Такія ладныя кошычкі.* Скураты Квас.

З РУКІ́. Зручна. *Буду варочацца з Косава, то заеду да цябе, мне з рукі.* Хрышчонавічы Квас.

З РУКІ́ НА́ РУКУ. Біць па чарзе то адной, то другой рукой. *Паймаў злодзяя: краў мае картоплі на полі. То добра надаваў. З рукі на руку, па мардасах.* Заполле Кос.

З РУК ПЛЫВУ́ЦЬ. Траццца, губяцца. *І пенсію*

*палучаю, і на работу хаджу, а грошы з рук плывуць. Ніякага запасу німа.* Скураты Квас.

З САБА´КАМІ НІ ДАГНА´ЦЬ. Ніякім чынам, аніяк. *Стары то стары, а ў Косаво ішоў, думаю, дагаю, разом весялей будзя ісці. То дзе там: яго з сабакамі ні дагоніш.* Хрышчонавічы Квас.

З САБА´КАМІ НІ ЗНАЙСЦІ´. Ніяк не знайсці. *Мужык, каб аліменты не плаціць, гэдак схаваўся, што з сабакамі ні знойдзяш. Кажуць, ажно ў Сібір заехоў. Ад сваіх дзяцей хаваяцца.* г.Івацэвічы.

З СО´НЦОМ УСТАВА´ЦЬ, З МЕ´СЯЦОМ КЛА´СЦІСЯ. Цэлы дзень працаваць. *Бацько мой быў рабочы чалавек: з сонцом уставаў, з месяцом клаўся.* Альшаніца Квас.

З ТО´ЛКОМ. Рабіць акуратна, талкова. *Любую работу трэба з толком рабіць, каб людзі ні пасмяяліся.* Азярцо Падст.

ЗУБ ГАРЫ´ЦЬ. Моцна хацець нечага. *Ох, у мяне на тваю жонку зуб гарыць, каб хоць абняць яе калі.* г.Косава.

ЗУБ МЕЦЬ. Трымаць зло на іншага чалавека. *Я на яго да гэтага часу зуб маю. Пайшоў у армію, а ён маю дзеўку замуж узяў.* Жытлін Жытл.

ЗУБ НА ЗУБ НІ ПАПАДА´Я. Дрыжаць ад холаду ці страху. *Апрануўся слабо, а ўпацеў, пакуль дрова грузіў. Прыехоў дахаты, то зуб на зуб ні пападаў.* Бялавічы Кос.

ЗУБО´Ў НІ ПАЗБІРА´ЯШ. Моцна набіць. *Будзяш чапляцца да майго дзіцяці, паймаю, так дам, што зубоў ні пазбіраяш.* Альшаніца Квас.

ЗУ´БЫ З'Е´СЦІ. Добра ведаць сваю работу, мець вялікі вопыт. *Даўней Васіль такія харошыя сярпы рабіў. Лепш за яго ніхто ні мог зрабіць. Але што тут дзівавацца: ён на гэтом зубы з'еў.* Любішчыцы Люб.

ЗУ´БЫ НА ПАЛІ´ЦУ ПАКЛА´СЦІ. Не мець сродкаў на пражыццё. *Шукай работу, ні сядзі на пячэ,*

*бо хутко зубы на паліцу пакладзеш.* Сакоўцы Міл.

З УСІ´Х БАКО´Ў. Адусюль. *З усіх бакоў да мяне чапляюцца: і тоя раблю ні так, і гэто. Зрабеця лепяй, як такія разумныя.* Заполле Кос.

З УСІ´Х НОГ. Вельмі хутка, што ёсць моцы. *Памятаю, сястра ў мяне меншая нарадзілася, а я ўжэ добры падлеток быў. То бег бацьку сказаць з усіх ног.* г.Косава.

З УСЯЕ´ СІ´ЛЫ. Вельмі хутка бегчы. *Кароў пасвіла, а днём гомаз быў. Як рванулі тыя каравы праз канаву, то бегла з усяе сілы, ледзьве перапыніла.* Хрышчонавічы Квас.

З ЧО´РНЫМ ПАДНЯБЕ´ННЁМ. Нехта помслівы, злы. *Ёй уступі дарогу, вымаўчы, выбач: яна з паднябеннём чорным.* Альшаніца Квас. Паднябенне – верхняя частка поласці рота.

З ЧУЖЫ´Х СЛОЎ ГАВАРЫ´ЦЬ. Пераказваць пачутае. *Сама, людкі, не бачыла, з чужых слоў гавару. Гэто ж сястра яе з Амерыкі прыехала, тая, што ў Германію былі вывязлі ў вайну.* г.Івацэвічы.

З ЧЫ´СТАЮ ДУШО´Ю. Без дакораў сумлення. *Прадала кароўку суседу з чыстаю душою: зальецца малаком.* Альба Квас.

З'ЯВІ´ЎСЯ НІ ЗАПЫЛІ´ЎСЯ. Скажуць пра таго, каго доўга чакалі. *Сказаў, што паеду на дзень, і прапаў. Усіх на ногі паднялі. І ў бальніцу пазванілі, і ў міліцыю. Ажно з'явіўся ні запыліўся.* Любішчыцы Люб.

З ЯГО´ (ЯЕ, ІХ І ІНШ.) ГО´РЛА ВЕ´ЧНЕ МА´ЛО. Так скажуць пра зайздроснага чалавека. *Цябе нічым ні здаволіш: з твайго горла вечне мало.* Бялавічы Кос.

З ЯЗЫ´КА НІ СПУСКА´ЦЬ. Гаварыць пра адно і тое ж. *Нездарма кажуць: што каму баліць, той пра тое гаворыць. Мужык да другое пайшоў, то ў яе адна гаворка, з языка ні спуская: то пра мужыка, то пра яго другую жонку.* Альшаніца Квас.

З ЯКО́Й ЛА́СКІ. Чаму, па якой прычыне. *З якой ласкі я табе пайду картоплі капаць? Забыўся, як я цябе прасіла дрова парубаць? Ты што сказаў? Сама парубаяш. Ну, то цяпер сам картоплі капай.* Зялёны Бор Стайк.

ЗЯМЛІ́ НІ ЧУЦЬ ПАД САБО́Ю. 1. Радавацца. *Дачцэ выклік прышоў на вучобу, то ходзіць і зямлі ад радасці пад сабою ні чуя.* Альшаніца Квас. 2. Вельмі хутка бегчы. *Нямецкія самалёты першы раз убачылі, нізко ляцелі. А мы купаліся на рэчцы. То гэдык ляцелі дахаты, што зямлі пад сабою ні чулі.* Грыўда Міл.

ЗЯМЛЯ́ АБАРА́НКОМ ПА́ХНЯ. Так скажуць пра нямоглага, хворага, старога чалавека. *Чаго яго сватаяш? Яму зямля абаранком пахня.* Мілейкі Міл.

ЗЯМЛЯ́ ПАПЛЫЛА́ З-ПАД НОГ. Стала млосна. *Суседка ўбегла ў хату, як закрычыць: "Алеся, твой хлопяц пад машыну папаў!" Так у мяне і паплыла зямля з-пад ног. Але, дзякаваць Богу, жывы застаўся.* г.Івацэвічы.

**І**

І АГНЁМ НІ ВЫ́КУРЫШ. Ніяк не выжанеш. *Яго адгэтуль і агнём ні выкурыш: работы мало, а плацяць добра. Сядзіць на той кацельні ано кнопкі націская.* Заполле Кос.

І БЛІ́ЗКО НІ СТАЯ́Ў (-ЛА, -ЛІ). Нельга параўнаць. *Твая радзюжка ля мае і блізко ні стаяла. Паглядзі, якая мая пазарна́я. Прыйдзі, то і цябе навучу.* Альшаніца Квас.

І ВО́ЙКНУЦЬ НІ ПАСПЕ́Ў (-ЛА, -ЛІ). У імгненне вока. *Маланка стукнула ў стажок. А Васіль якраз пад ім ад дажджу схаваўся. І войкнуць ні паспеў – на смерць забіло.* Яглевічы Ягл.

І ВО́КОМ НЕ МАРГНУ́Ў. Не разгубіўся. *Нагрузіў цэлы воз мукі калхознае, прэ дахаты. А тут калхозны аграном. – Дзе ўзяў? І воком не маргнуў: – У мліне быў.* Заполле Кос.

І ВУ´СОМ (ВУ´ХОМ) НІ ВЯДЗЕ´. Не рэагаваць, не зважаць. *Прашу сына: "Кінь ты гэтаго цілівізара, вучы ўрокі". А ён і вухом ні вядзе. Крычы, хоць лопні.* Бялавічы Кос.

І ГО´ДЗЕ СКАЗА´Ў (-ЛА, -ЛІ). І ўсё тут, і скончана. *Маліў, прасіў: "Адзенься цяплей, холад на дварэ". А яна як ні чуя. Я і годзе сказаў, хадзі, як хочаш.* Жамайдзякі Міл.

І ГО´ЛКАЮ НІМА´ ДЗЕ ТКНУЦЬ. Многа, шматлюдна. *Столькі людзей напхаласё ў клуб на канцэрт – і голкаю німа дзе ткнуць.* Няхачава Стайк.

І ГО´РА МА´ЛО. Нічога не хвалюе, не абцяжарвае. *Пахаваў жонку – яму і гора мало. Добра яшчэ, што даждаўся, каб сорок дней прайшло. Ужэ з другою жыве.* г.Івацэвічы.

ІГРА´ЦЬ НА НЕ´РВАХ. Здзекавацца, нерваваць. *Пасварыліся з мужыком, то сам сабе есці варыць, маёй вары ні хоча. Іграя мне на нервах.* Альшаніца Квас.

ІДЗЕ´ Ў РУ´КІ. Шанцуе. *Паглядзіш: аднаму само ў рукі ўсё ідзе, а другі б'ецца, бы рыба аб лёд, і ніц ні мая.* г.Івацэвічы.

ІДЗЕ´ ЯК ПА МА´СЛУ. Гладка, без перашкод. *Кросна тку, а памагая нявестачка. Хоць маладая, але лоўкая. Работа ў нас ідзе як па маслу.* Заполле Кос.

І ДО´ЎБНЯЮ НІ ЗАБІ´ЦЬ. Пра чалавека, які скардзіцца, наракае на сваю нямогласць, а на самай справе мае моцнае здароўе, дужы. *Прытвараяцца перад усімі, які ён нядужы, а самого і доўбняю ні заб'еш.* Хрышчонавічы Квас.

І ДУ´ХУ НІ АКА´ЗВАЦЬ (АКАЗА´ЦЬ). Маўчаць. *От у мае суседкі цярпення много. Такі звяглівы мужык у яе, рэмжа і рэмжа. А яна і духу ні аказвая.* Дубітава Міл.

І ЖУК І ЖА´БА. Усе, хто ёсць, і вялікі, і малы. *Як сталі ягады за грошы прымаць, то ўсе ў лесі – і жук і*

*жаба.* Заполле Кос.

І ЗНА´КУ НІМА´. Пра непрыкметнасць зробленага. *Калоў цэлы дзень дрова, а паглядзеў на горбу – і знаку німа.* Верашкі Квас.

І ЗУ´БЫ НІ ПАЗБІРА´ЯШ. Моцна будзеш пакараны. *Яшчэ раз зачэпіш майго хлопца, то і зубы ні пазбіраяш. Я цябе навучу жыць.* Заполле Кос.

І КАСЦЕ´Й НЕ ЗБЯРЭ´Ш. Згінеш, прападзеш. *Чаго ты прычапіўся да мае жонкі? Калі яна ў цябе пазычала грошы? Выйдзі з хаты, а то як дам, то і касцей не збярэш.* Грыўда Міл.

І КРЫВІ´НКІ НІМА´. Бледны ад хваробы. *Васіля бачыла – ледзьве пазнала: у яго і крывінкі німа.* Старажоўшчына Кос.

І КРЫШКІ´ ПАБРА´ЦЬ. Быць падобным на каго-небудзь з бацькоў або родных. *Усё ў ём ад бацька, і крышкі бацькавы пабраў.* Любішчыцы Люб.

І ЛА´ПЫ ЎГО´РУ. Прызнаць сябе пераможаным. *Ты ано ўзяўся будавацца, і ўжэ лапы ўгору. Не здавайся, паціху ўсё зробіш.* Хадоркі Кос.

І МУ´ХІ НІ ПАКРЫ´ЎДЗІЦЬ. Так скажуць пра добрага чалавека. *Мая свякроў добрая жаночына была. Пражыла і мухі ні пакрыўдзіла.* г.Івацэвічы.

І НА ВЯРО´ЎЦЫ НІ ЗАЦЯГНУ´ЦЬ. Пра немажлівасць упрасіць зайсці куды- небудзь. *Да дзяўчат майго кавалера і на вяроўцы ні зацягнуць, дзе ж ён ажэніцца.* Даргужы Міл.

І НАГІ´ НІ БУ´ДЗЯ. Ніколі не быць. *Я табе душу сваю адкрыла, а ты па ўсём сяле разнясла. І нагі мае ні будзя больш на тваём надворку, ні хачу цябе знаць і ведаць.* Куляшы Міл.

І НА´ШЫМ І ВА´ШЫМ. Усім дагаджаць. *Былі ў вайну і такія, што служылі і нашым і вашым. Але гэто хістко, цяжко служыць адным і другім.* Гошчава Стайк.

І НЕ КАЖЫ´. Так выказваюць згоду з суразмоўцам.

*І не кажы, браток, усё ж такі нашыя дзеці зараз лепяй жывуць, чым мы жылі.* Альшаніца Квас.

І НЕ НЮ´ХАЦЬ. Не зазнаваць. *Ты яшчэ бяды і не нюхоў, а ўжэ плачаш. А як нам было пасля вайны, калі і каня, і каровы не было, а дзяцей трэба было карміць?* Любішчыцы Люб.

І НЕ ПА´ХНЕ. Пра адсутнасць нечага. *Слухай, чаго ты мяне ў гэты лес прывёў? Тут грыбамі і не пахне. Якія грыбы ў яловом лесі, да яшчэ густом?* Бялавічы Кос.

І НЕ ПЫТА´ЙСЯ. Горш не можа быць. *– Як здароўе, Андрэй? – І не пытайся, браток. Ледзьве цевялею. Ніяк ні адыду ад хваробы.* Хрышчонавічы Квас.

І ПАД ЗЯМЛЁ´Ю НІ СХАВА´ЯШСЯ. Нідзе не знайсці паратунку. *Ты ад мяне і пад зямлёю ні схаваяшся, я цябе з таго свету дастану! Гэто ж трэба так акалечыць майго каня.* Заполле Кос.

І ПАЙШЛА´ ПІСА´ЦЬ ГУБЕ´РНІЯ. Разносіць, распаўсюджваць плёткі. *Адзін скажа, другі дабавіць – і пайшла пісаць губернія, паняслісія плёткі па сяле.* Аўсто Стайк.

І ПАЙШЛО´-ПАЕ´ХАЛО. Г.зн. падзеі пачалі імкліва развівацца. *У сяле так: як станя вясна, ну, і пайшло-паехало. Адну работу ні скончыў – другая падпірая. Вольнае мінуты німа.* Альшаніца Квас.

І ПА´ЛЬЦОМ НЕ ЗАЧАПІ´ЦЬ. Не набіць. *Бацько з мацярaю век пражыў і пальцом яе не зачапіў.* г.Івацэвічы.

І ПА´ЛЬЦОМ НЕ ПАВАРУШЫ´ЦЬ. Ленавацца. *Лодыр, і пальцом не паварушыць: дрова калоць трэба, а ён сам, як тая калода, у хаці ляжыць, тухляя.* Бялавічы Кос.

І ПА´РАНАГО І ВА´РАНАГО І ТАК КУСКА´МІ. Усяго хапае (пра ежу). *Зараз людзі ядуць як на вяселлі: і паранаго і варанаго і так кускамі.* г.Івацэвічы.

І ПА´РЫ З ГУ´БЫ НЕ ПУСЦ´ІЦЬ. Маўклівы чалавек. *У Бярозу заехалі разом, а ён і пары з губы не пусціў,*

*як нямко.* Бялавічы Кос.

І ПРО́СЬБАЙ І ГРО́ЗЬБАЙ. Каб пераканаць чалавека ў памылковасці яго паводзін, учынкаў, былі выкарыстаны ўсе сродкі ўздзеяння. *Пробавоў усяк – і просьбаю і грозьбаю, а ён на сваём стаіць.* Хрышчонавічы Квас.

І РАСІ́НКІ Ў РО́ЦІ НІ БЫЛО́. Быць галодным. *Як пайшла зранку ў грады, то во да паўдня палола, яшчэ і расінкі ў році ні было.* Гічыцы Ягл.

І РУКА́МІ І ЗУБА́МІ. Вельмі моцна нечага трымацца. *Трымайся зараз работы і рукамі і зубамі, бо цяжко яе* знайсці. Панкі Люб.

І́СКРЫ (ЗО́РЫ) З ВАЧЭ́Й ПАСЫ́ПАЛІСЯ. Пра замарачэнне ад болю ў выніку моцнага ўдару. *Пасклізнулася, як ляснулася патыліцаю аб лёд, то іскры з вачэй пасыпаліся. Думала, што і ні ўстану.* г.Косава.

І СЛЕД ПРАСТЫ́Ў. Знікнуў, прапаў, згінуў. *Дзеці ў футбол на гуліцы ігралі. Мячык у акно папаў, то іх як ветром здуло, і след прастыў.* Любішчыцы Люб.

І СМЕХ І ГРЭХ. Смешна, але і журботна. *І смех і грэх казаць, але наш бацько, як памярла маці, пачаў званіць сваёй першой ухажорцы.* Мілейкі Міл.

І СТАРЫ́ І МАЛЫ́. Усе, нягледзячы на ўзрост. *Летом, як пачынаюцца ягады, то і стары і малы ў лесі: усе зарабіць хочуць.* Альба Квас.

ІСЦІ́ (ПАЙСЦІ́) З ДЫ́МОМ. Быць знішчаным пажарам. *Злодзяй хоць вуглы пакіня, а як пажар, то ўсё пайдзе з дымом.* Верашкі Квас.

ІСЦІ́ НА ЛАД. Так скажуць, калі ўсё ўдаецца, ладзіцца. *Дзеці павырасталі, вучыцца пaступілі, слава Богу, і мы яшчэ здаровыя, усё ідзе на лад.* г.Косава.

І́СЦІНЫ БОГ. Праўда, далібог. *Ісціны Бог, жаначкі, сама бачыла, як Максім жонку новую прывёў. Тая ўцякла, то ў Квасавічах другую знайшоў. Яшчэ маладая, ніц сабе, спраўная кабеціна.* Альшаніца Квас.

ІСЦ´І Ў БЛУД. Пралюбадзейнічаць. *Пайшла дзеўка ў блуд, і супыну на яе німа.* Альшаніца Квас.

ІСЦІ´ ЎГО´РУ. Дабіцца поспехаў. *Дзве каровы трымаў, пасля тры, чатэры, пяць. О-о-о, яго справы пайшлі ўгору. Капейку добрую абівая.* Заполле Кос.

ІСЦІ´ Ў ПАДСУ´СЯДЫ. Жыць у чужой хаце. *Пажар быў, згарэла хата датла. Пайшлі ў падсусяды, пакуль пабудуям сваю.* Заполле Кос.

ІСЦІ´ (ПАЙСЦІ´) Ў ХОД. Знаходзіць прымяненне. *Хлява будаваў. Добрае дзераво дарагое. То з сякоготакого скідоў, усё пайшло ў ход.* Бялавічы Кос.

І ТАК І ГЭ´ДЫК. Па-рознаму, як прыходзіцца. *Можно і так зрабіць і гэдык. Альбы вынік быў.* Заполле Кос.

І ТАК І СЯК. Як выходзіць. Пытаяшся, як жыву? *І так і сяк, як Бог дае: калі лепш, калі горш.* Альшаніца Квас.

І ТО´ЛЬКІ ТАГО. Пра падзею, што ўжо адбылася, мінула, страціла важнасць. *Прыехоў я з базару, і толькі таго. Але бачу: сусед да мяне нешчо ідзе. Кажа: "Ты, мусіць, Тамаш, нешчо згубіў, едучы з Косава". Я да воза – кажуха німа. Добра, шчо чалавек знайшоў да прынёс.* Заполле Кос.

І ТО ХЛЕБ. Добра і гэта. *Нівелька ў мяне пенсія, але неяк канцы з канцамі зводжу. А гэты месяц дабавілі трохі, і то хлеб.* Галынка Міл.

І ТУДЫ´ І СЮД´Ы. Не ведаць, на чый бок стаць, куды кінуцца. *І туды вазьмі, і сюды – адна бяда. На сынаву руку пойдзяш – нявестцы будзяш кепскі. За нявесткаю пайдзеш – сын адверняцца. Як тут быць?* Альшаніца Квас.

І Ў АГНЕ´ НІ ГАРЫ´ЦЬ І Ў ВАДЗЕ´ НІ ТО´НЯ. Так кажуць пра чалавека, якому шанцуе, які нідзе не прападзе. *Дзе ён ні быў: і на Ўкраіні, і ў Польшчы, і ўсю Расію аб'ездзіў. Усё шукая доўгаго рубля. І халера яго ні бярэ. Як кажуць, і ў агне ні гарыць і ў вадзе ні тоня. Але ні відно, каб разбагацеў.* г.Івацэвічы.

І Ў ВУС НІ ДЗЬМУЦЬ. Не турбавацца. *Добра зараз старым: пенсію ў хату прынясуць, дроў гатовых выпішуць. Жывуць і ў вус ні дзьмуць.* Панкі Люб.

І ЎСЁ ПА ЎСЁМ. Г.зн. справа завяршылася. *Ах, ні хацеласё здаваць карову. Начамі ні спаў, перажываў. Але сілы німа трымаць. Здаў – і ўсё па ўсём. Трэба прывыкаць да магазіннага малака.* Жамайдзякі Міл.

І Ў СНЕ НІ СНІ´ЛОСЬ. Нельга было прадбачыць. *І ў сне ні снілось, што я на старасці гадоў да буду сам на машыні ездзіць.* г.Косава.

І Ў ТОЙ БОК НІ ГЛЯДЗЕ´ЦЬ. Не заўважаць, ігнараваць. *І ў той бок, сынок, ні глядзі, дзе гарэлку п'юць. Да дабра яна ні давядзе.* г.Івацэвічы.

І ХО´ЧАЦЦА І КО´ЛЯЦЦА. Пра супярэчлівасць жаданняў, памкненняў. *Хачу фермяром стаць, зямлі ўзяць. Але і хочацца і коляцца – сіла ўжэ ні тая.* г.Косава.

І ШАВЕ´Ц І ЖНЕЦ І НА ДУДЗЕ´ ІГРЭ´Ц. На ўсе рукі майстар. *У сяле так: і шавец і жнец і на дудзе ігрэц. Усё трэба ўмець рабіць.* Воля Жытл.

І ША´ГУ НЕ СТУПІ´ЦЬ. Не мець магчымасці свабодна дзейнічаць. *У мяне жалезна дзісціпліна дзецям. Без майго ведама нікуды і шагу не ступяць.* Зялёны Бор Стайк.

І Я НЕ Я І РУКА´ НЕ МАЯ´. Пра чалавека, які спрабуе, стараецца ўсяк адцурацца, адкараскацца ад учыненага ім, але ніхто яму не верыць. *Бачыш ты яго, нявіннае ягня! А хто пакраў дрова! А то ўсё – і я не я і рука не мая.* Заполле Кос.

**К**

КАБ І ДУ´ХУ (НАГІ´) НІ БЫЛО´. Так выказваюць нежаданне бачыць чалавека ў сваім доме. *Ты прышоў у маю хату ды яшчэ мяне брыдзіш. Вон, каб і духу твайго ні было!* г.Івацэвічы.

КАБ НА ЯГО (ЯЕ, ІХ) КО´ЛА ВАДА´ ІШЛА´. Так кажуць пра чалавека, які імкнецца ўсіх падпарадкаваць сабе, навязвае сваю волю. *Ты век глядзіш, каб на тваё кола вада ішла, каб твой верх быў.* Альшаніца Квас.

КАБ НА ЯГО´ (ЦЯБЕ´, ЯЕ´, ВАС, ІХ) ЛІ´ХО. Так выказваюць незадавальненне, злосць. *Ты паглядзі, зноў куры ў градах. Ано ж выганяла. І дзе яны лезуць? Акыш, каб на вас ліхо!* Скураты Квас.

КАБ ПУ´СТО БЫЛО´. Так скажуць, калі моцна гневаюцца на некага. *Ты чаго да мяне прычапіўся? Я твайго сына ў цюрму ні садзіла. Ён сам сабе прыкруткі знайшоў, каб яму пусто было!* г.Івацэвічы.

КАБ СА´ЛО ЗАВЯЗА´ЛАСЁ. Пра адпачынак пасля абеду. *Пасля смачнаго абеду трэба прылегчы, каб сало завязаласё.* Альшаніца Квас.

КАБ ТВАЕ´ (ВА´ШЫ) СЛО´ВЫ ДА БОГУ Ў ВУ´ШЫ. Так жадаюць, каб сказанае збылося, спраўдзілася. *Можа, і праўда я ачуняю, суседачка. Ах, каб твае словы да Богу ў вушы. Яшчэ хочацца пажыць.* Харошча Міл.

КАБ Я З ГЭ´ТАГО МЕ´СЦА НІ ЗЫШО´Ў. Так клянуцца ў праўдзівасці сваіх слоў. *Ехала вечаром дахаты на ровары. Ужэ добра сцямнело. Бачу: прамо на мяне плыве белае воблачко, гэдык нізко над зямлёю. Стукнуласё аб калясо і прапало. Ну, думаю, нехто памрэ на нашой гуліцы. Так яно і вышло. На другі дзень Васіль Кнышоў памёр. Не стары яшчэ чалавек. Вот і ні вер у прыкметы. А шчо праўда бачыла, то каб я з гэтаго месца ні зышла.* Заполле Кос.

КАБ ЯЗЫ´К АДСО´Х. 1. Так пацвярджаюць праўдзівасць сваіх слоў. *Каб мне язык адсох, калі я няпраўду кажу.* Стайкі Стайк. 2. Так выказваюць абурэнне, нязгоду з прамоўленым. *Каб табе язык адсох, ано і ведаяш, шчо сплетні разносіш.* Размеркі Стайк.

КА´ЗАНАЕ КАЗА´ЦЬ. Пераказваць даўно вядомае,

чутае. *Няўжо ты і сам ні чуў?! Ні хочацца табе казанае казаць.* Альшаніца Квас.

КАЗІ´НЯЦ У СПІ´НУ ЎБІ´ЎСЯ (КАЗІ´НЯЦ НА НО´ГІ НАПА´Ў). Анямець, заклякнуць, адзеравянець (пра цела). *Папагнулася цэлы дзень, картоплі збіраючы, ажні казіняц у спіну ўбіўся.* Альшаніца Квас.

КА´ЗКА ПРА БЕ´ЛАГО БЫЧКА´. Казаць, паўтараць адно і тое ж. *Ні расказвай мне казку пра белаго бычка, я добра памятаю, шчо гэто ты ў мяне ўзяў бабку, каб касу накляпаць.* Альба Квас.

КАЛАМУ´ЦІЦЬ ВО´ДУ. Уносіць беспарадак у гармонію адносін. *Добра жывем з мужыком, любім адзін аднаго. Адна бяда: яго радня каламуціць воду. Як паедзя праведаць, так і сварка пачынаяцца. Гэдык настройваюць супраць мяне.* г.Івацэвічы.

КАЛЕ´НІ ДРЫЖА´ЦЬ (ЗАДРЫЖА´ЦЬ). Так кажуць, калі моцна палохаюцца. *Збіраю ягады каля лужка. Адна, німа нікого. Тут раптом нехто як загалосіць. У мяне калені задрыжалі, рукі потныя сталі. Гэдык спалохалася.* Хрышчонавічы Квас.

КАЛІ´ БЫЎ, КАЛІ´ БУ´ДЗЯШ. Невядома, калі надарыцца магчымасць прыехаць, пабыць у гасцях. *Бяры ўсё, шчо даю: калі быў, калі будзяш. Можа, зноў за свет на работу адправяць.* Яглевічы Ягл. *Пабудзь яшчэ, калі быў, калі будзяш.* Ятвезь Квас.

КАЛІ´ НА ТО´Е ПАЙШЛО´. Калі так выйшла. *Калі на тое пайшло, то я табе і рубельчыка ні дам. Загнуў цану! Мне за такія грошы і парубаюць дрова, і складуць.* Кушняры Падст.

КАЛІ´ ТО´Е БЫЛО´, КАЛІ´ БУ´ДЗЯ. Невядома. – *Даўней сяло разлягаласё ад песянь. Ажно і ні верыцца, шчо гэто было. – Ой, калі тое было, калі будзя. Мусіць, ніколі ўжэ ні верняцца.* (З размовы) Заполле Кос.

КАЛО´М (КІЁМ) НІ ЗАГО´НІШ. Не прымусіш. *Бало, зімою дзяцей з гуліцы ў хату кіём ні загоніш.*

*А зараз сядзяць ля цілівізара, на гуліцу ні выжаняш.* Зыбайлы Жытл.

КАЛО´М НІ ПАДВА´ЖЫЦЬ. Так скажуць пра гультая. *Яго калом ні падважыш, цэлыя дні на пячэ ляжыць.* Гічыцы Ягл.

КАЛО´ЦЬ ВО´ЧЫ (У ВО´ЧЫ). 1. Папракаць. *У маладосці па дурасці за бойку год у цюрме адсядзеў. Усё жыццё мне гэтым вочы колюць.* Гошчава Стайк. 2. Зайздросціць, злаваць. *Паставіў мой сын нову хату. Ля яе лазню, летню кухню, гаража. То людзям вочы коля. Каб ні стараўся, а гарэлку піў, то шкадавалі б. Такая натура чалавечая.* Альшаніца Квас.

КАМАРА´ НІ ЗАБ´Е. Добры па характары хто. *Цяжко майму сыну будзя жыць на свеці: і камара ні заб'е, такі мяккацелы. І ў каго ён удаўся?* г.Косава.

КАМА´Р НО´СА НІ ПАДТО´ЧЫЦЬ. Так скажуць, калі работа зроблена якасна, без заган. *Мой бацько кавароткі людзям рабіў. Як цацачкі, такія акуратныя, камар носа ні падточыць.* Альшаніца Квас.

КАМА´Р НО´СА НІ ЎСУ´НЯ. Вельмі густы (пра збажыну). *Жыто – камар носа ні ўсуня. Невядома, які колас будзя. Але, відаць, уродзіць.* Быч Стайк.

КАМПАСІ´РАВАЦЬ МАЗГІ´. Ашукваць. *Ты мне мазгі ні кампасіруй: ведаю, чаго пайдзяш да Пятруся. Выпіць захацеласё.* Старажоўшчына Кос.

КА´МЯНЬ З ДУШЫ´ СПАЎ. Адлегла на душы, злягчэла. *У бальніцу паклалі, надто балело ў баку. Думала, шчо памру. Прасвятленне зрабілі, кажуць: "Бабушка, у цябе печань павялічана, пасадзім на дзіету". О-о-о, у мяне камянь з душы спаў. Думаю сабе: па гэтом яшчэ пажыву.* г.Івацэвічы.

КА´МЯНЬ НА СЭ´РЦЫ (НА ДУШЫ´). Пра непрыемнае пачуццё ад перажытага ці ад таго, што чакаецца, будзе яшчэ. *Жаначкі, ні буду я спяваць, камянь на сэрцы: моцно зяць хворы.* Галынка Міл.

КАНЕ´Ц БУ´ДЗЯ. Нешта завершыцца, скончыцца. *Мая маці ўсё казала, як хварэла да балело ўсё цело: "Дачушка, ну, некалі ж гэтаму канец будзя, то ж ні будзя век балець?"* Альшаніца Квас.

КАНЦА-КРА´Ю НІ ВІДА´ЦЬ (НІМА´, НІ БЫЛО´). 1. Скажуць пра нешта вялікае, што не мае межаў. *Балота асушылі, то канца-краю полю ні відно.* Няхачава Стайк. *Ідзем, ідзем, а гэтаму лесу канца-краю німа.* Хрышчонавічы Квас. 2. Скажуць пра тое, што не спыняецца, доўга цягнецца. *З сястрою дзесяць гадоў ні бачыліся, аж на Уралі жыве. Прыехала ў госці, то нашой гаворцы канца-краю ні было.* Бялавічы Кос. 3. Скажуць пра тое, чаго вельмі многа. *Зроду тут картоплёў ні было. То на свежом месці да таго харошыя ўрадзілі, машынамі і трактарамі вазілі, а ім канца-краю німа.* Заполле Кос. 4. Пра працу, далёкую да завяршэння. *Рамонт пачала ў хаці, то канца-краю німа.* г.Косава.

КАНЦО´Ў НІ ЗНАЙСЦІ´. Не дакапацца да сутнасці справы. *Пазычыла бязмена Івану, пайшла забіраць, кажа: "Антось у мяне ўзяў". Канцоў ні знайду. Праўду кажуць: аддай рукамі, а хадзі нагамі.* Альшаніца Квас.

КАНЦЫ´ З КАНЦА´МІ НІ СХО´ДЗЯЦЦА. Не ўсё ясна, не ўсё вырашана. *Ты кажаш, што Іван кароў пасвіў, ён кажа, што ты. У вас канцы з канцамі ні сходзяцца. А мая карова ні прышла дахаты. Шукайця!* Гошчава Стайк.

КАНЦЫ´ ПРЫХО´ДЗЯЦЬ. Становіцца вельмі дрэнна, пачынаецца нясцерпны боль. *Ні ведаю сама, шчо з'ела, але канцы прыходзяць – гэдык жывот баліць.* Плехава Люб.

КАПЕ´ЙКА Ў КАПЕ´ЙКУ. Дакладна, поўнасцю. *Таня-паштальёнка ніколі ні памыліцца: капейка ў капейку пенсію выплаціць.* Заполле Кос.

КАПЕ´ЙКА Ў КАРМА´НІ НІ АПА´РЫЦЦА. Так кажуць пра неберажлівага, неэканомнага чалавека. *У*

*яго капейка ў кармані ні апарыцца: ні паспея палучыць, ужэ німа.* Альшаніца Квас.

КАПЦІ´ЦЬ НЕ´БО (СВЕТ). Жыць, не прыносячы нікому карысці. *Нікому ты нічого добраго ні зрабіў, ніхто ля цябе ні нагрэўся, ано копціш небо.* Скураты Квас.

КАРМІ´ЦЬ ВО´ШАЙ. Пакутаваць. *Сваяк расказвоў. Немцы ў лагер вывязлі. А там і голад, і холад. Тры годы вошай карміў.* г.Івацэвічы.

КАРМІ´ЦЬ ЯК НА ЎБОЙ. Уволю, сытна. *Забралі мяне на службу ў 1952 годзі. І завязлі нас ажно на Чукотку. Але кармілі там добра, як на ўбой.* Скураты Квас.

КАРО´ВІ НА РО´ГІ, КАНЮ´ ПАД ХВОСТ. Мала, вобмаль. *Ой, колькі ў цябе того сена: карові на рогі, каню пад хвост.* Заполле Кос.

КАРО´НА НІ ЗВА´ЛІЦЦА. Скажуць, калі заклікаюць пайсці на ўступкі некаму. *Пабіўся, вінаваты ці невінаваты, ідзі перапрасі – карона ні зваліцца.* Хрышчонавічы Квас.

КАРО´ТКІ СУД. Так скажа чалавек, які вырашыў сам адпомсціць крыўдзіцелю. *Мой суд кароткі: хадзі і аглядвайся. Ты акалечыў маё дзіця – я акалечу цябе.* Заполле Кос.

КАСІ´НА З ГАЛАВЫ´ НІ ЎПА´ЛА. Пражыць, не знаючы бяды, гора, не панесці страт. *Яе Бог любіў. Яна пражыла – касіна з галавы ні ўпала.* Альшаніца Квас. Касіна – адзін волас.

КАСЦЬМІ´ ЛЕ´ГЧЫ. Дабіцца мэты, аддаўшы ўсе сілы. *Касцьмі лягу, а пастаўлю сыну хату. Хай гадуе дзеток.* Квасевічы Квас.

КАТУ´ ПАД ХВОСТ. Дарма. *Выпалала агарод да зялінкі. А град нанет пабіў. Уся работа кату пад хвост.* Мілейкі Міл.

КАТУ´ ПА ПЯТУ´. Малы ростам. *Пры Польшчы ў армію малых ростом ні бралі. А зараз кату па пяту –*

*салдат. Як на яго і шыняля знайдуць.* Квасевічы Квас.

КАЦЯЛО́К ВА́РЫЦЬ. Кемлівы, здольны да навукі чалавек. *Андрэёў хлопяц ні дурны, у яго кацялок варыць. Вывучыўся за ляснічаго. Бацько ўжэ пра дрова думаць ні будзя.* Бялавічы Кос.

КАШАЛЕ́ ПЛЯСЦІ́. Пустасловіць. *І доўго ты мне будзяш кашале плясці? У мяне работа стаіць.* Жамайдзякі Міл.

КА́ША Ў ГАЛАВЕ́. Усё пераблытана, няма яснасці ні ў чым. *У цябе каша ў галаве. Мы школу скончылі тады, калі якраз памянялі грошы, у 61-м. А ў 63-м мы з табою ўжэ ў арміі былі.* Яглевічы Ягл.

КА́ШЫ НІ ЗВА́РЫШ. Не дамовішся, не пагодзішся. *Цяжкі па харакцяру чалавек мой сусед, з ім кашы ні зварыш. Ён усё адзін ды адзін, яму нікого ні трэба.* г.Косава.

КА́ШЫ ПРО́СЯЦЬ. Пра дзіравы, паношаны абутак. *Знасіліся мае боты: ужэ кашы просяць.* Уласаўцы Жытл.

КВАС (ПАСО́ЛЮ) З'Е́СЦІ. Памянуць нябожчыка на памінальнай вячэры. *"Пабачым, Тамаш, хто па ком хучэй пасолю з'есць", – усё мне казаў Іван Панасоў.* Заполле Кос. Квас, пасоля – стравы на памінальнай вячэры.

КЕ́ПСКО ЛЯЖЫ́ЦЬ. Кажуць пра тое, што можна лёгка ўкрасці. *Пра майго суседа казалі: у яго ўсё крадзянае, адна ікона купляна. Краў усё, што кепско ляжыць.* г.Івацэвічы.

КІ́ДАЦЦА (КІ́НУЦЦА) Ў ВО́ЧЫ. Звяртаць на сябе ўвагу. *Як глянуў на дзяўчат, то Маруся адразу кінулася ў вочы. Доўго я ні хадзіў: на Каляды пажаніліся.* Жытлін Жытл.

КІ́ДАЦЬ (КІ́НУЦЬ) ВО́КОМ. Глядзець. *Вясна, цвіце ўсё, птушачкі спяваюць. Кінеш воком на белы свет – душа радуяцца.* Жамайдзякі Міл.

КІ´ДАЦЬ (КІ´НУЦЬ) КА´МЯНЬ У АГАРО´Д. Падкусваць, насміхацца. *Ты жыць ні будзяш, як камяня ў мой агарод ні кіняш: усё на падкусах жывеш, а яшчэ разом у школу хадзілі.* Гічыцы Ягл.

КІ´ДАЦЬ (КІ´НУЦЬ) КО´СТКУ. На пэўны момант задаволіць патрэбы. *Даў сто рублей, кінуў костку, ды думаяш, што гэто ўсё? На аліменты буду падаваць! Дзяцей апранаць, карміць трэба. Я адна надрывацца ні буду.* г.Івацэвічы.

КІ´ДАЦЬ ТО Ў ЖАР, ТО Ў ХО´ЛАД. Трэсціся, калаціцца ад перажывання. *Сказаў, шчо прыедзя сёні раняньо. Ужэ вечар, а німа. Стаю во з вамі, а ўся дрыжу: кідая то ў жар, то ў холад, дзе падзеўся?* Бялавічы Кос.

КІ´ДАЦЬ У ДРЫ´ЖЫКІ. Моцна змерзнуць. *Такі мароз на дварэ, пакуль управіўся па гаспадарцы, то ў дрыжыкі кінуло.* Альшаніца Квас.

КІ´ЁМ НІ ЗАГНА´ЦЬ. Не прымусіць. *Рэчка замерзла, то дзяцей у хату кіём ні загоніш, да цямна катаюцца на лёдзі.* Грыўда Міл.

КІ´ЁМ (КРУ´КОМ) НО´СА НЕ ДАСТА´ЦЬ. Не даступіцца (пра ганарліўца). *Стольні гонару ў чалавека – кіём носа не дастаць.* Гошчава Стайк.

КІЙ (ПА´ЛКА) З ДВУМА´ КАНЦА´МІ. Г.зн. нечыя дзеянні вымусяць да супрацьдзеяння. *Ні палохай мяне кіём, кій з двума канцамі. Чапляяшся ты да мяне, прычэпяцца і да цябе.* Альшаніца Квас.

КІ´ЛА БУРКЛІ´ВАЯ. Бурклівы чалавек. *Сціхні, кіла бурклівая, людзі ў хату ідуць.* Бусяж Міл.

КІ´НУЦЬ КО´СТКУ (КОСЦЬ). Даць адчэпнага. *Палучка малая, і тую ні даюць. Кінуць костку – авансу рублёў пяцьдзісят, і жыві як хочаш.* Яглевічы Ягл.

КІЎНУ´ЦЬ ПА´ЛЬЦОМ. Даць зразумець, намякнуць. *Каб я ано пальцом кіўнула, ён адразу да мяне прышоў бы жыць.* г.Косава.

КІ´ШКА ЗА КІ´ШКУ ЗАЙШЛА´. Пра моцнае ад-

чуванне голаду. *Так прагаладаўся, шчо кішка за кішку зайшла.* Альшаніца Квас.

КІШКІ´ ВЫ´ПУСЦІЦЬ. Забіць (часцей як пагроза). *Яшчэ раз пачую, як будзяш брыдзіць маю жонку, кішкі выпушчу. Я пражыў, слова на яе кепскаго ні сказаў, а ты, брыдота, языка распускаяш.* Падстарынь Падст.

КІШКІ´ МАРШ ГРА´ЮЦЬ. Пра нясцерпнае адчуванне голаду. *Давай хучэй абедаць, а то ў мяне даўно ўжэ кішкі марш граюць.* Яглевічы Ягл.

КІШМЯ´ КІШЫ´ЦЬ. Шмат, многа. *Вада спала ў сажалцы – рыба кішмя кішыць.* Гошчава Стайк.

КЛА´НЯЦЦА Ў НО´ГІ. Умольна прасіць, прыніжацца. *Я табе ўжэ ў ногі кланяцца ні буду: сам купіў каня. Як казалі даўней: насяру багачу, сам хлеб малачу.* Заполле Кос.

КЛА´СЦІ (ПАКЛА´СЦІ) ГРО´ШЫ НА БО´ЧКУ. Папярэдне заплаціць. *Хочаш, каб хутко дрова пакалолі, кладзі грошы на бочку.* Размеркі Стайк.

КЛА´СЦІ (ПАКЛА´СЦІ) ЗУ´БЫ НА ПАЛІ´ЦУ. Жыць у нястачы, галадаць. *Трэйці месяц палучкі ні даюць, гатоў зубы на паліцу пакласці.* Корачын Жытл.

КЛА´СЦІ (ПАКЛА´СЦІ) ПАД СУКНО´. Не вырашаць справы. *Стары вяз ля хаты расце, ужэ струхлеў, высах. Добры вецяр падзьме, то на хату мне ўпадзя. Напісала заяву ў сельсавет, каб зрэзалі. Але дзе там, паклалі пад сукно. Ужэ трэці месяц пайшоў, як пісала.* Заполле Кос.

КЛА´СЦІ (ПАКЛА´СЦІ) САБЕ Ў КІШЭ´НЮ. Прысвойваць чужыя грошы. *Ні адну сотню паклаў сабе ў кішэню, як кароўніка будавалі: цэглу людзям заганяў.* г.Косава.

КЛА´СЦІСЯ СО´СМЯХУ. Моцна смяяцца, да слёз. *Радзіны ў Мані былі. А на другі дзень ужэ дзеда з бабаю павязлі на санках у магазін, каб пачастунок купілі за ўнука. Уквяцілі санкі, саматуж вязлі. Сосмя-*

*ху людзі клаліся. Але ўсіх пачаставалі, хто ў магазіні быў.* Заполле Кос.

КЛА´СЦІСЯ СПАЦЬ З КУРА´МІ. Вельмі рана, як толькі сцямнее. *Я з курамі спаць кладуся, затоя рано ўстаю.* Альшаніца Квас.

КЛЁ´ПКІ Ў ГАЛАВЕ´ НІМА´. Неразумны чалавек. *Як вычварыць што, то адразу відно: у гэтаго чалавека клёпкі ў галаве німа.* Любішчыцы Люб.

КЛІНЫ´ ПАДБІВА´ЦЬ. Заляцацца. *Кліны ні падбівай, дарэмно ўсё, нічого ні будзя.* Хрышчонавічы Квас.

КЛЮ´НУЦЬ НА ВУ´ДАЧКУ. Паддацца на падман. *Сусед мне кажа: "Хочаш дроў? Давай сотню, прывязу прычэп". Я і клюнуў на вудачку. Не паспеў ён скінуць, ужэ ляснік на надворку. Добра, што чалавек згодны. Выпілі па чарцы ды разышліся.* Була Міл.

КЛЯВА´ЦЬ НО´СОМ. Драмаць. *Як ано сяду вечаром каля ціківізара, так і клюю носом.* Куляшы Міл.

КЛЯСЦІ´ НА ЧЫМ СВЕТ СТАІ´ЦЬ. Пасылаць самыя страшныя праклёны ў чый-небудзь адрас. *Але і звяглівая мая жонка. Вып'ю трохі, то кляне на чым свет стаіць.* Яблонка Жытл.

КО´ЖНЫ САБА´КА. Усе (ведаюць). *Даўней кіншчыка кожны сабака ў любом сяле ведоў, бо ён быў адзін на ўсю акругу.* Заполле Кос.

КО´ЛАС У КО´ЛАС. Пра ўмалотную збажыну. *Харошае жыто ў Дворыску: колас у колас.* Альшаніца Квас.

КО´ЛЬКІ ДУША ЖАДА´Я. Уволю. *Паехалі з дзецьмі на цукерачную фабрыку. Цукеркі еш – колькі душа жадае, але з сабою ні бяры.* Альшаніца Квас.

КО´ЛЬКІ ЖЫЦЬ БУДУ НЕ ЗАБУДУ. Ніколі (не забуду). *Прыехоў хросны праведаць мяне. А паглядзеў, што ўжэ велькі, зняў з рукі часы і падарыў мне. Колькі жыць буду не забуду гэтаго.* Заполле Кос.

КО´ЛЬКІ ЎЛЕ´ЗЯ. Уволю, доўга. *Канікулы хутко,*

*то ўжэ буду спаць колькі ўлезя.* Руда Падст.

КОНЬ НІ КАЧА´ЎСЯ. Работы не пачаты край. *Прыехалі на соткі, а там конь ні качаўся: ні драпачовано, ні горано, каменне ні пазбірано. Ледзь да толку давялі палетак. Міхнавічы* Стайк.

КО´СЦІ МЫЦЬ (ПЕРАМЫ´ЦЬ). Абгаворваць. *Бабы як пойдуць на работу, то ўсе косці перамыюць адна адной.* Ёдчыкі Квас.

КО´СЫ ДЫ´БОМ СТА´ЛІ. Пра пачуццё вялікага страху, зведанага кім-небудзь. *Навальніца ў лесі застала. Як ляснуло над галавою, то косы дыбом сталі.* Скураты Квас. *Бачу, ад рэчкі нехто ў белом ідзе: у мяне і косы дыбом сталі.* Альшаніца Квас. Косы – валасы.

КО´СЫ НА САБЕ´ РВАЦЬ. Моцна перажываць. *Прышла пахаронка на мужыка, то косы на сабе рвала. Думаю, як гэто мне будзя выгадаваць адной чацвёро дзяток.* Була Міл.

КОТ ЗА НОЧ З'Е´СЦЬ. Благі, невялікага ростам чалавек. *Але і жонку Алесь дабраў: кот за ноч з'есць.* Квасевічы Квас.

КОТ НАПЛА´КАЎ. Пра невялікую колькасць чаго-небудзь. *Ну, ты і ягадназбіраў – кот наплакаў.* Міхнавічы Стайк.

КО´ШКІ СКРАБУ´ЦЬ НА ДУШЫ´ (НА СЭ´РЦЫ). Трывожна, неспакойна (на душы, на сэрцы). *Кошкі скрабуць на душы: накрычала на сына ні разабраўшыся, а вышло – ні ён пабіў шыбу ў акне.* г.Косава.

КРА´ЁМ ВО´КА. Няўважліва глядзець. *Да суседкі госці з Украіны прыехалі. Але я іх ано краем вока бачыла: ні сядзелі ў хаці, усё ездзілі па сваёй радні.* г.Івацэвічы.

КРА´ЁМ ВУ´ХА. Слухаць няўважліва. *Дачка нешто расказвала, як прышла з музык, пра бойку каля клуба, але я краем вуха слухала. Ні ведаю, хто там біўся.* Заполле Кос.

КРО´ПЛЯ Ў МО´РЫ. Вельмі мала. *Такая спёка,*

*усё палягло на градах. Паліла вечаром. Але што гэто – мало, кропля ў моры.* Старажоўшчына Кос.

КРОЎ З МАЛАКО́М. 1. Здаровы, дужы. *Мой зяць – кроў з малаком, горы гатоў звярнуць.* Бялавічы Кос. 2. Вельмі прыгожая (пра дзяўчыну). *На вачах расцвіла Яніна, кроў з малаком дзеўка. Папаводзіць хлопцоў за нос.* Размеркі Стайк.

КРОЎ З НО́СА. Абавязкова. *Кроў з носа трэба сено грабці, бо дождж заўтры будзя.* Скураты Квас.

КРОЎ У ЖЫ́ЛАХ ЗАСТЫ́ЛА. Адчуваць вялікі страх. *Ішла каля моглiц, а сава як закрычала, то ў мяне кроў у жылах застыла, ногі адняліся.* Альшаніца Квас.

КРУГІ́ Ў ВАЧА́Х ПЛЫВУ́ЦЬ. Так кажуць, калі дрэнна сябе пачуваюць. *Ой, жаначкі, патрымайця, кругі ў вачах паплылі, зараз упаду.* Галенчыцы Ягл.

КРУПІ́НА ЗА КРУПІ́НАЮ ГАНЯ́ЯЦЦА З ДУБІ́НАЮ. Так кажуць пра вельмі рэдкую страву. *Даўней вясна галодная ў людзей была. І пасцілі шчыро, і так запасы канчаліся. Укіня, бало, маці шчопці круп, картопліка парэжа, цыбуліну, казляка якого – уся вара была. Дый жартавалі з саміх сябе: крупіна за крупінаю ганяяцца з дубінаю.* Лушчык В.І, 1930 г.н. 1996 г. Альшаніца Квас.

КРУ́ЦІЦЦА НА ЯЗЫ́КУ. Так скажуць, калі нешта не могуць успомніць. *Бачыш, памяць старэчая: забыўся, як швагра звалі. Круціцца на языку, а ўспомніць ні магу.* Хрышчонавічы Квас.

КРУЦІ́ЦЦА ПАД НАГА́МІ (РУКА́МІ). Перашкаджаць, назаляць. *Ідзі сядзь, пачытай, ні круціся пад нагамі.* Рацкевічы Міл.

КРУ́ЦІЦЦА Ў ГАЛАВЕ́. Сустрэчы, падзеі, што не ўсплываюць у памяці. *Круціцца ў галаве, а здумаць ніяк ні магу. Ці ні Антоном цябе клічуць?* Заполле Кос.

КРУЦІ́ЦЦА ЯК ВАВЁРКА Ў КАЛЯСЕ́. Быць у пастаянных клопатах. *Прыдзя вясна, то і мінуткі ні*

*прысядзяш. Цэлы дзень круцішся як вавёрка ў калясе.* Гічыцы Ягл.

КРУЦІ´ЦЬ НО´СОМ. Выказваць нездавальненне. *Ні круці носом, заўтры ты кароў пажанеш, а бацько касіць паедзя.* Размеркі Стайк.

КРУЦІ´ЦЬ СВІ´НЯМ (БЫКА´М) ХВАСТЫ´. Нічога не рабіць, лайдачыць. – *Што твой сын робіць, што ні відно яго* нідзе? – *А што яму рабіць? Свіням хвасты круціць. Кажу, ідзі шукай работу. Ні хоча. Добра сядзець на бацькоўском хлебі.* г.Івацэвічы.

КРУЦІ´ЦЬ ХВАСТО´М. 1. Хітраваць. *Ні круці хвастом, кажы, дзе грошы падзеў. Я цябе навылёт бачу. Прагуляў з такімі басякамі, як сам.* Бялавічы Кос. 2. Пра пераборлівую дзяўчыну, надзвычай патрабавальную пры выбары жаніха. *Добры хлопяц пападая, харошых бацькоў. Ніхто благого пра яго ні скажа. Ні круці хвастом, трымайся яго.* Мілейкі Міл.

КРЫВІ´ЦЬ ГУ´БЫ. Выяўляць нездавальненне. *Ні крыві губы, марожанаго ні куплю, і так кашляяш. Марожанае летом будзя.* Уласаўцы Жытл.

КРЫВІ´ЦЬ ДУШО´Ю. Крывадушнічаць. *Ні крыві душой, ні бяры грэх на сябе. Скажы, як было, а то пасадзяць майго сына ні за што.* г.Івацэвічы

КРЫ´ВО ГЛЯДЗЕ´ЦЬ (ПАГЛЯДЗЕ´ЦЬ). Праяўляць недружалюбнасць. *Я ў цябе цяля ні ўкраў, жонку ні адбіў, так што ні глядзі на мяне крыво – я перад табою ні вінаваты.* Хрышчонавічы Квас.

КРЫ´ЖА НІМА´. Так кажуць пра бессаромнага, несумленнага чалавека. *Крыжа на табе, чалавеча, німа. Гэто ж трэба так аблаяць старого чалавека. Ён жа ў дзяды табе гадзіцца.* Ёдчыкі Квас.

КРЫ´ЦАЮ СЯДЗЕ´ЦЬ. Сядзець на адным месцы. *Сядзі крыцаю, ні дурэй за сталом! Паставілі місу пад нос, то еш.* г.Косава

КРЫЧА´ЦЬ НЕ СВАІ´М ГО´ЛАСОМ. Прарэзліва,

моцна крычаць. *Пайшлі грабці, убачыла дачка змяю на пакосі, то крычала не сваім голасам. Не схацела больш і грабці. Дахаты пайшла.* Жытлін Жытл.

КРЫЧЫ´ ХОЦЬ ЛО´ПНІ. Нічога не зменіцца. *Ты крычы хоць лопні. Як пасвіў я каравы ў Дворыску, так і пасвіць буду. Ні твая пожня, калхозная.* Заполле Кос.

КРЭ´ЧМА КРЫЧА´ЦЬ. Моцна (крычаць ад болю, страху). *Бывая, як здушыць нешчо голоў, то крэчма крычу.* Альшаніца Квас.

КУДЫ´ ВЕ´ЦЯР ДЗЬМЕ. Так кажуць пра беспрынцыпнага чалавека. *Яму пры любом начальніку добра: куды вецяр дзьме, туды і ён хіліцца.* г.Івацэвічы.

КУДЫ´ ВО´РАН (КРУМКА´Ч) КАСЦЕ´Й НІ НАСІ´Ў. Далёка, за свет. *Мой бацько за Польшчай тры каровы трымаў. Прыйшлі Саветы ў 39-м, то кулаком зрабілі. Кажуць, ты парабкоў наймаў. Як было аднаму ўправіцца? Маці хварэла, а мы малыя.То наймаў людзей касіць ды грабці. Забралі і заперлі нас туды, куды воран касцей ні насіў, ажно ў Акмолінск. Вярнуліся дахаты, як Сталін памёр.* г.Івацэвічы.

КУДЫ´ ВО´ЧЫ ГЛЯДЗЯ´ЦЬ. Не выбіраючы дарогі, у любым напрамку. *Пайшоў бы я ад вас, куды вочы глядзяць, сэрца маё не вытрымлівае глядзець на вашы вечныя п'янкі.* г.Косава.

КУДЫ´ ВО´ЧЫ ДЗЕЦЬ (ПАДЗЕ´ЦЬ). Адчуваць няёмкасць, сорам. *Пайшла на бацькоўскі сход у школу, то не ведала, куды вочы падзець: хлопяц ніяк не хоча вучыцца. Язык забалеў мне крычаць на яго.* Бялавічы Кос.

КУДЫ´ ГЭ´ТО ВАРТ (ЦІ ТАК МО´ЖНО). Так выказваюць рэзкае асуджэнне, незадаволенасць чужымі паводзінамі. *На вяселлі была. Паглядзела, як сёні дзяўчата апранаюцца. Куды гэто варт? Пупы наверху і спаніцы да пояса разрэзаныя. І не брыдко ім.* Стайкі Стайк.

КУДЫ´ ЛІ´ХО (ХАЛЕ´РА) НЯСЕ´. Куды прэшся

(спяшаешся)? *Панакуплялі матацыклоў, ляцяць на злом галавы па гуліцы. І куды іх ліхо нясе? Гатоў акалечыць каго.* Скураты Квас.

КУДЫ´ МАКА´Р ЦЯЛЯ´Т НЕ ГАНЯ´Ў. Далёка, туды, дзе яшчэ ніколі не быў. *Прышлі ў 39-м Саветы, меў бацько тры каровы, двоя каняй – вот табе і кулак. За яго – і павязлі куды Макар цялят не ганяў. Як камянь у воду. І не аказаўся больш. Згінуў.* Жамайдзякі Міл.

КУДЫ´ НІ КІНЬ. Усюды, куды ні паглядзі. *Куды ні кінь, усюды бело ад снегу.* Рудня Падст.

КУДЫ´ СЯБЕ´ ДЗЕЦЬ (ПАДЗЕ´ЦЬ). Не ведаць, чым заняцца. *Свято прыдзя, то без работы ні ведаеш, куды сябе падзець.* Скураты Квас.

КУЛАКІ´ СВЯРБЯ´ЦЬ. Пра жаданне пабіцца. *Што? Ужо кулакі свярбяць? Сядзі крыцаю, пакуль у міліцыю ні пазваніла.* Сярадава Жытл.

КУМ КАРАЛЮ´. Так скажа той, хто лічыць сябе незалежным ад усіх і ад усяго. *Нада мною ніхто з пугаю ні стаіць, я сам сабе – кум каралю. Раблю на падсочцы. Колькі рэзоў зраблю за дзень – усе мае. Хачу – раняньo прыду, хачу – вечаром. У спёку ні раблю.* Альшаніца Квас.

КУПА´ЦЦА Ў ГРАША´Х. Мець шмат грошай. *Сёні гэдыкі век настаў: адны ў грашах купаюцца, а другім хлеба німа за шчо купіць.* Ятвезь Квас.

КУПЛЯ´ЦЬ З РУК. Не ў краме. *Пасля вайны ўсё з рук куплялі, бо ў магазінах ніц ні было.* г.Косава.

КУПЛЯ´ЦЬ (КУПІ´ЦЬ) КАТА´ Ў МЯШКУ´. Прыдбаць нешта, не ведаючы каштоўнасці, якасці набытага. *Гэто ж трэба прыдумаць: парасячы базар уночы зрабілі. Купляяш ката ў мяшку: цёмно, замест парасяці можно і зайца купіць.* г.Івацэвічы.

КУ´РАМ НА СМЕХ. 1. Абы-які, дрэнны. *Сено зграблі, стажка паставілі – курам на смех. Вецяр падзьмуў ды вярха скінуў. А тут дождж. І здэцца, двое мужчын ставілі. Я, баба, і то лепш утаптала б.*

Грыўда Міл. 2. Вельмі мала. *Паехоў на цаліну, цэлы год быў, а грошай прывёз курам на смех.* Заполле Кос.

КУ´РАЧЭ ЦЕ´ЛО. Скажуць, калі цела пакрыецца дробнымі пухіркамі ад перажывання, холаду. *Палезлі купацца, а вада зранку халодная. Выскачылі – цело курачэ стало*. Размеркі Стайк.

КУ´РЫ ЗАСМЯЮ´ЦЬ. Рабіць тое, з чаго будуць смяяцца. *Ты здурнеў, ці што? На старасці гадоў пачаў як кавалер убірацца. Цябе ж куры засмяюць, на цябе пальцом будуць паказваць.* г.Косава.

КУРЫ´НАЯ ПА´МЯЦЬ. Слабая (памяць). *Курыная памяць у цябе! Бач яго, ты забыўся, што пазычыў у мяне сакеру!* Быч Стайк.

КУ´РЫ НЕ КЛЮЮ´ЦЬ. Вельмі многа. *У яго грошай – куры не клююць.* Яглевічы Ягл.

КУРЫ´НЫЯ МО´ЗГІ. Бесталковы, дурны чалавек. *У цябе што, мозгі курыныя? Хто пакідая стажка нізавершанаго на ноч? О, даў дождж, то папасушыш.* Хрышчонавічы Квас.

КУ´РЫЦЫ ПА КАЛЕ´НО. Плытка, неглыбока. *Не бойся, ідзі смело, тут вады – курыцы па калено.* Альшаніца Квас.

КУСА´ЦЬ (УКУСІЦЬ) СЯБЕ ЗА ЛО´КАЦЬ. Раскайвацца ў зробленым. *Укусіў бы сябе за локаць ды позно. Накрычаў на сына, нагаварыў яму абы-чаго, а пасля астыў, адумоўся: пагарачыўся я.* Любішчыцы Люб.

КУСО´К СІ´ЛЫ. Здаровы, дужы чалавек. *Здароўям яго Бог ні пакрыўдзіў, кусок сілы мая, а ўжэ 70 гадоў мінуло.* Альшаніца Квас.

КУСО´К У ГО´РЛО НІ ЛЕ´ЗЯ. Так кажуць, калі прападае апетыт з перажывання. *Пасварымся чаго з жонкай, то, ей-Богу, кусок у горло ні лезя.* Бялавічы Кос.

КУСО´К ХЛЕ´БА. Мець сродкі для пражыцця. *Вывучыўся на пячніка. Як ні было, а кусок хлеба з гэтаго маю.* г.Івацэвічы.

КУСО´К ЧА´СУ. Пэўны прамежак часу. *Пайшоў мой чалавек у магазін. Кусок часу ўжэ, а яго ўсё німа.* Альшаніца Квас.

**Л**

ЛА´ВАЧКА ЗАКРЫ´ЛАСЯ. Так скажуць, калі справа, якая прыносіла карысць, прыбытак, перарвалася. *Лавачка вам закрылася, ні будзяця больш па канюшыні кароў пасвіць, пажаняце на выган. Там ляжаць ні будзяця.* Гошчава Стайк.

ЛАВІ´ЦЬ ВАРО´Н. Марудзіць. *Не трэба лавіць варон. Як распагодзіцца, то трэба як амага грабці сено.* Заполле Кос.

ЛАВІ´ЦЬ ВЕ´ТРА Ў ПО´ЛІ. Тое, што здарылася, назад не вернеш. *Парасят прадавалі некія мужчыны, пакуль я дабегла, паехалі. Лаві ветра ў полі, невядома, дзе яны зараз.* Мілейкі Міл.

ЛАВІ´ЦЬ ДРЫГЛЕ´. Дрыжаць, трэсціся ад холаду. *Пратрымая кавалер на марозі, ажно дрыгле ловіш. Але дахаты ні рвешся.* Альшаніца Квас. Дрыгле – дрыжыкі.

ЛАВІ´ЦЬ (ЗЛАВІ´ЦЬ) ЗА РУ´КУ. Выкрываць злодзея. *Кияткі ўсё нехто ў мяне рваў у агародчыку. Ні паспала ноч. За руку злавіла: хлопцы на букеты дзяўчатам. Моцно і ні крычала – сама маладая была.* Альшаніца Квас.

ЛАВІ´ЦЬ НА ЛЯТУ´. Быць памятлівым. *Сустрэла настаўніцу. Хваліць маю Волечку. Кажа, на ляту ўсё ловіць.* г.Івацэвічы.

ЛА´ДУ НІМА´. Згоды, паразумення. *У іх зроду ў хаці ладу німа, усё сваркі ды сваркі.* Була Міл.

ЛАМА´ЦЬ (ПАЛАМА´ЦЬ) ГО´ЛОЎ. Напружана думаць, шукаць выйсце са складанага становішча. *Праз каторы дзень голоў ламлю: дзе ўзяць грошы на вяселле? І пазычыць німа ў каго, і прадаць німа чаго.* Бусяж Міл.

ЛАМА´ЦЬ РУ´КІ. Адчайвацца (ад вялікага гора). *Сына з Афганістана прывязлі ў труне. То ні было як глядзець на мацяру: рукі ламала, косы на сабе рвала.* г.Івацэвічы.

ЛА´ХІ ПАД ПА´ХІ. Сабраць пажыткі і пайсці. *Усяго месяц пражыла з мужыком: гэдакі ліхі, да кожнага слова чапляяцца. То сабрала лахі пад пахі ды вярнулася да мацяры.* г.Івацэвічы.

ЛЕ´ГЧЫ КАСЦЬМІ´. Прыкласці ўсе сілы для дасягнення мэты. *Касцьмі лягу, а маё дзіця будзя вучыцца на доктара.* г.Косава.

ЛЕДЗЬ ДУША´ Ў ЦЕ´ЛІ. Вельмі слабы хто. *Бачыў Сцяпана Палешчынаго: ледзь душа ў целі трымалася. А неяк разом ехалі ў аўтобусі ў Вацэвічы, то о-о-о, ён акрыяў, паправіўся.* Альшаніца Квас.

ЛЕДЗЬ-НАЛЕ´ДЗЬ. Насілу, з вялікімі цяжкасцямі. *Абамлела на сонцы, ледзь-наледзь у хату завалаклі.* Заполле Кос.

ЛЕДЗЬ НО´ГІ ВАЛАЧЫ´ (ПЕРАСТАЎЛЯ´ЦЬ). Плесціся, цягнуцца. *Варушыся, а то ідзе, ледзь ногі перастаўляя, як стары.* Мілейкі Міл.

ЛЕДЗЬ СТАЯ´ЦЬ НА НАГА´Х. Моцна стаміцца. *Цэлы дзень картоплі збірала, то ледзь стаю на нагах: гэдык натамілася, ні знаю, на яком свеці жыву.* Любішчыцы Люб.

ЛЕДЗЬ ЯЗЫ´КОМ ВАРО´ЧАЦЬ. Быць моцна п'яным. *Ледзь языком варочая, і яшчэ просіць выпіць.* Мілейкі Міл.

ЛЕ´ЖМА (ЛЕ´ЖНЁМ) ЛЯЖА´ЦЬ. Бяздзейнічаць, гультаяваць. *Цэлы дзень лежма ляжыць, і бакі яму ні баляць. Скажаш што. Кажа: "Я ў адпуску".* г.Івацэвічы.

ЛЕ´ЗЦІ ВО´ПСАСОМ У ВО´ЧЫ. Назаляць. *От чалавек, вопсасом у вочы лезя. Ано прызнайся яму, дзе назбіраў грыбоў. У лесі, ідзі шукай! Хто гэто прызна-*

*яцца?* Заполле Кос.

ЛЕ´ЗЦІ НА РАЖО´Н. Не зважаць, не баяцца выніку ад учынку, паводзінаў. *Нікому ні ўступіць, вечно лезя на ражон. Ну, і палучая ў лыч.* Альшаніца Квас. Лыч – тут: твар.

ЛЕ´ЗЦІ НА СЦЕ´НУ. Мучыцца, пакутаваць з болю. *Так баляць зубы, гатоў на сцену лезці.* Размеркі Стайк.

ЛЕ´ЗЦІ (ЗАЛЕ´ЗЦІ) ПАД ПАЗУ´Р. Моцна гнявіць, дапякаць. *Добра ты ляснічаму пад пазур залез, калі ён цябе з работы выгноў. Заганяў ты дрова направо і налево.* Ёдчыкі Квас. Заганяць – тут: прадаваць, збываць.

ЛЕ´ЗЦІ (СПЯШЫ´ЦЬ) РАНЕ´Й ЗА БА´ЦЬКА Ў ПЕ´КЛО. Так папярэджваюць таго, хто стараецца апярэдзіць падзеі. *Чаго ты лезяш раней за бацька ў пекло? Дай старэйшым сказаць. Яны больш пражылі, больш ведаюць за цябе.* Гічыцы Ягл.

ЛЕ´ЗЦІ СЛАТО´Ю (АСО´Ю, СЛЯПІ´ЦАЮ) Ў ВО´ЧЫ. Надакучаць, прыставаць, чапляцца. *Адчапіся, не лезь слатою ў вочы.* Размеркі Стайк.

ЛЕ´ЗЦІ (ЗАЛЕ´ЗЦІ) Ў ГО´ЛОЎ. Запамінацца. *Пачула песню па радзіві, цэлы дзень хаджу, мармычу пад нос. Залезла ў голоў і ні выкіну.* Сенькавічы Падст.

ЛЕ´ЗЦІ (ЗАЛЕ´ЗЦІ) Ў ДУ´ШУ. Умешвацца ў асабістае жыццё іншага чалавека. *Чаго ты да мяне ў душу лезяш? Мне і так жыць не хочацца. Цераз мяне хлеў згарэў: забыўся свет выключыць.* г.Косава.

ЛЕПЯТА´ЦЬ ЯЗЫ´КОМ. Гаварыць абы-што. *Сціхні ўрэшці, ні лепячы языком, каб табе заняло.* Альшаніца Квас.

ЛЁ´ГКАЯ РУКА´. Пра ўдачлівага, добразычлівага чалавека. *Так і быць, куплю ў вас цялушачку, каб з вашай лёгкай рукі разжыцца.* Яглевічы Ягл.

ЛЁ´ГКІ (ЛЕ´ТКІ) НА НО´ГІ. Хуткі ў хадзе. *Мой Іван, хоць сёмы дзясяток размяняў, але лёгкі на ногі. Другі малады ні зыдзяцца.* Хадоркі Кос.

ЛЁГКІ НА ПАД'ЁМ. Чалавек, які хутка падтрымлівае ініцыятыву. *Андрэй лёгкі на пад'ём чалавек, з ім добра дружыць. Ён ва ўсякой справе цябе падтрымая.* Жамайдзякі Міл.

ЛЁ´ГКІ НА ЎСПАМІ´Н. Так скажуць таму, хто прыйшоў якраз тады, калі пра яго згадваюць, гавораць. *От, мама, ты лёгка на ўспамін: мы цябе з Андрэём во толькі што ўспміналі.* г.Косава.

ЛЁ´ГКІ ХЛЕБ. Праца, якая не патрабуе высілкаў. *Ты лёгкі хлеб ясі, добрую работу знайшоў: паплаўнічым у калхозі.* Заполле Кос.

ЛЁ´СТАЧКАМІ ДУ´ШУ ДАСТАВА´ЦЬ (ДАСТА´ЦЬ). Падколваць, насміхацца. *Добры то добры, а лёстачкамі душу дастаня гэты добры.* Квасевічы Квас.

ЛІ´КУ НІМА´. Шмат, многа. *Трусоў развялі, то ўжэ ліку німа. Ано есці з крокаці трэба.* Альшаніца Квас.

ЛІСТО´М СЛАЦЬ. Лісліваць, угоднічаць. *У вочы лістом сцеля, а за вочы памыямі аблівая.* Альба Квас.

ЛІ´ХА (ХАЛЕ´РА) ГО´НІЦЬ (ПРЫГНА´ЛА). Так выказваюць нездавальненне, раптоўнаму з´яўленню. *Куды цябе ліха гоніць у гэдаку буру?* Боркі Падст. *Я ано ўзяўся гарэлку гнаць, а тут міліцыянт па хатах ходзіць. І прыгнала яго халера якраз сёні.* Любішчыцы Люб.

ЛІ´ХА (ХАЛЕ´РА) З ІМ (З ТАБО´Й, З ЁЙ, З ВА´МІ, З ІМІ´). Няхай будзе так, як ёсць. *Ліха з ім, выжануць з работы то выжануць, але я нікому ні хачу кланяцца.* Хрышчонавічы Квас.

ЛІХАМА´НКА ПРЫНЯСЛА´. Пра таго, хто прыйшоў, з'явіўся не ў пару, недарэчы, не тады, калі трэба. *Нікуды я з табою ні пайду, спаць трэба класціся, ліхаманка цябе прынясла.* Альшаніца Квас.

ЛІ´ХА (ХАЛЕ´РА) НЕ БЯРЭ´. Нічога не шкодзіць. *Гэтыя п'яніцы і спяць на холадзі, і ядуць абы-што, і ліха іх не бярэ.* г.Івацэвічы.

ЛІ´ХА ТВАЁЙ МА´ТАРЫ. Так выказваюць незда-

вальненне, абурэнне. *Не пазычыў ты мне грошай, ліха тваёй матары. Можа, і табе што прыдзяцца папытаць.* Гошчава Стайк.

ЛІ́ХА (ХАЛЕ́РА) ЯГО́ ВЕ́ДАЕ. Невядома. *Ліха яго ведае, дзе я паклала грошы. Прышоў чалавек дрова парэзаць ды німа чым разлічыцца. От памяць старэчая.* Квасевічы Квас.

ЛІХА́Я ДО́ЛЯ – ЦЯ́ЖКІ ЛЁС. Г.зн. не шанцуе ў жыцці. *За што ні вазьмуся, усюды няўдача. Эх, ліхая доля – цяжкі лёс.* Альшаніца Квас.

ЛІХА́Я СВЯКРО́Ў. Дрэнны, злы чалавек. *Ты ліхая свякроў: бурчыш ды бурчыш.* Квасевічы Квас.

ЛІХІ́Я ВО́ЧЫ. Зайздросныя, сурочлівыя. *Я сваё суседкі баюся: надто у яе ліхія вочы.* Заполле Кос.

ЛІ́ХО НІ ВО́ЗЬМЯ. Нічога дрэннага не здарыцца. *Ліхо ні возьмя – і пешы дахаты зойдзяш.* Размеркі Стайк.

ЛІ́ШНІ РОТ. Хтосьці чужы ў сям'і. *Пасля вайны многа сірот было. Хоць лішні рот, але бралі людзі і гадавалі як сваіх.* Квасевічы Квас.

ЛІЦЬ СЛЁ́ЗЫ. Горка плакаць. *Праз каторы гадок слёзы лье па сыну, на матацыклі разбіўся.* г.Косава.

ЛІЦЬ ЯК З ВЯДРА́. Пра навальны дождж. *На вуліцы свету-быту ні відно: лье дождж як з вядра.* Альшаніца Квас.

ЛОБ У ЛОБ. Усутыч. *Хацеў сёні ні пайсці на работу ў калхоз, застацца дома. Думаю, пайду схаваюся дзе ў хлеў. Ано я дзверы адчыніў – лоб у лоб з брыгадзірам. Вот і застаўся!* Заполле Кос.

ЛО́МАНАГО ГРО́ША НЕ ВА́РТЫ. Зусім нічога. *Купіў ты гэту газонакасілку, а яна ломанаго гроша не варта. Усё псуецца, у яе матор слабы.* Стайкі Стайк.

ЛУПІ́ЦЬ ЯК СІ́ДАРАВУ КАЗУ́. Моцна біць. *Яшчэ дзед мой расказвоў: у царской школі за непаслушэнства лупілі як сідараву казу.* Заполле Кос.

ЛУ´СКАЦЬ ЯК АРЭ´ШКІ. Лёгка спраўляцца з чым-небудзь. *Мой унучок задачкі як арэшкі луская, любую за пяць мінут рошыць.* г.Івацэвічы.

ЛЫ´КО НІ ВЯЗА´ЦЬ. Напіцца да страты прытомнасці. *Прышоў ад зяця, то лыка ні вяжа. І ні брыдко яму гэдык напівацца.* Скураты Квас.

ЛЫ´НДЫ БІЦЬ. Гультаяваць. *Дождж ідзе, у лесі рабіць ні можно, то цэлы дзень лынды б'ем.* Бялавічы Кос.

ЛЫ´ПАЦЬ ВАЧЫ´МА. 1. Саромецца. *Украў сын матацыкла ў суседа пакатацца, а мне лыпай вачыма перад чалавеком.* Руда Падст. 2. Маўчаць, не ведаць, што адказаць. *Пытаюся ў мужыка, дзе ён падзеў грошы. Стаіць, лыпая вачыма.* Альшаніца Квас.

ЛЫ´ЧКО ПА РАМЕ´НЬЧЫКУ. Так скажуць пра хуткую перадачу паведамленняў, навін, плётак адзін аднаму. *Ано прывязлі хвацкія боцікі ў магазін, лычко па раменьчыку: праз гадзіну усё сяло зная.* Квасевічы Квас.

ЛЯЖА´ЦЬ КАЛО´ДАЮ. Гультаяваць. *Ляжыш калодаю цэлы дзень, як табе і бокі ні баляць.* Скураты Квас.

ЛЯЖА´ЦЬ КРЫ´ЦАЮ. 1. Ляжаць ціха, спакойна. *Лёг, то ляжы крыцаю, ні балбачы.* Заполле Кос. 2. Нічога не рабіць, гультайнічаць. *Ляжыць крыцаю цэлы дзень, вады ў хату ні прынясе.* Альшаніца Квас.

ЛЯЖА´ЦЬ ЛО´ГМА. Без руху. *Захварэў мой чалавек, логма ляжыць.* Бялавічы Кос.

ЛЯЖА´ЦЬ НА БО´ЖОЙ ПАСЦЕ´ЛІ. Быць пры смерці. *Алена ўжэ на Божой пасцелі ляжыць, паседнія дзянькі дажывая.* г.Косава.

ЛЯЙЧЫ´НА ПАД ХВОСТ ПАПА´ЛА. Пра таго, хто ўпарціцца, не слухае іншых. *Усё, яго ўжэ ніхто нізрушыць з месца, яму ляйчына пад хвост папала. Будзя стаяць на сваём да канца. Гэто ні першы раз.* Мілейкі Міл.

ЛЯ´ПАЦЬ (МАЛО´ЦЬ) ЯЗЫ´КОМ. Балабоніць, балбатаць, гаварыць абы-што. *Памаўчы, дай другім ака-*

*зацца, ні ляпай языком. Цэлы дзень меляш, а ўмалоту ніякага.* Скураты Квас.

ЛЯПІ´ЦЬ ДЗЯЦЕ´Й. Нараджаць *І шчо гэтыя маладыя сабе думаюць? Лепяць дзяцей адно за адным. А іх карміць, апранаць трэба.* Альшаніца Квас.

ЛЯ´ПНУЦЬ ЯК ПАСТАЛО´М ПА ВАДЗЕ´. Сказаць абы-што, не да ладу. *Ну, ты і сказаў, як пасталом па ва-дзе ляпнуў.* Альшаніца Квас.

ЛЯ´СКАЦЬ ЗУБА´МІ. Змерзнуць. *Адзелася слабавато, а мароз на дварэ, то во жду аўтобуса і ляскаю зубамі.* г.Івацэвічы.

ЛЯЦЕ´ЦЬ БЕЗ ДУ´ХУ. Хутка бегчы. *Сабакі спалохалі, то ляцела без духу дахаты.* Бялавічы Кос.

**М**

МАЗГО´Ў НІМА. Някемлівы чалавек. *У гэтаго чалавека зусім мазгоў німа. Разумны тут хату не ставіў бы: жывое балото. Тут і пограба ні выкапаяш, і градам нізко.* Хрышчонавічы Квас.

МАЗО´ЛІЦЬ ВО´ЧЫ. Назаляць. *Не мазоль вочы, адыдзіся. Разбяруцца без цябе. Усюды табе трэба нос уткнуць.* Сярадава Жытл.

МАІ´М СЛО´ВОМ. Ад майго імя сказаць. *Скажы маім словом: хай ідзе дахаты, калі ні хоча папружкі палучыць.* Скураты Квас.

МА´ЙСТАР НА ЎСЕ РУ´КІ. Умелы, здатны да ўсякае работы. *Мой цесць – майстар на ўсе рукі: што ні гляня – усё зробіць.* Альшаніца Квас.

МА´КАВАГО ЗЯРНЯ´ЦІ Ў РО´ЦІ НЕ БЫЛО´. Доўга быць галодным. *Як у цэркоў іду, то ніц ні ем. Абед ужэ, а ў мяне яшчэ і макаваго зярняці ў році не было.* Бялавічы Кос.

МАЛАДЫ´, А (ДЫ) РА´ННІ. Хлопец, які маладым жэніцца. *Бач, Максім, малады, але ранні. Яшчэ да арміі ажаніўся. Мусіць, баяўся, каб дзеўка замуж не пайшла,*

*пакуль будзя служыць.* г.Косава.

МАЛАДЫ´ ВЕК. Юнацкія, маладыя гады жыцця. *Ён рано памёр, у маладом веку.* Яблонка Жытл.

МАЛАКО´ НА ГУБА´Х НЕ АБСО´ХЛО. Малады, каб вучыць іншых. *Малако на губах не абсохло, а вучыць мяне, як трэба касіць.* Яглевічы Ягл.

МАЛА´Я СО´ШКА. Неўплывовы чалавек. *Даўней брагадзір у сяле быў ого які начальнік, а сёні ён малая сошка.* Заполле Кос.

МАЛІ´ЦЬ БО´ГА. Прасіць. *Кожны дзень маліла Бога, каб сын жывы з того Афганістана прышоў.* г.Івацэвічы.

МА´ЛО КА´ШЫ З'Е´СЦІ. Быць слабым, нядужым. *Што ты бярэшся са мною дужацца? Мало кашы ты яшчэ з'еў, я цябе адной рукой пакачу.* Міхнавічы Стайк. Пакаціць – паваліць, прымусіць упасці.

МА´ЛО СІ´ЛЫ Ў Я´ЙЦАХ. Яшчэ малады, нядужы. *Ні бярыся падымаць гэто палено, дарма ні рвіся. У цябе яшчэ мало сілы ў яйцах.* Заполле Кос.

МАЛО´ЦЬ ЯЗЫ´КОМ (ЯЗЫ´КАМІ). Гаварыць пустое. *Вам абы языкамі малоць. Каб пра што людскае пагаварылі, а то перамываяцця костачкі адзін аднаму.* Заполле Кос.

МА´ЛО ЧАГО´. Што з таго. *Мало чаго ён прыехоў, гэто яго справа.* Юрчыкі Квас.

МАЛЫ´М НА СВІНЕ´ КАТА´ЎСЯ. Так кажуць пра чалавека з крывымі нагамі. *У чалавека крывыя ногі. У нас кажуць: бо малым на свіне катаўся.* Яглевічы Ягл.

МА´ННА З НЕ´БА СЫ´ПЛЯЦЦА (ПА´ДАЕ). Так кажуць пра чалавека, якому шанцуе. *От чалавеку шанцуя. Яму як манна з неба сыпляцца. Карова ацялілася – двоя цялят прывяла, свіня апарасілася – усе парасята жывыя. А тут адна бяда за другою.* Гошчава Стайк.

МАРО´З ПА ЦЕ´ЛІ ПРАБЕ´Г. Спалохацца ад нечаканасці. *Ішоў лесом, сава як закугікала, аж мароз*

*па целі прабег.* Альшаніца Квас.

МА´СЛО МАСЛЯНЕ´ЙШАЕ, СА´ЛО САЛЬНЕ´ЙШАЕ. Так кажуць пра хвалька. *У яго ўсё самае лепшае: і карова, і свіня, і куры па два яйца ў дзень нясуць. У яго масло маслянейшае, сало сальнейшае.* Заполле Кос.

МА´СЛОМ (МЕ´ДОМ) ПА СЭ´РЦЫ. Так кажуць, калі нечыя словы радуюць. *Хваляць майго зяця, а мне гэто маслом па сэрцы.* г.Косава.

МАХА´ЦЬ ПАСЛЯ´ БО´ЙКІ КУЛАКА´МІ. Парада таму, хто стараецца апраўдацца пасля здарэння, падзеі. *Пасля бойкі кулакамі не махаюць: што зрабілі, тое зрабілі, не трывож душу.* г.Косава.

МАХНУ´ЦЬ РУКО´Ю. Адступіцца, не звяртаць увагі. *І крычаў, і біў нават, а ён хаваяцца па завуголлі і курыць. То я махнуў рукою. Хай лепяй на вачах курыць, а то яшчэ пажару наробіць.* Квасевічы Квас.

МАЎЧА´ЦЬ, ЯК ВАДЫ Ў РОТ НАБРА´ЎШЫ. Зацята, доўга (маўчаць). *Нашто ты палез па тыя агуркі да дзядзька? Шчо, сваіх німа? Чаго маўчыш, як вады ў рот набраўшы?* Заполле Кос.

МАЯ´ ХА´ТА З КРА´Ю. Мяне гэта не датычыцца. *Ні рабеця за мною зводы, ні ўвязвайця мяне ў сплетні, я нічого ні хачу ведаць, знаць. Мая хата з краю.* Старажоўшчына Кос.

МЕ´ДОМ НАМА´ЗАНО. Тое, што прыцягвае. *Цэлымі днямі прападаяш у Васілёвых. Табе там што, медом намазано?* Старажоўшчына Кос.

МЕ´РАЦЬ АДНО´Й МЕ´РКАЙ. Ацэньваць усіх ці ўсё аднолькава. *Ні мерай усіх адной меркай. Як лес бывая ніроўны, так і людзі.* Хрышчонавічы Квас.

МЕ´РАЦЬ НА АДЗІ´Н КАПЫ´Л. Павярхоўна, нікога не выдзяляючы, ацэньваць людзей, іх справы. *Людзі розныя, ні мерай усіх на адзін капыл.* Ёдчыкі Квас.

МЕ´СЦА НЕ ЗНАХО´ДЗІЦЬ. Хвалявацца, перажываць. *Паехоў па рыбу і прапаў. Сцямнело і пастаяло, а*

*яго німа. Месца сабе не знаходжу.* Заполле Кос.

МЕ´ТАР З ША´ПКАЮ. Малы, недарослы. *Які з яго кавалер – метар з шапкаю.* Альшаніца Квас.

МЕЦЬ БО´ГА Ў СЭ´РЦЫ. Спагадаць. *Мае Бога ў сэрцы мой сусед: і вады мне, старой, прынясе, і дроў, і хлеба купіць. Золато, а не чалавек, дай Бог яму здароўя.* Воля Жытл.

МЕЦЬ ГА´НЬБУ. Мець які-небудзь недахоп, загану. *Хоць і ганьбу мела, накульгвала, але хлопца знайшла сабе добраго.* Заполле Кос.

МЕЦЬ ЗУБ. Не любіць. *Я даўно на яго зуб маю, яшчэ з тае пары, як ён маё сено ў Візджарах забраў.* Бялавічы Кос.

МЕЦЬ СВАЮ´ ГО´ЛОЎ НА ПЛЯЧА´Х. Гэта парада чалавеку спадзявацца на свой розум. *Пара сваю голоў на плячах мець, а ты ўсё сваіх дружбакоў слухаяш.* Гошчава Стайк.

МЕЦЬ СЭ´РЦО. Быць літасцівым. *Паслухай, май сэрцо, даруй ты майму сыну. Я загараджу табе плота, што ён трактаром паламаў. Не заяўляй у міліцыю.* Верашкі Квас.

МЁРТВАЙ ХВА´ТКАЙ. Моцна. *Мёртвай хваткай ухапіўся за чын, за пасаду, добра яму кладаўшчыком. Амбарнаго ключа ў яго з рук ні вырвяш.* Заполле Кос.

МІЗІ´НЦА НІ ВАРТ. Недастойны, не заслугоўвае павагі. *Ты майго мізінца ні варт, я і гаварыць з табою ні хачу.* Быч Стайк.

МІКАЛА´ЕЎСКІ КАВАЛЕ´Р. Стары халасцяк. *На старога халасцяка ў нас кажуць мікалаеўскі кавалер.* Размеркі Стайк.

МІ´МА ВУШЭ´Й. Няўважліва слухаць. *Казалі, што заўтра будуць соткі дзяліць на полі, а я міма вушэй прапусціў. То папашукаў сваю дзялку.* Була Міл.

МІНУ´ТА Ў МІНУ´ТУ. У час, дакладна. *Мінута ў мінуту аўтобус прышоў.* Даргужы Міл.

МНО´ГО ВАДЫ´ СПЛЫЛО´. Прайшло шмат часу. *Пасля вайны много вады сплыло. Ужэ ў сяле ні засталосё ні аднаго франтавіка.* Заполле Кос.

МО´ВУ АДНЯЛО´. Перастаць гаварыць, размаўляць. *Мой чалавек як засердзіцца на мяне, то ў яго адразу мову адымая.* Альшаніца Квас.

МО´ЖНО Ў ПЛУГ ЗАПРАГА´ЦЬ. Так кажуць пра дужага, здаровага чалавека. *Бачыш, наеў мурло на мацярыных харчах. Цябе можно ў плуг запрагаць.* Заполле Кос.

МО´ЖНО ЯЗЫ´КА ПАЛАМА´ЦЬ. Так скажуць, калі слова, словазлучэнне вельмі цяжка вымавіць. *Рабіла ў нас у школе настаўніца. Клікалі яе Гертруда Веніямінаўна. Языка можно паламаць, пакуль выгаварыш. То дзеці меншыя ніяк ні маглі навучыцца правільно называць. І смех і грэх. Трэба было што папытацца, то маўчалі.* г.Івацэвічы.

МО´ЗГІ АДСО´ХЛІ(ВЫ´САХЛІ,ПАВЫСЫХА´ЛІ). Так скажуць таму, хто робіць абы-што. *Прывёз дрова і ляпнуў пасярод дарогі. У цябе шчо, мозгі павысыхалі?!* Гошчава Стайк.

МО´ЗГІ ВА´РАЦЬ. Разумны, вынаходлівы чалавек. *У гэтаго хлопца мозгі вараць.* Скураты Квас.

МО´КРАЕ МЕ´СЦА ЗАСТАНЕ´ЦЦА. Так пагражаюць карай, расправай. *Троняш яшчэ раз майго хлопца хоць пальцом, мокрае месца ад цябе застанецца.* г.Івацэвічы.

МО´РО ПА КАЛЕ´НО. Нішто не страшна. *Як вып'я, то яму моро па калено: нікого і нічого ні прызнае, робіць, што здумая.* г.Косава.

МРУЦЬ (ПА´ДАЮЦЬ) ЯК МУ´ХІ. Паміраюць адзін за адным. *Чарнобыль нарабіў бяды нам: людзі мруць як мухі. І ні ведаяш, як ратавацца ад гэтае радыяцыі.* Квасевічы Квас.

МУ´ЛЯЦЬ ВО´ЧЫ. Замінаць, перашкаджаць. *Што*

*я табе, вочы муляю? Я сваю работу раблю, а ты сваю рабі.* Руда Падст.

МУРА´ШКІ БЕ´ГАЮЦЬ ПА ЦЕ´ЛІ (ПА СПІНЕ´, ПА СКУ´РЫ). Адчуваць дрыжыкі ад жудасці, страху. *Пайшоў па грыбы, заблудзіўся, убіўся ў страшную нетру. Ад страху мурашкі забегалі па целі.* г.Івацэвічы.

МУ´ХА ПРАЛЯЦІ´ЦЬ – ЧУТНО´. Незвычайна ціха. *Бацько ў мяне быў строгі чалавек. Бало, сядзям абедаць ці вячэраць, то муха праляціць – чутно. Ніхто ні смеў голасу падаць.* Заполле Кос.

МУ´ХІ ДО´ХНУЦЬ. Так кажуць, калі гаворка нецікавая, сумная, нудная. *Як станя лекцыю чытаць, то гатоў усе пазасынаць – мухі дохнуць.* Кушняры Падст.

МУ´ХІ НЕ ПАКРЫ´ЎДЗІЦЬ. Рахманы, добрай душы чалавек. *Міхась твой да таго добры, ён мухі не пакрыўдзіць. Пашанцавало табе з мужыком.* г.Івацэвічы.

МУ´ХІ Ў НО´СІ ЗАВЯЛІ´СЯ. Чалавек з норавам, найхутчэй капрызны. *У цябе мухі ў носі завяліся, ці шчо? Еш, шчо наварыла, ні выбірай.* Верашкі Квас.

МУЦІ´ЦЬ ВО´ДУ. Уносіць разлад. *Добра жыла б з мужыком, каб ні ятроўка. Яна воду муціць, лезя да нас у сям'ю.* Альшаніца Квас. Ятроўка – жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата.

МУ´ЦІЦЬ І НЕ ЗАСМЯЕ´ЦЦА. Чалавек, які на поўным сур'ёзе расказвае неверагодныя, фантастычныя гісторыі. *От, чалавек – муціць і не засмяецца, каб гэтаму праўда была.* Жытлін Жытл. Муціць – маніць, хлусіць, ілгаць.

МУ´ЦІЦЬ ЯК ШЫ´Я. Фантазёр, манюка. *Але ўмея складно гаварыць, муціць як шыя, і не засмяецца.* Косава Кос.

МЫ´ЛІЦЬ (НАМЫ´ЛІЦЬ) ШЫ´Ю. Моцна караць. *Яшчэ да канца змены цэлы час, а яны пакідалі работу і*

*сядзяць. То я ім добра шыю намыліў. А палучку добрую хочуць.* г.Косава.

МЫЦЬ (ПЕРАМЫВА́ЦЬ) КО́СТАЧКІ (КО́СЦІ). Абгаворваць. *Бабы зранку збяруцца ля магазіна, ждуць, пакуль хлеб прывязуць. То ўсім косці перамыюць.* Бялавічы Кос.

МЫШ НІ ПРАСКО́ЧЫЦЬ. Ніяк нельга пранікнуць незаўважаным. *Парабілі зараз людзі платы: бетонныя, жалезныя, высокія – мыш ні праскочыць.* Няхачава Стайк.

МЫ́ШЫ ЛЕ́МЯХА З'ЕЛІ. Так кажуць, даючы ацэнку суду. *Украў багаты ў беднаго лемяха з плуга. Бедны падаў на багатаго ў суд. На судзе багаты сказаў, шчо лемяха ён ні краў і шчо лемяха мышы з'елі. Падкупляныя суддзі тут жа з гэтым згадзіліся.* Патлумачыў Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

МЯ́ГКО СЦЕ́ЛЯ ДЫ ЦВЕ́РДО СПАЦЬ. Знешне ветлівы, але падкуслівы чалавек. *З ім вухо трымай востро: ён мягко сцеля ды цвердо спаць.* Галынка Міл.

МЯДЗВЕ́ДЗЬ (СЛОН) НА ВУХО́ НАСТУПІ́Ў. Так скажуць пра таго, у каго адсутнічае музычны слых. *І хоча навучыцца граць, цэлымі днямі праседжвая з гармоняю. Але нічого ні выходзіць: яму мядзведзь на вухо наступіў. г.Косава.*

МЯКІ́НА Ў ГАЛАВЕ́. Няма розуму (звычайна так кажуць пра маладых). *У яго яшчэ мякіна ў галаве: патраціў гэтулькі грошай на сабаку. Кажа, гэто аўчарка, надто разумны. Можа, і праўда разумнейшы за яго.* Мілейкі Міл.

МЯНЕ́ Ў СВІНАРКІ, А ЯГО́ КУДЫ́? *Гісторыя выслоўя такая. Жанчына з партыйным білетам у кармане закрывала і адкрывала шлагбаум на свінарнік: лёгкая работа. Але кіраўніцтва перавяло яе ў свінаркі. Прыйшла ў калгасную кантору да сакратара парткома, паклала перад ім партбілет і сказала: "Мяне ў*

*свінаркі, а яго куды?" Цяпер так кажуць, калі чалавек пападае ў неспрыяльныя для сябе абставіны.* Патлумачыла Лушчык В.І, 1930 г.н., 1997 г. Альшаніца Квас.

МЯНЦІ´ЦЬ ЯЗЫ´КОМ. Гаварыць лухту, балбатаць. *Ах, як твой зяць умея мянціць языком! Гаворыць альбы-што, а гэдык складно, шчо яму верыць хочацца.* Скураты Квас.

МЯНЯ´ЦЬ (ПАМЯНЯ´ЦЬ) БЫ´КА НА ІНДЫ´КА. Прагадваць, пралічвацца, памыліцца ў разліках. *Сваю карову здаў, маладую купіў: лепшая будзя. Памяняў быка на індыка: б'еццa, ні подступу. Трэба путаць кожны раз, як даіць.* Воля Жытл.

МЯНЯ´ЦЬ (ПАМЯНЯ´ЦЬ) ШЫ´ЛО НА МЫ´ЛО. Г.зн. абмен не прынёс выгады, карысці. *Памяняліся косамі з Васілём, думоў, яго лепша. Памяняў шыло на мыло – адна трасца. Нігодная сама касіць ні будзя.* Альшаніца Квас.

МЯНЯ´ЦЬ ЯК ЦЫГА´Н КО´НЯЙ. Часта (мяняць). *Зараз людзі багатыя. Іншы мяняя машыны як цыган коняй.* Бусяж Міл.

МЯСІ´ЦЬ ГРАЗЬ. Ісці па бездарожжы. *Як успомню нашу даўнейшу гуліцу, то ажно косы дыбом устаюць: такія лужэ былі, шчо ано гарачым летом высыхалі. Мясілі гразь.* Заполле Кос.

МЯША´ЦЬ (ЗМЯША´ЦЬ) БОБ З ГАРО´ХОМ. Усё паблытаць. *Ты змяшаў боб з горохом. Гэто Васіль Прымак у польской арміі служыў і ў плен папаў. Яму пасля вайны палякі добру пенсію плацілі. А Мікалая, яго брата, немцы ў Германію вывязлі.* Любішчыцы Люб.

МЯША´ЦЬ (ЗМЯША´ЦЬ) З ГРА´ЗЗЮ. Лаяць, зневажаць, няславіць. *Забегла карова пад яблыню на надворок, то і пастухоў, і мяне з граззю змяшаў.* Хрышчонавічы Квас.

МЯШО´К РАЗВЯЗА´ЎСЯ. Скажуць так пра сям'ю, у якой часта нараджаюцца дзеці. *У іх мяшок развязаўся:*

*што гадок, то жыдок. Ужэ пяцёро дзяцей маюць і яшчэ ходзіць тоўстая.* Альшаніца Квас. Тоўстая – тут: цяжарная.

МЯШО´К САЛО´МАЮ НАБІ´ТЫ. Г.зн. няскладны паставаю. *Здэцца, і ў арміі служыў, а гляняш на яго – мяшок саломаю набіты.* Стайкі Стайк.

**Н**

НА АДВА´Л. Удосталь, уволю, колькі захочацца (пра ежу). *Як заколюць паршука, то ядуць на адвал, а з'ядуць – садзяцца на нішчымніцу.* Квасевічы Квас.

НА АДЗІ´Н АРШЫ´Н МЕ´РАЦЬ. Ацэньваць людзей аднолькава. *Як німа ў лесі роўных сосян, так і людзей роўных німа. Усіх на адзін аршын ні мерай.* г.Івацэвічы

НА АДЗІ´Н ЗУБ (ПАЗУ´Р). Мала, крышку. *Дай кусочок сала, ну, хоць на адзін пазур.* Заполле Кос.

НА АДЗІ´Н ТВАР. Аднолькавыя, падобныя. *Каб ні ведоў, чые сыны, то пазнаў бы: усе на адзін твар з бацьком.* Бялавічы Кос.

НА АДНО´Й ДО´ШЦЫ ПАСТА´Ў – НІ ПЕРАВА´ЖАЦЬ. Аднолькавыя ў паводзінах. *Ні заступайся за сына. Ён ні лепшы за нявестку. Пастаў іх на адной дошцы – адзін аднаго ні пераважаць.* Альшаніца Квас.

НА АДНУ´ МАСЦЬ. Аднолькавыя. *Усе хутаранцы на адну масць: прывыклі жыць на волі.* Заполле Кос.

НА БАКАВУ´Ю (НА БОК). Легчы спаць. *Летом гэдак натомішся: і грады палоць, і на работу, і па ягады хочацца збегаць – вечаром ледзь да ложка дайдзеш. І есці ні хочацца, адразу на бакавую.* Размеркі Стайк.

НАБЕ´ГЧЫ НА ПА´МЯЦЬ. Успомніць. *Набегло на памяць, як з мацяраю ў Зашчыці ягады збіралі. Зайшла гэтым летом, а лесу ні пазнаць: палавіну выразалі, ягаднік прапаў.* Альшаніца Квас.

НА БЕ´ЛАГО КАНЯ´ СЕ´СЦІ. Дапіцца да галюцынацый. *Учоры Сцяпана ў бальніцу забралі: на белаго*

*каня сеў.* Скураты Квас.

НАБІВА́ЦЬ (НАБІ́ЦЬ) ВО́КО. Спрактыкавацца. *Мой бацько быў харошы столяр, цесля. Бало, ано гляня – адразу скажа, колькі дошок трэба на падлогу ў хату.* Альшаніца Квас.

НАБІВА́ЦЬ (НАБІ́ЦЬ) ГУ́ЗА НА ЛБЕ. Вучыцца на ўласных памылках. *Вучы ні вучы, а пакуль ні наб'е гуза на лбе, слухаць ні будзя.* Заполле Кос.

НАБІВА́ЦЬ (НАБІ́ЦЬ) КІШЭ́НЮ. Узбагачацца. *Колькі ў нашом калхозі прадсядацялёў было – пальцоў на руках ні хопіць пералічыць. Наб'юць сабе кішэню і лататы. А вы, дурні, рабеця за капейкі.* Заполле Кос.

НАБІВА́ЦЬ (НАБІ́ЦЬ) РУ́КУ. Налаўчыцца. *Дзед харошы быў пячнік. Так набіў руку, два дні – печка стаіць як лялячка.* Бялавічы Кос.

НАБІРА́ЦЦА (НАБРА́ЦЦА) ДУ́ХУ. Адважыцца, асмеліцца. Набяруся духу, усё нявестцы выскажу. *Ато ж сыну слова ні дасць аказацца. Жыве як прымак у сваёй хаці. А дзеці ўсё гэто бачаць. Які ён будзя прыклад ім?* Скураты Квас.

НАБІРА́ЦЬ (НАБРА́ЦЬ) САБЕ́ Ў ГО́ЛОЎ. Увесь час думаць пра адно і тое ж, пяражываць. *Забалело ў баку, набрала сабе ў голоў невядома чаго. Гатоў была памярці. А гэто камянь заварушыўся ў жоўці. Зрабілі аперацыю, выразалі, як другі раз на свет нарадзілася.* г.Івацэвічы.

НАБІ́ЦЬ НАБІ́ЛЬНІЦЫ. Натаміць ногі. *Ажно пад Смольню па ягады цэліла. Ано набільніцы набіла – ніц ягад німа.* Альшаніца Квас.

НА БЛАГІ́ КАНЕ́Ц. Калі надарыцца самае неспрыяльнае, горшае. *Выбраліся ў дарогу, то едзьмо. Німа чаго адкладаць. На благі канец дарагім пояздом паедзям, як на танны білетоў ні будзя.* г.Івацэвічы.

НА БО́СУ НО́ГУ. Без панчохаў, шкарпэтак і г.д. *Даўней здаравейшыя людзі былі. Ні гэдыкія гнілыя, як зараз. Бало, трэба вады прынясці, то на босу ногу*

*ўступіш у боты і бяжыш да калодзязя. Зімою. І халера ні брала, ніхто ні хварэў.* Бялавічы Кос.

НА БРА´ТА. Кожнаму. *Пры калхозі як было? Збіраюць сходку, рашаюць: па сто пяцьдзясят трударнёў на брата трэба вырабіць. Праходзіць два тыдні, зноў збіраюць: мало сто пяцьдзясят, трэба дзвесця на брата.* Заполле Кос.

НАБРА´ЦЦА ЯК СВІ´НЯ МУ´ЛІ. Быць моцна п'яным. *Усе людзі як людзі на вяселлі, гэто ты адзін набраўся як свіня мулі. г.Івацэвічы.* Муль – твань, іл.

НАБРА´ЦЬ ВАДЫ´ Ў РОТ. Маўчаць. *От харакцяр у майго зяця: маўчыць і маўчыць, як вады ў рот набраў.* Яглевічы Ягл.

НА БУБНЯ´Х. Застацца без нічога. *Ну, думоў, разжывуся: завёў свіней цэлы хлеў. То вушы яны мне аб'елі. Як падлічыў, колькі мукі ім скарміў, то вышло, што на бубнях застаўся.* Стайкі Стайк.

НА БУ´БЯН. 1. Нагола абстрыгчы. *Пастрыжы мяне на бубян.* Бялавічы Кос. 2. Дарэшты, да травінкі. *Каравы выбілі пашу на бубян, галодныя дахаты прыходзяць.* Гошчава Стайк.

НА ВАДЗ´Е ВІ´ЛАМІ ПІ´САНО. Невядома, ці задуманае спраўдзіцца. – *Чула, што твая дачка замуж ідзе? – Гэто яшчэ на вадзе віламі пісано. Кавалер то настае, але ж ёй яшчэ год вучыцца трэба. Які тут замуж.* г.Косава.

НА ВАДЗЕ´ ЗАВО´ДЗІЦЦА. Пра запальчывага чалавека. *З маім мужыком за пяць мінут пасварышся: ён на вадзе заводзіцца.* Альшаніца Квас.

НА ВАЛАСО´К. Зусім блізка ад бяды. *Пажар быў. Як прачнуліся – аднаму Богу вядомо. На валасок ад смерці былі.* Гошчаваа Стайк.

НА ВАЛО´ВОЙ ШКУ´РЫ НЕ СПІ´ШАШ. Усяго многа, усяго было. *Маё жыццё і на валовой шкуры не спішаш. Як паехоў пасля школы з дому, то вярнуўся, як*

*на пенсію пайшоў. Як кажуць, прайшоў Рым, Крым і медныя трубы. Але лепш, як дома, нідзе німа.* Яглевічы Ягл.

НАВАСЦЕ´Й З УСІХ ВАЛАСЦЕ´Й. Вельмі многа і з розных мясцін. *Цэлы тыдзянь ні быў дома, ездзіў да дачкі ў горад. Прыехоў, то навасцей з усіх валасцей.* Грыўда Міл.

НА ВЕ´КІ ВЕ´ЧНЫЯ. Назаўсёды. *На векі вечныя засталосё ў памяці, як бацька на фронт забіралі. Маленькая была, то выцалавоў мяне ўсю. Мусіць, ведоў, што не вярняцца, больш ні пабачымся. Як здумаю, то так душа забаліць. Як бацька мне ні хватало*! Мілейкі Міл.

НА ВЕ´ЦЯР. Упустую крычаць, гаварыць. *Мае словы табе на вецяр. Крычы ні крычы, а ты сваё робіш.* Була Міл.

НАВО´ДЗІЦЬ (НАВЯСЦІ´) ГЛЯ´НЕЦ. Прыводзіць у парадак. *Вялікдзянь на носі, то ў хаці тры дні наводзіла гляняц. Усё перасушыла, вымыла, вышаравала. Аж душа радуяцца: так харашэ стало.* Хрышчонавічы Квас.

НА ВО´ДУ БРАХА´ЦЬ. Наталяць смагу. *Еш, еш следзі, то цэлы дзень будзяш на воду брахаць.* Альшаніца Квас.

НАВО´Й РАДНЯ´НЫ. Пра тоўстага чалавека. *Прывязла сабе мужыка Маня з цаліны. То гэто ні чалавек, а навой радняны – ледзь у дзверы ўлазіць.* Альшаніца Квас. Навой – пярэдні і задні валік у кроснах. Радняны – зроблены з радна. Радно – тоўстае палатно з грубай ільняной пражы.

НА ВО´КО. Прыблізна, не мераючы. *Калі на воко прыкінуць, соток трыццаць сенакосу будзя, ня меней.* Жытлін Жытл.

НА ВО´ЎКА. Нашто, навошта. *На воўка мне конь, зараз на машынах усе ездзяць.* Заполле Кос.

НА ВУХО´. Ціха, таемна, па сакрэце. *Хадзі сюды, нешчо на вухо скажу табе, толькі каб больш нікому не казала.* Хадакі Жытл.

НА ВУША´Х ПРЫЙСЦІ´. П'яным. *На праводзінах у плямянніка быў, то прышоў дахаты на вушах. Гэдык направодзіўся.* Заполле Кос.

НА ВЯКУ´. За жыццё. *На вяку ўсяго было: і добрага, і кепскаго.* Гічыцы Ягл.

НА ВЯЛІ´КДЗЯНЬ НІ ЗАСМЯЕ´ЦЦА. Пра панурага чалавека. *Ён век надуты, і на Вялікдзянь ні засмяецца.* Бялавічы Кос.

НА ВЯЛІ´КІЯ СЛЁ´ЗЫ. На бяду, на няшчасце. *Бядовае гэтае хлапчаня, вырасло бацькам на вялікія слёзы.* Альшаніца Квас.

НА ВЯРБЕ´ ДУ´ЛІ РАСТУ´ЦЬ. Так скажуць пра хлуса, падманшчыка. *У яго на вярбе дулі растуць.* Квасевічы Квас.

НАВЯСЦІ´ ДЗЯЦЕ´Й. Нарадзіць. *Мая ўнука навяла дзяцей поўну хату. І як яна іх пагадуя?* Сярадава Жытл.

НАГАВАРЫ´ЦЬ ЦЭ´ЛАЕ БЯРЭ´МЯ. Так скажуць з пэўнай доляй іроніі пра таго, хто доўга гаворыць пра нешта. *Нагаварыў цэлая бярэмя, а я так і ні дапетрыў, дзе яго ўнук робіць.* Мілейкі Міл.

НАГАДАВА´ЦЬ СА´ЛО. Патаўсцець. *Работа спакойная, лёгкая – сторажам раблю, то нагадаваў сала. Зара думай, як пахудаць.* Быч Стайк.

НАГА´ ЗА НО´ГУ. Маруднаісці, плесціся. *Хочацца лепшых ягад, то ажно ў Смольню цэлілі. Туды дзесяць вёрст да назад, то так патаміліся, нага за ногу чаплялася. Ледзь прышлі з тымі ягадамі.* Альшаніца Квас.

НАГА´ НІ СТУПА´ЛА. Глухое месца. *Пайшоў па грыбы, заблудзіўся. Улез у такую нетру, што чалавечая нага ні ступала.* Альшаніца Квас.

НА ГАРАБ'І´НЫ СКОК. Трошкі. *Прысвяток е, Варвары. Кажуць у нас так: Варвары ноч уварвалі, а дзень прыткалі. І дзень тады прыбывая на гараб'іны скок.* Заполле Кос.

НА ГАРА´ЧЫМ УЧЫ´НКУ. На месцы злачын-

ства. *Палез красці – ды засталі на гарачым учынку.* Сярадава Жытл.

НАГАСТРЫ´ЦЬ ЛЫ´ЖЫ. Накіравацца. – *Ну, куды нагастрыў лыжы? – Ды вот пайду да швагра, раскалю на бутэльку.* Жамайдзякі Міл.

НАГНА´ЦЬ АСКО´МУ. Надакучыць. *Слухай, жонка, кожны дзень яечня ды яечня, зараз закукарэкаю. Аскому мне твая яечня нагнала.* Альшаніца Квас.

НА ГО´ЛОМ МЕ´СЦІ. З нічога. *На голом месці сварку ўчыніў. Прычапіўся да мяне, нашто я, старая, губы памадай намазала. А ў мяне яны абветрылі, патрэскаліся.* г.Івацэвічы.

НА ГРАША´Х. Забяспечаны, багаты. *А што, ён хлопяц на грашах, выходзь за яго замуж.* г.Косава.

НАГРЭ´ЦЬ ЛОБ. Старанна, да поту працаваць. *Пакуль спраталі торф, то добра нагрэлі лоб. Пяць тон перанясці ў падпаветку – гэто табе не жартачкі.* Размеркі Стайк.

НАГРЭ´ЦЬ ЯЗЫ´КА НА СОНЦЫ. Пацяплець (пра надвор'е). *Снег зыдзя, то ўжэ можно нагрэць языка на сонцы.* Альшаніца Квас.

НА ГУБА´Х МЁД, А Ў СЭ´РЦЫ ЛЁД. Пра чалавека, які ў вочы ліслівіць, а за вочы аблівае брудам. *Ты яму ні вер, ты яго ні слухай: у яго на губах мёд, а на сэрцы лёд. Ніякі гешэфт з ім ні вядзі.* Заполле Кос.

НАДАВА´ЦЬ У КАРШЭ´НЬ. Набіць, пакараць. *Сын мой пакінуў жонку з дзецьмі. То злосць такая мяне ўзяла, добра надаваў у каршэнь і выгноў з хаты.* Размеркі Стайк.

НАДАКУ´ЧЫЦЬ БО´ГУ І ЛЮ´ДЗЯМ. Апрыкраць. *Сціхні, надакучыў Богу і людзям, дай чалавеку слово сказаць.* Галенчыцы Ягл. *Хварэю каторы год, паправунку ніякаго. Надакучыў ужэ Богу і людзям.* Скураты Квас.

НАДАРВА´ЦЬ ЖЫВАТЫ´ АД СМЕ´ХУ. Рагатаць. *На Новы год Маруся з Андрэём Гарохом панадзяваліся*

*цыганамі, прышлі ў клуб на ёлку. Людзі з іх надарвалі жываты ад смеху.* г.Косава.

НА ДАРО´ЗІ НІ ВАЛЯ´ЯЦЦА. Дабрабыт не прыходзіць без працы і намаганняў. *Цяжко дасталася нам гэта хата, нічого на дарозі ні валяяцца. Усё трэба было купіць.* Бялавічы Кос.

НА ДВА СЛО´ВА. Для кароткай размовы. *Выйдзі на два слова. Я хачу ў цябе папытацца, дзе ты купляў трактара.* г.Косава.

НА ДЗЕНЬ БЯРЭ´ЦЦА. Світае. *На дзень бярэцца. Ужэ птушкі заспявалі, небо на ўсходзі паружавело.* Жамайдзякі Міл.

НА ДЗІ´ВО. Нечувана, непрадказальна. *Гэты год на дзіво харошыя маліны: і вядроныя, і вялікія. Уміг вядро назбіраяш.* Бусяж Міл.

НА ДО´БРЫ ЛАД. Так, як павінна быць. *На добры лад, то ні шкадаваў бы тых грошай, памагаў бы, чым мог, сыну. Але ж усё без толку: ён пачаў у бутэльку заглядваць.* г.Івацэвічы.

НА ДО´БРЫМ СЛО´ВІ. На абяцанні. *Лаўлю цябе на добрым слові: як ано пацяплее, пераробіш мне печку.* Грыўда Міл.

НА ДО´БРЫ РО´ЗУМ. На разумную галаву. *Як на добры розум, то трэба думаць, як хату паставіць, а не машыну купляць. У машыні жыць ні будзяш.* Няхачава Стайк.

НАД СА´МЫМ ВУХО´М. Побач, блізка. *Над самым вухом зазвінеў камар: усё, сну німа.* Галенчыцы Ягл.

НА ДУРНЯ´К. Лёгка, без намаганняў і цяжкасцей. *Пашэнціла мне, на дурняк дастаў рыбы.* Заполле Кос.

НАДУРЫ´ЦЬ ГАЛАВУ´. Натлуміць. *Унукі за дзень як надураць галаву, то гатоў дзе ўцякаць.* г.Івацэвічы.

НА ДЫБЫ´ СТАЦЬ. Гарачыцца, бунтаваць. *Ты мне на дыбы ні станавіся, а рабі, шчо кажуць.* Альшаніца Квас.

НАЕ´СЦІ МО´РДУ. Паправіцца, пасычаць. *Ажаніўся, то жонка добра стала карміць. Бач, наеў морду, кот за тры дні не абліжа.* Яглевічы Ягл.

НАЕ´СЦІСЯ БО´БУ. Мець цярпенне. *З табою гаварыць, то трэба наесціся бобу.* Гошчава Стайк.

НА ЖЫВУ´Ю НІ´ТКУ ШЫ´ТО. Нетрывала, ненадзейна зрабіць што-небудзь. *Твой свініняц на жывую нітку шыты, праз год разваліцца.* Альшаніца Квас.

НА ЗАВО´Д. Купіць для развядзення. *Купіў у калхозі насеннікоў на завод. Кажуць, смачныя гэтыя картоплі і фітафторы ні баяцца.* Галік Міл.

НА ЗДАРО´ЎЕ. Г.зн. рабі тое, што задумаў. *Я табе кажу, каб ты ні ехоў у лес, бо кудаса на дварэ. Але едзь на здароўе: дурню закон ні пісаны.* Заполле Кос. Кудаса – завея, мяцеліца.

НА ЗЛО. Спецыяльна рабіць непрыемнае. *Яна ўсё на зло рабіла: як ён уніз, то яна ўгору.* Альшаніца Квас.

НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ´. З рызыкай для жыцця. *Страшно па гуліцы ісці: ляцяць на гэтых машынах на злом галавы.* Гічыцы Ягл.

НА ЗУБО´К. Добра вывучыць, знаць. *Папытаю дома – на зубок зная. А пайдзе ў школу, вызавуць, пачне путацца. Ці баіцца, ці саромеецца, Бог яго ведая.* Галік Міл.

НА ІРХУ´ ВЫ´СТРУГАЦЬ. Зрабіцца тонкім, худым (пра чалавека). *Нечым атруціўся, то рвало мяне з усіх канцоў. На ірху выстругало.* Заполле Кос. Ірха – аблямоўка з тонкай палоскі скуры.

НАЙШЛА´ КАСА´ НА КА´МЯНЬ. Не знайсці паразумення, не ўступаць адзін аднаму. *Яны жыць ні будуць, бо ні чуюць адзін аднаго. Ніхто ўступаць ні хоча. Пра такіх кажуць: найшла каса на камянь.* Була Міл.

НА КАЗЕ´ НЕ ПАД'Е´ДЗЯШ. Цяжка падступіцца, паразумецца. *От чалавек, да яго і на казе не пад'едзяш: любіць, каб перад ім спіну гнулі.* Размеркі Стайк.

НА КАНЕ´ І ПАД КАНЁ´М. Так скажуць пра чалавека, які быў у розных сітуацыях. *Ён чалавек біты, быў на кане і пад канём.* Харошча Мil.

НА КАПЕ´ЙКУ ВЫ´ПІЎ, НА РУБЕ´ЛЬ ЗАДАЕ´ЦЦА. Чалавек, які любіць пакрасавацца, пахваліцца, пазадавацца. *Бач ты яго: на капейку выпіў, на рубель задаецца. Ідзе па гуліцы, то і здраступ сказаць ні хоча.* Бялавічы Кос.

НА КАРА´ЧКАХ. На руках і нагах. *Так напіўся пасля палучкі, што дахаты на карачках поўз.* г.Івацэвічы.

НА КАСЦЯ´Х. Не шкадуючы людзей. *Дзядзько мой казаў, а ён у сталінском лагеры дзесяць гадоў прамучыўся: "Уся гэтая ўласць на касцях пабудавана".* г.Косава.

НАКЛА´ДВАЦЬ (НАЛАЖЫ´ЦЬ) НА СЯБЕ´ РУ´КІ. Канчаць жыццё самагубствам. *Прышоў без ног з вайны. Бацькі паўміралі, ні было да каго прыхіліцца, то рукі на сябе наклаў.* г.Івацэвічы.

НА КО´РАНІ. Нязжатае (пра збожжавыя расліны). *Як выязджалі ў бежанство ў Расію ў 1915 гаду, то грэчка на корані засталася. Так яна і прапала.* Скураты Квас.

НА КО´РАНЬ НАСТУПІ´ЦЬ. Затрымацца. *Мой сёні пад ранок прышоў: на корань, мусіць, сабе наступіў.* Альшаніца Квас.

НА КРАЙ СВЕ´ТУ. Вельмі далёка. *Забралі ў армію, то завязлі на край свету. Ажно на Чукотцы служыў.* Скураты Квас.

НА КРЫВО´Й КАБЫ´ЛІ НІ АБ'Е´ДЗЯШ. Так скажуць пра хітрага чалавека. *Мой сват кладаўшчыком у калхозі рабіў, у яго нястачы зроду ні было. Яго на крывой кабылі ні аб'едзяш.* Мілейкі Міл.

НАЛАВІ´ЦЬ РЫ´БЫ. Усцацца (пра дзіця). *Памятаю, малым быў, то ўсё дзед пытаўся: "Ну, жулік, прызнавайся: сёні рыбы налавіў?"* Альшаніца Квас.

НА ЛБЕ НАПІ´САНО. Усё ясна, зразумела. – *Ты нашчо яго ў хату пускаяш, гэтаго п'яніцу, пустабрэха? – А шчо ў яго, на лбе напісано, шчо ён п'яніца?* Бялавічы Кос.

НАЛЕ´ВО. Не па прызначэнні. *Гэты цэмент увесь налево пойдзя.* Няхачава Стайк.

НА ЛЕС ГЛЕ´ДЗЯЧЫ. Хутка (расці). *Ты, унучок, расцеш на лес гледзячы. Хутко бацька дагоніш.* Альшаніца Квас.

НА ЛІ´ХО (НА ХАЛЕ´РУ). Навошта, непатрэбна. *На ліхо мне тыя картоплі. Як мне мяшок трэба, то я куплю. Німа мне з кім іх садзіць.* Верашкі Квас.

НА ЛЮДЗЕ´Й ПАГЛЯДЗЕ´ЦЬ І СЯБЕ´ ПАКАЗА´ЦЬ. Пабыць у людзях. *На Ілью ў Бялавічах вялікі фэст. Прыязджаюць з усёй ваколіцы. Кожны хоча на людзей паглядзець і сябе паказаць. Вясяліня!* Заполле Кос.

НА ЛЮ´ДЗЯХ. Сярод людзей. *На людзях гэдыкі добры, хоць да раны прыкладзі. А дахаты прыдзя – да кожнае дробязі чапляяцца. Усё яму ні так, усё яму ні гэдык.* Хрышчонавічы Квас.

НА ЛЯТУ´. Тут жа, адразу. *Мая ўнучка малая яшчэ, а ўсё на ляту схватвая. Такая кемлівая.* Любішчыцы Люб.

НА МІ´ГАХ. Пры дапамозе жэстаў, знакаў. *Міліцыя прышла ў хату. Паказваю на мігах сыну, каб самагонку схаваў у каморцы. А ён ні панімая. Дый знайшлі, штрафу далі.* Жамайдзякі Міл.

НА МО´РДЗЕ ЯК ГАРО´Х МАЛАЦІ´ЛІ. Твар пабіты воспаю. *Даўней прышчэпок ні давалі ад воспы, то як перахварэя хто, то на мордзі як гарох малацілі.* Альшаніца Квас.

НАМЫ´ЛІЦЬ ШЫ´Ю. Аблаяць, набіць. *Пайшлі на музыкі ў Бялавічы, а туды чэрці запалянцоў прыняслі. То намылілі яны шыю і нам, і бялавічам.* Скураты Квас.

НА МЯКІ´НІ НІ ПРАВЯДЗЕ´Ш. Чалавек бывалы, якога цяжка ашукаць. *Антось прайшоў Крым, і Рым, і медныя трубы. Яго на мякіні ні правядзеш.* Любішчыцы Люб.

НА НАГА´Х. 1. Перахварэць, не кладучыся ў пасцель. *Прастудзіўся, галава баліць, кашаль душыць. Але на нагах перахварэў, німа за кім ляжаць.* Скураты Квас. 2. Уставаць вельмі рана. *Бало, збярэмся па ягады, раняњко ўстаням, а мама ўжэ на нагах: аладкоў нам напячэ, каб галодныя ні ішлі.* Альшаніца Квас. 3. У руху, у клопатах. *Цэлы дзень на нагах, німа калі і прысесці.* Сярадава Жытл.

НА НАГА´Х НІ ТРЫМА´ЦЦА. Быць моцна п'яным. *Як палучку палучыць, то ледзьве дахаты прысуняцца, на нагах ні трымаяцца.* Уласаўцы Жытл.

НА НАЖА´Х. Варагаваць. *Мы адзін аднаго цярпець не можам. Колькі я тут жыву, столькі з ім на нажах.* г.Косава.

НА НЕТ. Зусім, дарэшты. *На нет каравы´ аселіцу выялі – адзін бубян.* Заполле Кос.

НА НОС. Так кажуць пра штосьці малое па памерах. *Ну, ты і шапку купіў, на нос хіба адзяваць будзяш.* Жамайдзякі Міл.

НА НО´СІ. Блізка, хутка. *Зіма на носі, а ў цябе палена дроў німа. Які з цябе гаспадар? Адубеяш ты і твае дзеці.* Скураты Квас.

НА НОЧ ГЛЕ´ДЗЯЧЫ. Позна. *Куды ты на ноч гледзячы выбіраяшся ехаць? Кудаса вон на гуліцы, заблудзішся. Снегу ўжэ намяло, а зараз вецяр большая.* г.Косава.

НА ПАВЕ´Р. Пад чэснае слова. *Зараз добра, на павер можно ўзяць у магазіні, шчо хочаш. Запішуць прадаўцы сабе ў кніжачку, а тады з палучкі аддаеш.* Альба Квас.

НА ПАЗУ´Р. Мала, у невялікай колькасці. *Дай па-*

*каштаваць пірага, хоць на пазур.* Альшаніца Квас.

НА ПА´ЛЬЦАХ МО´ЖНО ПЕРАЛІЧЫ´ЦЬ. Вельмі мала чаго. *Выміраюць сёла. Людзей на пальцах можно пералічыць.* Панкі Люб.

НА ПА´ЛЯЦ. Вельмі мала. *Сало на свіні на паляц.* Быч Стайк. *На паляц уліў яму тое гарэлкі, а ён ужэ п'яны.* Халап'я Падст.

НА ПА´МЯЦІ. Пры жыцці таго, хто гаворыць. *На маёй памяці там, дзе зараз на майдане вялікі куст бэзу, даўней школа была, але ў вайну яе парцізаны спалілі.* Альшаніцы Квас.

НА ПА´МЯЦЬ. 1. Нешта дарыць, каб доўга памяталі. *Зараз не пішуць на картачках нічого, а даўней усё пісалі: "На доўгую памяць".* Грыўда Міл. 2. Вывучыць так верш, каб не заглядваць у тэкст. *Як далі вывучыць на памяць вершыка Я.Коласа "Сілачом стаіць дуб разложысты", то і дагэтуль помню.* Аўсто Стайк.

НА ПАПА´ (ставіць). Тарчма. *Пастаў шулку на папа: лягчэй падымяш.* Заполле Кос.

НА ПА´РУ. Удваіх. *Ім ажно можно пазайздросціць. Колькі жывуць, усё разом, на пару. І ў калхоз на работу, і ў лес па ягады. Адна без аднае жыць не могуць.* г.Івацэвічы.

НАПІ´ЦЦА КРЫВІ´. Прыдзіраццa, беспадстаўна нападаць. *Да таго мужык уядлівы, дня ні прайдзе, каб ён мае крыві ні напіўся.* Альшаніца Квас.

НАПЛЯВА´ЦЬ У ДУ´ШУ. Сапсаваць настрой. *На работу іду, як на катаргу: кожны дзень у душу нап-люють.* Заполле Кос.

НА ПНЕ´. Нязрэзаны (пра лес). *Наша хата стаўляна яшчэ пры паляках, у трыццаць чацвёртом годзі. Тут палячок адзін на пне лес прадаваў. Мой бацько пятнаццаць кубоў у яго купіў.* Бялавічы Кос.

НА ПО´РХАЎКУ. Моцна збіць. *Пасля вайны развялося ўсякае шантрапы. Заступілі майго бацька, ехоў*

*з Косава позно вечаром, грошы пыталі. А якія тады грошы ў людзей былі? То збілі на порхаўку.* Альшаніца Квас.

НА ПО´ЎНУ ГУ´БУ. Уволю, колькі хочацца (пра яду). *Усяго ў мяне ўдосталь, ем на поўну губу.* Заполле Кос.

НАПРАЛЁ´Т ВЕ´ДАЦЬ. Добра ведаць. *Ты мяне ні ашукаяш, як ні старайся: я цябе напралёт ведаю. Ты ні паспеяш падумаць, што ты хочаш, а я ўжэ ведаю.* г.Косава.

НАПРАМІ´ЛЫ БОГ. Умольна прасіць. *Напрамілы Бог прашу: ні жаніся да арміі. Як яна цябе любіць, то дажджэцца. А так якая ў цябе будзя служба? Ано будзяш думаць пра сям'ю.* Хадакі Жытл.

НАПУСКА´ЦЬ (НАПУСЦІ´ЦЬ) ТУМА´НУ. Тлуміць, задурваць. *Цыганка прышла, напусціла туману, задурыла голоў. Усе грошы ў мяне выманула, якія былі ў хаці.* Размеркі Стайк.

НА ПУСТЫ´ (ГАЛО´ДНЫ) ЖЫВО´Т. Не паеўшы. *На пусты жывот і галава ні варыць.* Размеркі Стайк.

НА ПЯ´ТЫ НАСТУПА´ЦЬ. Даганяць. *Сын мой вырас. Пайшлі касіць, то ўжэ мне на пяты наступая.* Заполле Кос.

НАПЯЧЫ´ ДУ´ШУ. Замучыць прыдзіркамі. *Напякла душу сваімі прыдзіркамі, яна мне і так баліць.* Альшаніца Квас.

НАРАБІ´ЦЬ ГАЛА´СУ. Пусціць чуткі. *Ано нарабілі галасу па ўсём сяле. Яны яшчэ і ні думаюць жаніцца, бо абоя вучацца.* Гошчава Стайк.

НАРАБІ´ЦЬ ТАРАРА´МУ. Крычаць, лаяцца. *Курыца ў агарод залезла, то такого тарараму нарабіла, ні давядзі, Госпадзі.* Сярадава Жытл.

НАРАБІ´ЦЬ ЯЗЫ´КОЎ. Пусціць чуткі, пагалоскі. *Нарабілі языкоў па сяле, шчо Антось Гарохоў памёр. Бачу: ён на трактары едзя. Доўго жыць будзя.* Мілейкі Міл.

НАРАДЗІ´ЦЦА ПАД ПЛАНІ´ДАЙ. Г.зн. у кожнага свой лёс. *Ні плач, пад такою, значыць, ты планідаю нарадзілася.* Размеркі Стайк.

НАРАДЗІ´ЦЦА Ў САРО´ЧЦЫ. Быць шчаслівым. *Пра яго ўсе кажуць: ён у сарочцы нарадзіўся. Яму ва ўсём шанцуя.* Гошчава Стайк.

НА РАДУ´ НАПІ´САНО. Лёсам прадвызначана, наканавана. *Што на раду напісано, ад таго ні ўцячэш. Як згарэць, то згарыш, як утапіцца, то ўтопішся.* Квасевічы Квас.

НА РАЖНЕ´ БА´ЧЫЦЬ. Жадаць зла, радавацца чужой бядзе. *Ведаю я тваю дабрыню, ты мяне на ражне бачыла б.* Альшаніца Квас.

НА РАЗ УКУСІ´ЦЬ. Трошкі. *Што ты там такое смачнае ясі? Дай і мне на раз укусіць.* Яглевічы Ягл.

НА РУКА´Х. 1. На ўтрыманні. *Засталася пасля вайны ўдавою з чатырма дзецьмі на руках.* Заполле Кос. 2. Несці адказнасць. *На маіх руках уся гаспадарка трымаяцца.* Альшаніца Квас. 3. Памерці ў прысутнасці кагосьці. *На маіх руках мама памярла.* Бялавічы Кос.

НА САБЕ´ КО´СЫ ДРАЦЬ (РВАЦЬ). Мучыцца ад роспачы, ад бяссілля перад бядою. *Сына трактар пераехоў, то косы на сабе драла.* Альшаніца Квас.

НА САЛО´МІ СПАЎ, ПАЗУРА´МІ ЧУХО´ЎСЯ. З простай сялянскай сям'і. *На саломі спаў, пазурамі чухоўся, а зара пана з сябе строіць.* Хрышчонавічы Квас.

НА СВАЕ´ ВУ´ШЫ. Асабіста (чуць). *На свае вушы чуў, што нашу бальніцу закрыюць. І як мы будзям дабірацца да Вацэвіч?* г.Косава.

НА СВАЁ´Й ШКУ´РЫ. Адчуць, паспытаць, зведаць на сабе. *Як на сваёй шкуры ні паспытаяш, то нічому ні навучышся.* Размеркі Стайк.

НА СВАЁ´М ХЛЕ´БІ. Матэрыяльна ні ад кога не залежаць. *Жыву на сваём хлебі. Нікому ні кланяюся.* Грыўда Міл.

НА СВАІ́Х ДВАІ́Х. Пехатою. *З самых Вацэвіч на сваіх дваіх дахаты прышоў. Але падбіўся.* Бялавічы Кос.

НА СВАІ́Х НАГА́Х. У здароўі. *Добра на сваіх нагах да смерці дажыць, каб не абрыднуць нікому.* Няхачава Стайк.

НА СВАЮ́ ГО́ЛОЎ. Сабе на клопаты. *Узяў ды купіў парасят на сваю голоў. Жонка карміць ні хоча – адзін ду*рэю. Даргужы Міл.

НА СВАЮ́ ШЫ́Ю. На догляд, утрыманне. *Узяла на сваю шыю гэтаго гультая, а цяпер мучаяцца.* Стайкі Стайк.

НА СВЕ́ЖУ ГО́ЛОЎ. Пакуль нястомлены. *Ужэ спрактыкаваўся: ні ведаяш, як зрабіць, – адкладзі на ранок. На свежу голоў лепяй думаяцца.* Падстарынь Падст.

НА СВІНЕ́ КАТА́ЎСЯ. Так скажуць пра чалавека з крывымі нагамі. *Гэты хлопяц малым, відаць, на свіне катаўся: натто ногі крывыя.* Хрышчонавічы Квас.

НА СВЯТЫ́Я НІ́ГДЫ. Ніколі. *Мусіць, ты мне доўг на святыя нігды аддасі.* Стайкі Стайк.

НАСІ́ЦЦА ЯК З ЛЯ́ЛЬКАЮ. Мучыцца (з хвораю нагой ці рукой). *Нашуся з рукою як з лялькаю ўжэ другі месяц, і канца не відаць: не зажывая рана.* Мілейкі Міл.

НАСІ́ЦЦА ЯК КУ́РЫЦА З ЯЙЦО́М. Асцярожнічаць. *Што ты носішся з гэтаю торбаю як курыца з яйцом? Што там у цябе – золато ляжыць?* Ёдчыкі Квас.

НАСІ́ЦЬ НА РУКА́Х. Шанаваць, берагчы. *Мой зяць надто добры: дачушку маю на руках носіць, цаны яму ні складу.* г.Косава.

НА СКО́РУ РУ́КУ. Хутка. *Да вечара картоплі капалі, каб скончыць. Есці пахацелі, то на скору руку яечні з салом насмажыла.* Альшаніца Квас.

НАСКО́ЧЫЛА КАСА́ НА КА́МЯНЬ. Так скажуць пра тых, што ніяк не пагодзяцца, не дамовяцца

адзін з адным. *Двое дзяцей нажылі, а ніяк адзін аднаму не ўступяць. Грызуцца як тыя сабакі. От наскочыла каса на камянь.* г.Івацэвічы.

НАСКРО´ЗЬ БА´ЧЫЦЬ. Вельмі добра ведаць. *Я цябе наскрозь бачу, ты мяне ні ашукаяш.* Мілейкі Міл.

НА СЛА´ВУ. Вышэйшай якасці. *Каравай на славу ўдаўся: маладыя добра жыць будуць.* Альшаніца Квас.

НА СО´НЦЫ СПЕ´ЧАНЫ. Пра недапечаны, ацеслівы хлеб. *Хлеб цеставаты вышоў, як на сонцы спечаны. Але, як кажуць, хлеб ні нявестка, які ўдаўся – такі з'есца.* Заполле Кос.

НА СО´ПЛЯХ. Нешта нетрывалае, на спех зробленае. *Твае варота на соплях трымаюцца. Калі ў цябе рукі дойдуць да іх?* Грыўда Міл.

НАСТА´ВІЦЬ ГУ´БЫ. Засярдзіцца, пакрыўдзіцца. *Жонка губы наставіла, шчо палучку ні ўсю аддаў.* Мілейкі Міл.

НА СТО І ЧАТЭ´РЫ. Так скажа чалавек задаволены жыццём, у якога ўсё ладзіцца. – *Як настрой? – На сто і чатэры!* Альшаніца Квас.

НА СТО КО´НЕЙ СЕ´СЦІ. Заганарыцца. *Тэкля як на сто коней села, калі сын у акадэмію вучыцца паступіў.* Квасевічы Квас.

НАСТО´ЯЦЬ НА СВАЁМ. Дабіцца свайго. *Настояла мая жонка на сваём: пайшла даяркаю рабіць. Думая, там медом намазано.* Любішчыцы Люб.

НАСТУПА´ЦЬ НА ГО´РЛО. Любой цаной дабівацца свайго. *От чалавек, на горло наступіць, а свайго даб'ецца: ні глядзіць ні свата ні брата. Лепш абысці яго.* г.Косава.

НАСТУПІ´ЦЬ НА КО´РКА. Выпіць. *Адразу відно, што ты на корка наступіў: морда і нос чырвоныя.* г.Івацэвічы.

НА СУХІ´ ЛЕС. Так кажуць, калі жадаюць аберагчы сябе ад непрыемнасцей, праклёнаў. *Захварэў моцно*

*зяць, доўго лячыўся. Здэцца, пайшло на паправунок. Хай гэта хвароба на сухі лес ідзе.* Альба Квас. *Хай твае праклёны на сухі лес ідуць.* Альшаніца Квас.

НАСЫ´ПАЦЬ СО´ЛІ ПАД ХВОСТ. Дапячы. – *Хлопяц ні слухая, валочыцца па начах. А я ні сплю, перажываю, каб дзе ні ўлез. – Ой, ці ты рады яму ні дасі?! – А што я яму – насыплю солі пад хвост? Ён ужэ большы за мяне (з размовы).* г.Івацэвічы.

НА ЎСЕ РУКІ МА´ЙСТАР. Г.зн. валодае выдатнымі здольнасцямі. *Мой бацько на ўсе рукі майстар: што гляня – тое зробіць.* Альшаніца Квас.

НАХВАТА´ЦЬ РУ´КУ. Натаміць. *Нахватала руку жнучы, ні магу хлеба адрэзаць.* Бялавічы Кос.

НА´ ТАБЕ´. Выражэнне здзіўлення, нечаканасці. *Абышлі ўвесь лес – німа ягад, ідзем дахаты – на табе, нізбіраныя.* Альшаніца Квас.

НА ТОМ СВЕ´ЦІ ДАСТА´ЦЬ (ЗНАЙСЦІ´). Усюды, дзе б ні аказаўся. *Я цябе, пашкуду, на том свеці дастану! Ты чаго палез у вуляі? Меду захацеў? Папытаў бы, я табе сам даў бы.* Хрышчонавічы Квас.

НА ТУ´Ю МІНУ´ТУ. У тое імгненне, на той час. *Кепско мацяры стало, збялела і асунулася ля стала. А я ні ведаю, што рабіць. На тую мінуту розум адняло. Добра, што мужык дома быў да нашатыру пад нос даў. А патом і фельчарку вызвоў. Ачуняла мацi.* Аляксейкі Стайк.

НА ТЫ´ДНІ СЕМ ПЯ´ТНІЦ. Кажуць пра таго, хто часта мяняе свае рашэнні, намеры. *У цябе на тыдні сем пятніц: учоры казала па ягады пайду, сёні ўжэ ў Косаво едзяш.* Альшаніца Квас.

НА ЎВЕСЬ РОТ. Са смакам (есці). *Як прагаладаліся, то на ўвесь рот елі.* Хрышчонавічы Квас.

НА ЎВЕСЬ СВЕТ. 1. Голасна крычаць, галёкаць. *Пайшлі па ягады. Збіраям, ні бачым Мані Баравіковае. Клічам, ні адгукаяцца. То галёкалі на ўвесь свет.* Запол-

ле Кос. 2. Зняславіць перад людзьмі. *Зняславіла свякроў мяне на ўвесь свет. І ліхая я, і есці нісмачно вару, і акалуха. Але ж мае дзеці ні горай ходзяць за другіх, і ў хаці парадок.* Альшаніца Квас.

НА ЎРА ПАДКІДА´ЦЬ. Паднімаць угору, віншаваць з радаснай падзеяй у жыцці. *Унучок нарадзіўся ў мяне, то сёні на ўра падкінулі на рабоці. Прышлосё ісці ў магазін.* г.Косава.

НА ЎСЕ СТО. Жыць у дастатку. *Стаў начальнікам, жыве на ўсе сто. Бо ведая, дзе ўзяць, усё яму даступно.* г.Івацэвічы.

НА ЎСЁ ГО´РЛО. Голасна крычаць, спяваць і пад. *Посна Каляда, Хрыста ходзяць славіць. А мужыкі недзі ўмудрыліся добра выпіць. То маладзёж спявая "Хрыстос радзіўся", а яны "Шумеў камыш". Да на ўсё горло, і грэх і смех.* Альшаніца Квас.

НА ЎСЮ КАТУ´ШКУ. 1. Хутка. *Жмі на ўсю катушку, каб вецяр у вушах свістаў.* Хрышчонавічы Квас. 2. Спаўна, вельмі строга. *Мая суседка настаўніцай працавала пры немцах. То засудзілі на ўсю катушку – дзесяць гадоў далі. Сядзела ад званка да званка.* г.Косава.

НА ХАДУ´. Спехам, на бягу. *Ехалі з балота, з сенакосу, а ягады ля дарогі як вішне. То на хаду забегла слоічок назбірала. От, будзя дзецям на піражкі.* Заполле Кос.

НА ХАДУ´ ПАДЭ´ШВЫ РВЕ. Спрытны, знаходлівы. *Малады яшчэ, толькі вясною з арміі прышоў. Такі лоўкі – на хаду падэшвы рве. Косіць, то покос вядзе роўны, і травінкі пасля сябе ні пакіня.* Лазаўцы Міл.

НА ХАЛЕ´РУ. Навошта, для чаго. *Нешто здумала залоўка пачаставаць нас. Добры кусок сала прынясла. Але паглядзелі – яно жоўтае, старое. На халеру яно мне. Тут свежага есці ні хочуць, мясо давай.* Боркі Падст.

НА ХАЛЯ´ВУ. Задарма. *На халяву і хрэн салодкі.* Няхачава Стайк.

НА ХВАРО´БУ. Зусім не патрэбны. *Сусед прынёс граблі. Кажа, дай на бутылку і бяры сабе. А на хваробу яны мне? У мяне каровы німа, сено грабці ні трэба.* Скураты Квас.

НА ЧО´РНЫ ДЗЕНЬ. На цяжкі час. *Я на чорны дзень капейку хаваю, як даўней бацько хаваў жыто.* Альба Квас.

НА ЧО´РТА ПАДО´БНЫ. Непрыгожы. *Суседка з цаліны мужыка прывязла. Здэцца, і неблагі чалавек, але на чорта падобны.* г.Івацэвічы.

НА ЧУЖО´М ГАРБУ´ Е´ХАЦЬ. Карыстацца чужой працай. *Ты ўсё жыццё на чужом гарбу едзяш, дзіво што здаровы. Зроду нідзе ні пepaтаміўся, ні паспяшаў. Прасядзеў сорок гадоў у канторы.* г.Косава.

НА ЧЫМ СВЕТ СТАІ´ЦЬ. Моцна лаяць, праклінаць і пад. *Ні разабралася, хто па трускаўкі лазіў, да майго хлопца кляне на чым свет стаіць. Кажу: кляні і сабе бяры, бо яго душа нявінная.* Стайкі Стайк.

НА ШЫРО´КУ НО´ГУ. Жыць у роскашы. *Хлопяц у Польшчу ездзіць, спакойны, ні п'яніца. Добрыя грошы прывозіць. Жонка прывыкла на шыроку ногу жыць. Ні ведая, што на сябе чапляць. Ні цэніць яго, ні ведая, як яму тыя грошы дастаюцца. Шкада мужчыны.* Заполле Кос.

НЕ АДАРВА´ЦЬ (НЕ АДВЕ´СЦІ) ВАЧЭ´Й. Не пераставаць любавацца. *Эх і ладная дзеўка ў Мікалая, не адвесці вачэй: і красою, і розумом не абдзеляна.* Размеркі Стайк.

НЕ АД ДАБРА´. Не па сваёй волі, так склаліся абставіны. *Не ад дабра ён паехоў на цаліну. Паехоў шукаць кусок хлеба. Дома яшчэ пяцёро дзяцей засталосё.* Стайкі Стайк.

НЕ АДМАЛІ´ЦЦА, НЕ АДХРЫСЦІ´ЦЦА. Цяжка адчапіцца. *Прычапіўся да мае дачкі гэты пакіданяц: не адмоліцца, не адхрысціцца ад яго.* Альшаніца Квас.

НЕ АДТУ´ЛЬ РАСТУ´ЦЬ РУ´КІ. Пра таго, хто не мае здольнасцей да пэўнай работы. *Мая нявестка ні вязаць, ні вышываць ні ўмея. У вочы ёй кажу: "У цябе рукі не адтуль растуць".* Любішчыцы Люб.

НЕ БА´ЧЫЦЬ БЕ´ЛАГО СВЕ´ТУ. Шмат працаваць. *Узяўся хату ставіць, за работаю белаго свету не бачу.* Мілейкі Міл.

НЕ БА´ЧЫЦЬ ДАЛЕ´Й СВАЙГО´ НО´СА. Так скажуць пра наіўнага, даверлівага чалавека. *У вочы яму лістом сцеля, а сама направо і налево гуляя. Усё сяло гудзіць, а ён далей свайго носа не бачыць.* г.Косава.

НЕ БА´ЧЫЦЬ (НЕ ЎБА´ЧЫЦЬ) ЯК СВАІХ ВУШЭ´Й. Гінуць, прападаць. *Гоніш ты мяне – гані. Боляй ты мяне не ўбачыш як сваіх вушэй.* Заполле Кос.

НЕ БІЦЬ ЯЗЫ´КА. Дарэмна гаварыць, пераконваць у нечым. *Не бі дарма языка. Не пушчу я дзіця ў свет. Хай канчая дзесяць класоў.* Няхачава Стайк.

НЕ´БО З АЎЧЫ´НКУ ПАКАЗА´ЛАСЁ. Моцна спалохацца. *У суседа ўночы хата загарэлася, то гэдак спалохалася – небо з аўчынку паказаласё.* Стайкі Стайк.

НЕ БРА´ЦЦА ЗА ХАЛО´ДНУЮ ВО´ДУ. Ленавацца, гультаяваць. *Жаніўся сын, нявеста за халодную воду не бярэцца. Нічога ні хоча рабіць, адны гулі ў галаве.* Альшаніца Квас.

НЕ БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ´. Не думаць, не зважаць. *Не бяры да галавы, знайшла за шчо пераэкываць: на твой век работы хопіць.* Няхачава Стайк.

НЕ ВАРТ ПАДЭ´ШВЫ. Зусім нікчэмны. *Прамяняла добраго чалавека на абы-каго: гэты гультай яго падэшвы не варт.* Заполле Кос.

НЕ ВЕ´РЫЦЬ (НЕ ПАВЕ´РЫЦЬ) СВАІ´М ВАЧА´М (ВУША´М). Моцна здзівіцца. *Іду па гуліцы, чалавек ідзе насустрач. Прыгледзелася, не паверыла сваім вачам – Іван Антошын. Яшчэ падлетком завярбаваўся ў Чалябінск на токара вучыцца. Кажа, вярнуўся, тут*

*буду веку дажываць. Дзяцей выгадавоў, пажаніў, а сам на бацькаўшчыну.* Любішчыцы Люб.

НЕ ВЫ´СУНУЦЬ НО´СА. Не выходзіць з памяшкання. *Кудаса на дварэ – носа не высунуць.* Яглевічы Ягл.

НЕ ВЫХО´ДЗІЦЬ (НЕ ІДЗЕ´) З ГАЛАВЫ´. Не забываецца. *Я з вамі тут, а ў мяне не выходзіць з галавы: як даехалі дачка з зяцём. Такая склізота на дарозі.* Бусяж Міл.

НЕ ВЫ´ЦЯГНУЦЬ СЛО´ВА. Так кажуць пра маўклівага чалавека. *Такі спакойны, такі маўклівы, з яго слова не выцягняш. Затоя жонка за дваіх гаворыць.* Заполле Кос.

НЕВЯЛІ´КАЯ ШЫ´ШКА. Пра неўплывовага чалавека, невялікага начальніка. *Невялікая шышка, і пастаяць можаш. Хай старэйшыя сядуць.* Заполле Кос.

НЕ ВЯСЦІ´ ВУХО´М. Не слухаць. *Крычу табе, а ты і вухом не вядзеш. Хадзем абедаць!* Бялавічы Кос.

НЕ ГАРЫ´ЦЬ. Няма прычын спяшацца. *Куды ты бяжыш на злом галавы. Не гарыць, паспеям. Нашае нам застанецца.* Була Міл.

НЕ ГЛЯДЗЕ´ЦЬ НІ БО´КА НІ ВО´КА. Не асцерагацца. *Вязеш ты нас як дрова. Прэш, не глядзіш ні бока ні вока.* Мілейкі Міл.

НЕ ГНЯВІ´ БО´ГА. Не наракай. *Не гнявi Бога, сваток. Маяш трохі здароўя, то памагай дзецям.* Няхачава Стайк.

НЕ ГОД. Пра цяжкія, неспрыяльныя кліматычныя ўмовы. *Не год на ягады і грыбы – у лес можно не ісці.* Хрышчонавічы Квас.

НЕ ГРАШЫ´ БО´ГУ. Не наракай. *Яшчэ не грашы Богу: табе дзявяты дзясяток ідзе, а ты і па хлеб у магазін цэліш, і грады поляш.* Заполле Кос.

НЕ ДАВА´ЦЬ (НЕ ДАЦЬ) ПРАХО´ДУ. Назаляць. *Не дае праходу брыгадзір: ідзі даяркаю ды ідзі даяр-*

*каю. А пайсці даяркаю – гэто прывязаць сябе на цэлы дзень да тых кароў і кароўніка.* Стайкі Стайк.

НЕ ДАВА´ЦЬ СПА´СУ. Не мець ратунку, палёгкі. *Летом карава´м авадне да мухі не даюць спасу, заядаюць.* Заполле Кос.

НЕ ДАВА´ЦЬ СПУ´СКУ. Не патураць. *Дзед мяне вучыў: будуць дзеці – спуску не давай, прывучай да паслушэнства.* Заполле Кос.

НЕ ДАВЯДЗЕ´ ДА ДАБРА´. Кепска закончыцца. *Гэта дружба цябе да дабра не давядзе.* Стайкі Стайк.

НЕ ДАВЯДЗІ´ БОГ (БО´ЖА). Так скажуць, калі хочуць засцерагчыся ад дрэннага. *Не давядзі Бог бацькам хаваць сваіх дзяцей.* Скураты Квас.

НЕ ДАЕ´ ДЫХНУ´ЦЬ. 1. Надакучаць, праследаваць. *Маёй унучцы сусед дыхнуць не дае: усё замуж кліча.* 2. Празмерная гарачыня, спякота. *Такая гарачыня – не дае дыхнуць.* Альшаніца Квас.

НЕ ДАЙ, БО´ЖА, І НЕ ПРЫВЯДЗІ´, БО´ЖА. Пра складанасць жыццёвых абставін. *Не дай, Божа, і не прывядзі, Божа, перажыць тоя, шчо я перажыла: з бежанства адна вярнулася – усе ў Расеі паўміралі.* Альшаніца Квас.

НЕДАЛЁКО АДЫШО´Ў (АДЫШЛА´, АДЫШЛІ´). Мала чым адрозніваецца; такі самы. *Недалёко ты адышоў ад бацька. Той па свеці валачыўся, шукаў лёгкаго хлеба, і ты валочышся. Забыліся вы, што старыя людзі казалі: на адном месці і камянь абрастая.* г.Косава.

НЕ ДА СМЕ´ХУ. Няма прычын весяліцца. *Ой, бабачкі, вам добра зубы скаліць, тут стоячы, а мне не да смеху. Пабягу, бо карова во-во будзя цяліцца.* Сенькавічы Падст.

НЕ ДАЦЬ РА´ДЫ. Не спраўляцца. *Не дам рады картоплі апалоць: гэдак зеллём загнало.* Куляшы Міл.

НЕ ДУРЫ´ ГАЛАВЫ´. Не назаляй. *Не дуры мне га-*

*лавы, мне яшчэ рано замуж ісці.* Галенчыцы Ягл.

НЕ ЖА´РТЫ (НЕ ЖА´РТАЧКІ). Не абы-што, а трэба пастарацца. *Гэто табе не жартачкі: скасіць за дзень паўгектара атавы. Але вечаром ложкі да рота не мог давясці.* Ятвезь Квас.

НЕ ЖЫЛЕ´Ц НА ГЭ´ТОМ СВЕ´ЦІ. Доўга не пражыве. *Пабачыў свата – не жылец ён на белом свеці.* г.Івацэвічы.

НЕ ЗВО´ДЗІЦЬ (НЕ СТУЛЯ´ЦЬ) ВАЧЭ´Й. 1. Пільна глядзець. *Гэты хлопяц з мае Іркі не зводзіць вачэй, натто ўпадабаў.* 2. Не заснуць. *Усю ноч не звяла вачэй – бяссонніца напала.* Руда Падст.

НЕ ЗНАЙСЦІ´ ДНЁМ З АГНЁ´М. Ніколі (не знайсці). *Схаваў мужык грошы – днём з агнём не знойдзяш. І сам не рад. Не помніць, дзе падзеў.* г.Івацэвічы.

НЕ ЗНАХО´ДЗІЦЬ САБЕ МЕ´СТА. Хвалявацца. *Пайшлі дзеці адны па ягады. Ужэ вечарэя, а іх німа. Места сабе не знаходжу, каб хоць не заблудзіліся.* Альба Квас.

НЕ ЗНАЦЬ МЕ´РЫ. Не ведаць нормы. *Ты ні ў чым меры не знаяш. Як есці, то з-за стала ледзь вылязяш, як піць, то да парасячаго піску.* Заполле Кос.

НЕ З РУКІ´. Нязручна. *Ты сама ідзі папрасі Васіля, каб скасіў нам атаву. Ты хоць далёкая, але радня яму. А мне не з рукі – я чужы чалавек.* г.Косава.

НЕ З ТАГО´ КАНЦА´. Не так, як трэба. *Не з таго канца наш прадсядацяль бярэцца. Ты спярша палучку добрую дай, а тады прывучай да парадку. А за бясплатно ніхто не будзе рабіць.* Мілейкі Міл.

НЕ ЗЫСЦІ´ МНЕ З ГЭ´ТАГО МЕ´СТА. Так клянуцца ў праўдзівасці сваіх слоў. *Не зысці мне з гэтаго места, калі гэто няпраўда: на свае вочы бачыла, як ікона абнавілася.* Бялавічы Кос.

НЕ КАЗА´ЦЬ (НЕ ПАКА´ЗВАЦЬ, НЕ ПАТЫКА´ЦЬ) НО´СА. *Не наведваць. Паехоў сын пасля школы ў Мінск*

*і носа не кажа. Жыві, маці, як хочаш.* Кушняры Падст.

НЕ КІ´ЁМ, ТО ПА´ЛКАЮ. Без розніцы, аднолькава. *Паймалі з буракамі. Усяго тры ў торбі і было ў мяне. Але ўсё раўно пакаралі: штрафу ні далі, але днёўку ні заплацілі. Не кіём, то палкаю.* Лазаўцы Міл.

НЕ КЛАДЗІ´ ПА´ЛЬЦА Ў РОТ. Так скажуць пра вострага на слова чалавека. *Яму не кладзі пальца ў рот. Ён хутко знойдзя, што сказаць.* Воля Жытл.

НЕ ЛАВІ´ЦЬ МУХ. Не зяваць, старацца. *Давай варушыся, не лаві мух. Прывязлі раствор, то трэба хучэй вырабіць. А загусня, то папамяшаям.* г.Івацэвічы

НЕ ЛЕ´ЗЯ (НЕ ПАЛЕ´ЗЯ) ПА СЛО´ВО Ў КІШЭ´НЮ. Востры на язык, знаходлівы ў размове. *Пабыў у людзях, то навучыўся гаварыць. Не лезя за словом у кішэню.* Бялавічы Кос.

НЕ ЛЕ´ЗЯ Ў ГО´ЛОЎ. Не засвойваецца, не запамінаецца. *Чытаю, чытаю, а ў голоў ніц не лезя.* Лазаўцы Міл.

НЕ´ЛЬГА НО´СА ВЫ´СУНУЦЬ. Непагадзь на двары. *Другі дзень нельга носа высунуць на гуліцу – такі дождж лье.* Падстарынь Падст.

НЕ МЕЦЬ ГО´ЛАСУ. Не мець права выказаць сваю думку. *Я ніколі не мела голасу ў яго, ён мяне ў кулаку трымаў.* Заполле Кос.

НЕ МЕЦЬ КУСКА´ ХЛЕ´БА. Жыць бедна. *Як ён жыве? Нідзе ні робіць, гаспадаркі ні трымая – куска хлеба не мая.* Альшаніца Квас.

НЕ МЕЦЬ ЛА´СКІ. Не любіць. *Не маю ласкі да зяця: надто з дачкі збыткуя. Прычэпіцца да чаго і цэлы дзень грызе як ржа жалезо.* Скураты Квас.

НЕ МЕЦЬ СЭ´РЦА. Быць жорсткім. *Мая свякроў не мела сэрца. Яна не спагадала мне: прыкінула на мяне і печ, і гаспадарку. І на работу бягу, бывало, і грады палю. А яна на лаўцы цэлымі днямі праседжвала.* Квасевічы Квас.

НЕ МЁД. Мала прыемнага. *У мяне работа не мёд: на торфабрыкетном заводзі раблю. Пылу – ні прадыхнуць. Памыюся, выйду, кашляну, то чорныя згусткі з рота вылятаюць.* Няхачава Стайк.

НЕ МІНУ´ЦЬ РУК. Пра ўкрадзенае. *Хацелі клуба агарадзіць. А то ж нехто ўночы ўкраў шчыкеты. Усе кажуць, што яны не мінулі Раманавых рук.* Стайкі Стайк.

НЕМЦЫ Ў ХАЦІ. Г.зн. нелады ў сям´і, сварка, калі муж і жонка доўгі час маўчаць. *Зайшоў да суседа, а ў іх немцы ў хаце. Маўчаць, як вады ў рот набралі.* Заполле Кос.

НЕ МЫ´ЛЬСЯ, ГАЛІ´ЦЦА НЕ БУ´ДЗЯШ. Тое, што чалавек задумаў, не будзе здзейснена, бо гэта непрыймальна для іншых людзей. *Ты мяне не купіш, так што не мылься, галіцца не будзяш.* Гошчава Стайк.

НЕ´МЯРАЙ ПАЙСЦІ´. Парушыліся законы чалавечага сужыцця. *Свет немярай пайшоў. Столькі брыдоты паказваюць па тэлевізары, косы дыбом устаюць.* г.Косава. Немера – балоцістая ўпадзіна ў непраходным лесе.

НЕ НА НОЧ КА´ЖУЧЫ. Гаварыць пра што-небудзь страшнае, непрыемнае. *Не на ноч кажучы, у яго страшная хвароба. І німа каму памагчы, бо ўсе дзеці далёко.* г.Івацэвічы.

НЕ НА ПАЖА´Р. Няма патрэбы ў спешцы. *Куды ты прэшся гэдак? Растрасеш нас, старых. Не на пажар едзям.* Размеркі Стайк.

НЕ НА ТАГО´ (НЕ НА ТУ´Ю) НАПА´Ў (НАРВА´ЎСЯ). Памыліцца, недаацаніць кагосьці. *Не на таго ты нарваўся, я маўчаць табе не буду. Усім раскажу: ты ўкраў ровара ў Баравіковых.* Заполле Кос.

НЕ НУ´КАЙ, НЕ ЗАПРО´Г. Пра прыспешванне да працы. *Ты чаго мяне падганяяш? Не нукай, не запрог, як магу, так і раблю.* Мілейкі Міл.

НЕ ПАКА́ЗВАЦЬ (НЕ ПАКАЗА́ЦЬ) ВАЧЭ́Й. Перастаць наведваць. *Зусім Хрысціну дзеці акінулі, вачэй не паказваюць праз каторы час.* г.Косава.

НЕ ПАКА́ЗВАЦЬ (НЕ ПАКАЗА́ЦЬ) ВІ́ДУ. Захоўваць спакой у пэўных абставінах. *Маці мяне заўсёды вучыла: ці добра ў цябе ў сям'е, ці кепско – не падавай віду. Заграбі сваё смецце ў куток і маўчы.* Альшаніца Квас.

НЕ ПАКА́ЗВАЦЬ (НЕ ПАКАЗА́ЦЬ) НО́СА. Не праведваць. *Як трымала свіней да калола па двое на год, то ўсе ехалі, бо было што ўзяць. А як занядужала, сабе купляю тоя сало, то ніхто і носа на паказвая.* Любішчыцы Люб.

НЕ ПА КАНЮ́ ВОЗ. Не па сіле, не па магчымасцях. *Пайшла замуж за ўдаўца, на троя дзяцей. Думала, спраўлюся. Э, не па каню воз. Уцякла праз месяц.* Гошчава Стайк.

НЕ ПАМІНА́ЦЬ (-ЙЦЕ) ЛІ́ХОМ. Не думаць (не думайце) нічога дрэннага. *Добра ў вас было ў гасцях, але пара і чэсць знаць. Не памінайце ліхом, да нас прыязджайця.* Альшаніца Квас.

НЕ ПА НУТРУ́. Не падабаецца. *Сватаўся да суседкі, бацькі яе не аддалі за мяне, бо бедны, сірата. А я за шафёра вывучыўся, хату новую паставіў, ажаніўся. А ім гэто не па нутру. Яны яшчэ ўсё зяця выбіраюць.* Любішчыцы Люб.

НЕ ПА́РА. Не падыходзяць адзін аднаму. *Як жаніліся, то ўсе казалі – не пара. Але, дзякаваць Богу, жывуць душа ў душу, дай Бог кожнаму.* Квасевічы Квас.

НЕ ПАСПЕ́ЦЬ І ВО́КОМ МАРГНУ́ЦЬ. Хутка адбылося, здзейснілася. *Не паспеў і вокам маргнуць – ужэ ў Косаві. Во што значыць лягкавушка.* Скураты Квас.

НЕ ПАТЫКА́ЦЬ (НЕ ПАТКНУ́ЦЬ) НО́СА. Не праведваць. *Сын у Брэсці жыве, ужэ каторы месяц носа не патыкая. Што ён там робіць? Можа, нявест-*

*ка ні пуская?* Альшаніца Квас.

НЕПАЧА´ТЫ КРАЙ. Многа. *Свята ідуць, то работы непачаты край. Усё пасля зімы да ладу давясці трэба.* Мілейкі Міл.

НЕ ПАЧУ´ЦЬ ДУ´ХУ. Не баяцца. *Крыўдзіця вы старого чалавека, не пачулі духу, німа каму за яго заступіцца.* г.Косава.

НЕ ПІ´КНУЦЬ. Сядзець ціха, моўчкі. *Сядзі, не пікні. Не лезь папярод бацька ў пекло. Без цябе разбяруцца.* Заполле Кос.

НЕ ПРАСЕ´ДЗЕЦЬ МЕ´СТА. Неназаляць, не турбаваць. *Пасядзі ў нас яшчэ, не праседзіш места. Зварaць вячэру і без цябе.* Альшаніца Квас.

НЕ ПРАСЫХА´ЦЬ. Піць з дня ў дзень. *Німа як жыць з чалавеком. Трэба кідаць. П'е з дня ў дзень, не прасыхая.* Воля Жытл.

НЕ ПУСКА´ЦЬ НА ПАРО´Г. Не дазваляць заходзіць. *Ты чаго прычапіўся да мяне каля магазіна? Да яшчэ людзей назбіраў каля сябе. Я вінаваты табе, што авечка не прышла з пашы? Каб і нагі твае больш не было ў мяне на надворку. І на парог не пушчу, гад ты печаны!* Стайкі Стайк.

НЕ РАЗБЯРЫ´-БЯРЫ´. Невядома што. *Нарабілі ў хаці неразбяры-бяры! І калі гэтаму рамонту канец будзя?* Размеркі Стайк.

НЕ РАЗГІНА´ЦЬ СПІНЫ´. Напружана працаваць. *Як пачнецца палонне, то ні вылажу з агарода. Не разгінаю спіны з дня ў дзень.* Гошчава Стайк.

НЕ СВАІ´М ГО´ЛАСОМ. Моцна крычаць, галасіць. *Ніколі не забуду, як атрымалі на бацька пахаронку. Маці мая не сваім голасом крычала, а мы, дзеці, за ёю. Даўно гэто было. Ужэ і сніцца бацько перастаў.* Воля Жытл.

НЕ СПУСКА´ЦЬ ВАЧЭ´Й. Назіраць праз увесь час. *Увесь вечар ён з мяне вачэй не спускаў.* Гошчава Стайк.

НЕ СУНЬ НОСА Ў ЧУЖО´Е ПРО´СО. Не

умешвайся ў чужыя справы. *Помні: сварыцца мужык з жонкаю – не лезь, не сунь носа ў чужое проса. Самы разбяруцца. А палезяш – ты найбольш вінаваты будзяш.* Сярадава Жытл.

НЕ СХО´ДЗІЦЬ З ЯЗЫ´КА. Часта гаворыцца. *Пяць гадоў, як не жывуць разом, разышліся. А ўсё раўно любіць яго, не сходзіць з языка: "Мой Пеця да мой Пеця".* Любішчыцы Люб.

НЕ ТУТ ТО БЫЛО´. Не атрымаць таго, на што разлічваў. *Швагер мой хітры надто. Узяў дзялянку лесу, думоў зарабіць. Э, не тут то было, ні надто пабеглі да яго купляць. Задораго пытаў.* г.Івацэвічы.

НЕ ЎБЫЦЬ. Нічога не страціць. *З цябе не ўбудзя, калі перапросіш яго, хай яго верх будзя.* Галік Міл.

НЕ Ў ГАЛАВЕ´. Не цікавіць, не турбуе. *Ты мне пра сваіх кавалероў не расказвай. Мне любоў не ў галаве. Я думаю, як знайсці трактара да дроў з лесу прывязці.* Рацкевічы Міл.

НЕ Ў ГО´ЛАСЕ. Быць бяспраўным. *У вайну мужыкі не ў голасе: і немцам трэба было дагаджаць, і парцізанам.* Заполле Кос.

НЕ ЎКАЗ. Г.зн. нечыя патрабаванні можна не выконваць, ігнараваць. *Ты мне не ўказ, ты мной не камандуй. У мяне мужык е ў хаці камандаваць.* Яглевічы Ягл.

НЕ Ў МЕ´РУ. Занадта, вельмі. *Не ў меру спрытны ты. Надто шукаяш, як лёгкаго хлеба здабыць. Глядзі, каб казённаго не еў.* Заполле Кос.

НЕ ЎСЕ ДО´МА. Пра псіхічна нездаровага чалавека. *Папаў у аварыю. Доўго лячыўся, але ўсё раўно ў яго не ўсе дома.* Альшаніца Квас.

НЕ ЎСІХ ДУРНЫ´Х ВАЙНА´ ПАБРА´ЛА. Так жартам скажуць пра несур'ёзнага чалавека. *Зіма на дварэ, а ён наголо пастрыгся. Нездарма кажуць: не ўсіх дурных вайна пабрала.* Заполле Кос.

НЕ ХАЛАДЗІ´ ЯЗЫ´КА. Не кажы пустое. *Не*

*халадзі даром языка. Я за цябе замуж не пайду.* Сенькавічы Падст.

НЕ ЦЯПЕ́Р, ТО Ў ЧАЦВЕ́Р. Калі-небудзь, у бліжэйшы час. *Прыеду, цётку, па вішне да вас. Калі? Як кажуць, не цяпер, то ў чацвер, але прыеду.* Лазаўцы Міл.

НЕ ЧУЦЬ ЗЯМЛІ́ ПАД САБО́Ю. Хутка бегчы, ляцець. *Сказалі, што бацько прыехоў з цаліны. То ляцеў дахаты, не чуў ног пад сабою.* Любішчыцы Люб.

НЕ ЧУЦЬ НІ РУК НІ НОГ. Вельмі моцна стаміцца. *З сеном управімся, жніво настаня. Як укіня сонцо, як паспея ўсё зараз: і жыто жаць, і лён рваць, і хоць ты ў адзін дзень. Раняњко, цёмнянько, у пяць часоў устаняш – ідзеш ячмень жаць, бо ячмень надто крышыцца, каласы адлятаюць, з расою ячмень жалі. А дахаты ідзеш шаро, ужэ цямнея, ні рук ні ног не чуяш. А мужчыны сабе стараюцца.* Заполле Кос.

НЕ ЧУЦЬ НОГ ПАД САБО́Ю. Вельмі хутка ісці, бегчы. *Памятаю, пальто купілі мне ў Косаві. То бегла пахваліцца – ног не чула пад сабою.* Альшаніца Квас.

НЕ́ШЧО Ў ЛЕ́СІ ЗДО́ХЛО. Пра ўчынак, які выклікае здзіўленне, і якога ад чалавека не чакалі. *Нешчо ў лесі здохло: мужык пасля палучкі цвярозы дахаты прышоў.* Руда Падст.

НІ АДЗІ́Н САБА́КА. Ніхто. *Зрэзоў ясяня, буду рабіць лыжы дзецям. Але прыхаваў ад лясніка. Ні адзін сабака ні знойдзя. Хай сохня.* Скураты Квас.

НІ АКЫ́Ш НІ АЮ́СЬ. Нічога не мець у гаспадарцы. *Сёні многія маладыя лёгко жывуць: ні акыш ні аюсь німа.* Альшаніца Квас.

НІ БО́ГУ СВЕ́ЧКА НІ ЧО́РТУ КАЧАРГА́. Нічога неварты. *Няўдалы ў мяне напарнік. Прэцца на трактары, ажно гайкі адлятаюць. Да яго чалавечае слово ні даходзіць. Як кажуць: ні Богу свечка ні чорту качарга.* Заполле Кос.

НІ БЭ НІ МЭ НІ КУКАРЭ´КУ. Нічога не ведаць, не разумець. *Хлопяц у цябе, Іван, ні бэ ні мэ ні кукарэку. Дацягнуць вучыцяля да дзявяці класоў, палучыць ацястат ды адпраўляй яго на трактарыста вучыцца.* Квасевічы Квас.

НІ БЯЛЬМЕ´СА. Нічога не ведаць, не разумець. *Шапялявіш, дальбог, ні бяльмеса ні панімаю. Зубы табе трэба ўставіць.* Була Міл.

НІ ВАЛА´ НІ КАНЯ´. Так скажуць пра беднага гаспадара і яго гаспадарку. *З бежанства з Расіі прыехалі ў дваццаць першом гаду. На голае место: ні вала ні каня. Усё трэба было нажываць.* Заполле Кос.

НІ ВО´КА НІ БО´КА. Нічога не шкадаваць, не глядзець. *Ляціць на машыні, ні глядзіць ні бока ні вока. Скруціць ён сабе голоў. Папомніця маё слово.* Заполле Кос.

НІ ГО´ЛКА Ў СЕ´НІ (У СТАЖКУ´). Тое, што не застанецца незаўважаным, нязнойдзеным. *Карова з пашы ні прышла. Цёмно зараз, рано будзям шукаць. Ні голка ў сені, знойдзяцца.* Хрышчонавічы Квас.

НІ ДА БОГА НІ ДА ЛЮДЗЕЙ. Пахмуры, нелюдзімы чалавек. *Твой прымак, Алена, ні да Бога ні да людзей – такі маўмыга. І дзе ты яго знайшла?* Альшаніца Квас.

НІ ДАРО´ГІ НІ СЛЕДУ. Бездарожжа. *Мяцеліца такая, што ні дарогі ні следу.* Няхачава Стайк.

НІ ДНЁМ НІ ЎНО´ЧЫ. Увесь час. *Ні днём ні ўночы німа спакою: гудзяць і гудзяць машыны на гуліцы.* Бусяж Міл.

НІ ДНЯ НІ НО´ЧЫ НІМА´. Без спачыну, без перапынку ў працы. *Такія шалапутныя зараз маладыя. Усё лёгко хочуць пражыць. А гэто – і ў каго ён удаўся? Ні дня ні ночы яму німа: усё нешто майструя, будуя, німа яму спакою.* Заполле Кос.

НІ ДУМОЎ НІ ГАДАЎ. Здарылася зусім нечаканае. *Ні думоў ні гадаў – пісьмо з Амерыкі прышло. Мой*

*родны дзядзько аказаўся. А мы думалі, што яго забілі на вайне.* г.Івацэвічы.

НІ ДУ´ХУ НІ ПА´РЫ. Прамаўчаць, адчуваючы сваю віну. *Ведае, шчо вінаваты, баіцца сустрэцца. А як пападзя на вочы, то ні духу ні пары.* Альшаніца Квас.

НІ ЖЫВЫ´ НІ МЁРТВЫ. Моцна спалоханы. *Пайшлі ў лес, зрэзалі сасну. І як яна вывярнулася? Падала просто на мяне. Ледзьве ўцёк. Збялеў, стаю ні жывы ні мёртвы.* Гошчава Стайк.

НІ ЗА ГРОШ. Дарма прапасці, загінуць. *Выпілі, захацелі скупнуцца. Як жэб, п'яны – патануў. Ні за грош чалавек прапаў.* г.Косава.

НІ ЗА ПАНЮ´ШКУ ТАБАКУ´. Ні за што згінуць, прапасці. *Паехоў ажно ў Сібір, і з канцамі. Пагнаўся за доўгім рублём і прапаў ні за панюшку табаку.* Заполле Кос.

НІ ЗА ШТО НІ ПРА ШТО. Без прычыны. *Ні за што ні пра што засярдзілася на мяне нявестка. І вачэй ні паказвая. Здэцца, нічого кепскаго ні сказала, ні зрабіла я ёй. Во ўжэ праз каторы тыдзянь сын адзін прыязджая.* Любішчыцы Люб.

НІ ЗА Я´КІЯ ГРО´ШЫ. Ні за што. *Ні за якія грошы я за яго замуж не пайду. Што гэто за кавалер – на цэлу голоў ніжэйшы за мяне.* Размеркі Стайк.

НІ´ЗКІ НА ВО´ЧЫ. Блізарукі. *Я нізкі на вочы: нітку ў голку ніяк ні зацягну.* Зялёны Бор Стайк.

НІ ЗНА´Ю НІ ВЕ´ДАЮ. Нічога (не ведаю). *Вы мяне ні пытайця, я нічого ні знаю ні ведаю. Я ні бачыла, як яны біліся. Ні чапайця вы мяне!* Заполле Кос.

НІ З ТАГО´ НІ З СЯГО´. Раптам. *Ні з таго ні з сяго як лясня гром! А патом маланка. І разадрало каштана ля хаты.* Грыўда Міл.

НІ КАЛА´ НІ ДВАРА´. Нічога, ніякай маёмасці. *Пажар быў у сяле. Згарэлі і мы. Агонь ні пакінуў ні кала ні двара. Засталіся як стаю.* Заполле Кос.

НІ КАНЦА НІ КРАЮ. Без межаў. *Паехала ў госці да сястры ў Казахстан. То сцеп тая ні канца ні краю ні мая. Каб хоць дзераўцо адно. Як там людзі без лесу жывуць?* Любішчыцы Люб.

НІ КО´ЖЫ НІ РО´ЖЫ. Пра непрыгожага, няскладнага чалавека. *Ні кожы ні рожы, а жонку вунь якую харошую ўзяў.* Галік Міл.

НІ КУРАНЯ´ЦІ НІ ПАРАСЯ´ЦІ. Пуста ў гаспадарцы. *З чаго гэтыя маладыя жывуць: ні кураняці ні парасяці німа.* Галік Міл.

НІ ЛЕ´ЗЯ Ў ГАЛАВУ´. Г.зн. галава забіта нечым адным. *Ніц у галаву ні лезя, пра адно думаю: як там мой сынок у арміі, ці наеты, ці галодны? Ён жа ў мяне далей хаты нідзе ні быў.* Стайкі Стайк.

НІМА´ ДЗЕ ВАЧЭ´Й ПАДЗЕ´ЦЬ. Пра адчуванне вялікага сораму. *Зняславіў сын, пайду на работу, то німа дзе вачэй падзець.* Жамайдзякі Міл.

НІМА´ ДЗЕ ПАДЗЕ´ЦЦА. Пра бязвыхаднае становішча. *Адзінокі, дзяцей німа. Пастарэў, німа дзе падзецца, то ў прыют для старых здалі.* Квасевічы Квас.

НІМА´ ДУРНЫ´Х. Так выказваюць нязгоду ў адказ на прапанову паўдзельнічаць у чым-небудзь. *Ні ўгаварвай, я з табою на заробкі не паеду, німа дурных. Ты і столяр, і цесля, і пячнік, і муляр. А я хто?* г.Івацэвічы.

НІМА´ ЗА ШЧО РУК ЗАЧАПІ´ЦЬ. Пра чалавека, які не знаходзіць сабе працы. *Звялі дзеці маю гаспадарку, хацелі, каб лягчэй было. А я ні магу так: рук німа за шчо зачапіць.* Заполле Кос.

НІМА´ КАЛІ´ НО´СА ЎЦЕ´РЦІ. Шмат працы. *Кожны дзень то адно, то другоя – німа калі носа ўцерці.* Міхнавічы Стайк.

НІМА´ КЛЁПКІ Ў ГАЛАВЕ´. Неразумны хто. *У цябе німа клёпкі ў галаве. Яшчэ Благавешча наперадзі,*

*а ты ўжэ цыбулю садзіш.* Бялавічы Кос.

НІМА´ НА ШТО ПАДЗВІ´ЦЦА. Непрыгожы. *Прывязла зяця дачка – німа на што падзвіцца.* Зялёны Бор Стайк. Падзвіцца – паглядзець.

НІМА´ НІ БРА´ТА НІ СВА´ТА. Усе роўныя. *Прараб у нас на будоўлі. Яму німа ні брата ні свата. Для яго ўсе роўныя. Залаты чала*век. Зялёны Бор Стайк.

НІМА´ НІ ДНЯ НІ НО´ЧЫ. Так кажуць пра чалавека, які многа працуе. *Яму німа ні дня ні ночы. Каб мог, то стачыў бы дня.* Скураты Квас.

НІМА´ НІЦ. Нішто. *Яму німа ніц забіць чалавека. Такі бандзіт вырас. Не слухая ні бацька, ні мацяры.* г.Івацэвічы.

НІМА´ ЎГАМО´НУ. Працавіты, старанны чалавек. *От хлопяц урадзіўся – німа на яго ўгамону. І на работу ходзіць, і дома ўзяўся лазню рабіць, і жонцы яшчэ памагая на фермі.* Квасевічы Квас.

НІМА´ ЧАГО´ БО´ГА ГНЯВІ´ЦЬ. Няма прычын жаліцца на лёс. *Німа чаго табе, суседка, Бога гнявіць: дзеці блізко, не акідаюць. Кожну нядзелю прыязджаюць. А мае за светом. І не бядую, каб ано здаровыя былі. А памру, то пахаваюць людзі. Ніхто на гэтом свеці не застаўся ляжаць.* г.Косава.

НІМА´ ЧАГО´ БО´ГУ ГРАШЫ´ЦЬ. Так кажуць, калі задаволеныя жыццём. *Старыя людзі, што перажылі вайну, калхозы, кажуць: "Німа чаго Богу грашыць, зараз добра жыць: ямо на поўну губу і апранаямся як паны".* г.Івацэвічы.

НІМА´ ЧАГО´ ГРАХУ´ ТАІ´ЦЬ. Не трэба скрываць, утойваць. *Быў час, што зусім ні давалі дроў у лясніцтві. Німа чаго граху таіць, ехалі, кралі, хто як мог. Альбо гальё збіралі ды вязанкамі на плечах насілі.* Бялавічы Кос.

НІМА´ ЯК. Немагчыма. *Німа як да цябе ў госці прысці.* Зялёны Бор Стайк.

НІ МЫЧЫ´ЦЬ НІ ЦЕ´ЛІЦЦА. Нясмелы, нерашучы. *Другі год да дзеўчыны ходзіць і ні мычыць ні целіцца. А ёй замуж пара, колькі можно хадзіць.* Альшаніца Квас.

НІ НА ВО´ЧЫ. Так кажуць пра тое альбо пра таго, што (хто) выклікае агіду. *Дзядзько ў мяне ніякае гародніны ні есць: агуркі, памідоры, моркоў – ні на вочы.* Скураты Квас. *Здаецца, і хлопяц харошы. І ростом, і паставаю, а яна ні на вочы – не хоча з ім і гаварыць.* Размеркі Стайк.

НІ НАГО´Ю. Не хадзіць, не быць. *Я да цябе як да роднае, ні з чым ні хавалася. А ты мяне ходзіш мыяш па суседзях. Каб ні нагою да мяне ў хату!* г.Косава.

НІ НА´ДТО РАЗГО´НІШСЯ. Не спраўдзіш жаданае. *Грошай німа, то ні надто разгонішся на ўборы. А як е грошы, то і сам харошы. І ўборы ні трэба.* Заполле Кос.

НІ НА ШАГ. Нікуды. *Унучку прывязла дачка з горада. Каранцін некі ў садзіку. То ні на шаг ад мяне ні адыходзіць. Такое ласкавае дзіця.* Мілейкі Міл.

НІ НАШЫ´М НІ ВА´ШЫМ. Нікому. *Ні буду дагаджаць ні нашым ні вашым.* Куляшы Міл.

НІ НЮ´ХАЦЬ ПО´РАХУ. Пра таго, хто не быў на вайне. *Той, хто пораху ні нюхоў на вайне, той найбольш хваліцца, які ён герой.* г.Івацэвічы.

НІ ПІ´КНІ. Маўчы. *Ноч на дварэ, спі, ні пікні.* Лазаўцы МІл.

НІ ПІ´СКУ НІ ВІ´СКУ. Пра адсутнасць гаспадаркі. *У хляве – ні піску ні віску.* Стайкі Стайк.

НІ ПРО´СЬБАЮ НІ ГРО´ЗЬБАЮ. Нічога не баяцца. *Не пройміш яго ні просьбаю ні грозьбаю – нічого ні баіцца.* Лазаўцы Міл.

НІ ПРЫ´СТУПУ НІ ПО´ДСТУПУ. Немагчыма падысці да каго-небудзь, паразумецца. *Ні прыступу ні подступу німа да яго, ні даецца гаварыць.* Заполле Кос.

НІ ПЯ´ДЗІ. Нічколькі. *Як адзіналічно жылі, то за землю насы расквашвалі адзін аднаму, ні пядзі ні*

*ўступалі. А зараз нікому гэтая зямля не трэба, бяры, колькі хочаш.* Була Міл.

НІ РЫ́БА НІ МЯ́СО. Так скажуць пра чалавека, які нічым не выдзяляецца. *Твой, Алена, мужык ні рыба ні мясо. Разом кароў пасвілі, то ад мяне за паўвярсты садзіўся. Баяўся ён мяне, ці шчо?* Альба Квас.

НІ САБЕ́ НІ ЛЮ́ДЗЯМ. Нікому. *Ні сабе ні людзям, лепш згнояць гэту салому.* Лазаўцы Міл.

НІ СА́ЛО НІ МЯ́СО. Ні сёе ні тое; безаблічны. *Ні паймеш, на каго ўдаўся. Адным словам – ні сало ні мясо.* Альшаніца Квас.

НІ САМО́МУ (САМО́Й, САМІ́М) ПАГЛЯДЗЕ́ЦЬ (ПАДЗВІ́ЦЦА) НІ ЛЮ́ДЗЯМ ПАКАЗА́ЦЬ. Так скажуць пра чалавека, які не вызначаецца ні розумам, ні знешнасцю. Але так жартам кажуць і пра няўдалую пакупку: непрыгожую сукенку, хустку і г.д. *Да арміі да мае дачкі хадзіў, а прывёз жонку стуль, дзе служыў. Божа, ні самому паглядзець ні людзям паказаць: малая, рыжая, шчо ён у ёй знайшоў?* Альшаніца Квас.

НІ СВА́ТА НІ БРА́ТА. Ставіцца непаважліва да іншых. *Прышоў з цюрмы, то мацюкі гне направо і налево. Ні глядзіць ні свата ні брата. Аж брыдко.* Заполле Кос.

НІ СВЕТ НІ ЗАРА́. Вельмі рана. *Унуку пяць гадоў. З вечара ляжа, выспіцца. А ўстаня ні свет ні зара – гуляй з ім, вядзі кароўку паказвай да курачок.* Мілейкі Міл.

НІ СЕ́ЛА НІ ПА́ЛА. Адразу, неспадзявана. *Ні з таго ні з сяго, ні села ні пала – вызвярыўся на мяне. Я, бачыця, грошы ў яго з кішэні ўзяла. Ні трэба мне яго грошы і ні трэба ён мне сам.* Верашкі Квас.

НІ СКЛА́ДУ НІ ЛА́ДУ. 1. Няма толку. *Дачка трэці год замужом жыве, а ў сям'е ні складу ні ладу. Мучаяцца адно.* Була Міл. 2. Пра непрывабнага, няскладнага чалавека. *І рукі, і ногі, і вочы – усё ў гэтой дзеўцы е. А гляняш – ні складу ні ладу.* Заполле Кос.

НІ СЛО´ВА НІ ПАЎСЛО´ВА. Маўчаць, нічога не гаварыць. *Разом з Маняю ў аўтобусі ехалі. І ні слова ні паўслова за ўсю дарогу. Чаго яна на мяне засярдзілася?* Кушняры Падст.

НІ СЛУ´ХУ НІ ДУ´ХУ. Адсутнасць звестак. *Як пае´хоў сусед на заробкі год назад, то ні слуху ні духу.* Сакоўцы Міл.

НІ СНОМ НІ ДУ´ХОМ. Зусім не ведаць. *Прычапіўся брыгадзір: "Ты жывеш ля калхознаго агарода, ты ведаяш, хто капусту пакраў". А я ні сном ні духом, мне німа калі глядзець на тую капусту – на рабоці ад цямна да цямна.* Яглевічы Ягл.

НІ СТАЦЬ НІ СЕ´СЦІ. Вельмі цесна. *Людзей перад святамі ў электрычку набіласё – ні стаць ні сесці.* Няхачава Стайк.

НІ СТУЛЬ НІ ССЮЛЬ. Невядома адкуль. *Ні стуль ні ссюль хмара наплыла. Але, дзякаваць Богу, паспелі зграбці сено да дажджу.* Була Міл.

НІ ТО´Я НІ СЁЯ. Нешта пасрэднае. *Так сабе з віду чалавек: ні тоя ні сёя. Ні тоўсты – ні тонкі, ні высокі – ні нізкі. А завуць Хведаром.* Бялавічы Кос.

НІ ТУДЫ´ НІ СЮДЫ´. Г.зн. цяжка абысціся. *Я без мужыка ні туды ні сюды. І засуня, і высуня, і патаўчэ. Чыгуны з свінымі картоплямі ў печ. А ты пра шчо падумала?* Альшаніца Квас.

НІ ЎЗАД НІ ЎПЕ´РАД. Нікуды, ні ў адным з напрамкаў. *Мне з табою, жонка, як з бараною ў лесі: ні ўзад ні ўперад. У горад пераязджаць ні хочаш. Прыстала да гэтых свіней, а так жыла б як барыня.* Мілейкі Міл.

НІ Ў ЗУБ НАГО´Ю. Нічога не ведаць, не разумець. *Узяў сабе на камбайн за памочніка хлопца Івана Барсуковаго. А ён ні ў зуб нагою, ніц ні разбіраяцца ў тэхніцы. Здаецца, і вучылішча скончыў. Намучыўся з ім, усё самому прышлося глядзець.* Любішчыцы Люб.

НІ ЎЗЯЦЬ ПА´ЛЬЦА АБКРУЦІ´ЦЬ. Ні з чым пайсці. *Пайшоў з хаты і пальца ні ўзяў абкруціць, усё жонцы і дзецям пакінуў.* Любішчыцы Люб.

НІЎРО´КОМ КА´ЖУЧЫ. Так скажуць, калі баяцца сурочыць. *Твая кароўка, ніўроком кажучы, добра малака дае.* Альшаніца Квас.

НІ ЎЦЯЦЬ НІ ЎЗЯЦЬ. Не мець карысці. *Ля багатаго заўсёды пажывішся. А што з беднаго – ні ўцяць ні ўзяць.* Зялёны Бор Стайк.

НІХА´Й МАЯ´ СУ´ЧКА СА´НКІ ВО´ЗІЦЬ. Няхай будзе па-твойму. *Пасварыліся былі. Думаю, перша зачаплю. Ніхай мая сучка санкі возіць.* Размеркі Стайк.

НІ ХАЛЕ´РЫ. Зусім. *Ні халеры я цябе ні баюся, крычы хоць трэсні. Задумоў купіць матацыкла – куплю. І цябе яшчэ пакатаю.* Халап'я Падст.

НІЦ НІ СКА´ЖАШ. Сапраўды, няма прычын сумнявацца. *Ніц ні скажаш, акуратны чалавек. І жонку, дзяцей глядзіць, і сам на рабоці ў пашане. Ніздарма пра яго ў газеці напісалі.* г.Косава.

НІЧО´ГО НІ ЗРО´БІШ (НІ ПАРА´ДЗІШ). Мусіш пагадзіцца. *Настаў сын: буду жаніцца да арміі. І нічого ні зробіш. Зараз маладыя ні слухаюць бацькоў. Але хай жэніцца. Як кепско жыць будзя, то хай на сябе наракая.* Стайкі Стайк.

НІЯ´КАЯ ТРА´СЦА (ХАЛЕ´РА, ЛІ´ХА) НІ БЯРЭ´. Нічога не робіцца, не здараецца. *Нап'ецца – пад плотом паляжыць, зімою бяз шапкі ходзіць. І ніякая трасца яго ні бярэ. Другі ўжэ лапы адкінуў бы.* Жамайдзякі Міл.

НО´ВАСЦІ З ВО´ЛАСЦІ. Адусюль. *Ну, прыехалі новасці з воласці. Распрагай каня і расказвай, шчо бачыў, шчо чуў.* Заполле Кос.

НО´ГІ ВЫПРУЦІ´ЦЬ. Памерці. *Стаў рабіць у амбары, то ўсё краў, цягнуў дахаты. Думоў, век панаваць будзя. Не, прышла пара – усё раўно ногі выпруціў.* Стайкі Стайк.

НО´ГІ ВЫЦІРА´ЦЬ. Ставіцца непаважліва. *Пайшла замуж мая дачка ў далёкае сяло. Ні пускалі. Як чула душа, шчо дабра ні будзя. Цяжко ёй там, ногі выціраюць аб яе. Ано дзеці трымаюць. Ні хоча, каб без бацька раслі.* Альшаніца Квас.

НО´ГІ МЫЦЬ І ВО´ДУ ПІЦЬ. Шанаваць, адносіцца з вялікай павагай, пяшчотай. *Трэба, каб ён ногі ёй мыў і воду тую піў.* Гошчава Стайк.

НО´ГІ НЕ ІДУ´ЦЬ. Не хочацца ісці. *І сама ведаю, і людзі кажуць, як кепско мой сын з нявесткаю жыве, то і ногі мае не ідуць да іх. Хоць хочацца ўнукоў паглядзець.* Скураты Квас.

НО´ГІ НЕ ТРЫМА´ЮЦЬ. Моцна стаміцца. *Цэлы дзень картоплі палола. А жара. Гэдак утамілася, ледзь дахаты прышла, ногі не трымаюць. А яшчэ трэба карову падаіць.* Альшаніца Квас.

НО´ГІ Ў РУ´КІ. Пра хуткасць, паспешлівасць збораў. *Я хуткі на зборы: ногі ў рукі – і пайшоў.* Верашкі Квас.

НОГ ПАД САБО´Ю НЕ ЧУЦЬ. Вельмі хутка ісці, ляцець. *Як пачула, што сын з арміі прышоў, то бегла дахаты – ног пад сабою не чула.* Жамайдзякі Міл.

НО´СА ВЯРНУ´ЦЬ. Не прызнаваць, ігнараваць. *Што ты ад мяне носа верняш? Я ў цябе хлеба ні пытаю.* Альшаніца Квас.

НО´СА ЗАДЗІРАЦЬ. Ганарыцца. *Замуж пайшла, то гэдык носа задзерла. Як жа – гаспадыня.* Заполле Кос.

НО´СА ЗАКАПЫ´ЛІЦЬ. Скрывіцца, выражаючы незадаволенасць. *Не пусціў дачку на музыкі, то гэдак носа закапыліла, і гаварыць не хоча.* Мілейкі Міл.

НО´СА НІ ВЫСУНУЦЬ. Не выйсці з хаты з-за дрэннага надвор'я. *Мароз на дварэ – носа ні высунуць.* Куляшы Міл.

НО´СА НІ ЎБІЦЬ (НІ ЎСАДЗІ´ЦЬ). Шмат людзей, біткам забіта памяшканне. *У клуб носа ні ўсадзіць – моро людзей.* Заполле Кос.

НО´СА ПАВЕ´СІЦЬ. Засмуціцца. *Карова прапала, ды ты ўжэ і носа павесіў. Ні бядуй: яшчэ каровяча маці ні звялася, другую купіш.* Альшаніца Квас.

НО´СА ЎСАДЗІ´ЦЬ. Умешвацца. *Ты кругом носа ўсадзіш, без цябе нічого ні зробіцца. Усё ты ведаяш, усё ты знаяш.* Галік Міл.

НОС – БОГ СЯМЯРЫ´М НЁС, ДЫ АДНАМУ´ ДАСТА´ЎСЯ. Вельмі вялікі. *Але, братко, і нос у цябе: Бог семярым нёс, ды аднаму табе дастаўся.* г.Івацэвічы.

НО´СІЦЦА ЯК ДУ´РАНЬ З ПІ´САНАЮ ТО´РБАЮ. Хваліцца, ганарыцца. *Сплёў кошыка, то носіцца з ім як дурань з пісанаю торбаю: усім хваліцца, паказвая. І смех і грэх.* Харошча Міл.

НО´СОМ ГАРА´ЦЬ. Упасці. *Як дам, то землю носом гараць будзяш.* Плехава Люб.

НО´СОМ КРУЦІ´ЦЬ. Адмаўляцца ад некага, нечага. *Бярэ хлопяц замуж, то ідзі, а то носом круціш.* Гошчава Стайк.

НО´СОМ ЧМЫ´ХАЦЬ. Выказваць нездавальненне. *Не чмыхай носом. Заўтры паедзяш у Вацэвічы. Святом. А сёні трэба грады палоць.* Хрышчонавічы Квас.

НОС У НОС СУСТРЭ´ЦЦА (СУТЫКНУ´ЦЦА). Нечакана сустрэцца. *Запалянца ўсюды сустрэць можно, нас много. Іду ў Маскве па вакзалі – нос у нос сустракаюся з Міхасём Барэйшыным.* Заполле Кос.

НУТРО´ ГАРЫ´ЦЬ. Перажываць нервовае ўзбуджэнне, выкліканае адчуваннем трывогі. *Дзе яны падзеліся з тым сеном? У мяне ўжэ ўсё нутро гарыць.* Бялавічы Кос.

НЭ´НДЗА ЗАЕ´ЛА. Занудзіцца. *Бяда за бядою – нэндза заела.* Альшаніца Квас.

НЮХ НА ГРО´ШЫ. Прадбачыць добры заробак. *У яго добры нюх на грошы. Паедзя на заробкі, то больш за ўсіх грошай прывязе.* г.Івацэвічы.

НЯСЕ´ ЯК З БО´ЧКІ. Смярдзіць. *Выпіў ты да закурыў, то нясе з цябе як з бочкі.* Панкі Люб.

НЯЧЫ´СТАЯ СІ´ЛА НО´СІЦЬ. Так скажуць пра бадзягу. *Майго сына, мусіць, нячыстая сіла носіць. Як пайшоў у армію дваццаць гадоў назад, так і ездзіць па свеці, ніяк места сабе ні знойдзя.* Альшаніца Квас.

НЯЧЫ´СТЫЯ СІ´ЛА НЯСЕ´ (ПРЫНЯСЛА´). Так скажуць пра непажаданага госця, наведвальніка. – *Мама, баба да нас ідзе. – От, зноў яе нячыстая сіла нясе. – Баба, ты сама да нас прышла? – Сама, унучок, сама. – А чаму мама казала, што цябе нячыстая сіла нясе?* Заполле Кос.

НЯЧЫ´СТАЯ СІ´ЛА СЯДЗІ´ЦЬ. Пра таго, хто валодае незвычайнымі, незразумелымі для іншых здольнасцямі, уменнямі, сілай. *У ём, мусіць, нячыстая сіла сядзіць. Гэто ж адзін такого стажыска склаў. Сам, без нікого.* Квасевічы Квас.

**О**

ОСЬ БА´ЧЫШ. Так выказваюць здзіўленне. *Ось бачыш, з нашаго сяла, а будзя выступаць па цілівізару. Кажуць, спявая надто харашэ Анюціна дачка. А я і не чула.* Любішчыцы Люб.

ОТ ТАБЕ´ МА´ЯШ! Вось табе на! *От табе маяш, прыехалі новасці з далёкае воласці!* Куляшы Міл.

ОТ ТАБЕ´ НА! Нечаканасць выніку. *От табе на! А казаў, шчо генералом будзяш.* Заполле Кос.

ОТ ТАБЕ´ РАЗ. Такім воклічам выказваюць расчараванне, здзіўленне. *Гэдык спяшыў, баяўся спазніцца на аўтобус. А ён на час пазней пачаў хадзіць. От табе раз. Папамерз, ждучы.* Бялавічы Кос.

**П**

ПАБІ´ЦЬ ГАРШКІ´. Памыліцца, не пазнаць чалавека. *От я сёні гаршкі пабіла, і смех, і грэх: роднаго брата ні пазнала.* Альшаніца Квас.

ПАБО´ЙСЯ БО´ГА І ЛЮДЗЕ´Й. Май сумленне, злітуйся. *Німа ў цябе душы, чалавеча, пабойся Бога і людзей, ні мучай жаночыну.* Яглевічы Ягл.

ПАВЕ´К ВЯКО´Ў. Ніколі. *Павек вякоў твае дабрыні ні забуду.* Заполле Кос.

ПАВЕ´СІЦЬ НА АДНУ´ АСІ´НУ. Абое з аднолькавымі недахопамі. *Іх павесь на адну асіну, то не пераважаць адзін аднаго.* Заполле Кос.

ПАВЕ´СІЦЬ НО´СА. 1. Адчайвацца, нудзіцца. *Што ты носа павесіў? Падумаяш, дзеўка яго пакінула. Другую знойдзяш, яшчэ лепшую!* г.Косава. 2. Праяўляць цікаўнасць. *Што ты тут носа павесіў? Ты яшчэ замалы слухаць, што велькія гавораць.* Скураты Квас.

ПА ВУ´ШЫ. 1. Многа. *Работы па вушы, ніц ні паспяваю.* Руда Падст. 2. Цалкам, дарэшты. *Сын прышоў дахаты з рэчкі мокры па вушы.* Быч Стайк. 3. Моцна, усёй душой. *Я закахаўся па вушы.* Падстарынь Падст.

ПАВЯРНУ´ЦЬ АГЛО´БЛІ. Вярнуцца назад. *Паехалі па сено на балото. А тут дождж, да з громом, з маланкаю. Ні будзяш стажка раскідаць. Павярнулі аглоблі дахаты.* Альшаніца Квас.

ПАГЛЯДЗЕ´ЦЬ МАІ´МІ ВАЧЫ´МА. Зразумець. *Каб вы паглядзелі на маю жонку маімі вачыма, то і вы ўсё ёй даравалі б.* Бялавічы Кос.

ПАГУЛЯ´Ў, ЯК ПАРА´СЯ Ў СЦЯПА´НА НА ПЯЧЭ´. Няўдала, з прыгодамі. *Адзінокая Парася жыла ў благой хаці. І летом, і зімой хадзіла босая. Але кажуха мела. Усё на вечаркі да людзей хадзіла. А калі пыталіся, куды ідзе, ахвотна адказвала: "Іду пагуляць". Усе ведалі, што ішла пагрэцца. Прыходзіла і адразу лезла на печ. Ці ўчадзяла, ці спрасоння заблудзілася, але аднаго разу ўпала з печы просто ў цэбяр з тоўчанай бульбай. Вось пасля гэтаго і пачалі казаць: пагуляў, як Парася ў Сцяпана на пячэ.* Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2008. Куляшы Міл.

ПА ГЭ´ТАЙ ДАРО´ЗЕ ЗБАНКІ´ ВАЗІ´ЦЬ. Пра дарогу ў выбоінах, ямах. *Аж усе косці забалелі, пакуль прыехалі: па гэтой дарозі збанкі вазіць, то ні аднаго цэлаго ні застанецца.* Стайкі Стайк.

ПАДАВА´ЦЬ (ПАДА´ЦЬ) ГО´ЛАС. Азвацца, аказацца. *Прапаў брат у вайну, думалі, жывого німа. А ён з Англіі пісьмо прыслаў, голас падаў.* г.Івацэвічы.

ПАДАГНУ´ЦЬ (ПАДТУЛІ´ЦЬ) ХВАСТА´. 1. Спалохацца. *Герой над жонкаю, а як сілу пачуў – сын пачаў за мацяру заступацца – то падагнуў хваста.* Хрышчонавічы Квас. 2. Адчуць безабароннасць, не мець заступніцтва. *Ні стало мужыка, то падагнула хваста. А то была што-то я – мужык брыгадзір.* Любішчыцы Люб.

ПАД АДКРЫ´ТЫМ НЕ´БОМ. На двары. *У вайну ў канцлагяры нямецком быў. Тыдзянь пад адкрытым небом трымалі. А восянь, дождж, памятаю, церусіў. То многія і ні дачакаліся тых баракоў.* г.Івацэвічы.

ПА´ДАЦЬ АД ВЕ´ТРУ. Аслабець. *Так занядужаў пасля хваробы, што ад ветра падаў.* Аўсто Стайк.

ПА´ДАЦЬ (УПА´СЦІ) ДУ´ХОМ. Зняверыцца. *Мая маці зусім духом упала. І здароўя німа, і ў гаспадарцы непарадок.* г.Косава.

ПА´ДАЦЬ З НЕ´БА. Давацца дарэмна. *Мой зяць лічыць, што мне падае з неба: сала дай, мяса дай, грошай дай. А ў мяне яшчэ меншых двоя вучыць трэба.* Альшаніца Квас.

ПА´ДАЦЬ З НОГ. Знясілець, змарыцца. *Аўтобуса ні было, думаю, пешкі зайду дахаты. Што тут гэтыя 12 кіломятроў? Ой, то зусім даўся. Ледзьве прышоў, падоў з ног.* Заполле Кос.

ПА´ДАЦЬ (УПА´СЦІ) НА КАЛЕ´НІ. Прыніжана прасіць. *Парцізаны прышлі і ад дзяцей паследню кароўку забралі. На калені падоў, прасіў. Ні пашкадавалі.* Заполле Кос.

ПАДБІВА´ЦЬ (ПАДБІ´ЦЬ) БА´БКІ. Падвесці рахунак, падлічыць. *Гэтым годом дымкі пасадзіў. У людзей ано цвілі, а я ўжэ салёнікі еў. Накапаў, прадаў на базары, падбіў бабкі – выгадно.* г.Косава.

ПАДБІВА´ЦЬ КЛІ´ННІ. Заляцацца. *Пяты год удавою, сусед клінні падбівая, але я ні хочу. Добра адным куском удавіцца.* Альшаніца Квас.

ПАДБІ´ТЫ (ПАДБІ´ТАЕ, ПАДБІ´ТАЯ) ВЕ´ТРОМ. Пра тое, што слаба грэе. *Мароз на дварэ, мяцеліца, а маё пальто, падбітае ветром, ніц ні грэя. Пакуль управілася па гаспадарцы, адубела.* Альшаніца Квас.

ПАД БО´КОМ. Зусім блізка. *От добра, як лес пад боком: забяжыш на мінуту – глядзіш, ужэ е што насмажыць.* Хрышчонавічы Квас.

ПАДВЯСЦІ´ ПАД ДУРНО´ГО ХАТУ. Падмануць, паставіць у непрыемнае становішча. *Падвёў дзеўку пад дурного хату: сватоў заслаў, а потым на вяселле не прыехоў.* Яблонка Жытл.

ПАД ГАРА´ЧУ РУ´КУ ПАПАСЦІ. У момант злосці, раздражнення, гневу. *Папаў суседу пад гарачу руку, то на мне ўсю злосць сагнаў.* Галік Міл.

ПАДДАВА´ЦЦА НА ВУ´ДАЧКУ. Ашукацца. *Паддаўся на вудачку Андрэю. Кажа, паедзям нагрузім вагон буракоў, то заробім па сто тысяч. Папагрузілі, тыдзянь рук ні чуў, а грошай трэці месяц ні плоцяць. От і зарабілі.* Заполле Кос.

ПАД ЗАВЯ´ЗКУ. Поўна, даверху. *Насыпоў мех бульбы пад самую завязку.* Стайкі Стайк.

ПАД ЗЯМЛЁЮ БА´ЧЫЦЬ. Так кажуць пра ўніклівага чалавека. *Нідзе ні схаваяшся ад гэтаго чалавека: ён і пад зямлёю бачыць.* Мілейкі Міл.

ПАДКІ´НУЦЬ ПАД ХВОСТ. 1. Набіць. *Дахаты ідзі, халернік, бо падкіну пад хвост.* Заполле Кос. 2. Нагнаць, прыспешыць. *Падкінь пад хвост каню, ніхай прабяжыць трохі.* Заполле Кос.

ПАД КО´РАНЬ. Дарэшты. *Прышлі Саветы, усю сям'ю маіх суседоў пад корань вынішчылі. Кулакі да кулакі. А якія яны кулакі? З свайго мазаля жылі, рабілі, як чорныя валы.* г.Івацэвічы.

ПАДЛІВА´ЦЬ (ПАДЛІ´ЦЬ) МА´СЛА Ў АГО´НЬ. Садзейнічаць непрыязным адносінам. *Ужэ былі пamірыліся з жонкай. Не, прыехала цешча, падліла масла ў агонь – зноў немцы ў хаці, зноў вайна.* Бялавічы Кос.

ПАДМА´ЗВАЦЬ (ПАДМА´ЗАЦЬ) ПЯ´ТКІ. Уцякаць. *Бык на кароўніку адарваўся, а мы само з лесу ішлі. То добра пяткі падмазалі, ляцелі хучэй за вецяр.* Альшаніца Квас.

ПАД МУ´ХАЙ. Быць у стане лёгкага ап'янення. *Што ў цябе за работа? Кожны дзень пад мухай дахаты прыходзіш. Хто табе гэту гарэлку дае?* г.Івацэвічы.

ПАД МЯТЛУ´. Начыста, без астатку. *Разышліся, то жонка ўсё пад мятлу з хаты забрала. Хай бярэ, гэто ўсё нажыўное. Я хоць вольны стаў.* Гошчава Стайк.

ПАДНІМА´ЦЬ (ПАДНЯ´ЦЬ) ХВАСТА´. Не лічыцца з іншымі. *Не хочаш вучыцца, то сядзі як мыш пад веніком на ўроку. А то яшчэ хваста паднімаяш. Прыходзяць, жаляцца настаўнікі.* г.Івацэвічы.

ПАД НОЖ. Класціся на хірургічную аперацыю. *Каб не лёг пад нож, то ўжэ косці парыў бы. А так выразалі тыя камення, то яшчэ пажыву.* Бялавічы Кос.

ПАД НО´СОМ. Побач, перад вачыма. *У цябе пад самым носом жонка хвастом круціць, а ты, як сляпы, ні бачыш.* г.Івацэвічы.

ПАДНЯБЕ´ННЕ Ў РО´ЦІ ЧО´РНАЕ. Злы чалавек. *У яе ад злосці паднябенне ў році чорнае.* Альшаніца Квас.

ПАДНЯ´ЦЬ НА СМЕХ. Высмейваць. *Даўно ў магазіні ні быў. Прышоў, узяў булку хлеба і даю тысячу. А мяне на смех паднялі: "Дзед, ты з неба зваліўся! Хлеб ужэ даўно пяць тысяч каштуя".* Заполле Кос.

ПАДПІЛАВА´ЦЬ РО´ГІ. Суняць, суцішыць.

*Хопіць крычаць, бо я табе падпілую рогі, сілы хопіць.* Альба Квас.

ПАДПІРА´ЦЬ СЦЕ´НУ. Не прымаць удзелу ў танцах, гульнях. *Што ты за кавалер? Цэлы вечар ано сцену падпіраяш, на круг ні выйдзяш. Дзяўчата любяць тых, хто танцуя.* Яглевічы Ягл.

ПАД ПЛО´ТОМ НІ ВАЛЯ´ЯЦЦА. Так скажуць пра нешта каштоўнае. *Грошы пад плотом ні валяюцца, іх зарабіць трэба. Яны з потом дастаюцца.* г.Івацэвічы.

ПАДПУСКА´ЦЬ ЛЁСТАЧКІ. Хваліць, гаварыць прыемнае. *Жаніцца табе пара. Падпусці дзеўчыні лёстачок – любая за цябе пайдзе.* г.Косава.

ПАД ПЯТО´Й. Быць у поўнай залежнасці ад некага. *З калхоза даўней ні можно было ўцячы. Усе былі пад пятою ў гасударства. Каб выяхаць куды, пашпарт трэба. А пашпартоў нам ні давалі.* Заполле Кос.

ПАДРАЗА´ЦЬ (ПАДРЭ´ЗАЦЬ) ПЯ´ТЫ. Даганяць у касьбе. *З маім бацьком ніхто ні мог справіцца ў касьбе. Ён кожнаму мог пяты падрэзаць Я і яшчэ яго касою кашу – да таго хвацкая.* Юкавічы Стайк.

ПАД РУКА´МІ. Побач, навідавоку. *Я люблю, каб у мяне ўвесь інструмент пад рукамі быў: і гэблік, і стамеска, і пілка. Каб я ні бегоў, ні шукаў па сталярні.* Заполле Кос.

ПАД СПАНІ´ЦАЮ СЯДЗЕ´ЦЬ. 1. Не мець вяршэнства (пра мужа). *Ён век у жонкі пад спаніцаю сядзеў.* Альшаніца Квас. 2. Доўга заставацца дзіцём. *Да пятнаццаці гадоў пад спаніцаю ў мацяры сядзеў.* Скураты Квас.

ПАД СПАНІ´ЦУ СХАВА´ЦЬ. Аберагаць, шкадаваць. *Не была б то маці. Гатова пад спаніцу ўсіх дзяцей схаваць, каб ано з імі ўсё добра было.* Панкі Люб. Спаніца – спадніца.

ПАДСТАЎЛЯ´ЦЬ (ПАДСТАВІЦЬ) НО´ЖКУ. Шкодзіць. *Доўго жыву на свеці, колькі людзей пабачыў,*

*што ано стараюцца ножку табе падставіць, замест таго, каб памагчы.* г.Івацэвічы.

ПАДСТАЎЛЯ́ЦЬ (ПАДСТА́ВІЦЬ) ПЛЯЧО́. Падтрымліваць. *Як добра, калі ў бядзе хто плячо падставіць. Ніколі такое не забываяцца.* Размеркі Стайк.

ПАДСТАЎЛЯ́ЦЬ СВАЮ́ ГО́ЛОЎ (ЛОБ). Рызыкаваць. *Прыехалі хлопцы з чужых сёл на музыкі. Нешто ні падзялілі з нашымі. Як счапіліся біцца. Я не пайшоў падстаўляць сваю голоў, усё гэто дурное.* г.Косава.

ПАД СТОЛ ПЯШКО́М ХАДЗІ́ЦЬ (ХО́ДЗІЦЬ). Быць малым. *Смачныя, унучок, яблычка? Мы гэту яблыньку пасадзілі даўно, ты тады яшчэ пад стол пяшком хадзіў.* Альшаніца Квас.

ПАДСЫПА́ЦЬ (ПАДСЫ́ПАЦЬ) ПЕ́РЦУ. Насварыцца, накрычаць. *Сын пад ранок дахаты прыйшоў. Кавалер мне знайшоўся ў пятнаццаць гадоў! Я яму добра падсыпала перцу.* Жамайдзякі Міл.

ПАДТО́ПТВАЦЬ (ПАДТАПТА́ЦЬ) ПАД НО́ГІ. 1. Даравань, забыцца на крыўды. *Не дай Бог, як я з свекрывёю да залоўкамі жыла. Нацярпелася я ад іх ліха. Але ўсё падтаптала пад ногі, як перайшлі ў сваю хату жыць. Зараз дружым.* Заполле Кос. 2. Зневажаць. *Зусім цябе жонка з цешчай падтапталі пад ногі: і гультай ты, і п'яніца, і грошай мало зарабляяш. Вазьмі дрына да паганяй кругом хаты, каб пабачылі, хто гаспадар.* г.Івацэвічы.

ПАДТУ́ЛЬВАЦЬ (ПАДТУЛІ́ЦЬ) ХВОСТ. Страціць упэўненасць. *Хадзіў кандзібобяром па сяле: што-то я, брыгадзір. Ано гарэлачку папіваў штодзень. А скінулі, то хутко хвост падтуліў.* Альшаніца Квас.

ПА ДУШЭ́. Падабацца. *Нарэшці я знайшоў работу па душэ.* Жамайдзякі Міл.

ПАДЦЯГНУ́ЛО ДУХІ́ (ЖЫВО́Т). Скажа так той, хто доўга не еў. *Пагнаў каравы, забыўся торбу з*

*абедом, то да вечара падцягнуло духі.* Альба Квас.

ПАДЦЯГНУ´ЦЬ ВУ´ДЫ. Схуднець. *Бач, як табе падцягнуло вуды: толькі вочы blішчаць.* Альшаніца Квас.

ПАДЫМА´ЦЦА (ПАДНЯ´ЦЦА) НА НО´ГІ. Абжыцца. *Сёні можно падняцца на ногі, ні тоя, што раней. Ано ні гультуй.* Бялавічы Кос.

ПАДЫМА´ЦЬ (ПАДНЯЦЬ) НА НО´ГІ. 1. Вылечваць. *Зараз лекоў якіх хочаш. Дахтара хутко на ногі падымуць.* г.Косава. 2. Выгадаваць. *Трайко дзяцей адна, без мужыка, на ногі падняла. Усе вывучыліся, усе работу добрую маюць.* Плехава Люб.

ПАДЫМА´ЦЬ (ПАДНЯ´ЦЬ) НА СМЕХ. Высмейваць. *Ад некаго пачуў, што ў сажалцы каля моґліц рыбы много. Паўдня з унуком, сачка ўзяўшы, таўкліся ў том мулі. Людзі ўбачылі – на смех паднялі. Кажуць, тут зроду рыбы ні было.* Альшаніца Квас.

ПАДЫМА´ЦЬ (ПАДНЯ´ЦЬ) РУ´КУ. Стукнуць. *О сына выгадавоў. На бацька руку падняў! Гэто ж грэх страшны.* г.Івацэвічы.

ПАДЫМА´ЦЬ (ПАДНЯ´ЦЬ) ХВАСТА´. Асмялець. *Бачыш, падняў хваста, як дачка замуж за міліцанера пайшла.* Бусяж Міл.

ПАД ЯЗЫ´К. Танцаваць без музыкі, падпяваючы сабе самому. *Камянь ляжаў каля крыжа. Бало, дзецьмі збярэмся каля яго і давай пад язык танцаваць. І весяло´ было.* Заполле Кос.

ПАЗАЛАЦІ´ЦЬ РУ´ЧКУ. Даць грошай. *Навучыў зяць унучка. Прыедуць, бяжыць да мяне: "Баба, пазалаці ручку". І рагочуць абоя.* Куляшы Міл.

ПАЗАЛІВА´ЦЬ (ЗАЛІ´ЦЬ) ВО´ЧЫ. Напіцца гарэлкі. *Якія сёні музыкі? Пазаліваюць вочы, прыдуць у клуб. Яны ж ні патанцуюць, дзяўчат ні бачаць, сядзяць у кутку, смаркачэ павесіўшы.* Гошчава Стайк.

ПАЗАРАСТА´ЦЬ ГРА´ЗЗЮ. Усюды непрыбрана, брудна. *Маці ў бальніцы праз каторы месяц, то дзеці*

*граззю пазарасталі.* Стайкі Стайк.

ПАЗНА´ЦЬ (ПАЧУ´ЦЬ) СМАК. Прызвычаіцца. *Так клянуць людзі: каб твой сын смак у гарэлцы пазнаў. І праўда, німа страшней кары, як п'янство.* г.Косава.

ПА ЗУБА´Х. Падыходзіць (пра ежу). *О гэтыя цукеркі якраз па маіх зубах, мяккія, мало жаваць трэба.* Даргужы Міл.

ПАЗУРЭ´ ПАЗАДЗІРА´ЛІСЯ. Так кажуць, калі моцна хвалююцца. *Паехалі маладыя да вянца, то пазурэ пазадзіраліся, ждучы іх. Аказаласё, там яшчэ перад імі вянчаліся пяць пар.* Скураты Квас.

ПАЙМА´ЦЬ ЗА РУ´КУ. У момант крадзяжу. *Капуста на аселіцы ўрадзіла. Стала прападаць, нехто пачаў красці. Ні паспаў ноч – паймаў за руку. Хведара Барадатаго сын. А што? Сядзяць з жонкаю, нідзе ні робяць. А есці трэба.* Заполле Кос.

ПАЙСЦІ´ АГНЁМ. Згарэць. *Злодзяй хоць вуглы пакінуў бы, а гэто ўсё пайшло агнём.* Альшаніца Квас.

ПАЙСЦІ´ ЗА РУКА´МІ. Хутка расходаваць, патраціць. *Як прышлі грошы, так і пайшлі за рукамі, нічого добраго і не купілі.* Галік Міл.

ПАЙСЦІ´ З ВЕ´ТРОМ. Прапасці. *Паехалі ў пятнаццатом гаду ў бежанство. На адном возі і самі, і трохі адзежы, мяшэчок аўса, сала аполяц. А ўсё астатняя пакінулі. Так яно з ветром і пайшло.* Альшаніца Квас.

ПАЙСЦІ´ З ДЫМОМ. Пра тое, што марна згінула. *Памятаю, само пазвозілі збожжа ў гумна. Навальніца страшная была. Як дала маланка ў гумно, то ўсё пайшло з дымом.* Гошчава Стайк.

ПАЙСЦІ´ НА ДЗЕ´ЦІ. Выйсці замуж за ўдаўца з дзецьмі. *Кавалероў нашых на вайне пабілі, то я пайшла замуж на дзеці. А мае равесніцы так і пазаставаліся ў дзяўках.* Альшаніца Квас.

ПАЙСЦІ´ НА ЗЯЛЁ´НЫЯ. Памерці. *Ні смейся, хутко ўсе пойдзям на зялёныя.* Скураты Квас.

ПАЙСЦІ´ НА ТОЙ СВЕТ. Памерці. *Мой швагер маладым на той свет пайшоў. Старэйшы хлопчык ано ў шосты клас хадзіў. То я ўсё памагаў сястрэ па гаспадарцы: і сено, і дрова прывозіў.* Размеркі Стайк.

ПАЙСЦІ´ НА ЯГО´ (НА ЯЕ´) РУ´КУ. Падтрымаць. *Я яго сабе за сведку ўзяў, а ён пайшоў на яго руку.* Гошчава Стайк.

ПАЙСЦІ´ ПА КРЫВО´Й СЦЕ´ЖЦЫ. Жыць не па сумленні. *Харошы хлопяц быў, пакуль па крывой сцежцы ні пайшоў. Ажно да цюрмы дажыўся. Вярнуўся адтуль, то ні адна дзеўчына з ім і гаварыць ні схацела.* г.Івацэвічы.

ПАЙСЦІ´ ПА РУКА´Х. Згуляцца, часта мяняць кавалераў (пра дзяўчыну). *Бяда мацяры, калі дачка па руках пойдзя.* г.Івацэвічы.

ПАЙСЦІ´ РУКО´Ю. Шанцаваць. *У гаспадарцы лад і парадак, у хляве водзіцца і плодзіцца, кажуць, пайшло рукою.* Хрышчонавічы Квас.

ПАЙСЦІ´ ЎГО´РУ БЕЗ ВЯРО´ЎКІ. Так пажартуюць з таго, хто неспадзявана выбіўся ў начальнікі. *Бач ты, Міхасёў хлопяц пайшоў угору без вяроўкі.* Заполле Кос.

ПАЙСЦІ´ Ў ЛЮ´ДЗІ. Пакінуць родную хату ў пошуках куска хлеба. *Прыехалі з бежанства з Расіі – беднота страшная, есці німа чаго. Ды пайшлі з сястрою ў людзі: яна дзяцей у Сіняўцы няньчыла, а я кароў пасвіў.* Заполле Кос.

ПАЙСЦІ´ Ў МАГІ´ЛУ. Памерці. *Без пары ў магілу пайшоў чалавек. Яшчэ летом сено касіў у Віжджарах.* Бялавічы Кос.

ПАЙСЦІ´ Ў НАЙМЫ´. Наняцца. *Што ў калхозі плацілі? Ніц. То стараліся пайсці ў наймы: у косаўскіх мяшчан картоплі ўсю восянь капалі.* Заполле Кос.

ПАЙСЦІ´ Ў ПРЫ´МЫ. Пасля вяселля пайсці жыць у сям'ю жонкі. *Даўней у прымы за багаццем ішлі. Зямлі много, а дачка брыдкая, то бралі ў прымы якого бедна-*

*го хлопца.* Заполле Кос.

ПАЙСЦІ́ ЯК АПАЛО́КАНАМУ. З пустымі рукамі. *Прыехоў да цёшчы з букетом, а паехоў як апалоканы.* Альшаніца Квас.

ПАЙШЛІ́ (ПРАПАЛІ) ЯК СЁ́МАЧКАВЫ ЗГО́НІНЫ. Так гавораць, калі што-небудзь прападзе ў гаспадарцы неўпрыкмет, бясследна. *Вартаваў Сёмачка калгасную палову, згоніны. А вельмі любіў чытаць. І не згледзёў, як злодзеі ўкралі мякіну. Прыехоў старшыня калгаса, пытаяцца: "Дзе згоніны?" – "Пайшлі згоніны", – адказвая збянтэжаны Сёмачка. Вось з таго часу і пайшла гуляць па вёсцы показка: пайшлі (прапалі) як Сёмачкавы згоніны.* Крышталь А.А., 1954 г.н., 1999. Заполле Кос.

ПАКАЗА́ЦЦА НА ВО́ЧЫ. З'явіцца на кароткі час. *Німа лю́дскае работы, ні плацяць нічого ў калхозі. То ездзіць мужык па свеці, шукая заробку. І гэто – паказаўся на вочы сям'е і зноў паехоў у Польшчу.* Заполле Кос.

ПАКАЗА́ЦЬ ДЗЕ РА́КІ ЗІМУ́ЮЦЬ. Пагроза пакараць. *Яшчэ раз паймаю на яблыні, то пакажу дзе ракі зімуюць. Прыдзі папытай, а сам не маеш права рваць.* Яглевічы Ягл.

ПАКА́ЗВАЦЬ (ПАКАЗА́ЦЬ) ДУ́ЛЮ Ў КІШЭ́НІ. Моўчкі выказваць пратэст, нязгоду. *Беларусы людзі "смелыя". Яны здольныя толькі дулі ў кішэні паказваць.* г.Косава.

ПАКА́ЗВАЦЬ (ПАКАЗА́ЦЬ) ЗУ́БЫ. Агрыза́цца. *Пакуль мой хлеб ясі, зубы мне паказваць ні будзяш. Пайдзеш з хаты – жыві як хочаш. А пакуль будзя так, як я скажу.* Скураты Квас.

ПАКА́ЗВАЦЬ (ПАКАЗА́ЦЬ) НА ПАРО́Г. Выганяць. *Прыехоў некі прыблуда-прадсядацяль, давай парадкі свае ўстанаўліваць. То людзі ўзбунтаваліся, хутко паказалі яму на парог. Ніяк ні схацелі за яго гала-*

*савацъ.* г.Івацэвічы.

ПАКА´ЗВАЦЬ ПА´ЛЬЦОМ. Асуджаць. *Загарадзі плота – сві´ня ў агарод лезуць. А то дажыўся да таго, што людзі на цябе пальцом паказваюць.* Квасевічы Квас.

ПАКІДА´ЦЬ ГУЛЬТАЁЎ. Пацягвацца. *Ні пакідай гультаёў на маём ложку, ні пацягвайся.* Альшаніца Квас.

ПАКІ´НУЦЬ НА АДНО´М ПО´ПЯЛІ. Спаліць. *Немцы, як адступалі, пакінулі нас на адном попялі.* Бялавічы Кос.

ПАКІ´НУЦЬ НА ГАДО´ЎЛЮ. Гадаваць. *Карова цялушачку прывяла, да гэдыка хароша: ножкі тонянькія, зорачка на лбе. Пакінулі на гадоўлю, шкада збываць.* Размеркі Стайк.

ПАКЛА´СЦІ ВО´КО. Зацікавіцца. *Хрэснік у водпуск з арміі прышоў. А суседска дзеўчына яшчэ ў школу хадзіла. Адразу паклаў воко на яе, пасля арміі пажаніліся.* г.Косава.

ПАКЛА´СЦІ ГАЛАВУ´. Загінуць. *З нашых мужчын, каторых на фронт пабралі, палавіну паклалі голавы.* Заполле Кос.

ПАКУ´ЛЬ НО´ГІ НО´СЯЦЬ. Колькі стае сілы. *Пакуль ногі носяць, то і кароўку трымаю, і парэсятко. А як ні здужаю, то ніц трымаць ні буду.* Скураты Квас.

ПА ЛЕ´ВУЮ РУ´КУ. Злева. *Па левую руку ад сяла цячэ рэчка.* Альшаніца Квас.

ПАЛІЧЫ´ЦЬ РЭ´БРА. Набіць. *Яшчэ раз троняш майго хлопца, я табе гэтым кіём рэбра палічу. Ні пагляджу, шчо кавалер ужэ.* Хрышчонавічы Квас.

ПА´ЛЬЦА АБКРУЦІ´ЦЬ НІ ЎЗЯЦЬ. Нічога (не ўзяць). *Я другі раз замужом, гэто ў мяне другі мужык. Ад першаго пайшла і пальца абкруціць ні ўзяла: такі жмінда быў, ні давядзі Бог. Сало гаршка засквaрыць выдзяляў.* Альшаніца Квас.

ПА´ЛЬЦОМ НЕ ПАВАРУШЫ´ЦЬ. Нічого не рабіць. *Ано работы свае глядзіць, а прыдзя дахаты, то*

*пальцом ні паварушыць па гаспадарцы.* Панкі Люб.

ПА´ЛЬЦОМ ПХА´НАЯ. Каўбаса хатняга прыгатавання. *Німа смачнейшае каўбасы, як пальцом пханая.* Корачын Жытл.

ПА´ЛЯЦ АБ ПА´ЛЯЦ НІ СТУ´КНУЦЬ (НІ ЎДА´РЫЦЬ). Гультаяваць. *Папрасіла суседка мяшка паддаць на плечы з картоплямі. Узяўся спачатку, а пасля кінуў, кажа: "Алена, я ж у адпуску". Цэлы месяц прагультаяваў, паляц аб паляц ні ўдарыў, усё водпуск спраўляў.* Альшаніца Квас.

ПАЛЯЦЕ´ЦЬ З МАТЫЛЯ´МІ. Памерці. *Забярэ смерць, з матылямі не паляціш.* Бялавічы Квас.

ПА´ЛЯЦ У РОТ НІ КЛАДЗІ´. Востры на язык хто. *Ты яму слово, а ён табе дзесяць у адказ. Яму паляц у рот ні кладзі, з ім не згаворышся. Рыхтык дзед пакойны. Той такі быў.* Заполле Кос.

ПАЛЯЧЫ´ЦЬ ГО´ЛОЎ. Пахмяліцца. *Наняла суседа картоплі абгараць. Кажа, пакуль ні палячу голоў, рабіць ні змагу. Прыйшлося ў магазін бегчы.* Квасевічы Квас.

ПАМА´ЗАЦЬ ПА ГУБА´Х. Даць хабар. *Пайшла да дохтара, то на мяне, старую, глядзець ні хоча. Але як добра памазоў сын яму губы, паклаў у бальніцу.* г.Івацэвічы.

ПА МАЛАДО´СЦІ. Па нявопытнасці. *Па маладосці ўсе мы бацькам клопату даем, ні слухаям іх. Але як наб'ем шышок на лбе, то бярэмся за розум, пачынаям разумець бацькоў.* Жамайдзякі Міл.

ПАМІНА´Й ЯК ЗВА´ЛІ. Згінуць, прапасці. З*а салдата замуж пайшла. Вяселле зрабілі. Ну, ён паехоў бацькоў праведаць недзі ў Расію. Паехоў – і памінай як звалі. Ды людзі смяяліся, шчо на паявой кніжцы распісаліся.* Альшаніца Квас.

ПАМІНА´ЦЬ (ПАМЯНУ´ЦЬ) ДО´БРЫМ СЛО´ВОМ. Успамінаць пра чалавека з дабрынёю і ўдзячнасцю. *Памянем добрым словом Антося. Добрай душы быў чалавек. Пухом яму зямля.* г.Івацэвічы.

ПАМІРА´ЦЬ АД СМЕ´ХУ. Рагатаць. *Баіцца жонкі як агню. А гэто быў падпіў, давай сварыцца. А на гуліцы. То людзі слухалі і паміралі ад смеху.* Падстарынь Падст.

ПАМО´ЖА ЯК МЁ´РТВАМУ КАДЗІ´ЛО. Ніяк (не дапаможа). *Як чалавек сам ні адужая хваробу, то гэтыя таблеткі памагаюць як мёртваму кадзіло.* Заполле Кос.

ПАМЯНЕ´Ш (ПАПО´МНІШ) МАЁ СЛО´ВО. Так выказваюць упэўненасць, што сказанае абавязкова збудзецца, здзейсніцца. *Казаў табе: стаў хату вокнамі да сонца. Ні паслухоў. Яшчэ ні раз памянеш маё слово. Вышло – у хаці як у цюрме: цёмно, сыро. Бо сонца мало.* Альшаніца Квас.

ПАМЯНЯ´ЦЬ БЫ´КА НА ІНДЫ´КА. Нявыгадны абмен, няўдалы гандаль. *Надто хацела ў горадзі жыць. Прадала хату ў сяле, купіла кварціру ў горадзі. А тая кварціра на пятом этажэ. Летом гарачэ, зімою халадно. Цяжко падымацца. Шкадуя зараз, кажа: памяняла быка на індыка.* г.Івацэвічы.

ПА´МЯЦЬ КУРЫ´НАЯ. Дрэнная, слабая (памяць). *Пазычыла грошы і ні аддаеш. Яны мне з неба ні падаюць. Забылася яна! Што? Памяць курыная?* Заполле Кос.

ПАНА´ДЗІЛАСЯ СВІНЯ´ Ў АГАРО´Д. Спадабалася лёгкая нажыва. *Бачыш, панадзілася свіня ў агарод. Унук мой ведая, калі пенсію прыносяць. Прыдзя, збедніцца, дай, баба, на курыво. Зарабі ідзі, кажу. Курыць навучыўся – навучыся грошы зарабляць.* Скураты Квас.

ПА´НІ НА ЎСЕ СА´НІ. Так скажуць пра мажнага чалавека. *Ну, ты і разрабілася: пані на ўсе сані. Ты ў аўтобусі адна за дваіх место займаяш.* г.Косава.

ПА НУТР´У (ПА СЭ´РЦЫ). Даспадобы. *Тры сыны ў мяне, тры нявесткі. От меншаго жонка мне па нутру: гэдака хутка, бы я. У яе ўсё ў руках гарыць, усё ладзіцца. А як зварыць, то не ад'есціся.* Мілейкі Міл.

ПАНЧО´ХУ НАБІВА´ЦЬ (НАБІ´ЦЬ). Збіраць грошы, багацець. *Набівалі панчохі, складалі, а разваліўся Савецкі Саюз ды папрападалі нашыя грошы за сліну. А колькі труда паклалі на іх, колькі поту. І ўсе маўчаць.* Заполле Кос.

ПАНЮ´ХАЦЬ КО´РКА. Выпіць гарэлкі. *Ты, мусі, сёні ўжэ панюхоў корка – надто ж вясёлы.* Альшаніца Квас.

ПАНЯСЦІ´ З САБО´Й Ў МАГІ´ЛУ. Памерці, не адкрыўшы тайны. *Грошы ўсё збіраў, хаваў ад жонкі. Раптоўно памёр, панёс з сабою ў магілу тайну. Ніхто так і не знайшоў тых грошай.* г.Івацэвічы.

ПАПАДА´ЦЬ (ПАПА´СЦІ) НА ВО´ЧЫ. Сустрэцца, сутыкнуцца. *Э, папаў на вочы начальніку – лічы прапаў: дахаты з работы раней не вырвяшся.* г.Косава.

ПАПАДА´ЦЬ (ПАПА´СЦІ) ПА´ЛЬЦОМ У НЕ´БО. Не разабрацца ў сітуацыі. *Стаім, гаворым, шчо прывязлі ў магазін. Прышла, ні слухая, шчо мы гаворым, да давай ваяваць на нявестку. Во папала пальцом у небо. Нездарма кажуць: каму што баліць, той пра тоя і гаворыць.* Хрышчонавічы Квас.

ПАПАДА´ЦЬ (ПАПА´СЦІ) Ў ЛА´ПЫ. Апынуцца ў няпростым становішчы. *Пасля вайны многіх навабранцоў замест арміі ў Данбас на шахты адправілі. Ды паўцякалі з того Данбаса дахаты. Але тут папалі ў лапы міліцыі. Нават нікаторых пасадзілі ў цюрму. А астатнія ўжэ самы паехалі назад.* Альшаніца Квас.

ПАПАДА´ЦЬ (ПАПА´СЦІ) У ПЕРАПЛЁ´Т. Трапіць у непрыемнае становішча. *Ехоў з Мінска пояздом, прыснуў трохі. Прахапіўся, а чамадана німа. А смакоў накупляў. То іх ні шкадаваў ужэ, але ж пашпарт там быў. Папаў у пераплёт, то папаў. Праўда, праз тыдзянь прыслалі пашпарта па почці. От табе і заснуў.* г.Івацэвічы.

ПАПА´СЦІ ПАД ГАРА´ЧУ РУКУ´. Атрымаць вы-

смычку. *Папаў пад гарачу руку брыгадзіру. То дасталосё і мне і майму напарніку. Кажа, ні на том полі касілі каравам, гэту сеянку на насення пакінулі.* Заполле Кос.

ПАПА´СЦІ Ў ДО´БРЫЯ ЛЮДЗІ´. Жыць сярод памяркоўных, разумных людзей. *Дачку замуж аддала далёко, але папала ў добрыя людзі.* Старажоўшчына Кос.

ПАПА´СЦІ Ў НЕ´РАТ. Трапіць у непрыемнае становішча. *Паехоў у Косаво на базар. Прычапіўся чалавек з Гошчава: "Гэто ты мне прадаў сляпого каня". О папаў у нерат, як кажуць, ні ўзад ні ўперад. Добра, што Іван Буляёў быў. То ён заступіўся.* Заполле Кос.

ПАПО´МНІШ МАЁ´ СЛО´ВО. Г.зн. збудзецца тое, пра што гаворыцца. *Папомніш маё слово: вясна позняя – лето будзя дажджлівае.* Заполле Кос.

ПА ПО´ЎНІЦЫ. Прагна есці. *Даў карові канюшыны леташняе. Хоць трохі і прылеглая, але ўсё раўно па поўніцы есць.* Кушняры Падст.

ПА ПРА´ВУЮ РУ´КУ. Справа. *Па правую руку, адразу за хутаром, быў гасцінец.* Заполле Кос.

ПА ПРА´ЎДЗІ КА´ЖУЧЫ. Па шчырасці. *Па праўдзі кажучы, ні люблю я сваю жонку, але жыву радзі дзяцей.* г.Івацэвічы.

ПАПУСЦІ´ЦЬ ЛЕ´ЙЦЫ. Паменшыць патрабаванні. *Як ано дзецям трохі лейцы папусціш, так і садзяцца на голоў.* г.Косава.

ПАПУСЦІ´ЦЬ НЮ´НІ. Расплакацца. *Грошы згубіла, папусціла нюні. Халера з імі. Грошы – дзело нажыўное, заробім. Абы здароўе было.* Альшаніца Квас.

ПАПЯРО´Д БА´ЦЬКА Ў ПЕ´КЛО. Паспешліва, не прадумаўшы, нешта рабіць. *Не садзі тут картоплі, гэто не твае соткі, не лезь папярод бацька ў пекло.* Дубітава Міл.

ПА ПЯ´ТАХ. Не адстаючы. *Не хацела я ісці за яго замуж. Але ж дыхаць не даваў, хадзіў за мною па пя-*

*тах. Пажаніліся. Добра жывем.* Любішчыцы Люб.

ПАРАХНЯ´ СЫ´ПЛЯЦЦА. Нехта вельмі стары, слабы. *З яго парахня сыпляцца, а ён яшчэ да Анэлі сватаяцца. Дурная будзя, калі прымя.* Размеркі Стайк.

ПАРО´ЦЬ ВО´ЧЫ. 1. Папракаць. *Пора вочы, шчо буракі кепско апалола. А шчо ў мяне дзесяць рук, шчо за ўсё ўхаплюся?* Жамайдзякі Міл. 2. Замінаць, перашкаджаць. *Шчо табе поруць вочы мае дрова? Хай паляжаць на гуліцы, прыбяру.* Альшаніца Квас.

ПАРО´ЦЬ ГАРА´ЧКУ. Гарачыцца, спяшацца. *Ні пары гарачку, ні спяшайся. Усё абдумай. Папытайся ў старых людзей. Яны падкажуць, дзе лепш капаць калодзязя.* Скураты Квас.

ПА РУКА´Х. Так скажуць, калі дамову замацоўваюць поціскам рук. *Нашы дзяды давяралі не паперкам, як зараз, а адзін аднаму. Ударыць па руках – усё, дамовіліся.* Бялавічы Кос.

ПА´РЫЦЬ КО´СЦІ. Так кажуць пра памерлага чалавека. *Мой тато ўжэ дваццаць гадоў парыць у зямельцы косці, а яго равеснікі яшчэ па грыбы ходзяць.* г.Івацэвічы.

ПА САБ´Е. Асобна. *Мае дзеці павырасталі, па сабе ўсе жывуць. У кожнаго свая сям'я.* Грыўда Міл.

ПА СА´МЫЯ ВУ´ШЫ. Цалкам. *Ажаніўся мой сынок, то ажаніўся, улез па самыя вушы. Жонка такая гультаіна, есці і то лянуяцца наварыць. Усё сам робіць.* Зялёны Бор Стайк.

ПАСЛЯ´ ДО´ЖДЖЫКУ Ў ЧАЦВЕ´Р. Ніколі. *Жаніся да жаніся, калі да калі – пасля дожджыку ў чацвер.* Була Міл.

ПАСПЕ´ЦЬ З КО´ЗАМІ НА ТОРГ. Не спяшацца. *Калі быў – калі будзяш. Пабудзь яшчэ трошкі, да вечара далёко, паспеяш з козамі на торг.* Хадоркі Кос.

ПАСТА´ВІЦЬ БУТЫ´ЛКУ. Пачаставаць. *Прыходзь у госці, пастаўлю бытылку, пагаворым, моладасць*

*успомнім.* Воля Жытл.

ПА СТАРО´Й ПА´МЯЦІ. Успамінаючы пра ранейшыя добрыя адносіны. *Бываю ў горадзе, па старой памяці ніколі не мінаю хаты Валодзі Качара, сябра дзяцінства.* Любішчыцы Люб.

ПА ТОЙ РАЗ. Пасля таго. *Паймала дзяцей у трускаўках. То гэдак папалохаліся, што па той раз ужэ ні лезуць.* Размеркі Стайк.

ПАТРЭ´БНЫ ЯК ЛЕ´ТАШНІ СНЕГ. Зусім непатрэбны. *Ты мне патрэбны як леташні снег. Ні ведала я цябе трыццаць гадоў, ні хачу ведаць яшчэ столькі.* Ятвезь Квас.

ПАЎВА´ЛЬВАЦЬ ВО´ЧЫ. Уразіцца, моцна здзівіцца. *Памятаю, прывёз Антосько жонку з горада. Узяў яе з сабою сено грабці. Яна раздзелася і грабе. А людзі паўвальвалі вочы і глядзяць на такоя срамоцце. Дзіво было. А цяпер да ўсяго папрывыкалі.* Заполле Кос.

ПАЎЦЯГА´ЦЬ РУ´КІ. Натаміць. *Паўцягала рукі ў калхозі. Зараз кусок хлеба цяжко да рота давясці, а пенсія – кот наплакоў.* Альшаніца Квас.

ПАХАДЗІ´ЛІ РУ´КІ. Пакінуць пасля сябе добры след. *Куды ні гляну – усюды маміны рукі пахадзілі. І па палавічках яе хаджу, і пасцель яе радзюшкаю засцілаю, і місачкі яшчэ яе.* Заполле Кос.

ПА´ХНЯ (ЗАПА´ХЛО) ПА´ЛЯНЫМ. Становіцца небяспечна. *Глядзеця, перастаньця ставіць сеткі на возяры – пахня паляным. Каб гэтая рыба ні стала вам залатою, як паймаюць.* Гладышы Міл.

ПАЦАЛАВА´ЦЬ У ЗАМОК (У КЛЯ´МКУ, У ПРЫБОЙ). Не застаць дома. *Пайшла да сястры ў Хадоркі, пацалавала ў замок – ды дахаты: яна да дачкі паехала.* г.Косава.

ПАЦІРА´ЦЬ РУ´КІ. Радавацца. *Прышла з работы, а мужык ано рукі паціра: цяля здаў. А то ўжэ карову засмактало, а здаць не было дзе.* Жамайдзякі Міл.

ПАЦІСКА´ЦЬ (ПАЦІ´СНУЦЬ) ПЛЯЧЫ´МА. Выказваць няведанне. *Пытаюся ў мужыка, дзе лепш соткі ўзяць. А ён ано пацiская плячыма. А ты рабі, шчо хочаш.* Заполле Кос.

ПАЦЯГНУ´ЛО ЗА ЯЗЫ´К. Сказаць лішняе, тое, пра што трэба было прамаўчаць. *От пацягнуло мяне за язык.І нашто я, дурная, сказала, што яго жонка падгульвая. Хай бы ад каго другого пачуў.* Гошчава Стайк.

ПАЧУ´ХАЦЬ ПАТЫ´ЛІЦУ. Шукаць выйсце з пэўнай сітуацыі. *Троя сыноў расце. Ты ні думай, яшчэ ўсяго бу-дзя, пачухаяш не раз патыліцу. Яны яшчэ малыя, а ўжэ людзям вочы выядаюць.* Скураты Квас.

ПАЧЫНА´ЦЬ (ПАЧА´ЦЬ) З НУЛЯ´. Ад самага пачатку. *Пагарэлі ў вайну, то ўсё з нуля пачыналі.* Заполле Кос.

ПАШУКА´ЦЬ ТРЭ´БА ТАКО´ГО (ТАКУ´Ю, ТАКО´Е, ТАКІ´Х). Рэдка сустракаецца. *Такого чалавека, як ты, пашукаць трэба: ад родных дзяцей хаваяшся, ні хочаш аліменты плаціць.* Альшаніца Квас.

ПЕРАБІВА´ЦЦА З ХЛЕ´БА НА ВО´ДУ. Жыць у нястачы. *Якая ў мяне маладосць? Вайна, а пасля калхозы. От, перабіваліся з хлеба на воду, рабілі як коні, а палучалі капейкі.* Скураты Квас.

ПЕРАБІ´ЛА СВІНЯ´ ПА´ЦЯРЫ. 1. Перапыніць гаворку. *Не дала дагаварыць, перабіла свіня пацяры. Яна, бач, лепяй ведая за мяне, калі мае бацькі пажаніліся.* Скураты Квас. 2. Перапыніць працу, занятак. *Палавікоў хочу вyткаць. Ано села за кросна, прыбягая суседка: "Маня, пабеглі, аўталаўка прыехала. Кажуць, буркі прывязлі". Перабіла свіня пацяры, пабегла і я па тыя буркі.* Скураты Квас. Пацяры – малітвы

ПЕРАБІРА´ЦЬ (ПЕРАБРА´ЦЬ) У ГАЛАВЕ´ (У ПА´МЯЦІ). Успамінаць, абдумваць пeражытае. *Старая ўжэ. Сон ні бярэ. Лягу з вечара, то да ранку ўсё перабяру ў галаве. І маладосць успомню, і тата з мамаю.*

Галенчыцы Ягл.

ПЕРАБІ´ЦЬ ПА´ЦЯРЫ. Перарваць гаворку ці работу. *Сціхні, перабіла мне пацяры, ужэ забылася, шчо хацела папытацца.* Альшаніца Квас.

ПЕРАВАРО´ЧВАЦЬ (ПЕРАВЯРНУ´ЦЬ) УВЕ´РХ ДНОМ. Рабіць непарадак. *Унукоў адных дома пакінула. Здэцца, і не малыя ўжэ, а хату перавярнулі ўверх дном.* Скураты Квас.

ПЕРАВО´ДЗІЦЬ (ПЕРАВЯСЦІ´) ДУХ. Перадыхнуць. *Не ідзі, унучок, так хутко, ідзі памалей. Дай мне дух перавясці.* Заполле Кос.

ПЕРАВЯРНУ´ЦАА (-ЎСЯ, -ЛАСЯ, -ЛІСЯ) У ТРУНЕ´. Жахнуцца. *Каб твой бацько ўбачыў, як жонка і дзеці страдаюць з табою, то перавярнуўся б у труне. Бацько твой век пражыў – яго ніхто п'янаго ні бачыў. А ты ні прасышаяш.* Бялавічы Кос.

ПЕРАВЯРНУ´ЦЬ ГО´РЫ. Шмат зрабіць. *Летні дзень велькі, можно горы перавярнуць.* Верашкі Квас.

ПЕ´РАД НО´СОМ. Побач, блізка. *Чаго ты шукаяш па ўсём надворку вілы? Во яны, у цябе перад носом стаяць, ля стажка.* Гошчава Стайк.

ПЕРАЕ´СЦІ ДУ´ШУ (СЭ´РЦА, НЕ´РВЫ). Знерваваць. *Усю душу ты мне за дзень пераеў. Лепш бы ты ішоў у лес па грыбы.* Заполле Кос.

ПЕРАКІ´НУЦЬ ЧО´РНЫМ НАВЕ´РХ. Згараць абыяк. *Соткі далі. Трактарысты перакінулі чорным наверх, а грошы велькія плаціць трэба.* Альшаніца Квас.

ПЕРАЛІВА´ЦЬ З ПУСТО´ГО Ў ПАРО´ЖНЯЕ. Гаварыць пустое, няважнае. *Пазбіраюцца бабы ля калодзязя і пераліваюць з пустого ў парожняя. Аж дрова ў печах пагараць.* Бялавічы Кос.

ПЕРАМЫВА´ЦЬ (ПЕРАМЫ´ЦЬ) КО´СТАЧКІ. Абгаворваць, пляткарыць. *Як пазбіраюцца бабы ля магазіна, то ўсім костачкі перамыюць: і жывым, і мертвым.* Скураты Квас.

ПЕРАХО´ДЗІЦЬ (ПЕРАЙСЦІ´) ДАРО´ГУ. Перашкаджаць, перабіць намеры. *Гэто ты мне дарогу перайшоў, апярэдзіў мяне. Я хацеў сватоў да Алены пасылаць.* Яглевічы Ягл.

ПЕРШ-НА´ПЕРШ. Напачатку. *Перш-наперш падкі´ рабілі, як стажкі клалі, бо мокро было.* Заполле Кос. Падок – стажар'е.

ПЕ´РШЫМ КУСКО´М УДАВІ´ЦЦА. Адзін раз уступаць у шлюб. *Добра першым куском удавіцца. Перша жонка, кажуць, ад Бога, а другая – ад людзей.* Альшаніца Квас.

ПЕ´ЧКІ-ЛА´ВАЧКІ. Так скажуць пра людзей, паміж якімі пануе згода, паразуменне. *У калхознаго брыгадзіра з кладаўшчыком печкі-лавачкі, іх вадою ні разальеш.* Заполле Кос.

ПІЛЬНАВА´ЦЬ СВАЙГО´ НО´СА. Не ўмешвацца ў чужыя справы. *Ты ў маю сям'ю не лезь. Свайго носа пільнуй. Я і сам дам рады разабрацца.* г.Івацэвічы.

ПІЦЬ (ВЫ´ПІЦЬ) КРОЎ. Здзекавацца. *Каторы гадок ты маю кроў п'еш. Ну, хутко вып'яш. Паглядзіш, як аднаму добра.* г.Косава.

ПІЦЬ У ЦЁ´МНУ ГО´ЛОЎ. П'янстваваць. *Стары чалавек, а цэлу нядзелю п'е ў цёмну голоў: унучка нарадзілася, то замочвая.* Грыўда Міл.

ПІШЫ´ ПРАПА´ЛО. Усё дарэмна. *Пазычыў грошы Андрэю, то пішы прапало. Ён зроду нікому не аддае.* г.Івацэвічы.

ПЛА´КАЦЬ ЯК БАБЁР. Не сціхаючы. *Успомніў нябожчыка дзядзька Мікалая. Як у армію каго бралі, то ён плакоў па навабранцу як бабёр. Гэдак шкадаваў, бо самого на вайну забралі ў васімнаццаць гадоў. Нацярпеўся ўсяго.* Скураты Квас.

ПЛАСТО´М ЛЯЖА´ЦЬ. Моцна хварэць. *Гэдак на грыпу людзі гэты год хварэюць, пластом ляжаць.* г.Косава.

ПЛА´ЧА АЖ ЗАХО´ДЗІЦЦА. Нястрымна, не сціхаючы. *Маці з сабою ні ўзяла па ягады, кажа, далёко пайду. То во плача аж заходзіцца.* Бялавічы Кос.

ПЛЫЦЬ (ПЛЫ´СЦІ) МІЖ ПА´ЛЬЦОЎ. Хутка траціць. *Абоя на грашах, добра палучаюць, але плывуць тыя грошы ў іх між пальцоў. Ад палучкі да палучкі ні заўсёды хватая.* Хрышчонавічы Квас.

ПЛЫЦЬ У РУ´КІ. Шанцаваць. *Як пагляджу, то маёй суседцы грошы самы ў рукі плывуць: то ў латарэю выграла, то пенсію дабавілі.* Скураты Квас.

ПЛЮ´НУЦЬ НІМА´ КУДЫ´. Вельмі многа, шматлюдна. *Прыехоў цырк у Вацэвічы. Людзей назбіраласё – плюнуць німа куды.* г.Косава.

ПЛЮНЬ І РАЗАТРЫ´. Не звяртай увагі. *Хай шчо хочуць гаворацЬ, а ты плюнь і разатры, абы твая душа нявінна была.* Альшаніца Квас.

ПЛЯВА´ЦЬ НА БО´РАДУ. Аслабець. *Ой, браток, ужэ зусім я нікудышні – на бараду плюю. Ніякае сілы ні ў руках, ні ў нагах німа.* Заполле Кос.

ПЛЯВА´ЦЬ СУ´ПРАЦЬ ВЕ´ТРУ. Рабіць сабе на шкоду. *З табою, Манька, спорыць, што пляваць супраць ветру. Хай будзя па-твояму.* Мілейкі Міл.

ПЛЯВА´ЦЬ У ВО´ЧЫ. Дакараць, бэсціць за бессаромства, але не дасягаць мэты: бо гэта такі чалавек – ён не ведае сораму. *Ён не ведая сораму. Яму плюй у вочы – скажа, дождж ідзе.* Мілейкі Міл.

ПЛЯВА´ЦЬ (НАПЛЯВА´ЦЬ) У ДУ´ШУ. Знеunião важаць. *Прычапіўся, што мой сын па блату ў інстытут паступіў. Ано мне ў душу напляваў. Мой сын на адны пяцёркі ў школі вучыўся, і там на чырвоны дзіплом вучыцца.* г.Івацэвічы.

ПЛЯ´СКАЦЬ У КАЦЁТЫ. Апладзіраваць. *На канцэрці была. Так пляскала ў кацёты – аж пачырванелі. Але ж і спявалі харашэ.* Альшаніца Квас. Кацёты – далоні.

ПЛЯ́СКАЦЬ ЯЗЫ́КОМ. Гаварыць не па справе, не па сутнасці. *Пайшлі лён калаціць, а трактара доўго ні было. То да абеда пляскалі языкамі.* Скураты Квас.

ПЛЯСЦІ́ КАШАЛЕ́ (ЛА́ПЦІ, РЭ́ЗГІНІ, РЭ́ШАТО). Доўга і нудна гаварыць пра нязначнае, пустое. *Другі час пляцеш кашале, а я так і не дакумекоў, шчо ты хацеў сказаць.* Заполле Кос.

ПЛЯСЦІ́ РАКІ́ТАВЫЯ ПАСТАЛЫ́. Гаварыць абы-што. *Шчо ты мне цэлы вечар ракітавыя пасталы пляцеш! Прызнавайся, любіш мяне ці не?* Заполле Кос.

ПЛЯСЦІ́СЯ Ў ХВАСЦЕ́. Адставаць. *Памятаю, грыбоў надто много было за Ворляю. Брат старэйшы і мяне ўзяў. Паўнюткі кошык назбірала. Я ледзьве іду, а ён крычыць: "Чаго ты пляцешся ў хвасце?".* Хрышчонавічы Квас.

ПО́ЛЬСКІ КАВАЛЕ́Р. Стары халасцяк. *Дачка замуж сабралася ісці, а ён яшчэ польскі кавалер, і дзе яе вочы.* Альшаніца Квас.

ПО́ЎЗАЦЬ НА КАЛЕ́НЯХ. Прыніжацца, дагаджаць. *Мая сястра на каленях поўзая перад мужыком: усё яму патурая. Я свайму ні паддамся, але мой і ні гэдыкі ліхі.* г.Івацэвічы.

ПО́ЎЗАЦЬ СА СМЕ́ХУ. Рагатаць. *Спраўлялі залатое вяселле дзеду з бабаю. Да дасталі з куфра вэлюм вясельны яе, адзелі на голоў. То ўнукі поўзалі са смеху.* Мілейкі Міл.

ПО́ЎНЫ ЯК ВО́КО. Напоўнены да краёў. *Летом пры доброй пашы я ад свае каровы надойваю малака вядро, поўнае як воко. А ў вядрэ дванаццаць літроў.* Альшаніца Квас.

ПО́ЯДОМ Е́СЦІ. Выказваць нездавальненне, прыдзірацца. *Дзясятаму закажу за старого замуж ісці. Бало, мне на музыкі хочацца пайсці, рано паспаць даўжэй. А ён поядом есць. Усё хацеў, каб дома сядзела, пры ём.* г.Косава.

ПРАВАЛІ´ЦЦА МНЕ НА ГЭ´ТОМ МЕ´СЦІ. Такімі словамі клянуцца. *Праваліцца мне на гэтом месці, калі мучу´: на сваe вочы бачыў, як Гнат коніка з Косава вёў, у мешчаніна купіў.* Скураты Квас.

ПРАВАЛІ´ЦЦА СКРОЗЬ ЗЕ´МЛЮ. Так скажуць, калі адчуваюць вялікі сорам. *Зроду чужого ні брала. А тут торбачку картоплёў узяла на развод. Брыгадзір нарваўся. Гатоў была праваліцца скрозь землю, хоць ён і ні сказаў нічого.* Хрышчонавічы Квас.

ПРАДАВА´ЦЬ (ПРАДА´ЦЬ) ЗА ГНІЛУ´Ю РЫ´БУ. Вельмі танна, не па кошце тавару. *Парасят на базар вазіў. Прадаў за гнілую рыбу.* Альшаніца Квас.

ПРАДАВА´ЦЬ ЗУ´БЫ. Выскаляцца. *Больш я з табой на вячоркі ні пайду: цэлы вечар прадавала зубы перад хлопцамі, як дурачка.* Куляшы Міл.

ПРАДАВА´ЦЬ (ПРАДА´ЦЬ) ЧО´РТУ ДУ´ШУ. Жыць, ігнаруючы правілы маралі. *Пайшоў у паліцыю служыць пры немцах, то прадаў чорту душу. Ано род свой зняславіў.* г.Косава.

ПРАДА´ЦЬ І ГРО´ШЫ ПАЛІЧЫ´ЦЬ. Так скажуць пра ашуканца, бессаромнага чалавека. *Ты з ім дружбу ні вядзі. Бо ён цябе прадасць і грошы палічыць.* Альшаніца Квас.

ПРАГЛЯДЗЕ´ЦЬ ВО´ЧЫ. Углядацца, доўга чакаць. *Праглядзела ўсе вочы, пакуль аўталаўку даждалася. Унукі на канікулах, а хлеба німа.* Размеркі Стайк.

ПРАГНА´ЦЬ СМА´ГУ. Напіцца. *Кожны раз, бывало, як з ягад ідзем, у Растаўшчыні астановімся, на Фядосцы. Апаласнемся, пражанем смагу, а тады і дахаты весялейшыя ідзем.* Альшаніца Квас.

ПРАЗ ЗУ´БЫ. Гаварыць з непрыязнасцю. *Чаго ты цэдзіш праз зубы, морду скрывіў? Я тваіх пакосоў ні пабраў. Ні на того ты думаяш.* Заполле Кос.

ПРАЗ СІ´ЛУ. Прымушаючы сябе, стрымліваючы сваe пачуцці. *Ні хочацца ўжэ есці старому чалавеку.*

*Усё праз сілу ем.* Сенькавічы Падст.

ПРАЛУПІ´ЦЬ ВО´ЧЫ. Прачнуцца. *Ніздарма ты такі тоўсты. Ні паспеяш пралупіць вочы, а ўжэ шукаяш паесці.* Була Міл.

ПРАЛЯТА´ЦЬ МІ´МА ВУШЭ´Й. Няўважліва слухаць, не запамінаць. *Вучу, вучу, сынок, цябе, а ў цябе ўсё пралятая міма вушэй. Ты ўсё за сваё.* Бусяж Міл.

ПРАМО´КНУЦЬ ДА НІ´ТКІ (ДА РУБІ´НАЧКІ). Стаць мокрым, зусім прамокнуць. *З ягад ехала да папала пад дождж. То прамокла да рубіначкі.* Ёдчыкі Квас.

ПРАПІ´ЦЬ МАЗГІ´. Адурэць ад гарэлкі. *Зараз палавіна мужыкоў прапілі мазгі. На раніцу ўжэ пільнуюць, каб магазіна адчынілі. Ні сям'я, ні работа – ніц ім ні трэба.* г.Косава.

ПРАСВЕ´ТЛАЯ ГАДЗІ´НА (ЧАСІ´НА). Вольны час. *У сяле ні зімою, ні летом німа прасветлае гадзіны. Век работаю душышся.* Альба Квас.

ПРАТРУБІ´ЦЬ УСЕ´ ВУ´ШЫ. Гаварыць пра адно і тое ж. *Ты мне ўсе вушы пратрубіў, напамінаючы. Дагаварыліся ж: заўтра паедзям купляць табе ровара.* Куляшы Міл.

ПРАЦЕРАБІ´ЦЬ ЗУ´БЫ. Мецъ ежу. *Во жыццё пайшло: устаў рано і думай, чым працерабіць зубы.* Ятвезь Квас.

ПРО´СЯЦЬ КА´ШЫ. Патрабуецца рамонт (пра абутак). *Аддала за боты шалёныя грошы. Месяц ні панасіла, а ўжэ кашы просяць.* г.Івацэвічы.

ПРЫБІВА´ЦЦА (ПРЫБІ´ЦЦА, ПРЫСТА´ЦЬ) ДА БЕ´РАГА. Звіць сваё гняздо. *Пара табе, сынок, прыбіцца да берага. Чацвёрты дзясяток размяняў, а ўсё адзін.* Стайкі Стайк.

ПРЫБІРА´ЦЬ (ПРЫБРА´ЦЬ) ДА РУК. Прысвойваць, завалодваць. *Нас чацвёро ў бацькоў было, а менша сястра ўсё пасля іх смерці да рук прыбрала.* г.Косава.

ПРЫГРЭ´ЦЬ ЗМЯЮ´ ЗА ПА´ЗУХАЮ. Даверыцца крывадушнаму чалавеку. *З хаты мае ні вылазіў. А я і ні*

*ведоў, што прыгрэў змяю за пазухаю. Гэто ж ён сказаў міліцыі, што я гарэлку гнаў.* Гошчава Стайк.

ПРЫ ДУШЭ´. У наяўнасці (пра грошы). *Ні прасі, ні пазычу я табе нічого: у мяне пры душэ капейкі німа.* Заполле Кос.

ПРЫЖЫ´ЦЬ ДЗІЦЯ´. Нарадзіць пазашлюбнае дзіця. *Ні распісваюцца, а дзіця прыжылі. Як на мяне, старую, то гэто велькі грэх.* Альшаніца Квс.

ПРЫ´ЙДЗЯ КО´ЗА ДА ВО´ЗА. Г.зн. прыйдзе час скарыцца. *Прыйдзя коза да воза, ты яшчэ папросішся ў мяне.* Альба Квас.

ПРЫЙСЦІ´ НА ПА´МЯЦЬ. Успомніцца. *Прыйшло на памяць, як з дзедом ездзілі канём на Пабяжыно па сено. Дарога далёка, а балота гэдыкаго я зроду ні бачыў: велькае, і дрыжыць пад нагамі.* Альшаніца Квас.

ПРЫЙСЦІ Ў ГО´ЛОЎ. Успомніць. *Маці наказала купіць ліпок на мухі. А мне прышло гэто ў голоў, як з Косава дахаты ішоў. Ні буду ж варочацца назад.* Заполле Кос.

ПРЫКІ´ДВАЦЦА ДУРАЧКО´М. Хітраваць. *Бачыш, прыкідваяцца дурачком: "Я здароўя ні маю, ні рабіў на камбайні зроду". Нябось, дзе лягчэй і плацяць добра, то ён здаровы. А на камбайні ад цямна да цямна рабіць трэба.* Квасевічы Квас.

ПРЫКЛАДА´ЦЬ (ПРЫКЛА´СЦІ) РУ´КІ. 1. Дапамагчы. *У бальніцы ляжала, а ўжэ старая, не здужая за сабою пахадзіць. То санітарачка маладая прыклала рукі, за ею ўхаджвала.* г.Косава. 2. Прыкласці намаганні. *Каб што вырасло ў агародзе на градзе, то трэба рукі прыкласці.* Размеркі Стайк.

ПРЫКЛАДА´ЦЬ (ПРЫКЛА´СЦІ) РУ´КУ. Прыняць удзел. *Аштрафавалі майго зяця, шчо прыцэп дроў прывёз. І ты, кум, да гэтаго руку прыклаў, за сведку пайшоў. На добры лад, то сказаў бы: ні бачыў нічого.* Гошчава Стайк.

ПРЫКУСІ´ЦЬ ЯЗЫ´КА. Прамаўчаць. *Прыкусі язы-*

*ка, без цябе разбяруцца. На тоя яны ўласць.* г.Косава.

ПРЫ МАЁЙ ПА´МЯЦІ. У маю бытнасць. *Ужэ пры маёй памяці цілівізары паявіліся. Мой бацько першы ў сяле купіў.* Альшаніца Квас.

ПРЫ НА´ШАЙ ПА´МЯЦІ. Пры жыцці. *У калхоз заганялі ўжэ пры нашой памяці.* Скураты Квас.

ПРЫНЕ´СЦІ Ў ПАДО´ЛКУ (У ПЕ´ЛЯНІ). Нарадзіць пазашлюбнае дзіця. *Дачка Кастусёва прынясла ў падолку дзіця: гадуйця, а сама даляй гуляя.* Воля Жытл.

ПРЫНЯСЦІ´ ЗА ГУ´БАЮ (ГУБО´Ю). Хоць трохі (пра ежу). *На вяселле пайдзеш, то хоць за губаю мне прынясі што смачнаго.* Зялёны Бор Стайк.

ПРЫ ПА´МЯЦІ. Без страты свядомасці. *Мой дзед пры памяці паміраў.* Хадоркі Кос.

ПРЫПАЎЗЦІ´ НА КАЛЕ´НЯХ. Умольна прасіцца. *Ні ўцякай, ні ўцякай! Ты яшчэ на каленях да мяне прыпаўзеш, як у міліцыю пазваню, што шыбу ў акне пабіў.* Гошчава Стайк.

ПРЫ СВАЁМ РО´ЗУМІ. У поўнай свядомасці. *От Бог доўгі век чалавеку даў: дзявяты дзясяток ідзе, у дахтароў зроду ні быў і пры сваём розумі.* Бялавічы Кос.

ПРЫСПА´ЦЬ ДЗІЦЯ´. Па неасцярожнасці ў час сну задушыць дзіця. *Даўней дзіця маці клала ля сябе, каб не ўставаць уночы. Натоміцца, жнучы цэлы дзень, то ўжэ і сілы ні было падымацца на ноч па колькі разоў. То бывало, што і прыспіць дзіця.* Заполле Кос.

ПРЫСТАВА´ЦЬ (ПРЫСТА´ЦЬ) З НАЖО´М ДА ГО´РЛА. Настойліва патрабаваць штосьці. *Прыстаў з нажом да горла: адно пазыч грошай. Другому даў бы, а яму не. Бо гэто ж на прапой. Ні даў!* Бялавічы Кос.

ПРЫСТА´ЦЬ ЯК СЛЯПЫ ДА ПЛО´ТА. Неадчэпна. *Ты чаго прыстаў да мае дачкі як сляпы да плота? Яна ў мяне вучыцца ў інсціцуці. А ты хто? Сабак ганяяш па сяле.* Няхачава Стайк.

ПРЫСЫ´ПАЦЬ ПЯСКО´М ВО´ЧЫ. Пахаваць. *Пайдзеш на* могліцы *– гэдулькі маладых, а ўжэ прысыпалі пяском вочы*. г.Івацэвічы.

ПРЫТРЫ´МЛІВАЦЬ (ПРЫТРЫМА´ЦЬ) ЯЗЫ´КА. Памаўчаць. *Прытрымай языка, а то каб гэты доўгі язык цябе да бяды не давёў.* Боркі Падст.

ПРЫТУ´ЛЬВАЦЬ (ПРЫТУЛІ´ЦЬ) ГО´ЛОЎ. Знайсці прытулак. *Пытаяшся, як жыву? От, жыву памаленьку. Прытуліла голоў да нашае меншанькае, паскрэбушкі ды гадую ўнукоў.* Юкавічы Стайк.

ПРЫХО´ДЗІЦЬ (ПРЫЙСЦІ´) ДА ПА´МЯЦІ. Апрытомнець. *Два тыдні мой чалавек у рэанімацыі ляжаў. А гэто прыйшоў да памяці, то перавялі ў палату.* г.Івацэвічы.

ПРЫХО´ДЗІЦЬ НА ЯЗЫ´К. Прыпамінаецца. *Бывало, бабы як пачнуць сварыцца, то смех і грэх. Што прыходзіць на язык, тоя і гавораць. Усю радню памяшаюць.* Скураты Квас.

ПРЫХО´ДЗІЦЬ (ПРЫЙСЦІ´) У ГО´ЛОЎ. Успамінаецца. *Як успомню пра вайну, то прыходзіць у голоў, як беглі ў лес хавацца ў зямлянку, што бацько выкапоў.* Заполле Кос.

ПРЫ ЦАРУ´ ГАРО´ХУ. Вельмі даўно. *Гэто было яшчэ пры цару Гароху, а ты зараз усё ўспамінаяш. Што было, тоя з вадою сплыло. Жыві сёняшнім днём.* Хадакі Жытл.

ПРЫЦІСКА´ЦЬ (ПРЫЦІ´СНУЦЬ) ХВАСТА´. Адчуць небяспеку, сцішыцца. *Солтысом пры паляках быў, а прышлі Саветы, то прыціснуў хваста.* г.Косава.

ПРЫШЛІ´ КАПЦЫ´. Так скажуць, калі чалавек дажывае апошнія дні. *Думоў, век панаваць будзя. Але ж ад смерці ніхто ні адкупіцца, і яму прышлі капцы.* Альшаніца Квас.

ПРЫШО´Ў КАНЕ´Ц. Прыйшла пара памерці. *Мусіць, і на яго канец прышоў: учоры павязлі ў бальніцу,*

*слабы.* Аляксейкі Стайк.

ПРЫШЫ´Й КАБЫ´ЛІ ХВОСТ. Лішні, непатрэбны. *Не дай Бог, братко, быць прымаком. Пакуль былі жывыя цесць з цешчаю, то я быў прышый кабылі хвост.* Стайкі Стайк.

ПСАВА´ЦЬ (САПСАВА´ЦЬ) АБЕ´ДНЮ. Шкодзіць, рушыць чыесьці планы. *Прыехалі да вянца ажно сем пар. Згаварыліся жаніхі пастаяць у цане. Сапсаваў абедню ён: першы вянчацца пайшоў, баяўся, што маладая перадумая.* Заполле Кос.

ПСАВА´ЦЬ (ПАПСАВА´ЦЬ) КРОЎ. Рабіць непрыемнае каму-небудзь. *Узяла прымака, то ні ведала, як ад яго адкараскацца. Папсаваў ён мне крыві, доўго помніць буду: гультай і п'яніца.* г.Косава.

ПУ´ЛЯЮ ЛЯЦЕ´ЦЬ. Хутка бегчы. *Сынок, пуляю ляці па бабу: карова цяліцца будзя.* Грыўда Міл.

ПУНТ ЗАЙШО´Ў. Заўпарціцца. *Як зайшоў жонцы пунт, то ўжэ тры дні да мяне ні аказваяцца.* Заполле Кос.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) З АГНЁМ (З ДЫ´МОМ). Спальваць. *Немцы як адступалі, то нашо сяло з агнём пусцілі.* Ёдчыкі Квас.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) З ТО´РБАЮ. Зрабіць бедным. *Вайна многіх з торбаю пусціла. Засталіся голыя і босыя.* Альшаніца Квас.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) КАЗЛА´ Ў АГАРО´Д. Па недасведчанасці дазволіць пакарыстацца чужой маёмасцю. *Пусцілі казла ў агарод – паставілі сад калхозны пільнававаць. Папавалачылі людзі яблык за бутэлькі.* Бялавічы Кос.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) НА ВЕ´ЦЯР. Марна траціць. *Старыя людзі грошы на кніжку кладуць, а маладыя на вецяр пускаюць: на прысмакі да на ўборы.* Хадакі Жытл.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) НА СВЕТ. Нара-

джаць. *Бярэ замуж, то ідзі. Пускай жабракоў на свет.* Яблонка Жытл.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) ПАД НОЖ. Рэзаць. *Пусціць цялушачку пад нож не штука. А вот выгадаваць кароўку з яе – трэба пахадзіць, пастарацца.* Воля Жытл.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) СЛЯЗУ´. 1. Плакаць. *Адзінаго сына ў Афганістані забілі. Бацько трымаўся, як мог. Але як салдацікі пачалі салют даваць, і ён ні вытрымоў, пусціў слязу.* г.Івацэвічы. 2. Выклікаць жаль да сябе. *Пайшла шыфяр пытаць, каб хату перакрыць. Ніяк ні хацелі даваць. Прышлося слязу пусціць.* Сярадава Жытл.

ПУСКА´ЦЬ ТУМА´Н У ВО´ЧЫ. Ашукваць. *Гэтыя цыганы як туман у вочы пусцілі: і сало, і яйца, і грошы, якія ў хаці былі, – усё пааддавала.* Размеркі Стайк.

ПУСКА´ЦЬ (ПУСЦІ´ЦЬ) ЧЫРВО´НАГО ПЕ´ЎНЯ. Падпальваць. *Суседу нехто чырвонаго пеўня пусціў – хлеў згарэў. Правадоў ні было, замкнуць ні магло. Брыгадзіром робіць, упёкся некаму ў печані.* Квасевічы Квас.

ПЫ´ЛЬНЫМ МЯШКО´М СТУ´КНУТЫ. Неразумны. *Ты сёні як пыльным мяшком стукнуты, нічого ні кеміш.* Альшаніца Квас.

ПЫТА´ЦЬ У ХВО´РАГО ЗДАРО´ЎЯ. Звяртацца да некага з просьбай, якая не можа быць выканана. *Прыехоў швагяр з Косава, просіць сена. Кажу, пытаяш у хвораго здароўя: я сам тону купіў.* Бусяж Міл.

ПЭ´НКАЦЬ АД СМЕ´ХУ. Заходзіцца, знемагчыся ад смеху. *Сёні як сталі бабы мужыкоў абгаварваць, то пэнкалі ад смеху.* Бялавічы Кос.

ПЭ´ЦКАЦЬ РУ´КІ. Ублытвацца ў непрыемнасці. *Не хачу пэцкаць рукі. Ты і без мяне гуза на голоў знойдзяш.* г.Косава.

ПЯРУ´Н ЯГО´ ВЕ´ДАЯ. Ніхто (не ведае). *Восянь, дахаты каравы ні хочуць ісці. А пасем па лесі.*

*Пярун іх ведая, дзе яны пазаставаліся, дзе іх шукаць.* Альшаніца Квас.

ПЯРЭ´ПАЛАХІ ВЫЛІВА´ЦЬ. Лячыць ад спалаху. *У Мілейках Зазуліха была. Надто добра пярэпалахі вылівала. З усяе акругі да яе ішлі, усім памагала.* Бусяж Міл.

ПЯСО´К (ПАЦЯРУ´ХА) СЫПЛЯ´ЦЦА. Вельмі стары хто. *Які з мяне работнік? З мяне ўжэ пацяруха сыпляцца. От, пасу куры на надворку.* Квасевічы Квас.

ПЯ´ТАЕ ЦЕ´РАЗ ДЗЯСЯ´ТАЕ. Непаслядоўна (расказваць, пераказваць). *Я прыеду ад дачкі, то ўсё мужыку раскажу, а ён – пятая цераз дзясятая. Кажа, едзь сама паглядзі.* Галенчыцы Ягл.

**Р**

РАБІ´ЦЬ (ЗРАБІ´ЦЬ) З БЕ´ЛАГО ЧО´РНАЕ. Перакруціць. *Ён такі чалавек: з добраго зробіць кепскае, з белаго зробіць чорнае.* г.Косава.

РАБІ´ЦЬ (ЗРАБІ´ЦЬ) З МУ´ХІ СЛАНА´. Перабольшваць. *Ты, Алена, ні рабі з мухі слана. Паймала твайго хлопца ў трускаўках – адзін раз дубчыком перацягнула. А ты нарабіла ляманту, шчо на горкае яблыко збіла.* Скураты Квас.

РАБІ´ЦЬ НА СМЕХ. Абы-як. *Прышоў ты, чалавеча, мне памагчы, але робіш на смех.* Заполле Кос.

РАБІ´ЦЬ (ПАПАРАБІ´ЦЬ) НА ЧО´РТА ЛЫ´САГО. Дарма. *Папарабілі ў калхозі на чорта лысаго, за палачкі.* Мілейкі Міл.

РАБІ´ЦЬ ПАВЕ´РХ РУК. Рабіць лянуючыся. *Які з яго пячнік? Ён робіць паверх рук. За тыдзянь гэту печ ні зробіць. А выпіць і закусіць кожны дзень дай.* Заполле Кос.

РАБІ´ЦЬ ПРАЗ ПЕНЬ КАЛО´ДУ. Рабіць абы-як, без старання. *У калхозі ўсе работы робяць праз пень калоду: і сеюць, і жнуць, і капаюць. Бо ні сваё.* Верашкі Квас.

РАБІ´ЦЬ, ЯК РАДЗЮЧЫ´ХА КАЗЛА´ СТРЫ´ГЛА. Рабіць работу прыхваткамі, калі ёсць вольны час. *Жанчына казла стрыгла прыхваткамі. То там, дзе пачынала, поўсць зноў нарастала*. Лушчык В. І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

РАБО´ТА ГАРЫ´ЦЬ У РУКА´Х. Спрытны, лоўкі ў рабоце хто. *У яе руках любая работа гарыць, усё ўмея: і шыць, і вязаць, і ткаць – ніхто яе ні апярэдзіць.* Яглевічы Ягл.

РА´ДЫ НІМА´. Немагчыма знайсці паратунак. *Убіліся дзікі ў картоплі, то ніякае рады німа. І чартапалохі ні памагаюць.* Бялавічы Кос.

РАЗВЕ´СІЦЬ ВУ´ШЫ. Даверліва слухаць. *Сусед хваліцца, шчо много рыбы ловіць. Пытаюся, на шчо ён ловіць. Кажа, на боб. А я развесіў вушы і слухаю. Пасля думаю: ці гэто праўда? Я зроду ні чуў, шчо можно лавіць на боб.* Заполле Кос.

РАЗВІДНЕ´ЦЬ У ВАЧА´Х. 1. Разжыцца, пабагацець. *Яно развіднело ў вачах, сталі жыць, а тут вайна.* Заполле Кос. 2. Перастаць балець. *Галава перастала, то развіднело ў вачах.* Альшаніца Квас.

РАЗВО´ДЗІЦЬ (РАЗВЯСЦІ´) РУКА´МІ. Не ведаць, як дапамагчы выйсці з цяжкага становішча. *Папрасіў трактарыста сено прывязці з балота. Ён рукамі развёў. Кажа, прывёз бы, але дождж прайшоў, баюся, шчо загрузну.* Бялавічы Кос.

РАЗВО´ДЗІЦЬ ТА´РЫ-БА´РЫ. Гаварыць пра пустое, няважнае. *Німа мне калі з табою разводзіць тары-бары: печ паліцца, трэба чыгуны ўставіць.* Даргужы Міл.

РАЗВЯЗА´ЦЬ САБЕ´ РУ´КІ. Атрымаць свабоду дзеянняў. *Тры годы з мужыком прамучылася, урэшці развязала свае рукі: выгнала. Хай ідзе другую гэдаку дурную пашукая. Цярпела і п'янство яго, і гультайство.* Гошчава Стайк.

РАЗВЯЗА´ЦЬ ЯЗЫ´КА. Прымусіць разгаварыцца. *Гарэлка хутко свату языка развязала. Як ні дапытваліся, колькі грошай на кніжцы е, ні прызнаваўся. А як падпіў добра, то сам пахваліўся.* Рацкевічы Міл.

РАЗВЯ´ЗВАЦЬ (РАЗВЯЗА´ЦЬ) РУ´КІ. Пазбавіць цяжару. *Маці хворая ляжала, то ўсё казала: "Каб хучэй, дзеці, вам рукі развязаць".* Альшаніца Квас.

РАЗ-ДВА І ГАТО´ВО. Вельмі хутка зрабіць. *На ўсё трэба майстар. Калупаліся з трактарам цэлы дзень, ніяк ні маглі завясці. Прышоў мяханік – раз-два і гатово! Завёўся!* г.Косава.

РАЗДЗІМА´ЦЬ (РАЗДЗЬМУ´ЦЬ) КАДЗІ´ЛО. Усчаць сварку. *Памаўчы! Не раздзімай кадзіло. Разбяруцца без цябе. Людзі кажуць так: сварку тушаць маўчаннем.* Грыўда Міл.

РАЗДЗІРА´ЦЬ ДУ´ШУ. Пакутаваць. *Як пачую пра Афганістан, то душу раздзірая: сын мой там два гадочкі адпакутавоў.* г.Івацэвічы.

РАЗЖАВА´ЦЬ І Ў РОТ ПАКЛА´СЦІ. Падрабязна растлумачыць. *Урокі з унуком вучу. Здэцца, разжую і ў рот пакладу. А ён на другі дзень тройку прынясе.* Воля Жытл.

РАЗЗЯ´ВІЦЬ РОТ. 1. Моцна крычаць. *Я з Маняю гавару, а ты чаго рота раззявіла, крычыш, як рэзаная?* Бялавічы Кос. 2. Прагнуць, жадаць. *Бач ты яго, раззявіў рота на чужое. Гатоў скрынямі з калхоза буракі валачыць. А ў самого з горла ні выдзяраш.* Заполле Кос. 3. Здзіўляцца. *Прыехоў цырк. Як пачаў арціст агонь каўтаць, то людзі раты раззявілі.* Размеркі Стайк.

РАЗ НА РАЗ НІ ПРЫХО´ДЗІЦЦА. Бывае пароznаму. *Кожны дзень хаджу па ягады. Здаю, жывую капейку маю. Раз на раз ні прыходзіцца: калі больш назбіраю, калі менш.* Хрышчонавічы Квас.

РАЗ ПЛЮ´НУЦЬ. Лёгка выканаць. *Мне жонку ашукаць – раз плюнуць. Хачу выпіць – выкручу пробкі.*

*Кажу: дасі сто грам, то парамантую.* г.Косава.

РАЗРЫВА´ЦЦА (РАЗАРВА´ЦЦА) НА КУСКІ´. Мець шмат пільнай работы і старацца яе выканаць. *Яшчэ грады ні апалола, а тут ягады паспелі: і суніцы, і чорныя. Ні ведаю, за шчо ўхапіцца, гатоў на кускі разарвацца.* Альшаніца Квас.

РАЗУ´МНЫ ДУ´РАНЬ. Здольны, але лянівы хто. *Паслухаць яго, то ўсё ён зная, усё ведая, але нічого ні робіць. Адным словом – разумны дурань.* Яглевічы Ягл.

РА´КОМ ПАЎЗЦІ´. На карачках. *Бацько мой любіў пажартавць. Чарку за сталом падымя і скажа: "Жадаю ўсім нам сто лят жыць, а дзвесце лят раком поўзаць". Ад палякоў, мусіць, навучыўся.* Заполле Кос.

РА´КОМ УСТА´ЦЬ. Так скажуць пра чалавека, у якога дрэнны настрой. *Сёні ты, Алесь, мусі, раком устаў: кідаяшся на ўсіх цэлы дзень.* Гічыцы Ягл.

РАСА´ ВО´ЧЫ ВЫЯДА´Я. Не мець шчасця. *У чужое шчасце не ўкупішся. Іншаму ўсё жыццё шанцуя, а мне, беднаму, раса вочы выядая.* г.Косава.

РАСІ´НКІ Ў РО´ЦІ НЕ БЫЛО´. Галодны. *Людзі зараз вячэраць будуць, а ў мяне за дзень расінкі ў році не было. Даў зарок: пакуль машыну не адрамантую, есці не буду.* г.Івацэвічы.

РАСКАТА´ЦЬ ГУ´БЫ. Спадзявацца на лёгкі спажытак. *Пачулі, што вяселле будзя ў нябогі. Мой мужык абрадаваўся. Казаў усё: "Хоць смачно наемся да на маладых падзіўлюся". Раскатаў губы. А нас узялі і не паклікалі. Каму мы, старыя, зараз трэба? Да яшчэ рабілі ў рэстаране.* г.Косава.

РАСКІ´НУЦЬ РО´ЗУМОМ. Абдумаць. *Ты, чалавеча, не сярдуй, а раскінь розумом: чаго мы паедзям у Жыровічы праз Бусяж, калі можно напрамую – праз Булу, Сяркі, Баравікі.* г.Косава.

РАСКРЫВА´ЦЬ (РАСКРЫ´ЦЬ) РО´ТА. Гаварыць. *І ты яшчэ рота раскрываяш? Памаўчы! Гэто ж ад цябе*

*сплетні пайшлі.* Гічыцы Ягл.

РАСПУСКА´ЦЬ (РАСПУСЦІ´ЦЬ) НЮ´НІ (СО´ПЛІ). Плакаць. *Не распускай нюні, я цябе не пашкадую. Я цябе не пасылаў у футбол граць, што табе носа пабілі.* г.Івацэвічы.

РАСПУСКА´ЦЬ (РАСПУСЦІ´ЦЬ) РУ´КІ. 1. Біцца. *Я дачку гадаваў не для таго, каб ты рукі распускаў. Помні: каб гэто было першы і паследні раз!* Стайкі Стайк. 2. Абдымацца, прыставаць. *Я табе ні Алена, і распускаць рукі ні дазволю.* Хадоркі Кос.

РАСПУСКА´ЦЬ (ПАРАСПУСКА´ЦЬ) ЯЗЫКІ´. Не стрымлівацца ў выказваннях. *Даўней гэдык языкі не распускалі, як зараз. Паслухаяш маладых, то за кожным словом мат.* г.Івацэвічы.

РАССЫПА´ЦЦА (РАССЫ´ПАЦЦА) ДРАБНЕ´Й МА´КУ. Ліслівіць. *Хоць і рассыпаюся перад нявесткаю драбней маку, але ж нявестка чужая костка.* Заполле Кос.

РАСТАВА´ЦЬ У РО´ЦЕ. Вельмі смачнае што. *Унучка торта спякла, то ў році растае.* Размеркі Стайк.

РАСЦЕ´ Ў РО´ЦІ. Так скажуць, калі ежа нясмачная альбо няма апетыту. *Што вы мяне застаўляяця? Каб я быў здаровы, то за мілу душу з'еў бы. А так яно мне ў році расце.* Бялавічы Кос.

РВАЦЬ ДУ´ШУ (СЭ´РЦА). Хваляваца, мучыцца. *Дачушка, ні рві душу, ты мужыка ні падымяш. А ў цябе дзеці малыя, іх гадаваць трэба.* Размеркі Стайк.

РВАЦЬ ЖЫ´ЛЫ. Цяжка і многа працаваць. *І мае бацькі век жылы рвалі, і я так пражыла, а багацця ні нажылі.* Галік Міл.

РВАЦЬ (РАЗРЫВА´ЦЬ) НА КАВА´ЛКІ. Не даваць спакою, турбаваць. *Як папрыязджюць унукі на лето, то гатоў на кавалкі разарваць. Аднаму тое трэба, другому – другое. Не ведаеш, каго слухаць.* Яглевічы Ягл.

РВАЦЬ НА САБЕ´ КО´СЫ. Быць у адчаі, моцна пе-

ражываць, дакараць сябе. *Гатова косы на сабе рваць, нашчо тады пусціла яго на музыкі – цэлы хлопяц быў бы.* Скураты Квас.

РВАЦЬ ПУ´ПА. Падрывацца з цяжкае працы. *Цэлы дзень пупа рваў – сам гной з хлява выкідаў. А сыны, халернікі, так і ні прыехалі. Як паршука буду калоць, во тады прыедуць.* Гошчава Стайк.

РО´ВОМ РАЎЦІ´. Моцна плакаць. *Купіла сукеначку ўнучцы, а суседскі хлопчык у лужу пхнуў. То прыбегла дахаты – роўма раўла. Ледзьве я яе супакоіла.* Галенчыцы Ягл.

РО´ЖКІ ДЫ НО´ЖКІ ЗАСТАЛІ´СЯ. Амаль нічога (не засталося). *Закалолі паршука. І тому дзіцяці трэба даць, і гэтаму. А нам засталіся рожкі ды ножкі.* Зыбайлы Жытл.

РОТ ДА ВУШЭ´Й. Так скажуць пра вясёлага, усмешлівага чалавека. *Доўго не бачыў зямляка. Сустрэліся – у яго адразу рот да вушэй.* Жамайдзякі Міл.

РОТ НІ ЗАКРЫВА´ЯЦЦА. Гаваркі хто. *І скуль у яго што бярэцца? Цэлы дзень рот ні закрываяцца.* Ятвезь Квас.

РУБЕ´ЛЬ РУБЛЯ´ НІ ДАГО´НІЦЬ. Беднота, безграшоўе. *Ад палучкі да палучкі жывем, рубель рубля ні дагоніць, ніякаго запасу німа.* Альшаніца Квас.

РУКА´МІ І ЗУБА´МІ ТРЫМА´ЦЦА. Некім ці нечым даражыць. *Рукамі і зубамі трымайся за гэту работу, бо лепшае цяжко знайсці.* Кушняры Падст.

РУКА´ НАБІ´ТА. Спрактыкаваны хто. *У яго рука набіта. Я цэлы дзень устаўляў бы акно ў хату, а ён хутко гэто зрабіў.* Жытлін Жытл.

РУК´А НЕ ЗДРЫГАНЕ´ЦЦА. Хопіць рашучасці, каб здзейсніць задуманае. *У яго рука не здрыганецца. Ён каго хочаш на той свет адправіць.* г.Івацэвічы.

РУК´А НЕ ПАДЫМА´ЯЦЦА. Не хапае смеласці забіць. *Мой бацько слабое сэрцо меў. У яго рука не па-*

*дымалася нават пеўня зарубаць.* г.Косава.

РУ´КІ АПУСКА´ЮЦЦА. Так кажуць, калі праца не дае плёну. *Устану на раніцу, упраўлюся, есці навару, бягу на работу. Прыду з работы – да ночы то ў агародзі, то ў хаці завіхаюся. А свякрыві ўсё раўно ні дагаджу. Рукі апускаюцца, здэцца, у белы свет пайшла б.* Альшаніца Квас.

РУ´КІ ДО´ЎГІЯ. Так кажуць пра злодзея. *У яго рукі доўгія, ад яго нічого ні ўцячэ.* Харошча Міл.

РУ´КІ ЗВЯ´ЗАНЫ. Не мець свабоды. *Такая жмінда жонка – вочы ні бачылі б. Пакінуў бы, але дзеці трымаюць, трое іх у мяне. Рукі звязаны.* Заполле Кос. Жмінда – уяда, буркля.

РУКІ´ З КІШЭ´НІ НЕ ВЫМА´ЦЬ. Траціць шмат грошай. *Дзеці павырасталі, то ўнукі пашлі. Як раней, так і зараз – рукі з кішэні не вымай.* Руда Падст.

РУ´КІ З-ПАД СРА´КІ РАСТУ´ЦЬ. Няўмека, няздатны да працы хто. *У мае нявесткі рукі з-пад сракі растуць: ні шыць, ні вязаць, ні ткаць – ніц не ўмея.* Заполле Кос.

РУ´КІ КАРО´ТКІЯ. Так кажуць пра чалавека з невялікімі магчымасцямі, які не можа ажыццявіць задуманае. *Ты, каб прымеў, то мяне жывого закапаў бы, але рукі кароткія. Міналася твая ўласць.* г.Косава.

РУ´КІ ЛАМА´ЦЬ. Нерваваццa, хваляваццa. *Бацькі рукі ломяць, а яна з гэтым п'яніцаю дурным звязалася.* Азярцо Падст.

РУ´КІ НІ АДВА´ЛЯЦЦА. Нічога з табой не зробіцца. *Чаго сядзіш? Ідзі памажы суседу сено на вышкі закінуць, рукі ні адваляцца. Як табе памагаюць, то нібось добра, а сам у цянёк схаваўся.* Бялавічы Кос. Нібось – нябось.

РУ´КІ НІ ДАХО´ДЗЯЦЬ. З-за занятасці, клопатаў няма часу прыступіць да пэўнай работы. *То памідоры пасынкую, то гуркі палю, а капусту асы´паць рукі ні даходзяць.* Размеркі Стайк.

РУ´КІ НІ ПАДКЛАДЗЕ´Ш. Так кажуць, калі немагчыма дапамагчы. *Душа баліць глядзець, як маці мучаяцца. Хочу памагчы, а ні ведаю як – рукі ні падкладзеш.* Альшаніца Квас.

РУ´КІ ПА ЛО´КЦІ Ў КРЫВІ´. Так кажуць пра забойцу. *У яго рукі па локці ў крыві, ні адну душу ў вайну загубіў. Німа яму ратавання.* Заполле Кос.

РУ´КІ РАЗВЯ´ЗАНЫ. Так кажуць пра чалавека, свабоднага ў дзеяннях. *Бацько жывы быў, то трымаў у кулаку. А ні стало бацька, то ў яго рукі развязаны: ганяя жонку. Начуя, бедна, з дзецьмі па суседзях.* Скураты Квас.

РУ´КІ СВЯРБЯ´ЦЬ (ЧЭ´ШУЦЦА). Так кажуць пра таго, хто не можа ўстрымацца, каб не пабіцца, не зрабіць шкоду. *Увесь плот мне паламалі, рукі ім свярбяць, ці што.* Аўсто Стайк.

РУК НІ´МА ЗА ШЧО ЗАЧАПІ´ЦЬ. Так скажуць, калі няма гаспадаркі і звязаных з ёю клопатаў. *Старыя ўжэ. Здалі карову, то рук німа за шчо зачапіць.* Альшаніца Квас.

РУКО´Й ПАДА´ЦЬ. Блізка. *Ад нашаго сяла да рэчкі рукой падаць*. Сенькавічы Падст.

РЫЦЬ НО´СОМ. Настойліва шукаць. *Землю носом рыць буду, а знайду прапажу. Далёко майго ровара ні завялі – дагадваюся, чыя гэта работа.* Альшаніца Квас.

РЭ´ДКІ Ў Я´ЙЦАХ. Малады, нядужы. *Ні падымяш ты гэтаго мяшка, і ні бярыся – рэдкі ў яйцах яшчэ.* Альшаніца Квас.

РЭ´ЖА ВО´ЧЫ. Вельмі выдзяляецца. *Купіла сукенку на вяселле. У магазіні свет слабаваты быў, то хароша была. А на сонцы – аж вочы рэжа. Мне, старой, брыдко ў такой ісці.* г.Косава.

РЭ´ЖА ВУ´ШЫ. Непрыемна слухаць. *Рэжа вушы, як зараз маладыя гаворуць: адны маты-пераматы.* г.Івацэвічы.

РЭ´ЗАЦЬ ПА-ЖЫВО´МУ. Прычыняць боль, паку-

ты. *Дачка з зяцём развяліся і ўнукоў падзялілі. Рэжуць мяне па-жывому: дзеўчынку забрала дачка, а хлопчыка зяць. А ў мяне сэрцо разрываяцца: як можно дзяцей падзяліць?* Квасевічы Квас.

**С**

САБА´КАМ СЕ´НО КАСІ´ЦЬ. Туляцца, хавацца. – *Ты, Алена, двоя дзяток гадуяш. А дзе твой мужык? – Мой мужык, дзядзьку, сабакам сено косіць. Ленаваўся рабіць, ні схацеў дзяцей гадаваць. Паехоў лёгкаго хлеба шукаць.* г.Івацэвічы.

САБА´КУ З'Е´СЦІ. Добра ведаць сваю справу. *Добра разбіраяцца ў трактарах мой швагяр. Але што ты хочаш, ён на гэтом сабаку з'еў. Трыццаць гадоў трактарыстом адрабіў.* Размеркі Стайк.

САБЕ´ ПАД НОС. Гаварыць ціха, невыразна. *Мацней кажы, а то бубніш сабе пад нос. Я ўжэ старая, кепско чую.* Галенчыцы Ягл.

САДЗІ´ЦЦА (СЕ´СЦІ) НА ГО´ЛОЎ. Узяць верх над некім, падпарадкаваць. *Хлопцу ано пятнаццаць гадоў, а ён сеў табе на голоў і робіць, шчо хоча. Ці ты рады яму не дасі? Твой хлеб есць!* Бялавічы Кос.

САДЗІ´ЦЦА (СЕ´СЦІ, УСЕ´СЦІСЯ) НА КАРК (НА ШЫ´Ю). Ленавацца, быць на ўтрыманні. *Як жэб старая здурэла: узяла сабе ўдаўца. Думала, лягчэй удвох будзя. А то ж ніц ні хоча рабіць. Сядзіць на маём карку, ано цэлымі днямі цілівізара глядзіць.* Скураты Квас.

САДЗІ´ЦЦА (СЕ´СЦІ) НА ХЛЕБ І ВО´ДУ. Пасціць, абмяжоўваць сябе ў харчаванні. *Вялікі пост наступіў, сяджу на хлебі і вадзе.* Галенчыцы Ягл.

САДЗІ´ЦЦА (СЕ´СЦІ) Ў ЛУ´ЖУ. Папасці ў няёмкае становішча. *Так хацеў паказаць, які ён вялікі спявак. А вышоў на сцэну ды сеў у лужу – прыпева забыўся.* Яглевічы Ягл.

САДЖА´ЦЬ (УСАДЗІ´ЦЬ) ЯЗЫ´К. Умешвацца не

ў свае справы. *Усадзіла языка, то маяш бяду – пасварыла дачку з зяцём.* Альшаніца Квас.

САМ НІ СВОЙ. Так скажуць пра таго, хто знаходзіцца ў стане моцнага хвалявання. *Сам ні свой хаджу. Гэто ж трэба было дадумацца! Хлопяц мой з такімі, як сам, саплямі ўкралі каня з канюшні. Запраглі ў брыгадзіраву брычку ды паехалі да дзявок у Бялавічы. Нехто даказаў участковаму. Той крычыць: "Усіх пасаджу на пятнаццаць суток за крадзёж калхознага імушчаства!"* Заполле Кос.

САМО́ ІДЗЕ Ў РУ́КІ. Вельмі лёгка дастаецца. *От шанцуя гэтаму Івану. Багацце само ідзе яму ў рукі. Дзядзько ў Амерыцы аб'явіўся, склаў на яго завяшчання.* г.Івацэвічы.

СА́МО МЕ́НЯЙ. Менш не можа быць. *Гэты год картоплі ўрадзілі. Пасадзіла дзесяць соток, а накапалі само меняй тры тоны.* Яглевічы Ягл.

СА́МО РАЗ. Якраз, акурат па памеры. *Купіла дзеўчыні ў Ражаной боцікі, памерыла – само раз. А гэдакія файныя. Дачка расцвіла ад радасці.* Ёдчыкі Квас.

САМО́ Ў РОТ ПРО́СІЦЦА. Вельмі апетытна выглядае (пра ежу). *Бывало, да Вялікадню маці кумпяка цялячаго нашпігуя салом, абмажа цестом з жытняе мукі – і ў гарачу печ. Дастаня з печы – пахата на ўсю хату. Гляняш – ён сам у рот просіцца.* Альшаніца Квас.

САМ (-А, -І) ПА САБЕ́. Паасобку. *Раней людзі дружнейшыя былі, памагалі адзін аднаму. А зараз кожны сам па сабе жыве.* Була Міл.

САМ (-А, -І) САБЕ́. Самастойна. *Жонка памярла, дзеці да сябе ў горад клічуць. Але я ні хочу, жыву сам сабе. Лепш, як дома, німа нідзе. Свая хатка як родна матка.* Заполле Кос.

САМ САБЕ́ ГАЛАВА́ (ГАСПАДА́Р). Самастойны, незалежны. *Мне дваццаць гадоў было, як ажаніўся. Праз тры годы хату паставілі – сам сабе гаспадар*

*стаў.* Альшаніца Квас.

САМ САБЕ´ НІ РАД. Незадаволены самім сабою. *Колькі раз было так: ляпняш, што сліна да губы прынясе, а патом сам сабе ні рад.* Міхнавічы Стайк.

САМ ЧОРТ НІ РАЗБЯРЭ´. Справа так заблытана, што цяжка разабрацца. *Як яны мераюць гэтыя пляцэ: адзін год столькі соток, другі год – больш. Сам чорт ні разбярэ гэтых мярнічых.* Заполле Кос.

СА´МЫ РАЗ. Патрэбнага памеру. *Купіла свайму чалавеку рубашку, памероў – самы раз.* Скураты Квас.

САПСАВА´ЦЬ АБЕ´ДНЮ. Разладзіць чыесьці планы, намеры. *Дагаварыліся пустакі прадаваць па пяць рублёў за штуку. А ён усю абедню сапсаваў: пачаў па чатэры прадаваць.* Заполле Кос.

САПЦІ´ (ЗАСАПЦІ´СЯ) ЯК МЕХ КАВА´ЛЬСКІ. Цяжка, часта дыхаць. *Прайшоўся пешшу з Косава да Бялавіч, то засопся як мех кавальскі.* Бялавічы Кос.

САРО´КА НА ХВАСЦЕ´ ПРЫНЯСЛА´. Так скажуць, калі не хочуць гаварыць, ад каго зыходзіць навіна. *– Вяселле ў тваіх суседзёў будзя. Дачка замуж ідзе. – Адкуль ты ведаяш? – Сарока на хвасце прынясла.* Любішчыцы Люб.

СА СВЕ´ЧКАЮ НІ ЗНО´ЙДЗЯШ. Немагчыма знайсці. *Як трэба малаток, то днём са свечкаю ні знойдзяш: унукі павыцягалі.* Хрышчонвічы Квас.

СА ШКУ´РЫ ЛЕ´ЗЦІ. Старацца з усіх сіл, каб дабіцца поспеху. *Гэдык стараяцца вучыцца – са шкуры лезя. Хоча дахторкаю стаць.* Жамайдзякі Міл.

СВАІ´М ГАРБО´М. Рупнай працай. *І хата, і ўсё, што ў хаці, сваім гарбом нажыто.* Альшаніца Квас.

СВА´ХА ПЕРАЕ´ЗДЖАЯ. Так кажуць пра чалавека, які часта мяняе месца жыхарства. *Я на старасці як сваха пераезджая: адну зіму ў сына ў Мінску, другую – у дачкі ў Брэсці. А на лето, як той бусял з выраю, дахаты еду.* Гічыцы Ягл.

СВАЯ´ КРОЎ. Радня, родзічы. *Доўго ні бачыліся,*

*а сустрэліся – абняліся, пацалаваліся. А як жа – свая кроў.* Скураты Квас.

СВЕТ АДКРЫ´ЎСЯ. Стала лёгка, радасна. *Як пайшла на пенсію, то свет адкрыўся: і ў лес пайду па грыбы, па ягады, і да дзяцей паеду праведаю. А то ўсю жызню на цялятніку прарабіла, без выхадных.* Квасевічы Квас.

СВЕТ ЗАВЯЗА´ЦЬ. Аказацца ў цяжкім становішчы. *Мужык цяжко захварэў, завязаў свет. Не ведаю, дзе якую раду знайсці.* Бусяж Міл.

СВЕ´ТЛАЯ ГАЛАВА´. Так скажуць пра разумнага чалавека, які шмат ведае. *О, у гэтаго хлапчаняці светлая галава. Задачкі луская як арэшкі.* г.Косава.

СВЕТ НЕ´МЕРАЙ ПАЙШО´Ў. Г.зн. кругом пануе бязладдзе, бесчалавечнасць. *Сёні свет немерай пайшоў: крадуць адзін у аднаго, забіваюць адзін аднаго.* Заполле Кос. Немера – хаос, беззаконне.

СВЕТ НІ БА´ЧЫЎ. Ніколі не было такога, ніколі не сустракалася. *Гэдакаго муцяля, як ты, свет ні бачыў. Ці гэто праўда, шчо ты за адзін раз канём дзве тоны сена прывёз?* Заполле Кос. Муцель – ілгун, манюха.

СВЕТ НЯМІ´ЛЫ. Нічога не радуе. *Ой, дзяткі, забылася я ўсе песні, старая ўжэ. Мне і свет нямілы. Пытайцяся ў каго маладзейшаго.* Альшаніца Квас.

СВЕТ ПАГА´НІЦЬ. Прычыняць людзям няшчасце. *Як цябе зямля носіць? Ты ано свет паганіш. І маці, і жонка, і дзеці ад цябе адвярнуліся.* Мілейкі Міл.

СВЕТ ПАКАЗА´ЎСЯ З АЎЧЫ´НКУ. Стаў нямілы. *Як пайшла бяда за бядою, то свет паказаўся з аўчынку.* Размеркі Стайк.

СВЕТ ПЕРАВЯРНУ´ЎСЯ. Змяніцца, стаць інакшым. *Свет перавярнуўся на нашых вачах: што было брыдко, то зараз харашэ, чаго саромеліся, то зараз паказваюць.* Заполле Кос.

СВЕТ ПРАЙДЗІ´ (ПРО´ЙДЗЯШ), ТАКО´ГО НІ ЗНО´ЙДЗЯШ. Так скажуць пра тое, што рэдка сустра-

каецца, ці пра прайдзісвета. *Свет прайдзі, такого, як ты, ні зно´йдзяш. Гэто ж трэба ўмудрыцца і жонку з дзецьмі мець, і з другою распісацца.* г.Івацэвічы.

СВЕ´ТУ БЕ´ЛАГО НІ ЎБА´ЧЫЦЬ. Памерці. *Ты ўсе мае нервы з'еў. Прашу цябе: памаўчы. Бо як дам гэтым паленом, то свету белаго ні ўбачыш.* Стайкі Стайк.

СВЕ´ТУ БО´ЖАГО НІ ВІДНО´. Зусім нічога не відаць з-за дажджу ці завеі. *Не пушчу я цябе на музыкі. Ты паглядзі ў вакно: свету Божаго ні відно. У гэдаку пагоду добры гаспадар сабакі з двара ні выжаня.* Альшаніца Квас.

СВЕ´ТУ - БЫ´ТУ НІ ВІДНО´. Нічога не бачна (у непагадзь). *Ку´даса такая, шчо свету-быту ні відно.* Заполле Кос. Кудаса – мяцеліца, завея.

СВЕТ СТАІ´ЦЬ (ТРЫМА´ЯЦЦА). Нехта з'яўляецца ўзорам, прыкладам. *На такіх людзях, як былі нашы бацькі, свет трымаяцца. Бедныя былі, замучаныя працаю, але вучылі нас толькі добраму.* Альшаніца Квас.

СВЕТ ЦЕ´СНЫ. Пра нечаканасць сустрэчы. *Дзядзько Іван расказвоў, як з суседом у Берліні сустрэліся. Нідаром кажуць: свет цесны. На розных франтах былі, тысячы салдат кругом, а яны ўбачыліся. О радасці было!* Скураты Квас.

СВІНЕ´Й НІ ПА´СВІЎ. Рэзкая вымова чалавеку, які бесцырымонны, фамільярны ў абыходжанні. *Ты мне ні тыкай, я з табою свіней ні пасвіў. Будзяш чапляцца, то перацягну гэтаю пугаю, аж выпруцішся, сапляк.* Заполле Кос.

СВІНЫ´ ТА´ТКО. Так кажуць пра пастушка, які пасе свіней. *Як назвалі малого свіным татком, то і да старасці дажыў з гэтаю мянушкаю.* Кушняры Падст.

СВІНЯ´М ХВАСТЫ´ КРУЦІ´ЦЬ. Выконваць самую чорную работу. *Ні будзяш вучыцца, то будзяш у калхозі свіням хвасты круціць.* Альшаніца Квас.

СВОЙ БРАТ. Блізкі па духу чалавек. *Рыбак ры-*

*баку свой брат. Яны заўсёды паразумеюцца.* Размеркі Стайк.

СВЯТЫ´М ДУ´ХОМ ЖЫВІ´ЦЦА. Жыць, нічога не есці. *Перастаў есці, зблажэў. Святым духом жывішся ці што? Каб не памёр, глядзі.* Хадакі Жытл.

СВЯЦІ´ЦЬ ВАЧЫ´МА. Адчуваць сорам. *Пашла на сабрання ў школу. То людзі ганарово сядзелі, а я свяціла вачыма: сын абы-як вучыцца.* Заполле Кос.

СВЯЦІ´ЦЬ ГО´ЛЫМ ЦЕ´ЛОМ. Быць дрэнна апранутым. *Прыехалі з бежанства з Расіі, то гэдака бяднота была, шчо голым целом свяцілі.* Альшаніца Квас.

СЕ´ДЗЬМА СЯДЗЕ´ЦЬ. Гультаяваць. *Людкі па грыбы, па ягады адзін перад адным бягуць, а ты, як пень, седзьма сядзіш.* Заполле Кос.

СЕМ ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЁ ЛЕ´СОМ. Абычаго нагаварыць, наплявузгаць. *Прызнаюся табе, я часом думаю, ці ўсе ў цябе дома. Ты як нагаворыш, то сем вёрст да нябёс і ўсё лесом.* г.Івацэвічы.

СЕМ ПАТО´Ў ЗЫШЛО´. Так скажуць, калі робяць цяжкую работу. *Пакуль гной з-пад каровы выкінуў, то сем патоў зышло*. Жамайдзякі Міл.

СЕМ ПЯ´ТНІЦ НА ТЫ´ДНІ. Так скажуць пра таго, хто часта мяняе свае думкі, намеры. *За табою ні ўгонішся, у цябе сем пятніц на тыдні. Учоры вечаром казаў па дрова паеду, а сёні ўжэ паршука хочаш калоць. А я ні прыбралася да калоння.* Квасевічы Квас.

СЕ´НА ТАКО´ГО І ПАПАДДЗЯ´ НІ Е´ЛА. Пра вельмі смачную яду. *Прыхаджане папу на свята нясуць ласункі, а распараджаецца імі, вядома, пападдзя. Калі хочуць пахваліць гаспадыню за смачны абед, то кажуць: "Сена такого і пападдзя ні ела".* Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1989. Заполле Кос.

СЕ´СЦІ КАЛО´М. Сядзець без работы. *Цэлы дзень сядзіш калом, вады вядра ні прынясеш.* Альба Квас.

СЕ´СЦІ НА БЕ´ЛАГО КАНЯ´. Страціць адчуванне

рэльнасці ад гарэлкі, звар'яцець. *Мой сусед на белаго каня сеў: то сабак з пасцелі праганяя, то свіней у хаці шукая. Ні дай Бог так жыць.* Яглевічы Ягл.

СЕ´СЦІ НА КАНЯ´. Моцна раззлавацца. *Сёні я сеў на каня з-за жонкі: прычапілася, шчо выпіў. А ў мяне і расінкі ў році з ранку ні было, ні тоя шчо гарэлкі.* Альшаніца Квас.

СЕЎ (-ЛА, -ЛІ) ЯК ПРЫКІПЕ´Ў (-ЛА, -ЛІ). Доўга сядзець на адным месцы. *Ой, Манячка, добра пагаварыць з табою, але трэба бегчы. А то ля, села як прыкіпела. Ты пабач, мужык ужэ бегая па гуліцы, шукая, дзе я па-дзелася. Ён у млін сабраўся ехаць, а я прапала. Пабягу, бо дасць карбунцоў.* Дубітава Міл.

СЁЯ ТО´Я. Мала, што папала пад руку. *Пасварылася з мужыком, то сёя тоя з адзежы ўзяла ды вярнулася да бацькоў.* Альшаніца Квас.

СКАЗА´ЦЬ НЕ Ў РУ´КУ. Не дагадзіць. *Ён прывык, што яму ўсе лістом сцелюць, а тут чалавек сказаў не ў руку, вот ён і вызвярыўся.* Була Міл.

СКАЗА´ЦЬ ЯК АДРУБА´ЦЬ. Выказаць свае думкі ў катэгарычнай, рэзкай форме. *Бацько сказаў як адрубаў: "З заўтрашняго дня ідзеш на работу".* Куляшы Міл.

СКАКА´ЦЬ ПАД ДУ´ДКУ. Падпарадкоўвацца, дагаджаць. *Не свае словы кажаш. Даўно вядомо, што ты пад брыгадзіраву дудку скачаш.* Воля Жытл.

СКА´ЛІЦЬ (СКІ´РЫЦЬ) ЗУ´БЫ. Рагатаць. *Чаго ты цэлы дзень скірыш зубы, як дурачка?* Размеркі Стайк.

СКІДА´ЦЬ З СЭ´РЦА КА´МЯНЬ. Адчуць палёгку. *Сёні я скінула з сэрца камянь: з сястрою памірылася.* Заполле Кос.

СКІДА´ЦЬ З ШЫ´І ЯРМО´. Вызваляцца ад прыгнёту, ад улады іншага чалавека. *Скінуў з шыі ярмо: пайшоў з калхоза на падсочку ў лес. Свет адкрыўся. Хоць цяжко, але ніхто над душою ні стаіць.* Альшаніца Квас.

СКЛА´ДВАЦЬ (СКЛА´СЦІ) РУ´КІ. Нічога не

рабіць. *Пастарэла мая мама, склала рукі. А раней такая работніца была.* Скураты Квас.

СКЛА´СЦІ ГО´ЛОЎ. Загінуць. *Забралі сына ў армію, завязлі ў Афганістан. Ні за што голоў склаў.* г.Івацэвічы.

СКРУЦІ´ЦЬ ГО´ЛОЎ (ВЯЗЫ´, ШЫ´Ю). Так скажуць таму, хто не слухае, робіць па-свойму, і з-за гэтага можа трапіць у бяду. *Скруціш ты сабе голоў, ні слухаяш людзей. Гарэлка да дабра ні даводзіць.* г.Косава.

СКРЫГІТА´ЦЬ ЗУБА´МІ. Моцна злавацца. *Ні скрыгічы зубамі, я цябе ні баюся. Паткнешся – абламлю рогі.* Рацкевічы Міл.

СКУ´ЛА ПАД БО´КОМ. Так скажуць пра таго, чыя прысутнасць прыносіць непрыемнасць. *Такі гадкі мой сусед – скула пад боком сядзіць. Усё вывіжуя, што робіцца на маём надворку.* Мілейкі Міл.

СКУ´ЛА Ў БОК. Так выказваюць нязгоду. *Скула табе ў бок, а не грошы на новыя боты. Зарабі ідзі, а то сядзіш на бацькавой шыі.* Харошча Міл.

СЛАБА´Я ГАЛАВА´. Так кажуць пра чалавека з дрэннай памяццю. *Мне навука не давалася, у мяне галава слабая. А я моцно хацеў вучыцца. Вот і пражыў у сяле, а мае аднагодкі ўсе ў гарадах.* Хадоркі Кос.

СЛАБА´Я НА ПЕРАДО´К. Распусніца. *Гуляя ва ўсю з хлопцамі – слабая на перадок.* Любішчыцы Люб.

СЛА´ВА БО´ГУ. Так кажуць, калі ўсё добра канчаецца. *Слава Богу, выкапалі картоплі. Тры дні ўдвох са старым капалі, а на выхадныя дзеці, унукі прыехалі. То і дакопіны зрабілі.* Дубітава Міл. Дакопіны – дакопкі.

СЛАТО´Ю (СМАЛО´Ю) ЛЕ´ЗЦІ Ў ВО´ЧЫ. Прыставаць, чапляцца. *Адчапіся, не лезь слатою ў вочы, без цябе галава баліць.* Яглевічы Ягл.

СЛА´ЦЦА ЛІСТО´М. Дагаджаць. *Гэта жаночына перад мужыком лістом сцеляцца, а ён яе на людзях бэсціць. Німа ў яго душы.* Скураты Квас.

СЛЕ´ДОМ ЗА ДЗЕ´ДОМ. Пракладзеным шляхам (ісці). *Спачатку старэйшы брат у Амерыку паехоў, а следом за дзедом і меншы. То старэйшы прывёз цімало даляроў, а меншы ано грамафона з пласцінкамі. Як завядзе, бывало, нядзеляю, то з усяе ваколіцы збягаліся паслухаць.* Заполле Кос.

СЛЕД ПРАСТЫ´Ў. Знікнуць. *Хацеў перадаць дачцэ свяжыны´ суседом, ён да сына ў Брэсць едзя. Пайшоў, а яго ўжэ і след прастыў. Яшчэ поначы яго ў Няхачаво на поязд завязлі.* Заполле Кос.

СЛЕ´ДУ (МІЗІ´НЦА) НЕ ВАРТ. Недастойны, не заслугоўвае павагі. *Ты чаго на мяне, франтавіка, голас павышаяш? Ты, сапляк, майго следу не варт.* г.Івацэвічы

СЛЕД У СЛЕД ХАДЗІ´ЦЬ. Не адстаючы, па пятах. *Мералі соткі на полі, то брыгадзір след у след хадзіў. Гэто гэдык баяўся, каб каму лішняго ні намералі. Азярцо* Падст.

СЛЁЗЫ ЛЬЮ´ЦЦА РЭ´КАЮ. Няўцешна, горка плакаць. *У мяне і зараз слёзы льюцца рэкаю, калі ўспомню, як людзей пастралялі ў нас каля крыжа.* Заполле Кос.

СЛО´ВА НЕ АБЯРНУ´ЦЬ. Маўчаць. *У мяне зяць, як цяля без'языкае: за цэлы дзень і слова не аберня.* Альшаніца Квас. Абярнуць – вымавіць.

СЛО´ВА НЕ ВЫ´ЦЯГНУЦЬ. Так скажуць пра маўклівага чалавека. *Як ты, Марыля, з ім пражыла ўвесь век? Ён у цябе такі маўклівы, з яго слова не выцягняш. І як ён цябе замуж пазваў?* Скураты Квас.

СЛО´ВО ЗА СЛО´ВО. Паступова, паводле развіцця, пашырэння гутаркі. *Давай успамінаць, як бацькі даўней жылі, з-за зямлі судзіліся. А ён мне кажа: "Гэто твой бацько на майго ў суд падаў". І от слово за слово – і за даўнейшае пасварыліся.* Яблонка Жытл.

СЛО´ВО Ў СЛО´ВО. Дакладна паўтарыць, запомніць, перадаць і інш. *У майго хлопца гэдака памяць хароша. Што на ўроку вучыцяль расказвае, то ён*

*дома слово ў слово паўторыць.* Міхнавічы Стайк.

СЛОЎ НІМА´ І МА´ТЫ СКО´НЧЫЛІСЯ. Няма цярпення далей гаварыць. *Слухаю я цябе ўжэ цэлы час. А мне і сказаць німа чаго на тваю гаворку: слоў німа і маты скончыліся.* Гошчава Стайк. Маты – мацюкі.

СЛУЖЫ´ЦЬ СЛУЖА´НКАЮ. Дагаджаць. *Пайшла на пяцёро дзяцей і будзя век служыць служанкаю.* Заполле Кос.

СЛЯЗА´ СЛЯЗУ´ ПАБІВА´Я. Няўцешна, горка плакаць. *Сядзіць над магілаю, ано сляза слязу пабівая.* Альшаніца Квас.

СЛЯПІ´ЦАЮ ЛЕ´ЗЦІ Ў ВО´ЧЫ. Назаляць. *Адыдзіся, ні лезь сляпіцаю ў вочы. Ні мой сабака пабраў тваіх курэй. Шукай двухногага сабаку.* Квасевічы Квас.

СЛЯПІ´ЦЬ ВО´ЧЫ. Рабіць карпатлівую працу, якая патрабуе вялікай увагі. *Мая жонка кожны вечар слепіць вочы: ручнікі ўнучцы на вяселле вышывая.* Аляксейкі Стайк.

СМЕ´РЦІ ДАБЫВА´ЦЬ. Быць вельмі слабым. *Антось смерці дабывая, а быў такі здаровы чалавек.* Заполле Кос.

СМЕХ ЗРАБІ´ЦЬ. Абсмяяць. *От паскудны ты, Сцяпан. Смех зрабіў з кульгаваго чалавека. Гэто ж грэх паказваць, як ён ходзіць.* г.Косава.

СМЕХ ЛЮ´ДЗЯМ СКАЗА´ЦЬ. Пра тое, што можа рассмяшыць. *Смех людзям сказаць: гэто ж Максім прыходзіў да мяне, старое, у сваты. А я жартую: "А як дзіця зробім, то шчо нам дзеці нашыя скажуць?". То пакрыўдзіўся.* Яглевічы Ягл.

СМЕХ СМЕ´ХОМ. Г.зн. можна і пажартаваць, але што з гэтага выйдзе. *Смех смехом, але дасць бацько, што калясо ў ровары загнулі.* Була Міл.

СМЕ´ШКІ З БА´БІНАЕ ПЛЕ´ШКІ. Кпіць з кагонебудзь. *Гавару брыдко, бо без зубоў. А вам смешкі з бабінае плешкі.* Альшаніца Квас.

СМЯРТЭ́ЛЬНЫ ГРЭХ. Учынак, які ніколі не даруецца. *Мацяру з хаты выжываць – гэто смяртэльны грэх. Яна ж цябе, нягодніка, выгадавала!* Бялавічы Кос.

СНЕ́ГУ СЯРО́Д ЗІМЫ НЕ ВЫ́ПРАСІЦЬ. Пра вельмі скупога чалавека. *Хай Бог укрывая ад такого чалавека. Праз колькі гадоў па-суседску жывем, а ў яго сярод зімы снегу не выпрасіш.* г.Косава.

СОЛЬ У ВО́ЧЫ, КАЦАЎБА́ Ў ЗУ́БЫ. Такімі словамі засцерагаюцца ад сурокаў. *Соль ёй ў вочы, кацаўба ў зубы! Бач ты яе, цялушачка мая кінулася ў вочы. Усе ведаюць: на што гляня – адразу ўрачэ.* Мілейкі Міл.

СОН НЕ БЯРЭ́. Не спіцца. *Ноч наступая, то косы дыбом устаюць: сон не бярэ, цэлымі начамі ні сплю. А рано хаджу як п'яна.* Альшаніца Квас.

СОН РАБО́Е КАБЫ́ЛЫ. Плявузганне, бязглуздзіцца, пустая размова. *Я слухаю цябе і думаю: "Ці я дурны, ці тоя, шчо ты расказваяш, – сон рабое кабылы? Шчо ты пляцеш, чалавеча? І каму гэты наш сад трэба? Яго карчаваць пара. Якого тут завода будуць будаваць?"* Заполле Кос.

СОН ЯК У РУ́КУ ДАЎ. Спраўдзіўся. *Прысніўся мне кавалер. Але ні наш, хрышчонаўскі хлопяц, а бялавіцкі. Ля, ідуць сваты да нас. З Бялавіч. Як глянула на хлопца – той, шчо сніўся. Так і пайшла за яго замуж. Сон як у руку даў.* Хрышчонавічы Квас.

СО́РАМ ЛЮ́ДЗЯМ СКАЗА́ЦЬ. Ужываецца пры жаданні раскрыць свае адносіны да чаго-небудзь, пра што гаворыцца. *З такою хваробаю ў бальніцы ляжыць, што сорам людзям сказаць.* Заполле Кос.

СПАДА́ЦЬ (СПА́СЦІ) З ТВА́РУ (З ЦЕ́ЛА). Худзець. *Убачыла ў Косаві Васіля Алейнікаваго, ні пазнала: гэдак спаў з твару.* Квасевічы Квас.

СПАКО́Н ВЯКО́Ў. Спрадвеку. *Спакон вякоў каля нашаго сяла вадзяны млын быў. І муку пытлявалі, і кру-*

*пы дралі, ні трэба было далёко ехаць.* Руда Падст.

СПА´ЛО СА´ЛО. Схуднець. *Пры жывом мужыку нагадавала сало. І сваю, і яе работу рабіў. А засталася адна, то хутко спало сало.* г.Косава.

СПА´СУ НІМА´. Няма ратунку. *Варэнне вару, то ад восоў спасу німа.* Жытлін Жытл.

СПАТЫКНУ´ЦЦА НА ГЛА´ДКОЙ ДАРО´ЗІ. Неспадзявана трапіць у непрыемную сітуацыю. *Ва ўсём шанцавало гэтаму чалвеку: і вывучыўся на суддзю, і жонка добра папала, і кварціру добру мая. На´ табе, бяда спаткала на гладкой дарозі: сын звязаўся з кепскаю кампаніяю.* г.Івацэвічы.

СПАЦЬ БЕЗ ЗА´ДНІХ НОГ. Моцна. *Летні дзень доўгі, наробішся, то спіш без задніх ног.* Альшаніца Квас.

СПАЦЬ І КУ´РЫ БА´ЧЫЦЬ. Драмаць, але чуйна, адным вокам. *Пытаяшся, чаму ў нас так кажуць? А вот чаму. Ужэ стары чалавек, сіл нямашака, то ўся сям'я, для прыкладу, на сенакосі, сено грабе, а яго пакідаюць хату сцерагчы, курэй пілнаваць, каб шуляк не ўхапіў. А вядома, ноччу старому не спіцца: усе косці баляць. То ён днём сабе дрэмля на сонцы. Але дрэмля адным воком, чутко. Кажуць: спіць і куры бачыць. А пасля сталі так казаць на ўсіх, хто лёг крышку днём падрамаць.* Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

СПАЦЬ МЁРТВЫМ СНОМ. Вельмі моцна. *Пасвіла каравы з унуком, нахадзіўся за дзень, то спіць мёртвым сном. І вячэраць ні схацеў.* Лазаўцы Міл.

СПАЦЬ НА ХАДУ´. Марудзіць. *Пашлі на соткі картоплі палоць. То я да абеду чатэры радкі прайшла, а яна ано два – спіць на хаду.* Гладышы Міл.

СПАЦЬ У ША´ПКУ. Празяваць. *Глядзі, ні спі ў шапку, а то косаўскія кішарэ спрытныя хлопцы, адаб'юць у цябе дзеўку.* Квасевічы Квас.

СПАЦЬ ЯК ЗА´ЯЦ. Чуйна спаць. *Дзіця малоя, то які сон? Спіш як заяц. Заврушыцца ды схватваяшся то*

*пакарміць, то пялюшкі памяняць.* Була Міл.

СПАЦЬ ЯК ПШАНІ´ЦУ ПРАДА´ЎШЫ. Спакойна, моцна (спаць). *Прывёз сено з балота, то спіць зара як пшаніцу прадаўшы.* Панкі Люб.

СПУСЦІ´ЦЬ ШКУ´РУ (СЕМ ШКУР). Пакараць, набіць. *Яшчэ раз возьмяш запалкі ў рукі, то спушчу шкуру.* Стайкі Стайк.

СПУСЦІ´ЦЬ Ю´ХУ. Набіць да крыві. *Што яны ні падзялілі? Гэдык біліся, што адзінаднаму юху спусцілі.* Заполле Кос.

СТА´ВІЦЬ (ПАСТА´ВІЦЬ) НА АДНУ´ ДО´ШКУ. Раўняць. *Ніздарма ў Расеі кажуць: муж і жана – адна сатана. Іх пастаў на адну дошку – не пераважаць. Абоя ўпартыя, ні ўступяць адзін аднаму.* Яглевічы Ягл.

СТА´ВІЦЬ (ПАСТА´ВІЦЬ) НА ВУ´ШЫ. Прымусіць актыўна дзейнічаць. *Трэба было лякарство – жонка моцно захварэла, то ўсіх на вушы паставіў. Аж з Масквы сваякі лекі перадалі.* Любішчыцы Люб.

СТА´ВІЦЬ (ПАСТА´ВІЦЬ) НА КОН. Дзейнічаць з рызыкай дзеля выйгрышу. *Мой зяць усё паставіў на кон: прадаў кварціру, машыну, пераехоў у бацькаву хату. Фермяром стаў, пачаў козы разводзіць. Малако казінае надто дарагоя. Але людзі бяруць добра.* г.Івацэвічы.

СТА´ВІЦЬ (ПАСТА´ВІЦЬ) НА НО´ГІ. 1. Вылечваць. *Думоў, што памру. То ж дактара паставілі на ногі. Хоць стары, а жыць хочацца. Хочацца падзвіцца, што далей з людзьмі будзя.* Воля Жытл. 2. Гадаваць. *Засталася без мужыка з трыма дзецьмі, усіх на ногі паставіла сама.* Бараны Ягл.

СТА´ВІЦЬ (ПАСТА´ВІЦЬ) ПАДНО´ЖКУ. Перашкаджаць, шкодзіць. *Бач, як ты мне падножку паставіў. Гэто ж мне хацелі новаго трактара даць, а ты перабег мне дарогу.* Квасевічы Квас.

СТАНАВІ´ЦЦА (СТАЦЬ) НА ДЫБЫ´. Не згаджацца, пярэчыць. *Паймалі п'янаго, адабралі права тракта-*

*рыста, паслалі на ферму даглядчыком. Стаў на дыбы: "Я цялятам хвасты круціць ні буду!" А дзе табе лепшае работы ўзяць? Ні трэба было піць!* Бялавічы Кос.

СТАРА́Я ПЕ́СНЯ. Даўно вядомае, неаднойчы чутае. *У цябе, Трахім, старая песня: "Каб я паехоў вучыцца, як пасылалі, то ўжэ начальнікам станцыі быў бы". Каб да кабы, то лятàлі б валы!* Заполле Кос.

СТА́РШЫ КУДЫ́ ПАШЛЮ́ЦЬ. Так жартуе, смяецца з сябе падсобны работнік. *Я ў калхозі высокі началь-нік – старшы куды пашлюць.* Гічыцы Ягл.

СТАЦЬ НА НО́ГІ. Абжыцца. *Згарэло нашо сяло ў вайну, у зямлянках жылі. Але паціху абжываліся: хаты, хлявы паставілі, сталі на ногі.* Зыбайлы Жытл.

СТАЯ́ЦЬ ГАРО́Ю. Абараняць, заступацца. *Ні была б то маці. Хоць і п'яніца сын, а яна за ім гарою стаіць.* Жытлін Жытл.

СТАЯ́ЦЬ (СТАЦЬ) КАЛО́М У ГО́РЛІ. Так скажуць, калі па няведанні з'ядуць тое, што выклікае агіду. *Пайшоў да суседа, а само яны абедалі. І мяне запрасілі. Мяса цэла міска стаіць на стале. Ну, я і добра паеў. Пытаюцца, ці мясо смачнае. Кажу: "О, яшчэ якоя смачнае!" Смяюцца:"Гэто нутрыя" . Мяне чуць ні вырвало. Стаіць тоя мясо другі дзень калом у горлі.* Бялавічы Кос.

СТАЯ́ЦЬ (СТАЦЬ) НАД ДУШО́Ю. *Назаляць, надакучаць. Адыдзіся, ні стой над душою. Я і сам ведаю, як трэба класці печку.* Старажоўшчына Кос.

СТАЯ́ЦЬ НА ЗА́ДНІХ ЛА́ПКАХ. Падпарадкоўвацца. *Збоку то брыдко глядзець, як ён стаіць на задніх лапках перад начальнікам.* г.Івацэвічы.

СТАЯ́ЦЬ ПАД ВЯНЦО́М. Вянчацца. *Як гляну на картачку, дзе мае бацькі стаяць пад вянцом, то слёзы з вачэй коцяцца. Такія маладыя, такія харошыя.* Заполле Кос.

СТАЯ´ЦЬ (СТАЦЬ) ПАПЯРО´К ДАРО´ГІ. Перашкаджаць. Т*ы вечне стаіш мне папярок дарогі. І не збрыдло табе спадціішка кусаць мяне?* Галік Міл.

СТАЯ´ЦЬ ПЕ´РАД ВАЧЫ´МА (У ВАЧА´Х). Уяўляцца. *Маці як жывая перад вачыма стаіць. А ўжэ дзесяць гадоў як німа.* Альшаніца Квас.

СТАЯ´ЦЬ СЛУ´ПОМ. 1. Здранцвець ад нечаканасці. *Адчыніў варота на надворок, а сабака знячэўку як кінуўся. Стаю слупом, ні ўцякаю – ногі адняліся.* Квасевічы Квас. 2. Ленавацца. *Што ты стаіш слупом? Варушыся, за нас ніхто ні аполя гэтыя буракі.* Гошчава Стайк.

СТАЯ´ЦЬ У ВУША´Х. Гучаць. *На канцэрці была. Да гэдаку песню харошу спявалі, стаіць праз каторы дзень у вушах у мяне.* Няхачава Стайк.

СТОЙ НІ СТОЙ. Пра безвыніковае чаканне. *Стой ні стой – нічого ні выстаіш: хлеба ў магазін сёні, мусіць, ні прывязуць.* Размеркі Стайк.

СТОЛ ЛО´МІЦЦА. Увесь застаўлены ежай. *Сёні на вяселлі сталы ломяцца, ні тоя, што даўней. Бало, яечні насмажаць, аладкоў мучаных, мяса, кісялю – ды і вяселья.* Заполле Кос.

СТО РУБЛЁЎ УБЫ´ТКУ. Пра чалавека, з якога німа ніякай карысці. *З такім памочнікам, як ты, ні заробіш, а праробіш. Ні чалавек, а сто рублёў убытку.* Альшаніца Квас.

СТРАЛО´Ю ПАЛЯЦЕ´ЦЬ. Імкліва пабегчы. *Муку пшанічну ў магазін прывязлі, а хутко Вялікдзянь. То мая жонка стралою паляцела, каб купіць.* Ёдчыкі Квас.

СТРАСЯНУ´ЦЬ ЗА КАЎНЕ´Р. Напалохаць, пакараць. *Страсяні добра там яго за каўнер. Каб больш ні патыкаў носа, куды ні трэба.* Зялёны Бор Стайк.

СТРО´ІЦЬ ДУ´РНЯ. Прыкідвацца няцямлівым. *Ні строй дурня з сябе, німа чаго. Давай бяры лішпанку і капай траншэю пад фундамянт. Ні агінайся.* Скураты Квас. Лішпанка – рыдлёўка.

СТРО´ІЦЬ СМЕ´ШКІ. Абсмейваць. *Ні былі б то маладыя, з усяго строяць смешкі.* Жытлін Жытл.

СТРЭ´ЛІЦЬ (СТУ´КНУЦЬ) У ГО´ЛОЎ. Пра нечаканае з'яўленне думкі. *Нешто стрэліло яму ў голоў: адно паеду на лётчыка вучыцца. Кажу яму: "Хай гарадскія на гэто вучацца, а мы спрадвеку па зямле ходзім".* Бусяж Міл.

СТРЭ´ЛЯНЫ ГАРАБЕ´Й. Асцярожны, вопытны. *Пятруся Гарбялёваго на мякіні ні правядзеш. Ён стрэляны гарабей.* Альшаніца Квас. Гарабей – верабей.

СУНДУКІ´ ЛО´МЯЦЦА. Пра вялікае багацце. *Бяры вон Алену Бабеяву замуж, яе бацько багаты. У іх сундукі ломяцца. Будзяш як сыр у маслі качацца.* Квасевічы Квас.

СУ´НУЦЬ (УСУ´НУЦЬ) НО´СА. Умешвацца не ў сваю справу. *Чаго ты век суняш носа, куды цябе ні просяць? Па храпах палучыць хочаш?* г.Косава. Храпы – тут: нос.

СУХО´ГО РУБЦА´ НІМА´. Моцна змокнуць. *Папаў пад навальніцу, а ні было дзе схавацца. Прышоў дахаты, то сухого рубца на мне ні засталосё.* Быч Стайк.

СУШЫ´ЦЬ ЗУ´БЫ. Смяяцца. *Бало, пайдзям на работу, то цэлы дзень з хлопцамі зубы сушым. І ні ўтомімся. Вечаром яшчэ на музыкі бяжым. Ні былі б то маладыя.* Альшаніца Квас.

СУШЫ´ЦЬ МО´ЗГІ. Зашмат часу аддаваць вучобе, сядзець з кнігамі. *Усе твае равесніцы ў клуб пабеглі, на музыкі, а ты цэлымі днямі сядзіш з гэтымі кніжкамі, сушыш мозгі.* Мілейкі Міл.

СУШЫ´ЦЬ СУХАРЭ´. Чакаць пакарання. *Прасіла цябе, каб ні ездзіў на матацыклі без правоў. Ні паслухоў, паймалі. А зараз сушы сухарэ.* Грыўда Міл.

СХО´ДЗІЦЬ (СЫСЦІ´) З РУК. Даруецца. *Ні быў бы то сынок начальніка, што ні зробіць, усё яму з рук сходзіць. А такі вырвус. Другого ўжэ*

*пасадзілі б.* г.Івацэвічы.

СХО´ДЗІЦЬ (СЫСЦІ´) НА ПШЫК. Прападаць, не мець выніку. *Пасадзілі картоплі раннія, ужэ велькія былі. А мароз у канцэ мая як даў – уся работа сышла на пшык.* Уласаўцы Жытл.

СЦЕ´ЖКА ЗАРАСЛА´. Так кажуць, калі забываюць пра каго-небудзь ці пра што-небудзь. *Паміраў дзед, то прасіў: "Глядзеця, унучкі, каб прыходзілі мяне праведваць, каб сцежка да мяне ні зарасла".* Альшаніца Квас.

СЦЯМНЕ´ЛО І ПАСТАЯ´ЛО. Мінуў час. *Паехоў хлопяц у Слонім. Сцямнело і пастаяло, а яго німа. Места сабе ні знаходжу, каб хоць усё добра бало.* Бусяж Міл.

СЧАРНІ´ЦЬ (ЗБІЦЬ) НА ГО´РКАЯ Я´БЛЫКО. Адлупцаваць, адсцябаць. *Палез да суседа па гуркі, то бацько счарніў на горкая яблыко. Больш ні палезя.* Альшаніца Квас.

СЭ´РЦО АБАРВА´ЛАСЁ. Так скажуць, калі моцна спалохаюцца. *Прыбег унук, крычыць: "Баба, баба, Танька павесілася!" У мяне і сэрцо абарваласё. А гэто яна зачапілася сукеначкаю за шчыкеціну ды вісіць на плоці.* Альшаніца Квас.

СЭ´РЦО ГАТО´Ў ВЫ´СКАЧЫЦЬ. Адчуваць моцнае напружанне, хваляванне. *Прабеглася да аўтобуса, каб ні спазніцца, то сэрцо гатоў выскачыць.* Уласаўцы Жытл.

СЭ´РЦО ЁКНУЛО. Раптоўна адчуць хваляванне, неспакой. *Ехала ў аўтобусі з Косава. Зайшоў чалавек ды кажа, шчо ў Заполлі пажар быў. У мяне і сэрцо ёкнуло: гэто ж, мусіць, я ні выключыла кіпяцільніка. Але, слава Богу, абышлосё. Гэто дзецi траву падпалілі.* Заполле Кос.

СЭ´РЦО ЗАМІРА´Я. Адчуць хваляванне, радасць. *Пойдзяш у лес, як само чаромуха пачыная цвісці, то сэрцо замірая. Увесь лес звініць, гэдак птушачкі спяваюць. І дахаты ні хочацца ісці.* Бялавічы Кос.

СЭ´РЦО ЗАХО´ДЗІЦЦА (ЗАЙШЛО´СЯ). 1. Так ка-

жуць, калі перажываюць вялікую радасць ці моцнае хваляванне. *Як убачыла сваю нявестку ў вясельным уборы, то сэрцо зайшлося ад радасці. Але ж і харошу жонку сабе выброў мой сын.* Размеркі Стайк. 2. Адчуць вялікі боль. *Зайшла ў хату, убачыла, які дуб ляжыць у труне – малады, харошы, то сэрцо зайшлося.* г.Івацэвічы.

СЭ´РЦО З'Е´СЦІ. Страціць здароўе. *Сэрцо з'ела з табою жывучы.* Жамайдзякі Міл.

СЭ´РЦО З ЖА´ЛЮ РАЗРЫВА´ЯЦЦА. Моцна шкадаваць каго-небудзь. *Маці ў гарэлку кінулася, а дзеці ходзяць як сіраты. Сэрцо з жалю разрываяцца.* Альшаніца Квас.

СЭ´РЦО НІ КА´МЯНЬ. Г.зн. усё можа дараваць. *Моцно была засярдзілася на нявестку: павыкідала ўсе мае палавікі з хаты. Але сэрцо ні камянь. І праўда, маладыя зараз дываны сцелюць.* г.Косава.

СЭ´РЦО НЫ´Я (СЦІСКА´ЯЦЦА). Адчуваць хваляванне, боль. *Паехоў унук экзамяны здаваць, хоча на дохтара вывучыцца. Сэрцо ныя, каб хоць здаў добра, бо там конкурс велькі.* г.Косава.

СЭ´РЦО Ў ПЯ´ТКІ ЗАЙШЛО´. Моцна спалохацца. *Ішоў ад дзеўкі позно з другого сяла. А дарога праз лес. Падалося, што воўк завыў, то ажно сэрцо ў пяткі зайшло.* Бялавічы Кос.

СЮД-ТУД. Часта. *Пойдзяш у лес па грыбы, сюд-туд і знойдзяш праўдзівіка. Паходзіш, то цэлы кошык назбіраяш.* Заполле Кос.

СЯДЗЕ´ЦЬ І НЕ РЫ´ПАЦЦА. Не ўмешвацца ў чужыя справы. *Кажуць так: свае б'юцца – чужыя ні мяшайся. Сядзі і не рыпайся, без цябе разбяруцца.* Падстарынь Падст.

СЯДЗЕ´ЦЬ КАЛО´М У ГО´РЛІ. Надакучаць (пра страву). *Гэта твая яечня ўжэ сядзіць калом у горлі.* Альшаніца Квас.

СЯДЗЕ´ЦЬ КРЫ´ЦАЮ. На адным месцы, ціха.

*Сядзь, каб цябе крыцаю пасадзіло! Хрышчонавічы* Квас.

СЯДЗЕ´ЦЬ НА БАБА´Х. Не мець грошай. *Да палучкі яшчэ тыдзянь, а я ўжэ сяджу на бабах, зусім грошай німа.* Даргужы Міл.

СЯДЗЕ´ЦЬ НА ХЛЕ´БІ І ВАДЗЕ´. Галадаць. *Пенсія малая, купіла на зіму дроў, то зара сяджу на хлебі і вадзе.* Скураты Квас.

СЯДЗЕ´ЦЬ НА ШЫ´І (КА´РКУ, ГАРБЕ´). Быць утрыманцам. *Здароўя німа, на работу ні хаджу, пільную хату. Сяджу на гарбе ў жонкі.* Любішчыцы Люб.

СЯДЗЕ´ЦЬ ПАД СПАНІ´ЦАЮ. Хавацца. *Усю вайну пад спаніцаю прасядзеў, нікуды носа ні высунуў. А ў сорок чацвёртом усё раўно забралі на фронт. І ні вярнуўся. Як кажуць, ад свайго ні ўцячэш.* Альшаніца Квас.

СЯДЗЕ´ЦЬ СКЛА´ЎШЫ РУ´КІ. Нічога не рабіць. *Усе людзі ў ягадах, стараюцца якую капейку зарабіць. А табе ніц ні трэба, сядзіш склаўшы рукі. Ужэ ж ні маленька.* Гошчава Стайк.

СЯДЗЕ´ЦЬ (ЗАСЕ´СЦІ) У ГАЛАВЕ´. Неадчэпна думаць пра нешта. *Засело ў галаве, як гэто будзя вясельля зрабіць. Яна тут, а кавалер і бацькі яго ў Польшчы. Да яшчэ ў дабавок католікі. Сёні маладыя пра ніц ні думаюць.* г.Косава.

СЯДЗЕ´ЦЬ У ДЗЕ´ЎКАХ. Не выходзіць замуж. *Хацеласё яшчэ пасядзець у дзеўках, пагуляць, сямнаццаць гадкоў усяго было. Але настаў мой кавалер: ано выходзь за яго замуж.* г.Івацэвічы.

СЯДЗЕ´ЦЬ ЯК НА ГАЛКА´Х. Трывожыцца, хваляваца. *Сяджу я ў цябе, Манячка, як на галках. Я з табою балу-балу, а там недзі мужык пятуха зарубаў. Дасць ён мне, што ў парадок ні прыводжу.* Альшаніца Квас. Галкі – іголкі.

СЯДЗЕ´ЦЬ ЯК НА ПАМІ´НКАХ. Сумаваць. *Ты чаго на музыкі прышла? Танцуй во, а то сядзіш як на памінках.* Мілейкі Міл.

СЯДЗЕ´ЦЬ ЯК ПЕНЬ. 1. Нічога не разумець. *Прыехоў лектар на ферму. Сабралі нас у чырвоны вугалок. Ён гаворыць, а мы сядзім як пне, нічого ні панімаям.* Альшаніца Квас. 2. Бяздзейнічаць. *Чаго ты сядзіш як пень? Ідзі вады прынясі, карові сена пакладзі.* Галік Міл.

СЯДЗЕ´ЦЬ ЯК СВЯТЫ´. Нічога не рабіць. *На вяселлі спяваць, есці і піць за маладых трэба. А ты прышоў і сядзіш як святы.* Квасевічы Квас.

СЯДЗІ´ЦЬ ЯК НА КАРО´ВІ СЯДЛО´. Не пасуе, не таго памеру (пра адзенне). *На табе гэтае пальто сядзіць як на карові сядло. А ты ў ём у людзі збіраяшся ісці.* Гошчава Стайк.

СЯК-ТАК. Як папала. *От, спехом, сяк-так скідалі хлява. А гэтае сяк-так і дагэтуль служыць.* Размеркі Стайк.

СЯМ-ТАМ. Зрэдку. *Ездзілі картоплі глядзець на соткі. От, е сям-там жукі, але ні страшно. Можно ні крапіць.* Быч Стайк.

СЯМЮ´ НА´ВАРАТАМІ. Раз за разам. *Сямю навaратамі мыла швэдра, а пляма так і засталася.* Даргужы Міл.

СЯРО´Д БЕ´ЛАГО ДНЯ. Днём. *Сярод белаго дня воўк авечку ўкраў, пасвілі каля лесу. І сабак ні пабаяўся, і пастухі крычвалі ва ўсё горло – ні памагло.*Харошча Міл.

**Т**

ТАГО´ СВЕ´ТУ, ШТО Ў АКНЕ´. Адзіная ўцеха. *Ногі баляць, хадзіць цяжко. Сяду ля акна ды дзіўлюся, хто ідзе па гуліцы. Таго свету, што ў акне. Добра, што ўнукі забягаюць праведаць.* Падстарынь Падст.

ТАГО´-СЯГО´. Усяго патроху. – *Надто ў цябе чамадан цяжкі. – От, таго-сяго ўзяла, а разом дый цяжко. Хочацца дзецям свайго завязці, у горадзі ўсё купіць трэба.* Боркі Падст..

ТАДЫ́ ТО́Я БУ́ДЗЯ. Г.зн. не трэба загадваць далёка наперад. – *Ты ўсё сыну сумкі валочыш у горад. Дачкі пільнуйся, яна цябе дагледзіць да смерці. – Тады тоя будзя. Мне і сын, і дачка роўныя. І дачка ні абдзеляна.* Бялавічы Кос.

ТАЕ́ БЯДЫ́ (ТАКО́Й БЯДЫ). Не трэба перажываць. *Цяля, кажаш, прапало, тае бяды: дзе німа статку, німа і ўпадку.* Верашкі Квас.

ТАІ́ЦЬ НА ДУШЫ́. Не выказваць патаемнага. *Забыліся на мяне дзеці, і ні едуць, і ні пішуць. Але таю на душэ, нікому ні кажу.* Альшаніца Квас.

ТАКА́Я ПЛАНЕ́ТА. Вера чалавека ў наканаванасць лёсу. *Паехалі на рыбу ўчатырох. Трэба было лодцы перавярнуцца. Троя выратаваліся, а чацвёрты патануў. І неглыбоко было. Такая, мусіць, яго планета.* Квасевічы Квас.

ТАК І БЫЦЬ. Няхай будзе гэтак. *Так і быць, вазьму цябе з сабою ў Косаво на маёўку.* Альшаніца Квас.

ТАК І ТАК. Ужываецца пры перадачы чужой гаворкі. *Прышоў у хату брыгадзір і кажа: "Так і так, пазванілі, каб ехалі заўтры вагона разгружаць".* Заполле Кос.

ТАК І ТРЭ́БА. Нехта гэтага заслугоўвае. *Казала, каб цяплей апрануўся, не паслухоў. То зараз хай мерзня, так яму і трэба. У другі раз разумнейшы будзя.* Мілейкі Міл.

ТАК НА ТАК. Аднолькава, без даходу. *На базар у Косаво хадзіла. То шчо прадала, тоя і развяла, вышло мне так на так.* Скураты Квас.

ТАМ І ТАМ. У пэўным месцы. *Пытаюся ў цёткі, дзе ягады збіралі, надто велькія. Кажа, там і там. Пайшлі на другі дзень з дачкою, то два вядры прыняслі.* Квасевічы Квас.

ТАПТА́ЦЦА НА АДНО́М МЕ́СЦІ. Марудзіць. *Топчацяся на адном месці. Каб гэто за дзень адзін вянок зруба паклалі! А хочацця, каб вам добра заплацілі.* г.Косава.

ТАПТА́ЦЬ (УТАПТА́ЦЬ) У ГРАЗЬ. Няславіць. *Свякроў у мяне як змяя. Топча ў гразь і мяне і маю работу з першага дня, як ано прышла да іх жыць.* Хадоркі Кос.

ТА́Я СЛА́ВА. Аднолькава, падзякі не дачакаешся. *Колькі ні памагай – тая слава: усё раўно кепскі.* Заполле Кос.

ТВАЯ́ СПРА́ВА З НО́СА КАП, А Ў РОТ ХАП. Г.зн. не ўмешвайся, абыдуцца без цябе. *Твая справа з носа кап, а ў рот хап. Паставілі цябе старажыць, то старажуй, а то раскамандавоўся тут: стаў туды машыну, стаў сюды. Я сам ведаю, куды ставіць.* г.Косава.

ТЛУМІ́ЦЬ ГО́ЛОЎ.Назаляць. *Тлуміш ты мне голоў ужэ праз каторы дзень. Сам ідзі дагаварыся з трактарыстом, каб прывёз табе сено.* Няхачава Стайк.

ТО БО́КОМ ТО СКО́КОМ. Як прыходзіцца. *Пытаяшся, як жыву? От, жыву памаленьку, то боком то скоком. Хлеба скарынку маю – і дзякаваць Богу.* Мілейкі Міл.

ТО́ЛЬКІ І БА́ЧЫЛІ. Пра раптоўнае, бясследнае знікненне. *Прыняла прымака, ні ведоўшы, ні знаўшы, якого роду, якого племя. Пажыў з паўгода, агледзёўся, да грошы ўсе забраў – толькі яго і бачылі.* г.Івацэвічы.

ТО́ЛЬКІ ПТУШЫ́НАГО МАЛАКА́ БРАКУ́Я (НІМА́). Усяго ўволю, у дастатку. *Стараяцца чалавек, робіць, шэсць кароў трымая, то і мая. Усё ў яго е, толькі птушынаго малака бракуя.* Заполле Кос.

ТО́ЛЬКІ ПЫЛ КУРЫ́ЦЬ (ЗАКУРЭ́Ў). Хутка бегчы, ехаць. *Прышоў да мяне ў хату свары́цца, шчо я яшчэ летась пазычыла ў яго шаткоўню і ні прынясла. Што яму ў голоў стукнуло? Мне сын купіў, у мяне свая е. То дала пытлі, пабег ано пыл закурэў.* Скураты Квас.

ТО́ЛЬКІ ТАГО́. Усё роўна. *Ці дождж, ці снег, а нам толькі таго: да дзяўчат на дзясятая сяло цалялі.* Бялавічы Кос.

ТО´ЛЬКІ ШКУ´РА ДЫ КО´СЦІ. Моцна схуднець. *Мода пайшла на гэтыя дзіеты, на тонку талію. То мая ўнучка давяла сябе да таго, што засталіся толькі шкура ды косці.* г.Івацэвічы.

ТО ПЕНЬ ТО КАЛО´ДА. Пра няўмелую, нядбайную працу. *Як пачне шчо рабіць, выходзіць то пень то калода. Вочы ломяцца глядзець на такую работу.* Альшаніца Квас.

ТО ТАК ТО ГЭ´ДЫК. Усяк, па-рознаму. *Карову купілі, а яна гэдака дзіка. То так то гэдак да яе, а яна ні прыступу.* Бусяж Міл.

ТО ТАМ ТО СЯМ (ТО ТАМ ТО ТУТ). У розных месцах. *Пайшоў глядзець картоплі, то там то сям відны сляды дзікоў. Парылі трохі, трэба чартапалохі ставіць, ніц ні будзя.* Бялавічы Кос.

ТО Ў ЖАР ТО Ў ХО´ЛАД КІ´ДАЯ. Пра тое, што выклікае замяшанне, разгубленасць. *Лясніком рабіў. Чую, страляюць у лесі. Я туды. А яны лася завалілі, ужэ свяжуюць. А я аж затросся, мяне то ў жар то ў холад кідая: ні ведаю, шчо рабіць. І пабаяўся падысці. Думаю, заб'юць пад халеру. Іх пяцёх было, а я адзін.* Бялавічы Кос.

ТО ЎЗАД ТО ЎПЕ´РАД. У розныя бакі. – *Чаго ты сёні цэлы дзень бегаяш па гэтой гуліцы то ўзад то ўперад? – Ні ведаяш гэтых баб? Паслала ў лаўку па муку на пірог. А пра дрожджы забылася сказаць. А я і ні здагадаўся. Ды во бегаю туды-сюды.* Стайкі Стайк.

ТРАПА´ЦЬ НЕ´РВЫ. Нерваваць. *Што гэто за работа ў школі? Трэпляш нервы кожан дзень з чужымі дзецьмі, а сваіх не бачыш.* г.Івацэвічы.

ТРА´СЦА НЯСЕ´ (ПРЫНЯСЛА´). Так скажуць, калі госць нежаданы. *Нядзелька. Селі снедаць. Паставіла мужыку бутылку віна. Бачым, трасца суседа нясе. От нюх у чалавека.* Альшаніца Квас.

ТРА´СЦА ˙ТРАСЕ´. Так кажуць пра зайздроснага

чалавека. *Мой чалавек добру работу знайшоў, машыну купілі. А цябе, бач, трасца трасе, гатоў з'есці во яго разом з машынаю.* Квасевічы Квас.

ТРА´СЦА (ХАЛЕ´РА) ЯГО´ (ЯЕ, ІХ) БЯРЫ´. Няхай будзе так, як атрымалася. *Трасца яго бяры, ні даў трактара – пасадзім мы і канём картоплі.* Хрышчонавічы Квас.

ТРА´СЦА (ХАЛЕ´РА) ЯГО´ (ЯЕ´, ІХ) ВЕДАЯ. Ніхто (неведае). *Трасца яго ведая, кудыя падзела того кашалька. Можа, і згубіла.* Ёдчыкі Квас.

ТРА´СЦА ЯГО´ (ЯЕ´, ІХ, ТВАЁЙ, ВА´ШОЙ) ГАЛАВЕ´ (МА´ТАРЫ). Так выказваюць абурэнне. *Трасца вашой галаве, чаго вы палезлі на тую вішню? Галіну паламалі. Што я зараз скажу суседу?* Размеркі Стайк.

ТРА´СЦА ЯМУ´ (ЁЙ, ІМ, ВАМ) У БОК. Праклён. *Парцізаны хацелі карову забраць. Думаю, трасцу вам у бок, а ні карову. Я ўжэ яе зарэзоў, хай лепш дзеці з'ядуць. А то забралі б ці немцы, ці парцізаны.* Квасевічы Квас.

ТРАСЦІ´ (ПАТРАСЦІ´) ПАНЧО´ХУ. Дапамагчы грашыма. *Ну, цешча, патрасі панчоху. Дай хоць на адно калясо. Машыну думаям з тваею дачкою купіць.* Гошчаво Стайк.

ТРАСЦІ´ ТРА´НЦЯМІ. Бедна апранацца. *Чаго ты трасеш транцямі? Ні пашкадуй грошай да купі добру адзежыну. А то мільёны палучаяш і ў падраном ходзіш.* Бялавічы Кос. Транці – транты.

ТРА´СЦУ ЗНАЙСЦІ´. Не знайсці нічога. *Калі добра ні ведаяш лесу, то трасцу грыбоў знойдзяш.* Альшаніца Квас.

ТРЫМА´ НА´ВАРАТАМІ. Неаднойчы, некалькі разоў. *Памятаю, як сталі калхозы, то хлеба свайго ні было з чаго пячы. А ў магазін вобмаль прывозілі. То хадзілі ў Косоў. Трыма наваратамі ў чаргу па хлеб станавіліся. Бало, як сціснуць у той лаўцы, то слабейшыя ажно млелі.* Заполле Кос.

ТРЫМА´ЦЦА ЗА СПАНІ´ЦУ. Залежаць ад жанчыны. *Колькі ты будзяш трымацца за бабску спаніцу? Паехалі на заробкі!* Була Міл.

ТРЫМА´ЦЦА СВАЕ´ ХА´ТЫ. Шанаваць родны кут. *Раз'ехаліся нашыя людзі па ўсём свеці. Папытаяшся, і таго німа, і таго. Маладымі папрападалі. Старыя людзі добра казалі: трымайся свае хаты – свая хатка як родна матка.* Заполле Кос.

ТРЫМА´ЦЬ КА´МЯНЬ ЗА ПА´ЗУХАЮ. Мець злосць. *Я да цябе з адкрытаю душою, а ты, бач, трымаяш камянь за пазухаю. На людзях гаворыш пра мяне абы-шчо. А я і ні ведаю, чаго ты на мяне злосць маяш.* Заполле Кос.

ТРЫМА´ЦЬ НА КАРО´ТКОМ ПАВАДКУ´. Падпарадкаваць. *Мяне мужык усё жыццё на каротком павадку трымая. Бацько яго такі быў. Ні жонка, а ён грашыма распараджаўся. Такі і мой. Яблыко ад яблыні нідалёко падая.* г.Косава.

ТРЫМА´ЦЬ НА СВАІ´Х ПЛЯЧА´Х. Узяць на сябе ўсе клопаты, турботы. *Мужыка на фронці забілі. То і гаспадарку, і сям'ю на сваіх плячах трымала.* Сакоўцы Міл.

ТРЫМА´ЦЬ НО´СА ПА ВЕ´ТРЫ. Прыстасоўвацца. *Сёні, каб ні прапасці, трэба трымаць носа па ветры. Зараз ні пасварышся з начальнікам. Ён цябе хутко прапрэ з работы. І пажаліцца німа каму. У іх зараз уласць.* г.Івацэвічы.

ТРЫМА´ЦЬ РО´ТА (ЯЗЫ´КА) НА ЗАМКУ. Маўчаць. *Ні ўсё трэба гаварыць, шчо думаяш. Трэба трымаць рота на замку. Ніздарма кажуць: маўчыш, то двух навучыш.* Заполле Кос.

ТРЫМА´ЦЬ РУ´КУ. Падтрымліваць. *У нас так было: свякроў маю руку трымала, а мая маці – мужыкову.* Зялёны Бор Стайк.

ТРЫМАЦЬ САКЕ´РУ ПАД ЛА´ЎКАЮ. Быць да

ўсяго гатовым. *Мірно жыві з людзьмі, але і трымай сакеру пад лаўкаю: усякія людзі е.* Размеркі Стайк.

ТРЫМА´ЦЬ У ГАЛАВЕ´. Памятаць. *Ні бойся, зяцёк, я трымаю ў галаве, што ў цябе юбілей. Ужэ купіла табе падаруначок.* Рацкевічы Міл.

ТРЫМА´ЦЬ У КУЛАКУ´. 1. Выхоўваць у строгасці. *Дзяцей трэба трымаць у кулаку, то толк будзя.* Заполле Кос. 2. Не мець права голасу. *Мужык яе праз усё жыццё ў кулаку трымаў.* Заполле Кос.

ТРЫМА´ЦЬ ХВОСТ ПІСТАЛЕ´ТОМ. Не здавацца ні пры якіх абставінах. *Чаго носа павесіў? Падумаяш, каня ўкралі. Трымай хвост пісталетом, другого выгадуяш.* Юкавічы Стайк.

ТРЫМА´ЦЬ ЯЗЫ´КА ЗА ЗУБА´МІ. Не казаць лішняга. *У вайну, каб выжыць, трэба было трымаць языка за зубамі. Усякія парцізаны былі, усякія і немцы.* г.Косава

ТРЫ ЧВЭ´РЦІ ДА СМЕ´РЦІ. Блізка, хутка. *Жыву паціху, зараз мне самой, як той казаў, тры чвэрці да смерці.* Скураты Квас.

ТРЫ ШКУ´РЫ ЗДЗЕ´РЦІ. Абабраць, узяць лішняе пры разліку. *Гэтыя гандляры гатовы тры шкуры здзерці з чалавека.* г.Косава.

ТРЭ´БА ЯК САБА´ЦЫ ПЯ´ТА НАГА´. Зусім непатрэбны. *Ні хадзі за мною. Ты мне адно гаворыш, а за вочы смяешся з мяне. Мне такія кавалеры трэба як сабацы пята нага.* Яглевічы Ягл.

ТРЭ´СКА НА ТРЭ´СКУ ЛЕ´ЗЯ. Г.зн. усё жывое шукае сабе пару. *Вясна: трэска на трэску лезя.* Альшаніца Квас.

ТУГІ´ (-АЯ, -ОЕ, -ІЯ) НА ВУ´ШЫ. Глухі. *Мне ўжэ восімы дзясяток пайшоў, ні дзіво, што на вушы тугі.* Сярадава Жытл.

ТУДЫ´ І ДАРО´ГА. Так і трэба. *Папаўся, нарэшці, злыдзянь: курэй усё ў людзей краў. Кажуць, пасадзяць.*

*Туды яму і дарога!* Альшаніца Квас.

ТУМА́НІЦЬ (ЗАТУМА́НІЦЬ) ВО́ЧЫ (ГО́ЛОЎ). Ашукваць. *Цыганы шаляноўкі прадавалі. Затуманілі вочы – усе грошы, якія былі, аддала. А тая шаляноўка рубель каштуя.* Размеркі Стайк.

ТУПЫ́ ЯК АБУ́Х. Недалёкі, неразвіты. *Ты, Васіль, тупы як абух. Каб гэто ты ні ўмеў ровара паладзіць?!* г.Косава.

ТУРМА́ ПЛА́ЧА. Пра магчымую суровую кару. *Даўно яму казалі: "Па табе турма плача. Уціхамірся, ні лезь з кулакамі да жонкі". Куды там – герой. А як прыехала міліцыя, як далі добра ў сраку, то прасіцца пачаў.* г.Івацэвічы.

ТУТ ЯК ТУТ. Нечакана з'явіцца. *Тата паехоў на заработкі аж на Алтай. Бабуля кажа: "Пакліч, унучка, яго ў комін, то прыедзя". Я і клічу: "Тато, едзь дахаты!". Прайшло мінут дваццаць – бацько па надворку ідзе. Во дзіво!* Альшаніца Квас.

ТЫ́КАЦЬ У ВО́ЧЫ. Папракаць. *Што ты мне нявесткаю тыкаяш у вочы? Я яе ні выбірала! На сваю паглядзі, ні лепша.* Хрышчонавічы Квас.

ТЫ́ЦАЦЬ (ТЫ́ЦНУЦЬ) НО́СОМ. Павучаць, указваць. *Карова на пашу ідзе, наляпая. Зроду ні ўбярэ гаспадар, пакуль носом ні тыцну.* Панкі Люб.

ТЫ́ЦАЦЬ (ТЫ́ЦНУЦЬ) ПАД НОС. Падаваць з непавагай. *Пасварыўся з жонкаю. Есці наварыць, тыцня пад нос і слова ні скажа. Ні то есці, ні то не.* г.Косава.

ТЫ́ЦАЦЬ ПА́ЛЬЦАМІ. Асуджаць. *Гэдакі чалавек харошы быў. А распіўся так, што ўсе тыцаюць пальцамі. Нідаўно ў суседкі слоікі з плота пакраў.* Бялавічы Кос.

**У**

У АГНЕ́ НІ ГАРЫ́ЦЬ І Ў ВАДЗЕ́ НІ ТО́НЯ. Знаходзіць выйсце з любой сітуацыі. *Ці гэто гэдакі*

*смелы, ці яму шанцуя – у агне ні гарыць і ў вадзе ні тоня.* Заполле Кос.

У АГО́НЬ І ВО́ДУ. Усюды. *Ты мне такоя дабро зрабіў. Гэто ж мяне маглі з работы выгнаць: уваліўся ў канаву трактаром. А ты мяне ноччу паехоў выцягнуў. Я за табою ў агонь і воду пайду.* Яглевічы Ягл.

У АДЗІ́Н ГО́ЛАС. Усе разам пра адно і тое ж. *Казалі старыя людзі, што перад першаю вайною камета праляцела. Усе ў адзін голас пачалі казаць: хутко бу-дзя вайна. Так і вышло.* г.Косава.

У АДЗІ́Н МО́МАНТ. Тут жа, адразу. *Навальніца была. Маланка як жахнула ў гумно – у адзін момант ўся стрэха загарэлася. То добра, шчо ў гумно, яно воддаль стаяло, каля загумення. А каб у хлеў ці ў хату, то паўсяла згарэло б. Даўней усё саломаю крылі.* Заполле Кос.

У АДНО́ ВУХО́ ЎЛЯТА́Я, У ДРУГО́Я ВЫЛЯТА́Я. Так кажуць пра таго, хто не мае добрай памяці, няўважлівы. *Табе кажы ці ні кажы – адна трасца: у адно вухо ўлятая, у другоя вылятая. Хоць ты бяры на паперку запісвай ці што.* г.Івацэвічы.

У АДНЫ́Х РУКА́Х. Г.зн. распараджаецца нехта адзін. *Конь у Васіля спраўны, дагледжаны. Як жэб, у адных руках.* Дубітава Міл.

УБА́ЧЫЦЬ СВЕТ. Адчуць палёгку. *Зубы праз тыдзянь балелі, гатоў на сцену ад болю лезці. А гэто вырвоў пайшоў, то ўбачыў свет. Галенчыцы Ягл.*

У БЕ́ЛЫ СВЕТ. Ісці, ехаць у невядомым напрамку. *Я гатова ў белы свет ісці: німа як жыць з вашым бацьком.* Мілейкі Міл.

УБІРА́ЦЦА (УВАБРА́ЦЦА) Ў СІ́ЛУ. Падарослець. *Цяжко было без мужыка дзяцей гадаваць. Але ўжэ як хлопцы ўвабраліся ў сілу, то ўсю мужчынску работу яны рабілі.* Яглевічы Ягл.

УБІ́ЦЦА (УЛЕ́ЗЦІ) Ў ГО́ЛОЎ. Надумацца. *Убіласё ў голоў, што жонка ашуквая мяне. Кажа, пай-*

*ду палоць картоплі, а сама да мацяры ў суседняя сяло. Пайшоў глядзець на поле. Не, праўда, поля. Аж мне брыдко стало.* Стайкі Стайк.

У БО´ГА ЦЯЛЯ´ ЎКРАЎ. Горшы за другіх. *Я на варотах стаяць ні буду. Шчо я, у Бога цяля ўкраў? Мне тожа хочацца галы забіваць.* Альшаніца Квас.

УВАБРА´ЦЦА Ў СІ´ЛУ. Пасталець, падужаць. *Тады мне лёгко стало жыць, як дзеці ўвабраліся ў сілу, сталі памагаць.* Размеркі Стайк.

УВАЛІ´ЦЦА ПА СА´МЫЯ ВУ´ШЫ. Папасці ў непрыемнае становішча. *Уваліўся па самыя вушы з гэтай жаніцьбай, жонка такі гультай.* г.Косава.

У ВАЧА´Х МУ´ХІ ЛЕ´ТАЮЦЬ. Няясна, цьмяна бачыць. *Пабыла на сонцы, то ў вачах мухі летаюць. Ні можно мне нагнутой доўго быць.* Квасевічы Квас.

У ВАЧА´Х ЦЁМНО СТА´ЛО (ПАЦЯМНЕ´ЛО). Стала блага, нядобра. *Як падняла мяшок картоплёў, то ў вачах цёмно стало. Стаю і думаю: ці ж ні дурная я – адна варочаю гэтыя мяшкі.* Жытлін Жытл.

УВО´ДЗІЦЬ (УВЕ´СЦІ) У ВУ´ШЫ. Настойліва паўтараць, унушаць. *З дня ў дзень уводзіў у вушы, вучыў: "Садзішся на трактар – правер, ці скаты накачаныя, ці салярка е, ці тармаза е". Бо да бяды нідалёко, гэто цехніка.* г.Косава.

УВО´ДЗІЦЬ У ЗЛОСЦЬ. Злаваць. *Не ўводзь мяне ў злосць, бо палучыш кухталя.* Стайкі Стайк.

У ВО´ЧЫ. Адкрыта (казаць, гаварыць, хваліць). *У вочы табе кажу: дачка ў цябе золато, а сын – як ні табою робляны. Пазнаяш ты з ім бяды.* г.Івацэвічы

У ВУША´Х СВІ´НЯ ЗІМАВА´ЛІ. Брудна. *Памыйся, а то ў вушах свіня зімавалі.* Альшаніца Квас. Свіня – свінні.

У ГАДА´Х. Сталы, немалады, пажылога ўзросту. *У гадах мае бацькі, але яшчэ, дзякаваць Богу, гаспадарку трымаюць. І нам перападае*

*на гарадскі стол.* г.Івацэвічы.

У ГАЛАВЕ´. Ва ўзгалоўі. *Здэцца, два сяла радом, а ў Скуратах крыжа на магілі ставяць у нагах, а ў Альшаніцах – у галаве.* Скураты Квас.

У ГРОШ НІ СТА´ВІЦЬ. Не шанаваць, не цаніць. *Ты свайго мужыка у грош ні ставіш. І такі ён у цябе, і гэдыкі. Пабачыш яшчэ, як адной жыць.* Грыўда Міл.

У ГРУДЗЯ´Х АРГА´НЫ ГРА´ЮЦЬ. У грудзях хрыпіць. *Прастудзілася моцно: у грудзях арганы граюць.* Размеркі Стайк.

УГРЭ´ЎСЯ АЖ ПА´РА ВЕ´РНЯ. Набегаўся, нарабіўся. *Сено з кумом закідалі на вышкі. Угрэўся аж пара верня.* Куляшы Міл.

УДАРА´ЦЬ (УДА´РЫЦЬ) ПА РУКА´Х. Дамаўляцца. *Старгаваў коніка ў Косаві на базары. Ударылі па руках, выпілі барыш. Свайго буду мець.* Галік Міл.

УДА´РЫЦЬ У ГАЛАВУ´. Прыліваць да галавы (пра кроў). *Цэлы дзень на сонцы, аж кепско стало. Кроў ударыла ў галаву.* Яглевічы Ягл.

УДА´РЫЦЬ У ХАМУ´Т. Адступіцца. Пагадзіліся пабяліць ферму. *Як паглядзелі, колькі работы, то адразу мой напарнік у хамут ударыў. Кажа, за такія грошы я рабіць ні хачу.* Бялавічы Кос.

У ДЗЕ´ЎКАХ СЯДЗЕ´ЦЬ. Не выходзіць замуж. *Трыццаць гадоў зараз будзя дачцэ, а яна ў дзеўках сядзіць. Кажа, німа за каго замуж ісці: адны гультае да п'яніцы, лепш адной ужэ векаваць.* Мілейкі Міл.

У ДО´БРУЮ МІНУ´ТУ СКАЗА´ЦЬ. Не сурочыць. *У добрую мінуту сказаць, мае курачкі пачалі нясціся. Мароз, холад, а я кожан дзень тры-чатэры яйца з гнязда вазьму. Унучкам збіраю.* Скураты Квас.

УДО´ЎЖ І ЎПО´ПЯРОК. У розных кірунках. *Я гэты лес ўдоўж і ўпопярок абхадзіў, тут мой абход быў.* Хрышчонавічы Квас.

У ДУ´РНЯХ. Апынуцца ў недарэчным становішчы.

*Ах, як ён мяне ў дурнях пакінуў. Згаварыліся па цымент ехаць у Ваўкавыск. Сказаў, каб я ў пяць часоў як штык гатовы быў. Прастаяў я цэлы ранок, яго ждучы. А ён сам, адзін, без мяне паехоў.* г.Косава.

У ДЫМ (У ДЫМІ´НУ). Быць моцна п'яным. *Мой учоры хадзіў у лес, каб ляснік паказаў, дзе дрова браць. Узяў з сабою бутылку. То набраўся ў дым, ледзьве дахаты прыпоўз. Там бутылкаю ні абышлосё.* Альшаніцы Квас.

УЕ´СЦІСЯ Ў КО´СЦІ. Надакучыць, абрыднуць. *Такая шкодлівая карова. Усім у косці ўелася: і нам, і пастухам. Здалі, то і не шкада было. Хоць да малака была добрая.* Гошчава Стайк.

УЗБІ´ЦЦА НА ГАСПАДА´РКУ. Разжыцца, прыдбаць. *У вайну і каня забралі, і карову. Але, дзякуй Богу, паціху разжыліся, узбіліся на гаспадарку.* Була Міл.

УЗЯ´ЦЬ САБЕ´ Ў ТОЛК. Зразумець. *Ніяк ні возьму сабе ў толк, як ходзіць гэты аўтобус. Кожны месяц расклад мяняюць.* Бусяж Міл.

УЗЯЦЬ У ЛЕШЧАТКІ (У ЛЯШЧО´ТКІ). Трымаць у строгасці, падпарадкаваць. *Як мужык узяў у лешчаткі, то во якая гаспадыня стала.* Заполле Кос. Лешчатка – а) тонкая дошка; б) медыцынская шына.

УЗЯЦЬ У ЛУ´КАТКІ. Абкружыць, насесці з усіх бакоў. *Адступалі ў пачатку вайны. Як узялі немцы ў лукаткі, то ледзь вырваліся.* Заполле Кос.

У ІХ СВАЁ´ ВЯСЕ´ЛЛЕ, А Ў НАС СВАЁ´. У кожнага свой інтарэс. *Пайшлі ў калхоз буракі рваць, то аддзяліліся ад нас маладыя. Ну, і хай: у іх сваё вяселле, а ў нас сваё.* Кушняры Падст.

У КАПЕ´ЯЧКУ. Вельмі дорага. *Мне вяселле ў добрую капеячку абыдзяцца, я знаю. Але нічого ні пашкадую, а дочачцы сваёй зраблю вяселле на славу, бо яна ў мяне адненькая.* Любішчыцы Люб.

УКАРАЦ´ІЦЬ РУ´КІ. Адвучыць красці. *Яшчэ раз*

*паймаю ў агародзі, то ўкарачу рукі.* Рацкевічы Міл.

УКАРАЦІ´ЦЬ ЯЗЫ´КА. Прымусіць маўчаць. *Ты сёні много гаворыш. Слухай, укараці языка, ты ўсяе праўды ні ведаяш.* Яглевічы Ягл.

УКІ´НУЦЬ АГОНЬ У ХАТУ. Пасварыць. *Суседка як прыдзя, так і ўкіня агонь у хату.* Альшаніца Квас.

УКЛА´ДВАЦЬ (УКЛА´СЦІ) ДУ´ШУ. Моцна любіць. *Шчо ні вазьму бацькаво: ці то сакеру, ці то пілу, ці то касу – усё да рукі, усё да ладу даведзяно, ва ўсё ён душу ўклаў.* Заполле Кос.

УКЛА´ДВАЦЬ (УКЛА´СЦІ) Ў ГО´ЛОЎ. Навучаць. *Ні хоча хлопяц вучыцца. І шчо яму рабіць? Свой розум у голоў ні ўкладзеш.* Азярцо Падст.

УЛЕ´ЗЦІ З ЯЗЫ´КОМ. Умяшацца, нашкодзіць сказаным. *Як улезя свякроў з языком, так з мужыком і пасваруся.* Сенькавічы Падст.

У ЛЕС НІ ЎЦЯЧЭ´. Бедаваць не трэба, нічога не зробіцца. *Сёні нядзелька, ні ідзі касіць: работа ні воўк, у лес ні ўцячэ.* Скураты Квас.

У ЛІСІ´ЦЫ ПАД ХВАСТО´М ЗАПЛЕ´ЦЕНА ХВАРАСТО´М. Так скажуць пра дзяўчыну, якая без патрэбы падкрэслівае сваю цнатлівасць. Лушчык В.І., 1930 г. н., 2001. Альшаніца Квас.

У ЛО´ЖЦЫ ВАДЫ´ ЎТАПІ´ЦЬ. Зрабіць зло. *Такі паскудны чалавек, гатоў кожнаго ў ложцы вады ўтапіць.* Скураты Квас.

У ЛЮ´ДЗІ АДДАВА´ЦЬ (ВЫПРАЎЛЯ´ЦЬ, ІСЦІ´). Аддаць у парабкі. *Як прыехалі з бежанства, то мяне бацько ў людзі аддаў: у Сіняўцы кароў пасвіў.* Заполле Кос.

У ЛЮ´ДЗЯХ. У людным месцы, сярод людзей. *Пажыў у людзях, то і чалавеком стаў.* Руда Падст.

У МАСЦЬ (ПАД МАСЦЬ) ГАВАРЫЦЬ. Дагаджаць. *З маею жонкаю цяжко пасварыцца. Яна ўмея ў масць гаварыць. Ад свае мацяры навучылася. Тая ўвесь*

*век мужыку дагаджала.* Альшаніца Квас.

У МЕ´РУ. Столькі, колькі трэба. *Пірог добры ўдаўся. У меру і цукру, і ваніліну.* Бусяж Міл.

УМЫВА´ЦЦА (УМЫ´ЦЦА) КРО´ЎЮ. Атрымаць па заслугах. *Такі забіяка, праходу ні даваў хлопцам, шчо на музыкі з чужых сёл прыходзілі. А неяк сам пайшоў у Скураты на музыкі. Згаварыліся хлопцы, то добра далі, умыўся кроўю і ён.* Заполле Кос.

УМЫВА´ЦЦА (УМЫ´ЦЦА) СЛЯЗЬМІ´. Плакаць ад крыўды, з гора. *Сіратою гадавалася, то ні раз слязьмі ўмывалася. Мало хто спагадаў.* Альшаніца Квас.

У НАГА´Х. У тым месцы, дзе ногі. *Бацька пахавалі каля яго маціяры. Збоку месца ні было, то ў нагах.* Міхнавічы Стайк.

У НАГА´Х НЕ СТАЯ´Ў (-ЛА, -ЛІ). Пра недаказанасць учынку. *Ты ў мяне ў нагах не стаяў. Закрый рота, не распускай плёткі.* Гошчава Стайк.

У НО´СІ БРЫДЗІ´ЦЬ. Хочацца чхаць. *Нешчо ў носі брыдзіць, каб хоць ні захварэць. Учоры ногі моцно змерзлі.* Альшаніца Квас.

У ПАПА´ АПО´ШНЯЯ ЖО´НКА. Так скажуць пра чалавека, які абяцае больш не рабіць дрэннага, але не выконвае абяцанае. *Ці першы раз ты клянешся, шчо больш піць не будзяш. Не веру я табе – у папа апошняя жонка.* Заполле Кос.

УПА´СЦІ Ў НЭ´НДЗУ. Занудзіцца. *Мацяру пахавалі, то да таго бацько ўпаў у нэндзу, ажно бяду думалі. Забралі да сябе ў горад. Пры нас, пры дзецях, трошкі акрыяў.* Воля Жытл.

УПРА´ВІЦЬ МО´ЗГІ. Навучыць, утлумачыць, пераканаць. *Табе даўно трэба мозгі ўправіць. Німа нічого даражэй за здароўе. А ты ні беражэшся, ганяяш на матацыклі расхрыстаны. Холад ужэ на дварэ.* г.Косава.

У ПУХ І ПРАХ. Дашчэнту. *Памятаю, бацько лыжы зрабіў, харошыя, ясянёвыя. То за зіму я іх у Занкаўшчыні*

*на горках паламаў у пух і прах.* Альшаніца Квас.

УПРАЎЛЯ´ЦЬ (УПРА´ВІЦЬ) МО´ЗГІ. Вучыць абачлівасці. *Добра зрабіў шафёр, што выкінуў з аўтобуса. Чапляўся нівядома чаго да людзей. Яму даўно трэба было мозгі ўправіць.* г.Косава.

УПЯЧЫ´СЯ Ў ДУ´ШУ. Замучыць прыдзіркамі. *Свінаркаю рабіла, а заўцехнік такі паскудны быў. Так упёкся ў душу, з-за яго кінула, пайшла ў паляводство.* Альшаніца Квас.

УРАСЦІ´ Ў ЗЕ´МЛЮ. Стаць нерухомым. *Дурную прывычку меў свёкар: любіў напалохаць. Пайшла поначы карову глядзець, тэрмін цяліцца быў. А свёкар вырашыў пажартаваць з мяне. Я адкрываю весніцы, а ён як крыкня ні з таго ні з сяго, то я ў землю ўрасла.* Бялавічы Кос.

У РОТ НІ БРАЦЬ. Не піць гарэлкі. *Былі на радзінах. Зяць як напаіў майго гаспадара, то зараз у рот ні бярэ.* Куляшы Міл.

У РО´ЦІ РАСЦЕ´. Так скажуць пра нясмачную ежу. *Ем бараніну, а яна ў мяне ў році расце: ні люблю, шчо тлушч на губах застывая.* Стайкі Стайк.

У РО´ЦІ СВІ´НЯ НАЧАВА´ЛІ. Дрэнна пахне. *Учоры вечаром добра выпілі, а на закуску было сало з цыбуляю. Рано прачнуўся – у році свіня начавалі. Ажно самому гадко.* г.Косава.

У РУКА´Х МЫШ ГНЯЗДО´ ЗВІЛА´. Так скажуць пра маруду. *У калхозі ўсім пароўну плацяць. Але ж адна наробіцца, а ў другое, як кажуць, у руках мыш гняздо звіла.* Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

УРЭ´ЗАЦЦА Ў ПА´МЯЦЬ. Запомніцца. *Малы быў. Ніколі ні забуду: да таго ўрэзаласё ў памяць. Першы раз кіно ў клуб прывязлі. Танк едзя, а мне здаецца, шчо на мяне. Нарабіў крыку ды ўцякаць з клуба.* Заполле Кос.

У САБА´КІ ВО´ЧЫ ПАЗЫ´ЧЫЦЬ. Так кажуць пра бессаромнага чалавека. *Ты ў мяне набраў і грошай, і сала, і аддаеш ужэ каторы месяц. І зноў прышоў. Слу-*

*хай, у сабакі вочы трэба пазычыць, каб так рабіць.* Хрышчонавічы Квас.

УСАДЗІ´ЦЬ НОЖ У СПІ´НУ. Здрадзіць. *Гэдак мужыка любіла, пылінкі з яго здзьмухвала. А ён мне нож у спіну ўсадзіў – пабег да другое.* г.Івацэвічы.

УСАДЗІ´ЦЬ ЯЗЫ´КА (НО´СА). Умешвацца не ў свае справы; умешвацца ў размову. *Старэйшыя гавораць, а ты ні ўмешвайся. А то век языка ўсадзіш – ні дарос яшчэ.* Грыўда Міл.

У САЛДА´ТЫ. На ваенную службу. *Даўней, каго ў салдаты не бралі, то дзяўчата за хлопца не лічылі. А зараз усяк стараюцца ўвільнуць ад арміі.* Любішчыцы Люб.

У СА´МОМ САКУ´. У росквіце жыццёвых сіл. *У Насці Аршынавае дачка ў самом саку. І ростом, і паставаю, і тваром – на пакойну бабу ўдалася. За тую хлопцы біліся. Але і гэтой праходу ні даюць.* Заполле Кос.

У СВІНЫ´Я ГАЛАСЫ´. Позна. – *Тато, чаму мне ніхто памажы Божа ні кажа, як я кашу? – Бо ты касіць пачынаяш у свіныя галасы.* Бялавічы Кос.

УСЕ´ ВО´ЧЫ. Уважліва глядзець. *Прышоў чужы хлопяц у клуб, дзяўчата ўсе вочы на яго. Як бы сваіх німа.* г.Косава.

УСЕ´ ГРО´ШЫ З КАШАЛЬКО´М. Усе, якія ёсць, да апошняга рубля. *Зажадаў мой зяцёк купіць машыну, то ні пашкадавала, аддала ні тоя, што грошы, а ўсе грошы з кашальком. Бо гэто ні зяць, а золато.* Яглевічы Ягл.

УСЕ´ НА АДЗІ´Н КАПЫ´Л. Аднолькавыя. *Вы, мужыкі, усе на адзін капыл: яшчэ жонка на лаві ляжыць, а вы ўжэ выбіраяцця, катору ўзяць.* Заполле Кос.

УСЁ ЧЫ´СТО. Поўнасцю. *Цярпела, нікому ні казала, нават мужыку, якая ў яго сястра. А гэто сустрэліся з ёю каля магазіна, ні вытрымала. Усё чысто выказала: як яна мае косці перамывая, як яна маіх дзяцей*

*брыдзіць. Ні дай Бог такое залоўкі.* Гошчава Стайк.

У СІ´ЛУ ЎБІРА´ЦЦА. Сталець. *Мы старэям, а маладыя ў сілу ўбіраюцца. На гэтом свет стаіць.* Зялёны Бор Стайк.

УСПАМІНА´ЦЬ (УСПАМЯНУ´ЦЬ) ДО´БРЫМ СЛО´ВОМ. З удзячнасцю. *Я сваю першу настаўніцу заўсёды добрым словом успамінаю. Яна нам як маці была.* Заполле Кос.

УСТАЎЛЯ´ЦЬ (УСТА´ВІЦЬ) СВАЕ´ ТРЫ ГРО´ШЫ. Умешвацца. *Без цябе ніц ні абыдзяцца. Ты ў кожну гаворку свае тры грошы ўставіш.* Гошчава Стайк.

УСТА´ЦЬ НЕ З ТОЙ НАГІ´. Мець дрэнны настрой. *Мой чалавек сёні, мусіць, не з той нагі ўстаў: цэлы дзень бурчыць, усё яму ні так.* Була Міл.

УСТУПІ´ЦЬ У СЛЕД. Паўтарыць чужы лёс. *Хто мне зайздросціць, то хай уступіць у мой след.* Альшаніца Квас.

УСЫ´ПАЦЬ ГАРА´ЧЫХ. Набіць. *Старыя людзі казалі, шчо пры цару грашыма ні каралі, як паймаюць крадучы лес. Ано добра ўсыплюць гарачых.* Квасевічы Квас.

УСЮ´ ДАРО´ГУ. Заўсёды. *Усю дарогу ты мяне перабіваяш. Памаўчы, дай слово сказаць. А патом кажы.* Размеркі Стайк.

УТО´ПТВАЦЬ (УТАПТА´ЦЬ) У ГРАЗЬ. Зневажаць. *Ні ведаю, чым я ятроўцы ні дагадзіла. І людзей ні пасаромілася, пры ўсіх утаптала мяне ў гразь. Праўду кажуць: ятроўка хужай воўка.* Яглевічы Ягл.

У ТРЫ ПАГІ´БЕЛІ. Вельмі нізка схіляцца. *Мяшок гэдакі цяжкі, ледзь нясу. У тры пагібелі загнуўся.* Скураты Квас.

У ТРЫ РУЧАІ´ ПОТ ЦЯЧЭ´. Моцна пацець. *Летом сено грабеш, а сонцо жарыць. То пот цячэ ў тры ручаі. Вядро вады за дзень вып'яш.* Альшаніца Квас.

УТРЭ´СКАЦЦА ПА ВУ´ШЫ. Моцна закахацца. *Як*

*я замуж вышла? Прыехалі электрыкі свет праводзіць у сяле. На музыках убачылася са сваім Мікалаём. Адразу ўтрэскалася ў яго па вушы, а ён у мяне. І жывем, дзякаваць Богу. Хутко залатое вяселле спраўляць будзям.* Заполле Кос.

УТУЛІ´ЦЬ ВУ´ШЫ (ХВАСТА´). Пабаяцца, страціць самаўпэўненасць. *Дачуліся людзі, што ні хочуць даваць першаго ўкосу. Сабраліся ўсе на брыгаду. Як далі ў косці аграному, то ўтуліў хваста ды ходу. Але на другі дзень пайшлі на балото мераць дзялкі. Нідаром кажуць: граза на лес ні ідзе.* Мілейкі Міл. Граза – пагроза.

УТЫКА´ЦЬ (УВАТКНУ´ЦЬ) НО´СА. Умешвацца. *Усюды ты ўлезяш, ва ўсё табе трэба ўваткнуць носа.* Квасевічы Квас.

У ХВАСЦЕ´. Ззаду ўсіх плесціся, цягнуцца. *Вечно ты ў хвасце пляцешся. Варушыся трохі!* Була Міл.

У ХВОСТ І Ў ГРЫВУ´. Моцна пакараць. *Пасвіў кароў. Заснуў, а яны ў шкоду. Ды брыгадзір нарваўся. Даў мне і ў хвост і ў грыву.* Квасевічы Квас.

У ЦАНЕ´. Дорага каштаваць. *Картоплі ўрадзілі, то парасята будуць у цане.* Галік Міл.

У ЦВЯРО´ЗЫМ РО´ЗУМІ. У поўнай свядомасці. *Мой дзядзько паміраў у цвярозым розумі. Папрасіў, каб яго памылі, пабрылі, лёг на лаўку і памёр.* Размеркі Стайк.

УЦЕ´РЦІ НО´СА. Даказаць сваю перавагу. *Памятаю, ано калхозы сталі. Гаралі грамадою. То я ўсім уцёр носа: больш за ўсіх зграраў. А шчо – быў малады, здаровы, дужы.* Заполле Кос.

У ЦЁ´МНУ ГО´ЛОЎ ПІЦЬ. П’янстваваць. *Піў у цёмну голоў, то канец сабе знайшоў: учора пахавалі.* г.Косава.

У ЦЁМНЫМ МЕ´СЦЫ. Там, дзе няма людзей. *Пападзецца ён мне ў цёмным месцы, то я яму намылю пыку. Будзя знаць, як чужых жанок мацаць.* г.Косава.

У ЧАТЫРО´Х СЦЕ´НАХ СЯДЗЕ´ЦЬ. Не выходзіць

з хаты. *Не дай Бог хварэць. Так абрыдло ў чатырох сценах сядзець, здэцца, воўком выў бы.* Размеркі Стайк.

У ЧЫМ ТО´ЛЬКІ ДУША´ ТРЫМА´ЯЦЦА. Худы, кволы чалавек. *Паляжаў мой сусед з месяц у бальніцы, убачыла: у чым толькі душа яго трымаяцца. Так высах, зблажэў.* Гошчава Стайк.

У ША´ПКУ СПАЦЬ. Бяздзейнічаць, пасіўнічаць. *Людзі яблыка з калхознаго саду валочаць, а ты ў шапку спіш. Прыедуць унукі і даць ні будзя чаго.* Заполле Кос.

У Я´БЛЫКА. Так кажуць пра каня з цёмнымі круглымі плямамі. *Па разнарадцы далі ў наш калхоз жарабца. Орлікам назвалі. Высокі, танклявы, у яблыка. Усё прадсядацяль на ём ездзіў.* Заполле Кос.

УЯДА´ЦЦА (УЕ´СЦІСЯ) Ў КО´СЦІ. Надакучыць, назаляць. *Што ты, жонка, мне кожны дзень яечню смажыш? Я хутко закукарэкаю. Яна мне ў косці ўжэ ўелася.* Грыўда Міл.

**Х**

ХАВА´ЦЦА (СХАВА´ЦЦА) ЗА ПЛЕ´ЧЫ. Перакладваць клопаты на іншага. *Мая суседка лёгко пражыла: нідзе сама ні паклапацілася, усё за мужыковы плечы хавалася.* Скураты Квас.

ХАВА´ЦЦА (СХАВА´ЦЦА) ЗА ЧУЖЫ´Я СПІ´НЫ. Ухіляцца ад работы. *На калхозной рабоці так: адзін наробіцца, аж плечы шумяць, а другі за чужымі спінамі хаваяцца. А як палучку, то дай добрую.* Ёдчыкі Квас.

ХАВА´ЦЬ ВО´ЧЫ. Не глядзець у вочы другому, адчуваючы віну. *Нарабіла языкоў пра мяне, а зара ўбачыліся ў аўтобусі, то вочы хавая, бо брыдко стало.* Грыўда Міл.

ХАВА´ЦЬ (СХАВА´ЦЬ) КАНЦЭ´ Ў ВО´ДУ. Захаваць у тайне, скрыць ад іншых. *Збіў машынаю старого чалавека і ні пакаралі: бацько начальнік, то выгарадзілі, схавалі канцэ ў воду.* Размеркі Стайк.

ХАДЗІ́ЦЬ ГО́ГАЛЕМ. Рысавацца, выхваляцца. *Прыйшоў з марфлота. Матроска, стужкі ад бесказыркі развіваюцца, штаны – клёш – гогалем ходзіць, ад дзевок адбою німа.* Яглевічы Ягл.

ХАДЗІ́ЦЬ КАНДЗІБО́БЯРОМ. Вельмі ганарыста паводзіць сябе. *Ён ззамалада кандзібобяром хадзіў па сяле. Як жа, бацько мяханіком у калхозі, уся цехніка ў яго руках.* Альшаніца Квас.

ХАДЗІ́ЦЬ НА ГАЛАВЕ́. Гарэзаваць, сваволіць. *Зараз дзеці ні бацькоў ні слухаюць, ні вучыцялей – ходзяць на галовах.* Квасевічы Квас.

ХАДЗІ́ЦЬ НА ЗА́ДНІХ ЛА́ПКАХ. Падлізвацца, дагаджаць. *Ты хітры, лёгко пражыў. Колькі было начальнікоў, ты перад кожным хадзіў на задніх лапках.* Заполле Кос.

ХАДЗІ́ЦЬ НА ПА́ЛЬЧЫКАХ. Дагаджаць, падлашчвацца. *Сын як захацеў матацыкла, то на пальчыках хадзіў. Яму ні трэба было ўказваць, што рабіць, сам за ўсё браўся.* Стайкі Стайк.

ХАДЗІ́ЦЬ ПА ЛЮ́ДЗЯХ. Шукаць ратунку, рады ў варажбітоў. *Захварэла мая донька. Дахтара ні могуць вылячыць, трэба па людзях хадзіць.* Заполле Кос.

ХАДЗІ́ЦЬ (ПАЙСЦІ́) ПА РУКА́Х. Пераходзіць ад аднаго да другога. *Купіла шаткоўню, гэдака файна. То адзін прыдзя папытая, то другі – ходзіць па руках.* Бусяж Міл.

ХАДЗІ́ЦЬ ПА СТРУ́НЦЫ. Безагаворачна падпарадкоўвацца. *Пакуль я начальнік, на мне і завод, і вы, то будзяця хадзіць па струнцы і рабіць, што скажу.* г.Івацэвічы.

ХАДЗІ́ЦЬ У АДВЕ́ДКІ. Праведваць парадзіху. *У адведкі ходзяць жанчыны. Нясуць падарункі парадзісі і дзіцяці.* Старажоўшчына Кос.

ХАДЗІ́ЦЬ ХВАСТО́М. След у след. *Каб хацеў дзе адлучыцца, паехаць куды, то німа як: хо-*

*дзяць дзеці хвастом. А з сабою браць ні будзяш, малыя яшчэ.* Альшаніца Квас.

ХАДЗІ´ЦЬ ХО´ДЫРОМ (ХАДУНО´М). Усё навокал калышацца, мітусіцца, імкне. *Пад завыйны шал ветру чутно, як крэкча, рыпіць старая яблыня, незашчэпленыя веснічкі стукаюць па шуле як у бубен, ляскае, ходзіць хадуном шыфер на даху.* Заполле Кос.

ХАДЗІ´ЦЬ ЯК ПАД ЗЯМЛЁЮ. Моцна перажываць. *Жаніцца сабраўся. А дзеўка хвастом вільнула, за другого замуж пайшла. То ходзіць кавалер як пад зямлёю.* Яглевічы Ягл.

ХАЙ БОГ КРЫ´Я. Г.зн. няхай аберагае. *Хай Бог крыя такое долі, як у мяне: адна на ўсём белом свеці засталася.* г.Косава.

ХАЙ МАЯ´ СУ´ЧКА САНКІ ВО´ЗІЦЬ. Няхай будзе твой верх, няхай будзе па-твойму. *Пасварыліся з суседкаю. То я першая пакарылася, перапрасіла, хай мая сучка санкі возіць.* Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2012. Размеркі Стайк.

ХАЛАДЗІ´ЦЬ ЯЗЫ´КА. Беспаспяхова пераконваць у чымсьці. *Хай ні халадзіць языка, я сваё дзіця замуж за бандзіта ні аддам.* Альшаніца Квас.

ХАЛЕ´РА БЯРЭ´. Хтосьці нервуецца, зайздросціць. *У яго конь быў, то я радаваўся за чалавека. А як я трактара купіў, то яго халера бярэ. Гатоў мяне з'есці.* Любішчыцы Люб.

ХАЛЕ´РА З ІМ (З ТАБО´Ю, З ЁЮ, З ІМІ´, З ВА´МІ). Г.зн. не звяртай увагі. *Як сталі ягады, то людзі як падурэлі: на раніцу бягуць у лес, з расою збіраюць. Халера з імі, хай дурэюць. А мы пойдзям, як раса ападзя.* Хрышчонавічы Квас.

ХАЛЕ´РА (ХВАРО´БА) НІ БРА´ЛА. Нічога не робіцца. *Халера яго ні брала, яму пры ўсякой уласці добра, умея дагадзіць.* г.Косава.

ХАЛЕ´РА НО´СІЦЬ. Так кажуць, калі хтосьці

прыходзіць не ў пару. *Халера носіць цябе на ранкі, я ано ўстала. Калі ты спіш?* Бусяж Міл.

ХАЛЕ´РА ЯГО´ ВЕ´ДАЯ. Ніхто (не ведае). *Пайшоў недзі па драпача і прапаў. Халера яго ведая, дзе ён падзеўся. Каня прыгналі, а яго з драпачом німа.* Бялавічы Кос. Драпач – конны культыватар.

ХАПА´ЦЦА (УХАПІ´ЦЦА) АБЕ´ДЗВЮМА РУКА´МІ. Мець жаданне завалодаць. *О, ухапілася новая фельчарка за майго сына абедзвюма рукамі: дзе яна лепшаго знойдзя? І машына е, і работа добра, і хата ў нас як лялька.* г.Івацэвічы.

ХАПА´ЦЦА (УХАПІ´ЦЦА) ЗА ГО´ЛОЎ. Адчайвацца. *Палучыла палучку, зайшла ў магазін, купіла тоясёя. Прышла дахаты, давай выкладваць з сумкі – кашалька німа. Аж за голоў хапілася. Альбо згубіла, альбо хто ўкраў у магазіні.* Мілейкі Міл.

ХАПА´ЦЦА (УХАПІ´ЦЦА) ЗА САЛО´МІНКУ. Шукаць выратавання. *Як топішся, то за саломінку хопішся. Так і я: дахтара ні далі рады вылячыць сына, то па людзях, па манастырах ездзіла. І ачуняў, слава Богу.* Квасевічы Квас.

ХАПА´ЦЦА ЗА ЧУБЫ´. Біцца. *У Заполлі заўсёды – ці радзіны, ці вяселле – хапаліся за чубы.* Бялавічы Кос.

ХВАРО´БУ ТАБЕ´. Зусім нічога. *Хваробу табе, а ні грошы. Ні дзіця, зарабі ідзі і купляй, шчо хочаш. А то прышоў пытаць грошай на музыку сваю.* Бусяж Міл.

ХВАРЭ´ЦЬ (ЗАХВАРЭ´ЦЬ) НА ПА´НА. Гультаяваць. *Ты, сынок, на пана захварэў: спіш да паўдня, рабіць лянуяшся. Ано любіш смачно паесці і пагуляць. Не, трэба табе панскія звычкі кідаць.* Заполле Кос.

ХВАСТА´ ЗАДЗІРА´ЦЬ (ЗАДЗЕ´РЦІ). 1. Ганарыцца. *Пажыў у горадзі трохі ды хваста задзёр – гарадскі. Прыехоў дахаты ды па-свойму слова ні аберня. Усё паруські закідая. Ні быў бы то дурань.* Альшаніца Квас. 2. Уцякаць. *Гомаз: адна карова хваста задзерла, за ёю*

*ўсе. Пастух у сяле дагнаў.* Гошчава Стайк.

ХВАСТА´ НІ ПРЫТУЛІ´ЦЬ. Не прыжыцца, не знайсці прытулку, прыстанішча. *Вы тут хвастоў ні прытуліця, шукайця другое хаты.* г.Косава.

ХВО´РЫ НЯХА´Й ХВАРО´БУ ЕСЦЬ. Так часам жартуюць з таго, хто выстаўляе сваю хваробу на паказ. *– Ні ешця ўсё, пакіньця Васілю, ён хворы. – Гэты хворы няхай хваробу есць. А вы, мужчыны, нарабіліся, то наядайцяся.* Альшаніца Квас.

ХІБА´ ЧОРТ ПАМАГА´Я. Ва ўсім шанцуе. *От ты, Алена, скажы, чаму табе ўсюды шанцуя? І мужык добры папаў, і дзеці вывучыліся, і вас ні забываюць, і ў гаспадарцы парадок. Хіба табе чорт памагая? А я, куды ні кінуся, усюды адна бяда.* Заполле Кос.

ХЛЕБ І ДА ХЛЕ´БА. Так кажуць, калі ў доме ёсць дастатак. *Зараз маладыя, калі ні лянуюцца, то маюць хлеб і да хлеба.* Панкі Люб.

ХЛЕ´БОМ НІ КАРМІ´. Нічога іншага не трэба. *З яго слова ні выцягняш, а яе хлебом ні кармі – дай пагаварыць.* Юкавічы Стайк.

ХЛО´ПАЦЬ ВУША´МІ. Зяваць, упускаць зручны выпадак. *Эх, ты, кавалер! Хлопаяш вушамі, глядзі, а то гэтыя гарадскія хлопцы дзеўку з-пад носа забяруць.* Любішчыцы Люб.

ХОЦЬ АДБАЎЛЯ´Й. Шмат, занадта. *Гэты год ягад у лесі – хоць адбаўляй.* Сакоўцы Міл.

ХОЦЬ АДНЫ´М ВО´КОМ. Глянуць, пабачыць хоць трошкі. *Ужэ трэці год у дачкі жыву. А дахаты гэдак хочацца, каб хоць адным вокам на сваю хату глянуць.* Даргужы Міл.

ХОЦЬ БЫ ХНЫ. Усё роўна. *Што за чалавек, што ў яго за нервы? Карова прапала, дзеці малыя ў хаці, а яму хоць бы хны.* Скураты Квас.

ХОЦЬ БЯРЫ´ ДЫ ВЕ´ШАЙСЯ. Так скажа чалавек, які трапіў у бязвыхаднае становішча. *У людзей дзеці*

*як дзеці. А я маю аднаго сына, і той распіўся гэдык, што пачаў з хаты выносіць на гарэлку. Людкі, мне свет нямілы, хоць бяры ды вешайся.* Мілейкі Міл.

ХОЦЬ ВАДЫ´ НАПІ´СЯ. Пра вельмі прыгожую дзяўчыну. *У Івана Шымановаго гэдака хароша дачка, хоць вады напіся. І ў каго яна ўдалася?* Бялавічы Кос.

ХОЦЬ ВАЎКО´Ў ГАНЯ´Й. Пра вялікае ці халоднае памяшканне. *Дзяцей было много, хату вельку пабудавалі. А зараз усе раз'ехаліся, засталіся мы са старым. То зімою ў кухні ўсё сядзім, а ў пярэдней хоць ваўкоў ганяй – холад.* Верашкі Квас.

ХОЦЬ ВО´КО ВЫ´КАЛІ. Вельмі цёмна. *Самыя цёмныя ночы п*і*ліпаўскія. Выдзяш на гуліцу – хоць воко выкалі.* Хрышчонавічы Квас.

ХОЦЬ ВО´ЎКОМ ВЫЙ. 1. Бязлюддзе навокал. *Даўней нашо сяло цімалае было. А зараз хоць воўком вый – пару чалавек засталосё.* Яцвезь Квас. 2. Так скажуць, калі не шанцуе. *І трэба было гэдак. Адна бяда за другою на хату. Зімою карова ні расцялілася, а летом маланка добры стажок сена спаліла. Дальбог, хоць воўком вый.* Заполле Кос.

ХОЦЬ ВО´ЧЫ ЗАВЯ´ЗВАЙ (СШЫВА´Й). Так скажуць, калі не спіцца, калі бяссонніца. *Спаць ні хочацца, хоць вочы сшывай.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ ВУ´ШЫ ЗАТЫКА´Й. Няма як слухаць. *Такую лухту ты нясеш, хоць вушы затыкай. Дзе ты чуў, каб начальнік начальніка кусаў? Яны заўсёды паразумеюцца. Гэто ано мы, дурні, грызем адзін аднаго.* г.Івацэвічы.

ХОЦЬ ВЫКРУ´ЧВАЙ. Вельмі мокры. *Папаў пад навальніцу, схавацца не было дзе. То куртка хоць выкручвай.* Мілейкі Міл.

ХОЦЬ ВЯРО´ЎКІ ВІ. Пакорлівы чалавек. *Хоць і зяць ты мне, але я табе скажу: гэто ні бык, шчо карова бора. Шчо ты папусціўся перад жонкаю, хоць з цябе*

*вяроўкі ві.* Скураты Квас.

ХОЦЬ ГАЛАВО´Ю АБ СЦЕ´НУ БІ´СЯ. Так кажуць, калі трапляюць у цяжкае становішча. *У калхозі як плацілі? Ніяк. Дзеці галодныя сядзяць, а німа чаго даць. Хоць галавою аб сцену бися. Во як было. Але неяк выжылі, агарод ратаваў.* Юкавічы Стайк.

ХОЦЬ ГАЛАВО´Ю Ў ПЯТЛЕ´ЙКУ ЛЕЗЬ. Так скажа чалавек, што трапіў у цяжкае становішча і не бачыць выйсця з яго. *Абклалі пасля вайны падаткамі, а плаціць ні было чым. Насядааюць фінагенты: давай і ўсё! Было, хоць галавою ў пятлейку лезь.* Заполле Кос.

ХОЦЬ ГАЦЬ (ГРЭ´БЛЮ) ГАЦІ´. Многа. *На Ілью фэст у Бялавічах. Людзі з'язджаюцца з усяе акругі. То дзяўчат – хоць гаць гаці, якіх хочаш. Хлопцам на выбор.* Хрышчонавічы Квас.

ХОЦЬ ГВАЛТ (КАРАВУ´Л) КРЫЧЫ´. Пра бязвыхаднае становішча. *Саломы малавато прывёз, німа чым падсцілаць. У хляве жывы патоп, хоць каравул крычы.* Гошчава Стайк.

ХОЦЬ ГРАБЛЯ´МІ ГРАБІ´. Шмат, многа. *Грыбоў столькі ў лесі, хоць граблямі грабі.* Хрышчонавічы Квас.

ХОЦЬ ДА РА´НЫ ПРЫКЛАДЗІ´. Так кажуць пра добрага чалавека. *Мая нявестка такая добрая, хоць да раны прыкладзі. На мацяру ўдалася, тую ўсе хвалілі.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ ЖЫВЫ´ Ў ЗЕ´МЛЮ (У МАГІ´ЛУ) ЛЕЗЬ. Аб пачуцці адчаю, бяссілля ад немагчымасці што-небудзь зрабіць, каб выйсці з цяжкага становішча. *Боль нязмерны, хоць жывы ў землю лезь.* Панкі Люб. Нязмерны – вялікі, не паддаецца вымярэнню.

ХОЦЬ ЗАБІ´. Г.зн. згодны на самае страшнае пакаранне, але... *Хоць забі, ні памятаю, ад каго пачула, шчо муку танную будуць прадаваць. Пабегла, а ўжэ разабралі. Позно мне сказалі.* Ёдчыкі Квас.

ХОЦЬ ЗАВАЛІ´СЯ. Усяго многа. *Яблык, дулей гэты год хоць заваліся.* Бусяж Міл.

ХОЦЬ ЗАЛІ´СЯ. Многа, колькі хочаш. *Летом наша карова много малака дае, ні, хоць заліся.* Скураты Квас.

ХОЦЬ ЗАРЭ´Ж. Так скажуць, калі немагчыма штонебудзь выканаць, успомніць, зрабіць, зразумець. *Хоць зарэж, ні помню, калі маё вяселле было: ці на Сёмуху, ці на Пятра.* Заполле Кос.

ХОЦЬ З ГАРМА´ТЫ СТРАЛЯ´Й. Моцна спаць, цяжка разбудзіць. *Натаміўся мой гаспадар за цэлы дзень, дрова рубаючы. То спіць, хоць з гарматы страляй, ні разбудзіш.* Размеркі Стайк.

ХОЦЬ З КАЛЕ´НА ВЫ´ЛАМІ. Настойліва дабівацца свайго. *Настала жонка, адно давай купім зяцю машыну. Пытаюся: "А грошы дзе?" Кажа: хоць з калена выламі, а знайдзі.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ ЗО´ЛАТОМ АСЫ´П. Ні пры якіх умовах. *Ты мяне хоць золатом асып, а замуж за яго ні пайду. Лепш у дзеўках звякую.* Старажоўшчына Кос.

ХОЦЬ ЗУ´БЫ НА ПАЛІ´ЦУ КЛАДЗІ´. Няма чаго есці. *Палучку ні даюць, запасы ўсе скончыліся, хоць зубы на паліцу кладзі.* Заполле Кос.

ХОЦЬ ІГО´ЛКІ ЗБІРА´Й. Відно, светла (пра месячную ноч). *Месяц поўны, відно, хоць іголкі збірай.* Грыўда Міл.

ХОЦЬ ІКО´НУ МАЛЮ´Й. Вельмі прыгожы. *Такі хлопяц харошы ў Антося, хоць ікону з яго малюй.* г.Косава.

ХОЦЬ КАРАВУ´Л КРЫЧЫ´. Падымаць з крыкам. *Спяць ранком, хоць каравул крычы – ні падымаш. Гэто ж усю ноч на той дзіскацекі пратаўкліся.* Мілейкі Міл.

ХОЦЬ КАСО´Ю КАСІ´. Вельмі многа, процьма (пра ягады, грыбы). *Зайшоў у Занкаўшчыну – грыбоў, хоць касою касі.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ КАЦІ´СЯ. Роўная, без выбоін (пра дарогу).

*Добрая дарога, хоць кацїся.* Бусяж Міл.

ХОЦЬ КЛАДЗІ́СЯ ДЫ ПАМІРА́Й. Так кажуць, калі адчайваюцца, не знаходзяць выхаду з цяжкага становішча. *Жонка гарэлкі не дае, грошай німа, каб купіць, бабы не любяць – хоць кладзіся ды пamірай.* Яглевічы Ягл.

ХОЦЬ КОЛ НА ГАЛАВЕ́ ЧАШЫ́. Пра ўпартага чалавека, якога немагчыма пераканаць у чым-небудзь. *Яму хоць кол на галаве чашы, ён усё сваё. Кажу табе яшчэ раз: ні сёні прыедзя дохтар з Косава да нас на ФАП, а заўтры.* Мілейкі Міл.

ХОЦЬ КО́СУ ЗАКЛА́ДВАЙ. Вельмі многа, у вялікай колькасці (звычайна пра грыбы). *Усякіх много грыбоў у лесі, а маслякоў у пасадцы – хоць косу закладвай.* Заполле Кос.

ХОЦЬ КРУЦЬ-ВЕРЦЬ ХОЦЬ ВЕРЦЬ-КРУЦЬ. Усё аднолькава. *Хоць круць-верць хоць верць-круць – адна трасца, цяжко дабіцца праўды простаму чалавеку. Заўсёды начальнік верх возьмя.* г.Івацэвічы.

ХОЦЬ МА́ХАЛОМ МАХА́Й. Няма ніякай магчымасці адкараскацца. *А то ж ідзе да ідзе грошы пазычаць, хоць ты махалом на яго махай. Як мне яны з неба сыплюцца.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ НА ВЕ́ЦЯР ПУСКА́Й. Так кажуць пра адзенне, якое не засцерагае ад холаду. *Сям'я ў нас вялікая была, адзін з-пад аднаго апратку даношвалі. А я самы меншы быў, то мне ўжэ такоя пальцячко даставаласё – хоць на вецяр пускай.* Заполле Кос.

ХОЦЬ НА КРАЙ СВЕ́ТУ. Ісці, ехаць вельмі далёка. *Асушалі ў нас балото. Экскаватаршчык малады быў, жыў у мае цёткі. Да таго ўлюбілася, хоць на край свету за ім паехала б. А ён на мяне і ні глянуў.* Хадакі Жытл.

ХОЦЬ НО́СА ЗАТЫКА́Й. Вельмі непрыемна пахне. *Вясною як пачнуць садзіць картоплі, то ўсё сяло гноём пахня. Гарадскому чалавеку тады ў сяло ні па-*

*тыкайся, хоць носа затыкай.* Любішчыцы Люб.

ХОЦЬ ПАМРЫ´. Так кажуць, калі патрабуюць абавязковага выканання чаго-небудзь. *Такі настойчлівы ўнук у мяне. Як задумая шчо, то хоць памры, а яму дай. Захацеў меду, то мусіла ісці па сяле шукаць.* Яглевічы Ягл.

ХОЦЬ ПАТО´П. Г.зн. мне ўсё роўна, мяне нічога не хвалюе. *На свеці е много людзей, якія кажуць: пасля мяне хоць патоп. А ты падумоў сваёю галавою, што пасля цябе застаюцца дзеці, унукі?* Була Міл.

ХОЦЬ ПЛАЧ, ХОЦЬ СКАЧ. Нічога не зменіцца, так склаліся абставіны. *Хоць плач хоць скач – нічого не паможа.* Сярадава Жытл.

ХОЦЬ РАДЗІ´. Пра нешта вельмі патрэбнае, цяжка дасягальнае. *Восянь на носі, дзяцей трэба ў школу выпраўляць. А грошай німа, хоць ты іх радзі.* Гічыцы Ягл.

ХОЦЬ РАЗАРВІ´СЯ. Так скажуць, калі шмат пільнай працы. *Прышла восянь – работ восім. Хоць разарвіся: і капаць картоплі, і сеяць жыто, і агароды ўбіраць, і грыбоў у лесі много – і на ўсё трэба час.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ РАСПЕРАЖЫ´СЯ. Колькі хочаш (пра ежу). *Даўней людзі пасцілі. Надто вялікодны пост строгі. То ўжэ як прыдзя Паска, маці як напрыбірая ўсяго, то еш хоць распераэкысяг.* Скураты Квас.

ХОЦЬ РЭ´ДКО, ДЫ МЕ´ТКО. Так скажуць, калі часам пашанцуе. *Нездарма кажуць: хоць рэдко, ды метко; другі раз у жыцці купіў латарэю і выгроў машыну.* Зыбайлы Жытл.

ХОЦЬ РЭ´ПУ СЕЙ. Так скажуць пра брудныя ногі, рукі, вушы. *За дзень унукі гэдак выпацкаюцца, на нагах хоць рэпу сей: босыя бегаюць.* Азярцо Падст.

ХОЦЬ САКЕ´РУ ВЕ´ШАЙ. Так кажуць, калі ў хаце накурана. *Даўней мужчыны курылі самасад. То як на-*

*смаляць, хоць сакеру вешай. Бало, лямпы тое ні відно.* Гошчава Стайк. Сакера – сякера.

ХОЦЬ СКРОЗЬ ЗЕ´МЛЮ ПРАВАЛІ´СЯ. Так скажуць, калі вельмі сорамна. *Ён спрадвечны злодзяй, хоць і сын мае сястры. Памятаю, яшчэ малы быў, то на базары ў Косаві ў некага дзядзька пугу з воза ўкраў, да паймалі. А я ўсё гэто бачыў, то мне тады было хоць скрозь землю праваліся.* Заполле Кос.

ХОЦЬ СТОЙ ХОЦЬ ПА´ДАЙ. Скажуць у адказ на бязглуздыя, недарэчныя словы. *Стары чалавек, а жартуе з маладымі так, хоць стой хоць падай.* Стайкі Стайк.

ХОЦЬ ТРАВА´ НІ РАСЦІ´. Так кажа абыякавы да ўсяго чалавек. *Па мне хоць трава ні расці – я на акладзі. Прышоў канец месяца – аддай мае дзявяносто рублеў.* г.Косава.

ХОЦЬ ТРЭ´СНІ. Пра абавязковасць выканання. *Хоць трэсні, а ровара мне каб зрабіў. Загнуў вобада ў калясе – выпраўляй.* Бялавічы Кос.

ХОЦЬ У ВІР ГАЛАВО´Ю. Пра безвыходнасць становішча. *Німа як жыць з маёю жонкаю: жміндзіць і жміндзіць цэлы дзень. Хоць ідзі кінься ў вір галавою.* Заполле Кос.

ХОЦЬ У ВУХО´ КЛАДЗІ´ (ПАКЛАДЗІ´). Вельмі добры чалавек. *Добрая нявестка ў мяне, хоць у вухо пакладзі. За дачку мне.* Хрышчонавічы Квас.

ХОЦЬ У ЛОБ СТРАЛЯ´Й. Упарты чалавек. *Такі ўпарты чалавек, колькі яму казаў: ні выпускай пустапасом свае козы. А яму хоць у лоб страляй: усе мае ўшчэпы пагрызлі, шчо пазалетась пасадзіў.* г.Косава.

ХОЦЬ У ПЯТЛЕ´ЙКУ ЛЕЗЬ. Пра безнадзейнае становішча. *Мой швагяр у калхоз ні ўступіў, то так абклалі падаткамі, што яму было хоць у пятлейку лезь.* Яглевічы Ягл.

ХОЦЬ ШАРО́М ПАКАЦІ́. Нічога няма, зусім пуста. *Курам німа ячменю. Думала, шчо ў скрыні яшчэ е. Паглядзела – хоць шаром пакаці.* Альшаніца Квас.

ХОЦЬ ШЫ́ЛОМ ПАД БОК ПАРЫ́. Так кажуць пра гультая. *Такі лянівы, на работу ні выправіш. Хоць шылом пад бок пары.* Бялавічы Кос.

ХО́ЧАШ НІ ХО́ЧАШ. Наперакор свайму жаданню. *Хочаш не хочаш, хоць і свято велькая, Вялікдзянь, а на работу ісці трэба. Каравы ні будуць галодныя.* Стайкі Стайк.

ХРЫСТО́М-БО́ГОМ ПРАСІ́ЦЬ. Умольна (прасіць). *Хрыстом-Богом прашу, ні трывожця мяне. Ні бачыў я, як яны завяліся біцца. Як я прышоў, то ён ужэ ляжаў каля магазіна ў крыві.* г.Івацэвічы.

ХТО КУДЫ́. У розныя бакі. *Маладыя былі, пашлі красці яблыка ў калхозны сад. Нарваліся на стоража, то ўцякалі хто куды.* Альшаніца Квас.

ХТО Ў ПЛОТ, ХТО Ў АГАРО́Д. Нядружна, несуладна. *Хор у сяле арганізавалі. Як сталі першы раз спяваць, то хто ў плот, хто ў агарод. А праз месяц ужэ паехалі выступаць у Вацэвічы, грамату прывязлі.* Заполле Кос.

ХТО ЯГО́ ВЕ́ДАЯ. Няма звестак. *Хто яго ведая, якая гэты год вясна будзя: ці позня, ці рання. Але снегу яшчэ много ляжыць на полі.* Була Міл.

ХТО ЯК. Па-рознаму. *У нас хто як збірая ягады: хто* рукамі*, а хто грабалкамі. Але крычаць, каб грабалкамі ні збіралі.* г.Косава. Грабалка – прылада для збірання ягад.

**Ц**

ЦАЛАВА́ЦЬ РУ́КІ І НО́ГІ. Умольна прасіць. *Рукі і ногі буду табе цалаваць, сынок, ано паслухай мяне. Ні едзь ты ў тую Маскву на заробкі, дома работу знойдзяш.* г.Івацэвічы.

ЦАНЫ́ НІМА́. Вельмі добры ва ўсіх адносінах чалавек. *Твайму зяцю, Верачка, цаны німа. Гэто ж сам,*

*адзін, лазню пабудаваў. І ад каго ён навучыўся?* Квасевічы Квас.

ЦАНЫ´ НІ СКЛА´СЦІ. Вельмі высока ацэньваць. *Яна такая ганаровая, цаны сабе ні складзе.* Альшаніца Квас.

ЦАПУ´-ЛАПУ´. Хутка, спяшаючыся. *Прыбег сын: "У камандзіроўку адпраўляюць. Зараз машына пад'едзя". Ой, Божа, цапу-лапу, того-сёго ў торбу ўкінула, а тут і машына.* Заполле Кос.

ЦАПЫ´ ВЯЗА´ЦЬ. Зацята лаяцца, сварыцца, грызціся. *Што вы там узяліся цапы вязаць? Работу трэба рабіць, а не сварыцца.* Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2011. Размеркі Стайк.

ЦЕ´РАЗ ПЕНЬ КАЛО´ДУ. Абы-як. *Рабілі цераз пень калоду, то тое і маяцця: развальваяцца ваша печка.* Жамайдзякі Міл.

ЦЁМНЫ ДЫ ЧО´РНЫ. Недагледжаны. *Памярла жонка, адзін жыве ў пустой хаці, цёмны ды чорны. Ажно шкада чалавека.* Альшаніца Квас.

ЦЁПЛАЕ МЕ´СТО. Выгаднае, дае прыбытак. *Цёплае место мой сват займеў: муку выдае каравам у калхозі. Калолі ў яго свіню, памерылі сало – на цэлую пядзю.* Зполле Кос.

ЦІ БЛІ´ЗКО ЦІ ДАЛЁКО. Аднолькава, без розніцы. *Мне ці блізко картоплі ці далёко – без розніцы. У мяне свой трактар у руках.* Хадоркі Кос.

ЦІ ГО´ЛЯНО ЦІ СТРЫ´ЖАНО. Аднолькава, ніякай розніцы. *Мне ці голяно ці стрыжано: магу па дрова ехаць, магу па сено. Альбы работа была.* Мілейкі Міл.

ЦІ ВЕРЦЬ-КРУЦЬ ЦІ КРУЦЬ-ВЕРЦЬ. Без розніцы. *Ці верць-круць ці круць-верць – помачы ні прыжду, самому трэба дрова калоць.* Юкавічы Стайк.

ЦІ МА´ЛО ШЧО. Усё можа здарыцца, усяк бывае. *Ці мало шчо е на свеці? Ніздарма ў нас кажуць: шчо край, то абычай.* Бялавічы Кос.

ЦІ МНО́ГО ЦІ МА́ЛО. Невядома колькі (пра час). *Прапала была карова. Ці много ці мало паехалі ў Ражану і такую харошую кароўку вытаргавалі ў мешчаніна. Дваццаць гадоў была яна ў нас, ні менш.* Заполле Кос.

ЦІПУ́Н НА ЯЗЫ́К. Рэзкая рэакцыя на чыесьці словы. – *Волька, кажуць, твой Іван слабы, ці праўда гэто? – Ціпун табе на язык! Мой Іван, дасць Бог, цябе пераэжыве!* Альшаніца Квас.

ЦІ ТУДЫ́ ЦІ СЮДЫ́. Альбо пытанне вырашыцца станоўча альбо адмоўна; альбо так альбо гэтак. *Чалавек хварэя, мучыцца сам і людзей мучыць. Лепш так: ці туды, ці сюды – ці выздаравёў, ці памёр.* Уласаўцы Жытл.

ЦІ́ХАН ЗА ПА́ЗУХУ ЗАЛЕ́З. Пра лянівага чалавека. *Яму Ціхан за пазуху залез: трэйці год плота ні паладзіць.* Стайкі Стайк.

ЦІШЭ́Й ВАДЫ, НІЖЭЙ ТРАВЫ́. Спакойны, рахманы чалавек. *Максімавы хлопцы на бацька ўдаліся: цішэй вады, ніжэй травы. Нікому вока ні запарушылі.* Скураты Квас.

ЦО́ПАЦЬ – ЛО́ПАЦЬ. Спяшацца. *Цэлы дзень цопаю-лопаю, а ўся работа на месці.* Плехава Люб.

ЦЫГАНЫ́ НОЧ РАЗБЯРУ́ЦЬ (УКРАДУЦЬ). Так змушаюць да сну, тлумачаць гэта тым, што летняя ноч вельмі кароткая. *Спаць, дзеці, пара, бо цыганы ноч разбяруць.* Альшаніца Квас.

ЦЫРК НА ДРО́ЦІ. Так кажуць пра нешта вясёлае, незвычайнае. *Цырк на дроці дый годзе: вяселле было, унучка замуж ішла. То баба апранулся цыганкаю да туфлі на высокіх каблуках абула. Як пайшла цыганачку танцаваць, то падалі ад смеху.* Заполле Кос.

ЦЭ́ЛЫ ВОЗ. Вельмі многа, у вялікай колькасці. *Нагаварыў ты цэлы воз, а я ніц ні скумекоў. Чаго ты паедзяш у Косаво, што табе там трэба?* Грыўда Міл.

ЦЮ́КНУЛО Ў ГО́ЛОЎ. Здагадацца. *Ноч месяч-*

*на. Ні спіцца. Вышоў на гуліцу. І гэдак дымком і брагаю свежаю пацягнуло. Тут мне і цюкнуло ў голоў: гэто ж сусед самагонку жане, трэба раняньќо яго праведаць.* Альшаніца Квас.

ЦЮ´ХА-МАЦЮ´ХА. Так кажуць пра павольнага ці раўнадушнага чалавека. *Рыба з возяра ў канавы пайшла. Усе пабеглі лавіць, а мой цюха-мацюха пракалупаўся цэлы дзень на надворку.* Бялавічы Кос.

ЦЮ´ЦЯЛЬКА Ў ЦЮ´ЦЯЛЬКУ. Дакладна. *Пазычала муку ў суседкі. А гэто купіла, думаю, занясу аддам. Але выважыла цюцялька ў цюцяльку, бо яна ні любіць ні перадачы, ні нідастачы.* г.Косава.

ЦЯГНУ´ЦЬ (ВЫ´ЦЯГНУЦЬ) ЖЫ´ЛЫ. Знясільваць сябе цяжкай працай. *Хату будаваў, а памагчы ні было каму, то ўсе жылы выцягнуў.* Куляшы Міл.

ЦЯГНУ´ЦЬ ЗА ВУ´ШЫ. Прымушаць. *Ніц ні хоча вучыцца. Цэлымі днямі матацыкла круціць. Вучыцяля за вушы цягнуць, каб хоць як школу скончыў.* г.Косава.

ЦЯГНУ´ЦЬ ЗА ЯЗЫ´КА. Прымушаць сказаць. *Цябе за языка ніхто ні цягнуў, сам высалапіўся, што ў цябе сячкарня е. Папарэжаш гэту салому ў калхоз.* Квасевічы Квас.

ЦЯГНУ´ЦЬ КАТА´ ЗА ХВОСТ. Няспешна гаварыць ці марудзіць з адказам. *Німа чаго цягнуць ката за хвост, кажы хучэй, па чом прадаеш парасят.* Хадакі Жытл.

ЦЯГНУ´ЦЬ ЛЯ´МКУ. Цяжка працаваць. *Цягну лямку праз каторы год у гэтом калхозі. І німа дзе падзецца. Дзе лепшу работу знойдзяш? Тут хоць на месці, ездзіць ні трэба.* Гошчава Стайк.

ЦЯГНУ´ЦЬ (ВЫ´ЦЯГНУЦЬ) СО´КІ. Прысвойваць вынікі чужой працы. *Калхозы як зрабілі, ніц ні плацілі, задарма людзі рабілі. Цягнулі з нас сокі, як хацелі, начальнікі. І ні ўцячэш, бо пашпарта ні давалі.* г.Косава.

ЦЯГНУ´ЦЬ ЯРМО´. Цяжка працаваць. *У горадзі*

*лягчэй жывуць. А ў сяле кожны дзень ярмо цягнуць трэба: і свіня, і карова, і куры – усе есці просяць. Да яшчэ на работу кожны дзень ісці трэба.* Альшаніца Квас.

ЦЯ´ЖКАЯ РУКА´. Так кажуць пра чалавека, які прыносіць няўдачу. *Ведаю адну цётку, ад яе нічого ні завядзеш, у яе рука цяжкая. Парасят купіш у яе – паздыхаюць, кяткі пасадзіш – павысыхаюць.* Яглевічы Ягл.

ЦЯ´ЖКІ НА ПАД'ЁМ. Так кажуць пра таго, хто не любіць адлучацца з дому. *Я чалавек цяжкі на пад'ём. Ні помню, калі ў Вацэвічах быў.* Заполле Кос.

ЦЯЛЯ´ТА ЯЗЫ´КА АДЖАВА´ЛІ. Так скажуць пра дзіця, падлетка, з якога цяжка выцягнуць слова. *І чаго ты, дзіцятко, цэлы вечар маўчыш? Мусі, табе цялята языка аджавалі?* Мілейкі Міл.

ЦЯМНЕ´Я (СЦЯМНЕ´ЛО) Ў ВАЧА´Х. Адчуць сябе блага. *Пабыла на калхозных бураках да паўдня на сонцы, то сцямнело ў вачах. Чуць ні ўпала на том полі. Больш у спёку палоць ні пайду.* Жамайдзякі Міл.

ЦЯ´МЦЯ-ЛЯ´МЦЯ. Так скажуць пра нясмелага чалавека. *Ну, ты, дачушка, і кавалера знайшла сабе. Ён – цямця-лямця. Стаіць на гуліцы, баіцца ў хату зайсці.* Размеркі Стайк.

ЦЯП-ЛЯП. Абы-як рабіць. *Усё ў нас у гаспадарцы зробляно цяп-ляп, на скору руку. Ажно брыдко ад людзей. І калі ты на пенсію пайдзяш? Можа, хоць парадок навёў бы.* Заполле Кос.

## Ч

ЧАГО´ ДУША´ ЖАДА´Я. Так кажуць пра вялікі дастатак. *Усяго, браток, у мяне хапая: і есці, і піці – чаго душа жадая.* Яглевічы Ягл.

ЧАКА´ЦЬ МА´ННЫ НЯБЕ´СНАЙ. Спадзявацца на няпэўную падтрымку, дапамогу. *Не чакай манны нябеснай, а бяры і капай агарод лапатаю. Ніхто табе каня не дасць, ты ў калхозі не робіш.* Стайкі Стайк.

ЧАПЛЯ́ЦЬ (ЗАЧАПІ́ЦЬ) ЗА ЖЫВО́Е. Даймаць, хваляваць, засмучаць. *Мяне зачапіла за жывое: бацько даўно памёр, а ты ўсё перамываяш яго косці.* Бусяж Міл.

ЧАРВЯ́К ТО́ЧЫЦЬ. Так кажуць пра зайздроснага чалавека, якому не даюць спакою поспехі другіх. *Цябе, Алена, чарвяк точыць, шчо мае дзеці папаступалі ў інсцітуты, вучацца, а твае ў калхоз ходзяць. То хай бы вучыліся, хто ім ні даваў?* Заполле Кос.

ЧА́РКА Ў ЧА́РКУ. Піць нараўне з усімі. *На вяселлі была. Як паглядзела, то зараз бабы з мужыкамі чарка ў чарку п'юць. Даўней гэдакаго ні было.* Гошчава Стайк.

ЧАСА́ЦЬ ЯЗЫКА́МІ. Гаварыць пра пустое. *Пайшлі на пенсію, у горадзі німа чаго рабіць. То пазбіраямся ды чэшам языкамі, седзячы на лавачцы.* г.Івацэвічы.

ЧА́СОМ З КВА́СОМ, А ПАРО́Ю З ВАДО́Ю. Жыць бедна, галадаць. *Сям'я ў нас была велькая, дванаццаць душ. Дзеці адзін з-пад аднаго. У калхозі ніц ні плацілі, жылі з агарода. Як жартавалі, часом з квасом, а парою з вадою. Але, слава Богу, пагадаваліся.* Альшаніца Квас.

ЧМЫ́ХАЦЬ НО́СОМ. Выказваць нездавальненне. *Ні чмыхай носом, а бярыся за ўрокі. Вывучыш, тады пушчу на гуліцу.* Скураты Квас.

ЧО́РНАЯ КО́ШКА ПРАБЕ́ГЛА. Так скажуць, калі псуюцца адносіны паміж людзьмі. *Такія былі дружбакі – ні разлі вадою. А тут нешто паміж імі чорная кошка прабегла. Ужэ цэлы год адзін да аднаго ні гавораць. І што яны там ні падзялілі?* г.Косава.

ЧО́РНО Ў РО́ЦІ. Так кажуць пра нялюдскага чалавека. *Паслухаць цябе, то ўсе людзі ў сяле кепскія, адзін ты добры. Праўду кажуць, што ў цябе ў році чорно.* Бялавічы Кос.

ЧО́РНУЮ ХУ́СТКУ НАСІ́ЦЬ. Быць у жалобе. *Чаму ты нікуды не ходзіш? Ні на танцы, ні ў кіно? Ты*

*што, чорную хустку носіш?* Любішчыцы Люб.

ЧОРТ ВЯРО´ВАЧКАЙ ЗВЯЗА´Ў. Паяднаў на дрэннае. *Іх чорт вяровачкай звязаў: абоя зладзяе.* Альшаніца Квас.

ЧОРТ ГО´ЛОЎ СКРУ´ЦІЦЬ. Цяжка разабрацца ў чым-небудзь, дайсці да толку. *Школьнік, што ў цябе робіцца на стале? Тут сам чорт голоў скруціць. Парадок навядзі!* г.Косава.

ЧОРТ ДЗЯЦЕ´Й КАЛЫ´ША. Удачлівы чалавек. *Соткі далі, папала майму суседу нізіна. Бедаваў, шчо вымакнуць. Але ж яму і дзяцей чорт калыша: год сухі выдоўся. Ва ўсіх без пары пасохлі, а ў яго ўрадзілі на дзіво.* Альшаніца Квас.

ЧОРТ НЕ РАЗБЯРЭ´. Не зразумець, не дапетрыць. *Сам чорт не разбярэ, што ім трэба.* Корачын Жытл.

ЧОРТ НО´ГУ ЗЛО´МІЦЬ. Так скажуць, калі бачаць непарадак. *Рамонт у хаці, разваліла ўсё так, што чорт ногу зломіць* Старажоўшчына Кос.

ЧОРТ НО´СІЦЬ. Непаседлівы чалавек. *Дзе цябе чорт носіць? Трэба ехаць картоплі абгорваць, а цябе па ўсём сяле шукаць трэба. Я ж сам без паводчыка не абгару.* Була Міл.

ЧОРТ ПАДБІ´Ў. Так скажуць, калі чалавек зробіць неабдуманы ўчынак. *Усю зіму сено даваў карові. Гэто ж чорт падбіў мяне, думаю, пайду набяру торбачку калхознаго сенажу: будзя яго мая карова есці ці не? Да нарваўся з тым сенажом на брыгадзіра. Брыдко было.* Заполле Кос.

ЧОРТ ПАМАГА´Я. Пра чалавека, якому шанцуе. *Яму , відаць, чорт памагая, у яго і куры два разы на дзень нясуцца.* Няхачава Стайк.

ЧОРТ ПАЦЯГНУ´Ў ЗА ЯЗЫ´КА. Сказаць штосьці недарэчы. *І нашто мяне чорт за языка пацягнуў? Каб ні сказаў, то бацько і ні знаў бы, што яго сыну, Васілю, пятнаццаць суток далі.* г.Косава.

ЧО´РТУ ДУ´ШУ АДДА´ЦЬ (ПРАДА´ЦЬ). Пра нялюдскага чалавека. *Чорту душу прадаў – пайшоў у*

*паліцыю, ваяваў са сваімі людзьмі. А патом у Амерыку ўцёк, бо тут судзілі б.* г.Косава.

ЧО´РТУ РО´ГІ СКРУЦІ´ЦЬ. Многа зрабіць. *Зімою вечар доўгі, можно чорту рогі скруціць. Жанкі пралі, а мужчыны хамуты да лейцы чынілі.* Альшаніца Квас.

ЧО´РТУ Ў ЗУ´БЫ. Папасці ў непрыемную сітуацыю. *У цешчы быў, усяго сто грам выпіў. Еду матацыклом – стаяць гаішнікі. Думаю, от папаў чорту ў зубы! Але, слава Богу, ні спынілі.* г.Косава.

ЧОРТ ЯГО´ ВЕ´ДАЯ. Невядома. *Чорт яго ведая, дзе тыя каравы падзеліся. Ноч на дварэ, а іх німа. Можа, пастухі пагубілі.* Заполле Кос.

ЧОРТ ЯГО´ ЗАБЯРЫ´. Так скажа чалавек, які ідзе на ўступкі. *Чорт яго забяры, хай будзя па-твояму: заўтры паедзям па дрова. Але я казаў бы сёні ехаць, пакуль дарога ні раскісла.* Ёдчыкі Квас.

ЧОРТ ЯГО´ РАЗБЯРЭ´. Немагчыма зразумець. *Чорт яго разбярэ, як лепш ехаць у Мінск: ці аўтобусом нанач, ці пояздом рано. Пазваню сыну, ён лепш ведая.* Любішчыцы Люб.

ЧУ´ХАЦЬ (ПАЧУ´ХАЦЬ) ПАТЫ´ЛІЦУ. Скажуць так тады, калі чалавека апануюць клопаты. *Пакуль ты герой – грошы маяш. А як пачнуць дочкі замуж ісці, то пачухаяш патыліцу.* Скураты Квас.

ЧУЦЬ ЗВОН ДЫ НЕ ВЕ´ДАЦЬ ДЗЕ ЁН. Недакладна (ведаць). *Ты, Пятрусь, чуў звон ды не ведаяш дзе ён. Не Ігнат хату сваю прадае, а Мікалай.* Падстарынь Падст.

ЧЫМ БОГ ПАСЛА´Ў. Ветлівае запрашэнне людзей да стала. *Праходзьця, госцяйкі, сядайця. Частуйцяся, чым Бог паслаў.* Сярадава Жытл.

ЧЫМ ХА´ТА БАГА´ТА. Так запрашаюць да стала. *Чым хата багата – усё на стале. Ешця, ні саромцеся. А як мало будзя, то ў хляве яшчэ і мычыць, і квічыць.* Любішчыцы Люб.

ЧЭ´РВІ ЗАВЯЛІ´СЯ. Так скажуць пра занадта рухавае дзіця. *У цябе, мусіць, чэрві завяліся. І мінуты ні пасядзіш спакойна.* Бялавічы Кос.

ЧЭ´РЦІ ГО´НЯЦЬ. Так скажуць пра паспешлівага чалавека, які не ўлічвае абставінаў. *Куды цябе чэрці, нанач гледзячы, гоняць? Паначуй, а рано паедзяш. А то ўсю ноч буду думаць, як заехоў.* Размеркі Стайк.

ЧЭ´РЦІ ДУ´ШАЦЬ. Пра таго, хто ходзіць невядома дзе. *Дзе цябе чэрці душаць цэлымі днямі? На работу ўстрайвайся, сям'ю карміць трэба.* Азярцо Падст.

ЧЭ´РЦІ НОЧ РАЗБЯРУ´ЦЬ. Г.зн. будзе мала часу на сон. *Не балуйцяся, дзеці, а кладзецяся спаць. А то чэрці ноч разбяруць.* Ёдчыкі Квас.

ЧЭ´РЦІ ПРЫНЯСЛІ´. Скажуць пра таго, хто неспадзявана, у непадыходзячы момант прыйшоў. *Ано ўзялася самагонку гнаць, а тут чэрці суседа прынеслі. Усё, прышлосё даваць на пробу.* Хрышчонавічы Квас.

ЧЫРВО´НАЯ ША´ПКА. Тут: як сімвал і гонару, і пакоры. *Трэба чырвоную шапку пазычыць, каб да цябе падысці.* Альшаніца Квас.

**Ш**

ША´ЙКА-ЛЕ´ЙКА. Людзі з агульнымі інтарэсамі, звычайна нядобрымі. *У нас добрая шайка-лейка падабралася: брыгадзір, учотчык да вясаўшчык. Усё ў іх у руках, ні падступіцца, ні падлашчыцца.* г.Косава.

ША´ПКУ ЧЫРВО´НУ АДЗЕ´ЦЬ. Вельмі прасіць, кланяцца. *Яго і на вяселле паклікаць, то трэба шапку чырвону адзець.* Альшаніца Квас.

ША´РАЯ ГАДЗІ´НА. Час пасля заходу сонца; прыцемкі. *Вясна на дварэ. Днём цяпло, а сонцо зойдзя, шарая гадзіна, і марозік бярэцца.* Хрышчонавічы Квас.

ШКУ´РА ГАРЫ´ЦЬ. Спрытны, лоўкі, рухавы, увішны. *Ні ўседзіць і мінуты, на ём шкура гарыць.* Аўсто Стайк.

ШКУ´РА ДА КО´СЦІ. Вельмі худы. *Немцы ў Германію майго брата вывязлі ў вайну. То вярнуўся дахаты ано шкура ды косці.* г.Івацэвічы.

ШКУ´РА ПАШЭ´РХЛА. Так скажуць, калі моцна спалохаюцца. *Нашы могліцы ў вярсце ад сяла. Пры дарозі на Бялавічы. Добра ўжэ змеркласё. Параўняўся з могліцамі, а сава як закрычыць, залямянтуя, то на мне ажно шкура пашэрхла.* Альшаніца Квас.

ШКУ´РА СВЯРБІ´ЦЬ. Так скажуць, калі хтосьці дрэнна паводзіць сябе, нарываецца на пакаранне. *У яго даўно шкура свярбіць. Нарвецца, што адбарабаняць як сідараву козу.* Заполле Кос.

ШКУ´РУ ЗЛУПІ´ЦЬ (ЗДЗЕ´РЦІ). Забраць апошняе. *Пасля вайны аблігацыі ўсё застаўлялі купляць. А дзе тых грошай было ўзяць? Гатоў былі шкуру здзерці з чалавека.* Мілейкі Міл.

ШКУ´РУ СПУСЦІ´ЦЬ. Моцна пакараць. *Яшчэ раз вазьмяш запалкі без спросу – шкуру спушчу. Бач ты, агонь расклалі на надворку. З агнём ні шуткуй.* Альба Квас.

ШМАТ ВАДЫ´ СПЛЫЛО´. Тое даўно было. *Гумно стаяло. Раскідалі, то нарога ад сахі знайшоў. Даўней валамі гаралі. О, шмат вады з таго часу сплыло.* Заполле Кос.

ШТО БОГ ПАСЛА´Ў. Тое, што ёсць на стале. *Ешця, госцейкі, ешця, што Бог паслаў.* Бялавічы Кос.

ШТО БУ´ДЗЯ ТОЯ БУ´ДЗЯ. Немагчыма пазбегнуць таго, што павінна здарыцца. *Калі намерыўся калоць паршука, то ні пільнуй пагоды. Што будзя тоя будзя.* Мілейкі Міл.

ШТО ДА ЧАГО´. 1. Не разумець сутнасці, сэнсу. *Што да чаго ты гаворыш? Пры чым тут бацько? Яго ж тады дома ні было, ён у млін ездзіў.* Скураты Квас. 2. Растлумачыць сутнасць з´явы. *Ні спяшы хучэй рабіць, а скажы толком, што і да чаго. Што з нашае работы*

*выдзя?* Размеркі Стайк.

ШТО ДУША´ ПРО´СІЦЬ. Усё, што падабаецца. *Еш усё, што душа просіць.* Заполле Кос.

ШТО Е ДУ´ХУ (СІ´ЛЫ). 1. Вельмі хутка (бегчы). *Спазняўся на поязд, то што е духу ляцеў.* 2. Вельмі моцна крычаць, галёкаць. *Заблудзіўся ў лесі, так спалохоўся, крычаў, што е сілы.* Жытлін Жытл.

ШТО ПРА´ЎДА ТО ПРА´ЎДА. Так кажуць, калі хочуць пацвердзіць праўдзівасць паведамлення. *Што праўда то праўда: дужы хлопяц расце ў Андрэя. Касілі, то ні адстае ад бацька ў касьбе.* Воля Жытл.

ШТО СЛІ´НА ДА ГУ´БЫ ПРЫНЯСЕ´ (ПРЫНЯСЛА´). Гаварыць недарэчнае. *Другі памаўчаў бы, а ён ляпая, што сліна да губы прынясе.* г.Косава.

ШТО-ТО Я. Так скажуць пра ганарліўца, задаваку. *Ганарысты хлопяц у Антося. Ідзе па гуліцы што-то я, голоў уверх трымая. Але, па праўдзе кажучы, е чым і паганарыцца – файны хлопяц.* Квасевічы Квас.

ШТО ЎБІЎ ТО ЎЕ´ХОЎ. Гультаяваты чалавек. *Ім ні падапрэшся: што ўбіў то ўехоў. Ляжыць, як той вол, на ложку ды глядзіць кіна.* Альшаніца Квас.

ШТО ХО´ЧАШ Е. Багаты выбар тавараў. *Бало, на базары ў Косаві як навязуць тавароў купцы, што хочаш е. Абы грошы.* Скураты Квас.

ШУКА´ЦЬ ВЕ´ТРУ Ў ПО´ЛІ. Пра немагчымасць адшукаць нешта, некага, знайсці канцы. *Даў пастронкі Сцяпану абгараць бульбу – зараз шукай ветру ў полі. Кажа, я ў цябе ні браў.* Заполле Кос.

ШУКА´ЦЬ САБЕ´ ПЯТЛЮ´ НА ШЫ´Ю. Моцна рызыкаваць. *Раз табе ўдалосё ўкрасці саломы, другі, глядзі, ні рызыкуй, не шукай сабе пятлю на шыю. Паймаюць – бяды ні абярэшся!* Бялавічы Кос.

ШУКА´ЦЬ УЧАРА´ШНЯГО ДНЯ. Займацца марнымі пошукамі. *Зайшла да суседкі паказаць нову вышыўку, а яна ў сундуку порацца. Пытаюся: "Шчо*

*ты робіш?" Кажа: "Учарашняго дня шукаю!" Да са злосцю. Думаю, халера цябе бяры, шукай. Я і пайшла.* Альшаніца Квас.

ШУКА´Я ГАЛАВА´ ГУ´ЗА. Нарывацца на непрыемнасць. *Зноў узяў матацыкла без спросу – шукая галава гуза.* г.Івацэвічы.

ШУРУ´М-БУРУ´М. Беспарадак, неразбярыха. *Заўтры ўжэ каравай, а ў мяне і ў хаці, і ў галаве шурум-бурум. Ні ведаю, за што ўхапіцца.* Воля Жытл.

ШУ´РЫ-МУ´РЫ. Любоўная інтрыга. *Жанаты чалавек, троя дзяцей, а, кажуць, шуры-муры завёў з маладою брыгадзіршаю.* г.Косава

ШЧО КІ´ЁМ ШЧО ПА´ЛКАЮ. Усё роўна, тое самае. *Цэлы вечар тлумачыў, куды заўтры кароў гнаць, а яму шчо кіём шчо палкаю. Пагнаў на выган, на бубян.* Заполле Кос.

ШЫ´БЯЛЬНІЦА ПЛА´ЧА. Нехта заслугоўвае суровага пакарання. *Даскачашся ты яшчэ, лезяш слатою людзям у вочы. Па табе даўно шыбяльніца плача.* Стайкі Стайк. Шыбельніца – шыбеніца.

ШЫ´ВАРАТ-НАВЫ´ВАРАТ. Абы-як, не так, як трэба. *Ты ўсё робіш шыварат-навыварат. Людзі на сенакосі, а ты па дрова едзяш. Заўтры як дасць дождж, то папаварочаяш тоя сено.* Скураты Квас.

ШЫ´ЛОМ КА´ШУ Е´СЦІ. Так скажуць пераборліваму ў ежы чалавеку, які можа застацца галодным. *Ні вярні морду, а еш, шчо на стале. А то будзяш шылом кашу есці.* Альшаніца Квас.

ШЫРО´КАЕ ГО´РЛО. Чалавек, якому ўсяго мала. *Усё ты пабраў бы, панасіў бы, тваё шырокае горло ні здаволіш.* Бялавічы Кос.

ШЫ´ТО БЕ´ЛЫМІ НІ´ТКАМІ. Так скажуць, калі няўдала нешта ўтойваюць. *Усё, што ты кажаш, шыто белымі ніткамі. Ніхто ні паверыць, што ты на вудачку налавіў столькі рыбы. Мусіць, сеткамі.* г.Івацэвічы.

ШЫТО´-КРЫ´ТО. У тайне. *Ты пра другіх любіш пагаварыць, а што ў тваёй хаці робіцца, ніхто ні ведая. Ты хітрая, у цябе ўсё шыто-крыто.* Грыўда Міл.

**Я**

Я´БЛЫКУ НІМА´ ДЗЕ ЎПА´СЦІ. Вельмі многа (пра людзей). *Артысты з Мінска прыехалі. Людзей у клуб насходзіласё – яблыку німа дзе ўпасці.* Квасевічы Квас.

Я БУ´ДУ НІ Я. Так запэўніваюць у тым, што задуманае абавязкова здзейсняць. *Я буду ні я, калі сына на афіцэра ні вывучу. Надто люблю ваенных.* Альба Квас.

ЯЗЫ´КА ВЫ´САЛАПІЎШЫ. З усіх сіл, колькі змогі (бегчы) – *Ты куды бяжыш, языка высалапіўшы? – Ой, німа калі. Бягу па дахторку, Антосю майму благо.* Падстарынь Падст.

ЯЗЫ´КА ПРАГЛЫНЕ´Ш. Вельмі смачна. *Ніхто смачней за маму есці ні наварыць. Як напячэ крывяначкі з грэчкаю, то языка праглынеш – да таго смачная.* Альшаніца Квас.

ЯЗЫ´КА ПРАГЛЫНУ´ЦЬ. Зацята маўчаць. *Чаго ты маўчыш, калі з табою гаворацы? Ты што – языка праглынуў?* Заполле Кос.

ЯЗЫ´К БЕЗ КАСЦЕ´Й. Празмерна гаваркі чалавек. *Люблю з добрымі людзьмі пагаварыць. Хоць часом, можа, і смяюцца з мяне, але язык без касцей, ні забаліць.* Альшаніца Квас.

ЯЗЫ´К ГЛА´ДКО ХО´ДЗІЦЬ. Так скажуць пра чалавека, які складна гаворыць. *Прыехоў новы ўчастковы да нас, сабраў людзей у клубі. Умея гаварыць, халера, язык гладко ходзіць.* Заполле Кос.

ЯЗЫ´К ЗАПЛЕ´ТАЯЦЦА. Пра таго, хто не ўмее ясна выказаць свае думкі, блытаецца. *Я думоў, што ён выпіў: гаворыць і язык заплетаяцца. А мне кажуць: "О, гэто ён такі заіклівы з малого".* Гошчава Стайк.

ЯЗЫ´К НІ АДВА´ЛІЦЦА. Скажуць таму, хто баіцца

нешта папытаць. *Не зразумела табе што на ўроку, папытайся ў настаўніцы, язык ні адваліцца.* г.Косава.

ЯЗЫ´К НІ ПАВАРО´ЧВАЯЦЦА. Цяжка сказаць, спытаць. *Язык ні паварочваяцца ў цябе папытацца, але асмелюся: жыве твая дачка з мужыком ці разышлася?* г.Іваэвічы.

ЯЗЫ´К ПРЫСО´Х ДА ПАДНЯБЕ´ННЯ. Ад страху, здзіўлення страціць здольнасць гаварыць. *Мне казалі, што Іван Куляшоў памёр у том Казахстані. А тут твар у твар у Вацэвічах на вакзалі сутыкнуліся. У мяне аж язык прысох да паднябення. Кажа, прыехоў да сястры веку дажываць. Хачу, каб сярод сваіх людзей пахавалі.* Заполле Кос.

ЯЗЫ´К РАЗВЯ´ЗВАЯЦЦА (РАЗВЯЗА´ЎСЯ). Многа гаварыць. *Мой чалавек маўклівы, а як вып'я сто грам, то скуль і гаворка находзіцца. Адразу язык развязваяцца.* Старажоўшчына Кос.

ЯЗЫ´К СВЯРБІ´ЦЬ (СВЯРБЕ´Ў). Пра таго, хто не можа стрымацца, каб не выказаць што-небудзь. *Табе што – язык свярбеў? Пайшоў расказваць, як кралі калхозныя буракі. Хто ў цябе пытаўся? Украў ды маўчы.* Любішчыцы Люб.

ЯЗЫ´К ХОЦЬ ПАДПЕРАЖЫ´СЯ. Пра языкастага чалавека. *З ёй не зговорышся, у яе язык хоць падперажыся.* Бусяж Міл.

ЯЗЫ´К ЯК БРЫ´ТВА. Пра вострага на язык чалавека. *О, у мяне жонка! У яе язык як брытва. Яна любому перцу пад хвост насыпля.* Мілейкі Міл.

ЯЗЫ´К ЯК ПАДЭ´ШВА. Пра коснаязыкага чалавека. *Два слова ні звяжа – язык як падэшва.* Альшаніца Квас.

ЯЗЫ´К ЯК ПАМЯЛО´. Пра таго, хто шмат гаворыць. *Язык як памяло, хоць ты гуліцу мяці.* Гошчава Стайк.

ЯК АБУ´ХОМ ПА ГАЛАВЕ´. Пра нешта нечаканае, раптоўнае, што вельмі ўразіла. *Быў у камандзіроўцы.*

*Прыехоў, а тут кажуць: брат у аварыю папаў, ляжыць у рэанімацыі. Мне як абухом па галаве далі. І чаму ні пазванілі? Я раней прыехоў бы.* г.Івацэвічы.

ЯК АВЕ´ЧЫ ХВОСТ. Моцна (дрыжаць). *Унук надто грому баіцца. Як пачынаецца навальніца, то прытуліцца да мяне і дрыжыць як авечы хвост.* Бялавічы Кос.

ЯК АГНЁМ АПЯКЛО´. Моцна ўразіла, напалохала. *Еду на выхадныя дадому, у аўтобусі расказваюць, шчо ўночы навальніца страшная была, і ў нашом сяле жанчыну забіло. Мяне як агнём апякло: гэто маю маму, надто сон кепскі мне сніўся. Ажно гэто суседку.* Верашкі Квас.

ЯК АГНЮ´ БАЯ´ЦЦА. Вельмі моцна (баяцца). *Я сабак баюся як агню. Здэцца, нігодзін ні ўкусіў, а ўбачу на дарозі, то чужым надворком абыду.* Старажоўшчына Кос.

ЯК АДНА´ МІНУ´ТА. Вельмі хутка (праляцець, прайсці). *Канцэрт слухала, даўнейшыя песні спявалі. Дзве гадзіны быў, а для мяне праляцелі як адна мінута.* Заполле Кос.

ЯК АДРЭ´ЗОЎ. Рашуча (сказаць). *Палучыла палучку, мужык паглядзеў на мае грошы і сказаў як адрэзоў: "Больш у калхоз на работу ні пойдзяш, хопіць за капейкі рукі вырываць".* Мілейкі Міл.

ЯК АКІ´НУЦЬ ВО´КОМ. Без канца-краю, без межаў. *Але і зазроныя вочы ў цябе, Алена. Насадзіла картоплёў як акінуць воком. Усю восянь курду будзяш гнуць.* Размеркі Стайк.

ЯК АМАГА´. 1. Колькі сілы, хутка (бегчы). *Як амага бяжы ў магазін. Надто смачныя следзі прывязлі, можа, яшчэ ні разабралі.* Альшаніца Квас. 2. Надта, вельмі. *Як амага старайся вучыцца, бо вучонаму чалавеку лягчэй жыць.* Заполле Кос.

ЯК АПА´РАНЫ. Адчуць няёмкасць, замяшанне. *Пачуў ад людзей, што рыбы ў канавах много, з возяра*

*зайшла. Пабег да суседа: "Васіль, пайшлі хучэй, у мяне і сачок е". А ён: "На... яна мне? Каб ты паклікоў бутылку выпіць, а то рыба!" Я і пайшоў як апараны. Думаю, е ў цябе розум ці німа, хто цябе ведая.* Альшаніца Квас.

ЯК АСІ´НАВЫ ЛІСТ. Моцна (дрыжаць). *Кажуць, што ні можно хавацца ад грому пад высокая дзераво. А я схаваўся. Як стукнуло, то затрогся як асінавы ліст. Добра, што ні ў тоя дзераво, дзе стаяў, а блізко.* Воля Жытл.

ЯКА´Я БУ´РА НЯСЕ´. Г.зн. чаго ідзе, едзе. *Якая бура нясе цябе поначы? Ідзі дахаты, кавалер, ужэ дзяўкі спаць паляглі, а ты валочышся.* Гічыцы Ягл.

ЯКА´Я МУ´ХА ЎКУСІ´ЛА. Не зразумець, што здарылася. *Ішоў на работу – усё добра было: жонка паснедаць наварыла, з сабою абед дала. Прышоў вечаром – настабоўчана, ні гаворыць. Якая муха яе ўкусіла? Ні ведаю, хоць забі.* Юкавічы Стайк.

ЯК БАЧ. Вельмі хутка, імгненна. *Збіраласё на дождж, то як бач стажка скідалі.* Панкі Люб.

ЯК БЕЗ РУК. Немагчыма, цяжка. *Без бацькоў як без рук. Бало, і параяць, і памогуць, і пашкадуюць. А цяпер усё самой трэба думаць, усё на адну голоў.* Бусяж Міл.

ЯК БО´БУ НАЕ´ЎШЫСЯ. Альбы-што (гаварыць, рабіць). *Гаворыш ты як бобу наеўшыся. Дзіця і тоя мудрэйшае, чым ты. Хто на зіму садзіць цыбулю?* Жамайдзякі Міл.

ЯК БО´ГА ЧАКА´ЦЬ. Вельмі моцна спадзявацца на каго-небудзь. *Як Бога цябе чакаю, прыедзь, браток, пакажаш, як вугал нямецкі рабіць. Узяўся будаваць хату, а запусціць дзеравіну ў вугол ні ўмею, забыўся.* г.Косава.

ЯК БОГ ДАСЦЬ. Калі ўсё будзе добра. *Як Бог дасць, то да восяні цялушачка пабегая, а на лето ўжэ з малачком будзям.* Стайкі Стайк.

ЯК БО´ЖЫ ДЗЕНЬ. Усё зразумела. *Ясно як Божы дзень: гэты год картоплёў ні будзя. Надто прысушыло іх яшчэ да цвіцення.* Ёдчыкі Квас.

ЯК БОТ З ЛЕ´ВАЕ НАГІ´. Неразумны чалавек. *Ты, братко, дурны як бот з левае нагі. Ну, хто ў пост свінчо коля? Гэто ж на цябе ўсе пальцом будуць паказваць.* Сенькавічы Падст.

ЯК БУ´БЯН. Без травы (пра пашу). *Якоя тут малако, калі цэлы дзень дзеці пратрымалі кароў на выгані, голом як бубян.* Яблонка Жытл.

ЯК ВАДА´ МІЖ ПА´ЛЬЦОЎ. Пра вечны недахоп грошай. *Грошы ідуць як вада між пальцоў: во палучыў, во ўжэ німа. Надто ўсё дарагое.* Альшаніца Квас.

ЯК ВАДО´Ю ЗМЫ´ЛО. Прапасці, знікнуць. *Бежанцы ў вайну тут у нас жылі. То адзін быў прыжаніўся. Але як немцоў прагналі, то яго як вадою змыло – паехоў да сябе ў Вязьму.* Заполле Кос.

ЯК ВАДЫ´ Ў РОТ НАБРА´ЎШЫ. Зацята (маўчаць). *Як ні дапытвалася ў хлопца, хто набіў, маўчыць як вады ў рот набраўшы.* Хадакі Жытл.

ЯК ВА´РОМ АБДАЛО´. Так скажуць, калі нешта моцна ўсхвалявала, уразіла. *Ехалі сено грабці, па дарозі ў лесі дзве яловыя насілы вырубалі – сено выносіць. І нарваўся ляснік. То мяне як варом абдало, ледзьве адпрасіліся. Хацеў пратакол скласці, такі службісты.* Бялавічы Кос.

ЯК ВЕ´ТРОМ ЗДЗЬМУ´ЛО. Хутка ўцячы. *Даўней любіліся, то хаваліся ад людзей, каб ніхто ні знаў, ні ведоў. Ні гэдык, як зараз. Памятаю. Сядзім на прызбі, яе маці выйшла з хаты ды ідзе да нас. То мяне як ветром здзьмуло.* Жамайдзякі Міл.

ЯК ВЕ´ЦЯР. Несур´ёзны, легкадумны чалавек. *Малады, дурны яшчэ, як вецяр. У армію хутко, а паводзіць сябе як дзіця.* г.Івацэвічы.

ЯК ВІЛА´МІ СКІ´ДАНАЯ. Няўклюдны хто. *У*

*гэтай дзеўкі ніякага стану німа, як віламі скіданая.* Альшаніца Квас.

ЯК ВО´КОМ АКІ´НУЦЬ. Так скажуць пра вялікую прастору, абсяг, наваколле. *Увосянь далёко відно. Як воком акінуць – і Бялавічы, і Скураты, І Квасавічы.* Заполле Кос.

ЯК ВО´КО Ў ЛБЕ. Пра вялікую адзіноту. *Я адна гадавалася ў сям'е, як воко ў лбе. Ні было з кім і пагуляць. Яшчэ дзеўкаю надумалася: пайду замуж, то ў мяне много дзяцей будзя. Так і вышло – пяцёро нарадзіла. Было ў хаці і піску, і віску, і шуму, і гаму.* Грыўда Міл.

ЯК В'ЮН НА ПЯТЭ´ЛЬНІ. Хутка заскакаць, закруціцца. *Як перацягну пугаю, то закруцішся як в'юн на пятэльні. Ано апрануў пальцячко новая, а ўжэ выквацоў у некая шмаравідло.* Сярадава Жытл. В'юн – уюн.

ЯК ГАНУ´ЧА. Нясмелы, недабітны. *Людзям трактара новыя даюць, а ты голасу ні падасі, як гануча. Усё ты ззаду, усё на гэтых транцях ездзіш.* Падстарынь Падст. Транці – транты.

ЯК ГАРА´ З ПЛЯЧЭ´Й ЗВАЛІ´ЛАСЯ. Адчуць палёгку, пазбавіўшыся клопатаў, хваляванняў. *Ні думоў пакідаць цялушку на зіму, а паглядзелі – ніц сабе, задумалі гадаваць. Вясна прыпазнілася, бачу – сена мало, ні хваціць, пакуль на пашу. Але швагяр выручыў, прывёз з тону. У мяне як гара з плеч звалілася.* Харошча Міл.

ЯК ГАРО´ХОМ АБ СЦЕ´НУ. Так скажуць пра чалавека, які не слухае, а робіць па-свойму. *Яму гавары ні гавары, як гарохом аб сцену. Робіць, шчо здумая.* Яблонка Жытл.

ЯК ГАРО´Х ПРЫ ДАРО´ЗІ. Адзінокі, безабаронны чалавек. *Чалавек мой памёр маладым, засталася адна ў чужых людзях. Жыву як гарох пры дарозі: хто ні ідзе, кожны ўшчыпне.* Альшаніца Квас.

ЯК ГО´ЛУБ СІ´ВЫ. Зусім, дарэшты (сівы). *Малады чалавек, а ўжэ як голуб сівы. Ці парода яго такая, ці*

*бяда напаткала?* Мілейкі Міл.

ЯК ГО´РКА РЭ´ДЗЬКА. Вельмі моцна надакучыць, абрыдзець. *Збрыд ты мне як горка рэдзька, куплю я табе лыжы. Паеду ў Косаво і куплю.* Старажоўшчына Кос.

ЯК ГРА´БЛІ. Няўклюдныя, няўмелыя (пра рукі). *Селі ткаць, то памагатая з мае нявесткі ніякая: у яе рукі як граблі. Здэцца, і ў сяле вырасла.* Бусяж Міл.

ЯК ГРА´ЗІ. Многа. *Гэты год маліны ў лесі як гразі. Да велька, салодка. А на зямле ўжэ много – асыпаяцца, пераспела.* Даргужы Міл.

ЯК ГРОМ З Я´СНАГО НЕ´БА. Нечакана, раптоўна. *Ой, маладыя зараз падаюць як мухі. Зяць во мой, пайшоў на работу, звоніць дачка: скорая забрала, інфаркт. Гэто нам як гром з яснаго неба. Зроду ні хварэў.* г.Косава.

ЯК ГРЫБ. Зрабіцца нядужым, слабым. *Дзядзько, які з цябе жаніх? Ты ўжэ як грыб стары, з цябе парахня сыпляцца, вушы свіцяцца.* Яглевічы Ягл.

ЯК ГРЫБЫ´ ПАСЛЯ´ ДАЖДЖУ´. Хутка, у вялікай колькасці (расці). *Чужыя дзеці як грыбы пасля дажджу растуць, а свае доўго гадуюцца.* Альба Квас.

ЯК ГУСІ´НЫ ПУП. Моцна змерзнуць. *Аўтобуса доўго ні было, а ранком добры мароз. То ссінеў як гусіны пуп, пакуль дачакаўся.* Заполле Кос.

ЯК ДАМ, ТО ЗУБО´Ў НІ ПАЗБІРА´ЯШ. Моцна набіць. *Яшчэ раз зачэпіш маё дзіця, то як дам, то зубоў ні пазбіраяш.* Скураты Квас.

ЯК ДАМ, ТО РО´ДНА МА´ЦІ НІ ПАЗНА´Я. Моцна набіць. *Ні вяжыся да мяне, бо як дам, то родна маці ні пазная.* Бялавічы Кос.

ЯК ДЗВЕ КРО´ПЛІ ВАДЫ´. Вельмі падобныя. *Цялушачку карова прывяла. Як дзве кроплі вады на яе пахожая. Гадаваць будзям.* Альба Квас.

ЯК ДЗВІ´НУЦЬ. Многа, поўна. *Напхала мех зелья як дзвінуць.* Мілейкі Міл.

ЯК ДЗІ´РКА Ў МО´СЦІ. Зусім непатрэбны. *Я да*

*цябе ў дружбакі ні набіваюся. Ты мне патрэбны як дзірка ў мосці.* Хрышчонавічы Квас.

ЯК ДЗЯ́ДЗЬКО ГРО́ШАЙ ДАСЦЬ. Пра няспраўджанасць мараў. *Маладая дзяўчына марыць пра хуткае вяселле. Бацько кажа: "Яшчэ невядома, ці яно будзя: як дзядзько грошай дасць".* Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

ЯК ДО́МА. Вольна, спакойна, нязмушана. *Мне заўсёды добра ў цябе, Марусячка. Я, як прыеду да цябе, то як дома.* г.Косава.

ЯК ДРУГІ́ РАЗ НА СВЕТ НАРАДЗІ́ЎСЯ. Адчуць палёгку. *Кінуў курыць, то як другі раз на свет нарадзіўся.* Бялавічы Кос.

ЯК ЖА́БА МУ́ЛІ. Вельмі моцна напіцца. *Дрова памагаў суседу прывязці, то набраўся як жаба мулі, на чатырох дахаты прышоў.* Галік Міл.

ЯК ЖА́РУ ЎХАПІ́ЎШЫ. Вельмі хутка. *Пасядзі трохі, Волька, у мяне. Хучэй вечар пройдзя. А то прыдзяш як жару ўхапіўшы.* Размеркі Стайк. *"Даўней запалкі былі дарагія, то жанчыны адна ў адной жар бралі, каб распаліць печ. Возьме і хутчэй бяжыць дахаты, каб жар не патух"* (тлум. інф.)

ЯК ЖЭБ. Вядома. *Пражылі з залоўкаю век у адной хаці, а роднымі ні сталі. Як жэб, чужы чалавек.* Заполле Кос.

ЯК ЗАБІ́ТЫ. Моцна (спаць). *Нахадзіўся за цэлы дзень, абгорваючы картоплі, мой хлопяц, то зара спіць як забіты.* Верашкі Квс.

ЯК ЗАВЯЗА́ЦЬ. Да верху, поўна. *Насыпоў мех картоплёў як завязаць.* Ёдчыкі Квас.

ЯК ЗАКЛЯ́ТЫ. Без адпачынку, без перадыху (працаваць). *На заробкі паедзяш, то як закляты робіш, бо хочацца капейку зарабіць.* г.Івацэвічы.

ЯК ЗАПА́ЛКА ЗАПАЛІ́ЦЬ. Так скажуць пра нястрыманага, запальчывага чалавека. *З ім пасва-*

*рыцца як запалка запаліць. У адзін момант успыхвая.* Альшаніца Квас.

ЯК ЗА СЯБЕ´ ЗАКІ´НУЦЬ. Хутка (з'есці). *З'еў горбу аладкоў як за сябе закінуў.* Хадоркі Кос.

ЯК З ВАДО´Ю СПЛЫЛО´ (ПАЙШЛО´). Знікла, прапала. *Ой, ні суцяшай ты мяне. І маладосць, і краса – усё як з вадою сплыло. Засталася во старасць, да яшчэ і адзінокая.* Халап'я Падст.

ЯК З ВЕЛІКО´ДНЫМ ЯЙЦО´М. Далікатна абыходзіцца. *Слухай, Надзя, цацкаясся ты са сваім хлопцом як з велікодным яйцом. Не патурай, а то сядзя на голоў.* Руда Падст.

ЯК ЗВОН. Пра якасную драўніну. *Школа гэта яшчэ царская. Раскідалі на дрова, то і яшчэ дзерава як звон.* Заполле Кос.

ЯК ЗВЯДЗЁ´НЫЯ. Так кажуць пра людзей, якія ўвесь час сварацца. *Адных бацькоў дзеці, у адной хаці жывяце, а сварыцяся як звядзёныя.* Альшаніца Квас.

ЯК З ВЯДРА´. Не сціхаючы, моцны (пра дождж). *Цэлы дзень парыло, а зараз лье як з вядра.* Кушняры Падст.

ЯК З КАЗЛА´ МАЛАКА´. Без карысці. *Сабаку ўзяла. А з яго толку як з казла малака. Такі нягеглы. Як хто ідзе, то хаваяцца ў буду.* Старажоўшчына Кос.

ЯК З КАНАПЛЁ´Ў. Знянацку, неспадзявана. *Выскачыў як з канаплёў. Што, пасварыцца захацеласё?* Любішчыцы Люб.

ЯК З КРЫ´ЖА ЗНЯ´ТЫ. Худы, хваравіты, змучаны. *Убачыў у Косаві Мікіту, то ледзь пазнаў: як з крыжа зняты. Кажа, апярацыю зрабілі, палавіну жалудка аднялі.* Альшаніца Квас.

ЯК З ЛАНЦУГА´ (З ПРЫ´ВЯЗІ) САРВА´ЎСЯ. Раптоўна ўскіпець. *Чаго ты да мяне кінуўся, як з ланцуга сарваўся? Шчо я табе, дарогу перайшоў? Ідзі як ішоў.* Заполле Кос.

ЯК З НЕ´БА ЗВАЛІ´ЎСЯ. Так скажуць пра чалавека, які не разумее відавочнага. *Ты, Васіль, як з неба зваліўся. Нашчо табе загатаўляць дрова, душыцца ў том лесі. Ідзі ў лясніцтво і табе выпішуць гатовых.* Галенчыцы Ягл.

ЯК З-ПАД ЗЯМЛІ´. Ціха, невыразна (чуваць). *Прышла да суседкі. Хата адчыняна, а яе не відно. Чую – некі голас як з-пад зямлі. А гэто яна па картоплі палезла, крышка ад пограба закрылася, а сілы німа падняць. Добра яшчэ, што я нарвалася.* Яглевічы Ягл.

ЯК З-ПАД ЗЯМЛІ´ ВЫ´РАС. Нечакана з'явіўся. *Збіраю ягады, задумалася, песню сабе пад нос спяваю. Раптом чалавек як з-пад зямлі вырас. Я ўтрупянела. А гэто ляснік, абход рабіў.* Аўсто Стайк.

ЯК З ТАГО´ СВЕ´ТУ ЎСТАЎ. Неспадзявана з'явіцца. *Атрымалі пахаронку на бацька, а ён праз год вярнуўся. Як з таго свету ўстаў. Моцно раняны быў, у лазарэці ляжаў.* Стайкі Стайк.

ЯК З ЦЭ´ПА САРВА´ЎСЯ. Што ёсць духу, з усіх сіл (бегчы). *Шчо ты ляціш, як з цэпа сарваўся?* Скураты Квас.

ЯК ЗЯМЛЯ´ НО´СІЦЬ. Так выказваюць абурэнне паводзінамі чалавека. *Столькі шкоды людзям нарабіў, абрыд усім: і махляр, і злодзяй – як яго зямля носіць.* Панкі Люб.

ЯКІ´М ВЕ´ТРОМ ПРЫНЯСЛО´? Так выказваюць здзіўленне пры неспадзяванай сустрэчы. *Хочаш вер, хочаш не, але я ніяк ні спадзяваўся цябе тут убачыць. Якім ветром цябе прынясло?* г.Косава.

ЯК ІРЖА´ ЖАЛЕ´ЗО. Не даваць спакойна жыць. *І шчо з маім чалавеком зрабіласё? Пастарэў, то такі звяглівы стаў. Есць мяне як іржа жалезо, кожны дзень.* Альшаніца Квас.

ЯК КАЛУ´Н. Вельмі дрэнна (плаваць). *Я на моро паехоў, то ад берага не адплываў. Бо плыву як калун.* г.Івацэвічы.

ЯК КА́МЯНЬ З ДУШЫ (З СЭ́РЦА) ЗВАЛІ́ЎСЯ. Так скажуць, калі ўраз пазбаўляюцца ад клопатаў, непрыемнасцей. *Пераживала моцно. Як гэто будзя вяселле дачцэ зрабіць, да яшчэ адной, без мужыка? Але, дзякаваць Богу, усё было як у людзей. У мяне як камянь з душы зваліўся. Хай жывуць здаровыя.* Яглевічы Ягл.

ЯК КАРО́ВА ЯЗЫ́КОМ ЗЛІЗА́ЛА. Прапасці, бясследна згінуць. *Уночы снегу нападало, а днём як прыгрэло сонцо, то да вечара той снег як карова языком злізала. Вясна бярэ сваё.* Гічыцы Ягл.

ЯК КАТУ́. Вельмі мала (пра яду). *Я люблю добра паесці, бо цяжко раблю. А ў гэтой сталоўцы даюць як кату. Выйдзяш – і зноў есці хочацца.* г.Івацэвічы.

ЯК КАТЫ́. Да крыві, бязлітасна (біцца). *Аднае мацяры дзеці. Як я дома – ціишыня. Як ано выйду з хаты, ну, і пайшлі біцца. Дзяруцца як каты.* Стайкі Стайк.

ЯК КО́СТКА Ў ГО́РЛІ. Перашкода каму-небудзь. *Яму гэтыя лямпачкі на сталбах як костка ў горлі. Ніц ні ўкрадзя. Аднаго разу бачыў, як шпурляў камянямі па сталбе – хацеў пабіць.* Заполле Кос.

ЯК КОТ З САБА́КАЮ. Жыць у варажнечы. *Нябога мая ўсё сварыцца з мужыком. Як кот з сабакаю жывуць. Кажу, вы ўжэ нечаго развяліся б, чым так з дня ў дзень бэсціць адзін аднаго.* Стайкі Стайк.

ЯК КОТ НАПЛА́КОЎ. Пра вельмі малую колькасць чаго-небудзь. *Мой заробок у калхозі як кот наплакоў. Больш на абеды выважу, чым зараблю. Але ж стаж трэба – на пенсію хутко.* Бялавічы Кос.

ЯК КОТ НА СА́ЛО. З прагнасцю, сквапнасцю. *Брыгадзірка маладая прыехала ў калхоз, харошая, высокая. То трактарысты паглядваюць на яе як кот на сало. Але яна, мусіць, кавалера мае, бо ў іхні бок і ні глядзіць, а дахаты на выхадныя ездзіць.* Стайкі Стайк.

ЯК КРУК НАД ПА́ДЛОМ. Пра надакучлівага чалавека, ад якога цяжка пазбавіцца. *Стаіш ты нада*

*мною як крук над падлом.* Заполле Кос. Крук – крумкач, груган. Падло – труп жывёлы.

ЯК КУ´РЫЦА З ЯЙЦО´М. Асцярожна (ісці). *Што ты так ідзеш, як курыца з яйцом?* Воля Жытл.

ЯК КУ´РЫЦА ЛА´ПАЮ. Неахайна, неразборліва пісаць. *Даўней у школі чыстапісанне было, вучылі кожну загагуліну выводзіць. Пісалі чарнілом. Сёні пішуць аўтаручкамі, як папало, як курыца лапаю.* г.Косава.

ЯК ЛЕ´НІН НА БУРЖУАЗІ´Ю. Непрыязна, зняважліва, з нянавісцю (глядзець). *Чаго ты на мяне глядзіш як Ленін на буржуазію? Усё думаю: што я табе кепскаго зрабіў?* Сенькавічы Падст.

ЯК ЛЁДУ. Роўна, столькі, колькі патрэбна. *Купіў цілівізара, два мільёны аддаў як лёду.* Заполле Кос.

ЯК ЛІ´ПКУ. Забраць дарэшты. *У калхоз ішлі, то ўсё пазабіралі ў нас: і каня, і збрую, і землю – усё! Абадралі як ліпку. Папастрадалі людзі, пакуль трохі абжыліся.* Падстарынь Падст.

ЯК ЛІСТО´М СЦЕ´ЛЯ. Дагаджаць, падлізвацца. *Халера яго ведая, што ў яго ў галаве. А паслухаяш, як гаворыць, – як лістом сцеля.* г.Косава.

ЯК ЛІХІ´Я ГАНАВІ´ЦЫ. Так скажуць, калі чалавек нягеглы, не глядзіць сябе. *Э, апусціўся ты, браце, як ліхія ганавіцы. А некалі ж арол быў, цябе ўсе бабы любілі. Вясялей давай, чаго ты так хутко здаўся.* Альшаніца Квас.

ЯК ЛІХО´Й СВЯКРЫВІ´ (СКУ´ЛІ). Дагаджаць, наравіць. *Майму мужыку трэба дагаджаць як ліхой свякрыві. Ні ведаяш, як падступіцца.* Куляшы Міл.

ЯК ЛУНЬ. Зусім (сівы). *Старэнькі ўжэ мой бацько, як лунь сівы. Але каб вы ведалі, як я рады, шчо ён жыве. І параіць, і пакіруя, і раскажа.* Заполле Кос.

ЯК ЛЯДО´ЎНЯ. Вельмі халодныя (рукі, ногі). *Прышоў хлопяц з гуліцы, рукавіцы мокрыя, а рукі як лядоўня. На печ загнала.* Халап'я Падст.

ЯК ЛЯ´ЛЬКА. Вельмі прыгожы, прывабны хто.

*Унучцы два годзікі. Апранулі сукеначку беляньку, банцікі завязалі, то як лялька.* Хадакі Жытл.

ЯК МА´Е БЫЦЬ. Як і трэба. *Зяць у мяне – як мае быць. Усім носа падатрэ. Да ўсяго здатны: і да работы, і да гулянкі.* Харошча Міл.

ЯК МАЙ ЗМАЯВА´Ў. Бясследна знікнуць. *Кошычка купіла па грыбы хадзіць. Такі файны. Павесіла на плоці – як май змаяваў.* Альшаніца Квас.

ЯК МАЛАКО´М АБЛІ´ТЫЯ. Пра тое, што прыгожа цвіце, знаходзіцца ў пышнай квецені. *Картоплі цвітуць як малаком аблітыя.* Даргужы Міл.

ЯК МА´ННЫ НЯБЕ´СНАЙ. Чакаць з вялікім нецярпеннем, моцна чакаць. *Прывыклі дзеці, што бацько з работы гасцінцы прыносіць. То ждуць яго як манны нябеснай.* г.Івацэвічы.

ЯК МА´РКА ПА ПЕ´КЛІ. З месца на месца (ганяць). *Пайшоў на работу ў лясхоз. Казалі, што машыну дадуць. А ганяюць мяне як Марка па пеклі: то ў лес, то на пілараму.* г.Івацэвічы.

ЯК МА´СЛО. Урадлівая (зямля). *У нас каля аселіцы да таго хароша зямля. Гарэш, то як масло. Там усё родзіць.* Заполле Кос.

ЯК МЕ´ДОМ НАМА´ЗАНО. Пра тое, што прыцягвае. *Чаго ты, стары чалавек, ідзеш шчо суботы ў той клуб? Як там табе медом намазано, ці шчо?* Квасевічы Квас.

ЯК МЁРТВАМУ КАДЗІ´ЛО (ПРЫПА´РКІ). Нічога ўжо не дапаможа. *Паможа мне твая знахарка як мёртваму прыпаркі. Трэба да дохтара ісці.* Альшаніца Квас.

ЯК МІКІ´ТУ ЗА ЖЫВО´Т. Скажуць жартаўліва таму, хто расхваляваўся з-за дробязі. *Ты чаго ўскіпеў, як вада ў чыгуне? От, узяло цябе, як Мікіту за жывот.* Альшаніца Квас.

ЯК МІ´ЛЯНЬКІ. Пра тое, што мусіш выканаць. *Ты*

*ні матай галавою, а збірай сумку. У школу пойдзяш як міляңькі.* Бусяж Міл.

ЯК МО´КРАЕ ГАРЫ´ЦЬ. Так скажуць пра маруду. *Мой мужык усё робіць як мокрае гарыць. Я ўжэ ні такая, мне трэба хутко. Раз-два – і зрабіў.* Лазаўцы Міл.

ЯК МО´КРА КУРЫЦА. Пра чалавека, які мае ўбогі, непрыглядны выгляд. *Пад дождж папаў мой гаспадар. А восянь ужэ, змерз. Стаіць як мокра курыца. Крычыць: "Хучэй адзежу сухую давай і сто грам, бо захварэю!"* Грыўда Міл.

ЯК МУ´ХІ НА МЕД. Хутка. *Пончыкі з павідлом пяку. То дзеці як мухі на мед набеглі, і свае, і суседскія: дай, баба, да дай. Гарачыя паелі.* Рацкевічы Міл.

ЯК МЫШ НА КРУПЫ´. Моцна насупіцца, надзьмуцца. *Прышоў мужык з работы, сто грам пытаў пагрэцца. А я ні дала. То надзьмуўся як мыш на крупы. І вячэраць ні схацеў.* Грыўда Міл.

ЯК МЫШ ПАД ВЕ´НІКОМ (ПАД МЯТЛО´Ю). Вельмі ціха (сядзець). *Адразу дзіця пазнаяш, як ні вывучыць. Сядзіць на ўроку як мыш пад мятлою.* Була Міл.

ЯК МЯТЛО´Ю МЯЦЕ´. Увішны ў рабоце чалавек. *Да любой работы гэты хлопяц здатны, як мятлою мяце.* Заполле Кос.

ЯК НА БЯДУ´. Нібы знарок. *Самагонку гнала. Як на бяду, міліцанер у хату заходзіць. Добра, шчо на кухню ні зайшоў – была б мне самагонка.* Альшаніца Квас.

ЯК НА ГАЛКА´Х. Адчуваць неспакой, трывогу. *Канцэрт у клубі харошы. А я сяджу як на галках: здэцца, ні выключыла праса. Кінула глядзець, пабегла. Не, усё выключано. Вот і паглядзела.* Зялёны Бор Стайк.

ЯК НА ГРЭХ. Нібы спецыяльна. *Хацеў купіць меду, прадавалі на базары. Як на грэх, грошы дома забыўся ўзяць і пазычыць німа ў каго.* Гошчава Стайк.

ЯК НА ДАЛО´НІ. Добра бачна. *З Косава ідзеш дахаты, бывая, ледзьве ногі валачэш. А падымяшся на*

*горку ля Стройкі – усё сяло як на далоні. Здэцца, ужэ і дома, і ногі лягчэй ідуць.* Заполле Кос.

ЯК НА ДЗЯДЫ´. Уволю (наесціся). *На Дзяды багатую вячэру рыхтуюць, бо памінаюць памерлых родзічоў. Так і кажуць: наеўся як на Дзяды.* Альшаніца Квас.

ЯК НА ДРАЖДЖАХ. Вельмі хутка (расці). *Чужыя дзеці як на дражджах растуць, а свае доўго.* Бялавічы Кос.

ЯК НА ДУХУ´. Гаварыць праўду, прызнавацца. *Як на духу табе прызнаюся, старыя ўжэ, можно. Гэто ж я цябе замуж хацеў браць. Але бацько ні даў: нешчо нашы бацькі ні ладзілі паміж сабою.* Стайкі Стайк.

ЯК НАЖО´М ПА СЭ´РЦЫ. Так скажуць, калі пачуюць непрыемнае для сябе паведамленне. *Лепяй ты мне ні казаў бы, што швагяр пра мяне кепско гаварыў. Гэто мне як нажом па сэрцы. А я яго лічыў за брата.* Кушняры Падст.

ЯК НА ЖЫВО´Т. Моцна крычаць. *Жонку во ўквяліў: ні зацягнуў дрот свіням да поліка вырвалі ў свінінцы. То крычыць вон як на жывот, як ёй той дрот зацягнулі.* Альшаніца Квас.

ЯК НА ЗАКА´З. Пра тое, што зроблена якасна, адпавядае ўсім патрабаванням. *Пальто шукала купіць: і ў Ражану ездзіла, і ў Вацэвічы. А забегла ў Косаво ва ўнівермаг, памерыла адно – як на заказ шыто. Ды купіла.* Мілейкі Міл.

ЯК НА ЗЛО. Так скажуць, калі задуманае не здзейсніўся. *Раз у год выбралася ў Жыраво ў манастыр з'ездзіць – як на зло аўтобус ні прышоў.* Размеркі Стайк.

ЯК НА КРЫ´ЛАХ. Вельмі хутка (бегчы, ляцець). *Адкрыў канверта, а ў ім выклік на вучобу. То дахаты як на крылах ляцеў, каб хучэй пахваліцца.* Заполле Кос.

ЯК НАЛІ´ТЫ. Так кажуць пра нездаровую паўнату. *З арміі прышоў стройны, харошы хлопяц. А зараз як наліты. І што з ім зрабілась?* Няхачава Стайк.

ЯК НА ПАДБО´Р. Аднолькава добрай якасці. *Сядзела на гуліцы на лаўцы. А дзеткі ішлі са школы. Усе як на падбор: акуратнянькія, чысцянькія. Ажно на душэ стало добра.* Яглевічы Ягл.

ЯК НА ПАЖА´Р. Хутка (бегчы). *Чаго ты бяжыш як на пажар? Магазіна на рэвізію закрылі, вечаром будуць хлеб прадаваць.* Гічыцы Ягл.

ЯК НА РАЗ УКУСІ´ЦЬ. Мала, вобмаль. *Трэба ісці хлеба купіць. А то засталосё ў хаці як на раз укусіць.* Галенчыцы Ягл.

ЯК НА САБА´КУ. Моцна крычаць. *Мая жонка кожан дзень на мяне як на сабаку гаў да гаў: то вады ні прынёс, то смальнякоў ні нарубаў. Раней яна такая ні была. І шчо з ёю зрабіласё?* Альшаніца Квас.

ЯК НА САБА´ЦЫ. Хутка загойвацца. *Ні быў бы то малады – усё зажывая як на сабацы. Так быў разваліў пальца, о, ужэ і зажыў.* Альба Квас.

ЯК НА СВІНІ´ ПРАЕ´ХАЦЬ. Так скажуць, калі незадаволеныя пражытым жыццём. *А што я добраго бачыў? У пятнаццаць гадоў як паехоў з дому, то так і цягаўся па чужых людзях. Пражыў як на свіні праехоў. Вярнуўся во на старасць дахаты, то хоць пахаваюць са сваімі людзьмі.* г.Косава.

ЯК НА СПО´ВЯДЗІ. Нічога не ўтойваючы. *Усю праўду табе кажу, як на сповядзі перад табою. Ні гневайся ты на мяне, ні я вінаваты, што ў цябе парцізаны забралі карову. Іх нехто другі накіраваў да цябе.* Боркі Падст.

ЯК НА СТО КО´НЕЙ СЕ´СЦІ. Адчуваць вялікую радасць, задавальненне. *Мая суседка дачку замуж за косаўскаго мешчаніна аддала. То як на сто коняй села. Усім хваліцца, шчо багаты. Кажа, ні будзя мая дачушка ў гнае капацца, а будзе як пані хадзіць.* Бялавічы Кос.

ЯК НАЦІ´НА СТАЛА. Зрабіцца тонкай, схуднець. *Унучка прыехала з горада на канікулы, як націна стала.*

*Думаю, ці табе баліць шчо, ці ты талію беражэш? Як пачала карміць яе аладкамі са смятанаю, да малаком з медом, то за лето паправілася.* Альшаніца Квас.

ЯК НЕ´БО І ЗЯМЛЯ´. Зусім непадобныя адзін на аднаго. *Двоя дзяцей у мяне, а як небо і зямля. Адзін спакойны, ціхі, а другі як вецяр. Глядзець трэба ды глядзець.* Любішчыцы Люб.

ЯК НЕДАРЭ´ЗАНЫ. Моцна (крычаць). *Сусед як корка панюхая, то адразу пазнаяш: крычыць на ўсіх як недарэзаны. Стараюцца хучэй спаць пакласці. А як цвярозы, то лепшаго чалавека німа.* г.Івацэвічы.

ЯК НІ КРУЦІ´. Пра бязвыхаднасць, наканаванасць лёсу. *У нас так кажуць: як ні круці, а мус памярці. Ні паміраці́мя той, хто ні радзіўся.* Альшаніца Квас.

ЯК НІ СВАІ´МІ НАГА´МІ (ІСЦІ´). Адчуваць сябе стомленым, змораным. *Па ягады хадзіла. Аж за Ворлю. То гэдак натамілася, шчо дахаты ішла як ні сваімі нагамі.* Бялавічы Кос.

ЯК НІ СВОЙ. Як чужы. *Што ты прышоў і маўчыш як ні свой? Як там у бацькоў здароўе?* Мілейкі Міл.

ЯК НОЖ У СЭ´РЦО. Адчуць моцны душэўны боль, пакуты. *Прышла дачка, кажа, што з мужыком будзя разводзіцца. То мне як хто нож у сэрцо ўсадзіў. Дзяцей, кажу, пасіраціш. Сабе, можа, мужыка яшчэ знайдзяш, а дзецям бацька не.* г.Івацэвічы.

ЯКО´ГО РАЖНА´ (ЛІ´ХА)? Што трэба? *Якого ражна табе трэба ад мяне?* Заполле Кос.

ЯК ОЙЧА НАШ. Ведаць, запомніць нешта вельмі добра, цвёрда. *Даўней урокі застаўлялі вучыць як Ойча наш. Але і самы дзеці тады стараліся.* Сакоўцы Міл.

ЯК ПАВЯЗЦІ´. Колькі здужаць. *Напакавалі сена добра, як павязці. Добра, шчо на санях. Каб увосянь возом, то ні забралі б стажка за раз.* Ёдчыкі Квас.

ЯК ПАД ЗЕ´МЛЮ ПРАВАЛІ´ЦЦА. Бясследна

знікнуць, прапасці. *Прапала рабая курачка, як пад зямлю правалілася. Шкада, маладая, само нясціся пачала.* Заполле Кос.

ЯК ПАД ЗЯМЛЁЮ ХАДЗІ´ЦЬ. Быць у стане прыгнечанасці, смутку. *Бяда ў чалавека, як пад зямлёю ходзіць: бацько моцно захварэў. Кажуць, аперацыю трэба рабіць, а грошай на яе німа.* г.Косава.

ЯК ПАДКО´ШАНЫ. Імгненна (упасці, зваліцца). *Німа хужэй за снайпяра на вайне. Здэцца, і ціхо, а бойся вылязці з траншэі. Во, толькі голоў высунуў, а ўжэ ўпаў як падкошаны.* г.Івацэвічы.

ЯК ПАДМЯНІ´ЛІ. Нехта відавочна перамяніўся, стаў іншы. *Што з табою зрабіласё? Быў такі вясёлы, кампанейскі. А гэто ходзіш носа павесіўшы. Што з табою? Як падмянілі чалавека.* Руда Падст.

ЯК ПАДНЯ´ЦЬ. Так скажуць пра цяжкае, важкае што-небудзь. *Гарбузы гэты год параслі як падняць.* Грыўда Міл.

ЯК ПА КАМА´НДЗЕ. Усе разам, адначасова. *Даўней, пры Польшчы, вучыцяля ў пашані былі. Картоплёў ні садзілі і ні капалі, як зараз, бо грошы добрыя палучалі. У клас як зойдзя, то ўсе як па камандзі ў струнку выцягваліся.* Заполле Кос.

ЯК ПАЛАТНО´. Вельмі бледны. *Памятаю, брат старэйшы ўзяў з сабою вазіць лён. А на калдобіні як хістануло воза, я і паляцеў з воза галавою на землю. Але нічого, падняўся, паплакоў трохі. А брат збялеў як палатно.* Заполле Кос.

ЯК ПАМЯЛО´. Пра языкастага чалавека, плеткара. *У цябе язык як памяло, хоць печ выметай. Сплетні з усіх вуглоў пазбіраяш.* Альшаніца Квас.

ЯК ПАПА´ЛО. Абы-як. *Капаяш ты картоплі як папало. Ты ж ні ў калхозі, а ў сябе дома, старайся!* Размеркі Стайк.

ЯК ПА ПІ´САНАМУ. Без запінкі (гаварыць, расказ-

ваць). *Ні быў бы то вучыцяль. Гаворыць як па пісанаму.* Падстарынь Падст.

ЯК ПАНЯСЦІ´. Столькі, наколькі хопіць сіл. *Дзеці да бацькоў едуць з лёгкімі сумкамі, а назад напакуюць – як панясці. Смешно глядзець. Аж стогнуць.* Альшаніца Квас.

ЯК ПЕНЬ. 1. Зусім (глухі). *Мацней кажэця, а то я зусім ні чую, як пень глухі.* Стайкі Стайк. 2. Не разумець, не разбірацца. *Я ў гэтой тэхніцы як пень. Матацыкла маю, а рамантаваць прашу швагра.* Стайкі Стайк.

ЯК ПІЛА´. Бурклівы чалавек (звычайна жанчына). *І трэба было здурэць да ўзяць жонку з-за свету, з Палесся. Як сваіх дзяўчат ні было. Як ано прывёз, то маўчала, ідаць, прыглядалася. А зараз пілiць як піла, да яшчэ і ржавая. Кожны дзень знойдзя, да чаго прычапіцца.* Квасевічы Квас.

ЯК ПІЛІ´П З КАНАПЕ´ЛЬ. Знячэўку (выскачыць, з'явіцца). *Што ты выскачыў як піліп з канапель? Хто кажа на цябе, што ты гультай? Гэто мы, дурні, рвем жылы, робячы гэтыя пустакі за бясплатно.* Заполле Кос. Піліп – тут: заяц.

ЯК ПІЦЬ ДАЦЬ. Несумненна, бясспрэчна. *У гэтом стажку як піць даць тоны паўтары сена будзя. Яшчэ адзін такі стажок – і на карову на цэлу зіму будзя.* Бялавічы Кос.

ЯК ПЛЮ´НУЦЬ. Лёгка. *Мне гэтыя дрова пакалоць як плюнуць. Ты ано давай шыхуй смачны абед.* Даргужы Міл.

ЯК ПРАЗ СОН. Не быць упэўненым у праўдзівасці пачутага. *Ці гэто мне прысніласё, ці гэто я як праз сон чуў, што ты мне, тато, пуцёўку ў піянерскі лагяр узяў?* Мілейкі Міл.

ЯК ПУ´ГАЮ ПА ВАДЗЕ´. Сказаць штосьці недарэчнае. *Ну, ты і ляпнуў, як пугаю па вадзе. Дзе ты чуў, што ад фітафторы памідоры малаком крапіць трэба?*

*Ці гэтаму праўда?* Жамайдзякі Міл.

ЯК ПШАНІ´ЦУ ПРАДА´ЎШЫ. Моцна (спаць). *Пайшоў мой хлопяц у лес па грыбы да заблудзіўся. Адбіў ногі, пакуль дарогу знайшоў. То зараз спіць як пшаніцу прадаўшы.* Альба Квас.

ЯК ПЫ´ЛЬНЫМ МЯШКО´М СТУ´КНУТЫ. Прыдуркаваты. *Ён як пыльным мяшком стукнуты. І вы яму верыця, што ў гэтой лужыні рыба е? Ну, то лавеця!* Лазаўцы Міл.

ЯК РАК НА ГАРЭ´ СВІ´СНЯ. Невядома калі альбо ніколі. *Кажа, прыедзяш да мяне пасля. Прыеду я да цябе ўжэ як рак на гарэ свісня. Я рады, што з тваіх кіпцюроў вырвоўся.* г.Івацэвічы.

ЯК РУКАВІ´ЦА. Так звычайна кажуць пра вузкі палетак, агарод, сядзібу. *Даўней у кожном сяле хата на хаці стаяла. Агароды былі як рукавіцы.* Скураты Квас.

ЯК РУКО´Ю АДНЯЛО´. Так скажуць, калі прапаў, знік боль. *Картоплі перабірала, а такі скразняк у будынках. У правая вухо надзьмуло, аж галава ад болю трашчала. Пайшла да Зосі ад ветру. Пагаварыла – як рукою адняло*. Заполле Кос.

ЯК РУКО´Ю ПАДА´ЦЬ. Зусім блізка. Шчо табе ісці тут? *Ад Альшаніц да Скуратоў як рукою падаць. Дваццаць мінут ды дома.* Альшаніца Квас.

ЯК РЫ´БА. Упарта, зацята (маўчаць). *Як ні дапытвалася ў хлопца, хто набіў, маўчыць як рыба. Мусіць, сам вінаваты.* Сенькавічы Падст.

ЯК РЫ´БА Ў ВАДЗЕ. Знаходзіцца ў прывычным асяроддзі. *Я ўмею з людзьмі жыць. Я ўсюды як рыба ў вадзе.* г.Івацэвічы.

ЯК РЭ´ЗАНЫ. Моцна (крычаць, верашчаць). *Чаго ты крычыш як рэзаны? Ці яны вінаваты, што тут пачалі касіць? Дзе іх паставілі, там яны і косяць. Вы, начальнікі, разбярэцеся паміж сабою, а тады будзяш вішчаць*. Жытлін Жытл.

ЯК РЭ´ПУ ГРЫЗЕ´. Выразна (чытаць). *Унучка яшчэ ано ў першы клас ходзіць, а чытая як рэпу грызе.* Дубітава Міл.

ЯК РЭ´ШАТО. Пра слабую памяць. *У мяне памяць як рэшато стала. Ніяк ні ўспомню, у яком гаду ў нову хату перайшлі.* Хрышчонавічы Квас.

ЯК САБА´КА БЛОХ. Моцна напіцца. *Сын нарадзіўся ў брата, да гэтаго адны дзяўчатка былі. То з радасці замочвоў. І мой папаў на тую замочку. На вушах дахаты прышоў, набраўся як сабака блох.* Любішчыцы Люб.

ЯК САБА´КА ДА ГО´ДУ. Неразумны. *Што ад яго хацець? Малады яшчэ, дурны, як сабака да году.* Уласаўцы Жытл.

ЯК САБА´КА З КАТО´М. Не ладзяць. *Жывуць, але ні дай Бог такого жыцця. Кожны дзень грызуцца як сабака з катом. Адно што дзеці трымаюць.* Гічыцы Ягл.

ЯК САБА´КА КІ´Я. Зусім не любіць. *Хоць кажаш, што любіш мяне, але я бачу, што ты мяне любіш як сабака кія.* Боркі Падст.

ЯК САБА´ЦЫ ПЯ´ТА НАГА´. Так кажуць пра непатрэбную рэч ці непажаданага чалавека. *Нашчо ты мне зараз прадаеш сячкарню? Яна мне трэба як сабацы пята нага. Я ўжэ ні кароў, ні свіней ні трымаю. Яна мне дзесяць гадоў назад трэба была, але тады ты пашкадаваў прадаць.* Бусяж Міл.

ЯК СА´ЛО БЕЗ ХЛЕ´БА. Так кажуць пра чалавека невялікага розуму. *Малады ты яшчэ, дурны як сало без хлеба. Хто кажа дзеўчыні, што н준модно апранулася. Так цябе ніхто любіць ні будзя.* Квасевічы Квас.

ЯК САМ НІ СВОЙ. Моцна ўсхваляваны. *Ну, і шчо, шчо конь прапаў. Конска маці ні звялася: другого купіш. А то ходзіш як сам ні свой.* Скураты Квас.

ЯК СВАЕ´ ВУ´ШЫ. Ніколі не пабачыць. *Ні памагла мне кароў адпасвіць, то ўбачыш новыя туфлі як свае*

*вушы без люстэрка.* Альшаніца Квас.

ЯК СВА´Е ПЯЦЬ ПА´ЛЬЦОЎ. Добра (ведаць). – *От, дзед, я люблю з табою збіраць грыбы. З табою як пойдзям, то заўсёды адных баравікоў назбіраю. – О, унучок, я тут вырас, і лес гэты, і ўсё кругом ведаю як свае пяць пальцоў.* Харошча Міл.

ЯК СВЕТ СТАІ´ЦЬ. Вельмі стары, даўні. *Як свет стаіць, так гэты камянь ляжыць тут. Людзі яго ні мінаюць, бо на ём слядок дзіцячы, кажуць, анёльскі. Усё расою са слядка вочы прамываюць, памагая людзям.* Бусяж Міл.

ЯК СЕ´ЛА, ТАК І ПРЫКІПЕ´ЛА. Надоўга затрымацца. *Забегла на мінуту да цябе, а як села, так і прыкіпела. Недзі дрова згарэлі ў пячэ.* Альшаніца Квас.

ЯК СЕРАДА´ НА ПЯ´ТНІЦУ. Выказаць нездавальненне, скрывіцца. *Што ты скрывілася як серада на пятніцу? Ну, ні купіла я табе туфлі, бо ні было харошых. Паедзям разом у нядзелю на базар і купім.* Панкі Люб.

ЯК СІ´ДАРАВУ КО´ЗУ. Моцна (біць). *Убачыў ку´рачы, то валіў як сідараву козу. Ні памагло. Трэба, мусіць, без біцця ўкласці яму ў голоў, якую бяду ён сам сабе шукая.* Заполле Кос.

ЯК СКРОЗЬ ЗЕМЛЮ´ ПРАВАЛІ´ЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ). Нечакана прапасці, знікнуць. *Крыям хату. Цвікоў шыфярных ні хапіло. Паслаў хлопца ў Косаво ў жалезны магазін: ні хлопца, ні цвікоў. Як скрозь зямлю праваліўся.* Рацкевічы Міл. Жалезны магазін – тут: магазін гаспадарчых тавараў.

ЯК СКУ´ЛА. Моцна перашкаджаць, раздражняць. *Мне гэты твой трактар на надворку як скула. Забрыдзіў кругом маслом, саляркаю. Курам травы німа дзе падзяўбці.* Заполле Кос.

ЯК СЛЕ´ДЗЁЎ У БО´ЧЦЫ. Вельмі многа. *Прыехоў канцэрт з Зялёнага Бору, то людзей у клубі як следзёў у бочцы.* Гошчава Стайк.

ЯК СМАЛА́. Неадчэпна (прыстаць, прычапіцца і пад). *Што ты да мяне прыстаў як смала? Калі да калі ў Косаво паедзям? Дай хоць паснедаць! Базар да паўдня, паспеям.* Грыўда Міл.

ЯК СНОП. Адразу, раптоўна (зваліцца, упасці). *Каталіся на лёдзі. Нехто стукнуў ззаду санкамі, то зваліўся як сноп. Патыліцаю стукнуўся.* Бялавічы Кос.

ЯК СО́ННАЯ МУ́ХА. Вельмі павольна. *Што ты ходзіш як сонная муха? Варушыся хучэй. Да вечара трэба пазбіраць гэтыя картоплі: назаўтры замаразкі будуць.* Харошча Міл.

ЯК СПІЦЬ ДА СЦЯНЫ́ ЗУБА́МІ. Так скажуць пра сварлівага чалавека. – *Добры, Любачка, у цябе мужык. – Добры, як спіць да сцяны зубамі.* Альшаніца Квас.

ЯК СТАРО́Й БА́БІ СЕ́СЦІ. Мала (часцей пра зямлю). *Якія зараз пляцэ даюць? Як старой бабі сесці: ні агарода, ні прысаддзя пасадзіць.* г.Івацэвічы.

ЯК СТАЮ́ (ЯК СТОЙ). Нічога не мець. *Я разышлася з мужыком і засталася як стаю. Усё трэба нажываць спачатку. Але затое нервы на месці.* г.Косава

ЯК СЫР У МА́СЛІ КАЧА́ЦЦА. Жыць багата, у дастатку. *Мая ўнучка замуж пайшла за амерыканца, то як сыр у маслі качаяцца. Тут гэдык ні жыла б. Ано шчо сумуя па сваіх. То прыязджая па два разы на год.* г.Івацэвічы.

ЯК ТАПЕ́ЛЯЦ ЗА САЛО́МІНКУ. Так кажуць, калі шукаюць паратунку. *Як бяда напаткая, то кідаяшся ва ўсе бокі. Хватаяшся, як тапеляц за саломінку, за ўсё, што людзі параяць.* Яглевічы Ягл.

ЯК ТОЙ КАЗА́Ў. Як кажуць людзі. *Як той казаў, абы здароўе было, а грошы рукамі заробім. Галава ж варыць, ды і пажылі на свеце.* Сенькавічы Падст.

ЯК ТУМА́Н У ВАЧА́Х. Няясна, цьмяна бачыць. *Доктар, што за мною робіцца, ні ведаю. Часом як туман у вачах і галава кружыцца.* Стайкі Стайк.

ЯК ТУТ І БЫЎ (БЫЛО´, БЫЛА´). На сваім месцы. *Ні пашкадаваў грошай, купіў карціну – восянь намалёвана. Павесіў на сцяне – як тут і была.* Воля Жытл.

ЯК У БО´ГА ЗА ПА´ЗУХАЮ (ЗА ПЛЯЧЫ´МА). Жыць без клопатаў, усё мець. *Ажаніўся мой унучок, да прышлі ў маю хату жыць. Ён трактарыстом у калхозі, а яна з дзіцятком сядзіць. Ладзяць паміж сабою, усё стараюцца мець. І слухаюць, што падказваю. Жыву я, Алена, як у Бога за пазухаю.* Гошчава Стайк.

ЯК У ВІР ГАЛАВО´Ю. Згінуць, прапасці, нават следу пасля сябе не пакінуць. *Як пайшоў мой бацько на фронт, то як у вір галавою.* Альшаніца Квас.

ЯК У ВО´ДУ АПУ´ШЧАНЫ. Прыгнечаны, заклапочаны, засмучаны. *Што ты ходзіш як у воду апушчаны? Аперацыю зрабілі і радуйся. Яшчэ пажывеш. Твая работа ні трэба ўжэ. Е каму рабіць. А ты словом памагай маладым.* г.Косава.

ЯК У ВО´ДУ ГЛЯДЗЕ´ЦЬ. Прадбачыць тое, што адбудзецца. *Ты, Іван, як у воду глядзеў. Твая праўда вышла: выміраюць сёла. Прайшоўся ўчоры па гуліцы – адны пустыя хаты.* Скураты Квас.

ЯК У ДЗ´ЯТЛА ПАД ХВАСТО´М. Брудна. *У тваёй хаці як у дзятла пад хвастом.* Заполле Кос.

ЯК УДО´ЎЖ ТАК І ЎПО´ПЯРОК. Так скажуць пра тоўстага чалавека. *Пайшоў на пенсію, спяшыць ні трэба нікуды, есці е шчо, то паправіўся. Жонка во смяецца: “Ты, Андрэй, зрабіўся як удоўж так і ўпопярок”.* г.Івацэвічы.

ЯК УКО´ПАНЫ. Нерухома (стаяць). *У Косаві быў. Пад’язджаю дахаты – повян надворок людзей. Кажуць, пажар быў у цябе ў хаці. Унукі з запалкамі балаваліся, ды занавеска загарэлася. А ў мяне ногі адняліся, стаю як укопаны, ано пытаюся, ці хоць жывыя. Дзякаваць Богу, набеглі людзі, вынеслі з хаты дзяцей і агонь патушылі.* Заполле Кос.

ЯК УЛІ´ТЫ. Патрэбнага памеру (пра адзенне). *Жонка касцюма мне купіла. Кажа, прасіла некага чалавека, каб памероў. Апрануў я – як уліты на мне.* Альба Квас.

ЯК У МЯШКУ´ ВІСІ´ЦЬ. Хмарна. *Цэлы дзень як у мяшку вісіць.* Стайкі Стайк.

ЯК НІ Ў СЯБЕ´. Многа (есці, піць). *Мой чалавек есць як ні ў сябе. Каб я гэдулькі ела, то як бочка была б, а ён худы.* Воля Жытл.

ЯК У ПАДУ´ШКУ. Бязлітасна (біць). *Мой сусед як вып'я, то дурны робіцца. Жонку б'е як у падушку, людзі адбіраюць.* г.Косава.

ЯК У ПО´ЛІ ВЕ´ЦЯР. Несур'ёзны, легкадумны чалавек. *І зараз ён абы-які, як у полі вецяр. Ажэніцца, то ано свет жонцы завяжа. Чалавека з яго ні будзя.* Яглевічы Ягл.

ЯК У ПРО´РВУ. Так скажуць пра таго, каму ўсяго мала, чые патрэбы цяжка задаволіць. *Колькі ні давала яму і грошай, і прадуктамі памагала, і адзежу купляла – усё як у прорву. Дзе яны гэто ўсё дзяюць?* Падстарынь Падст.

ЯК У РУ´КУ. Сон, які спраўдзіўся. *Прысніласё, што цэлы кошык праўдзівікоў назбірала. Разгадала: грыбы – гэто людзі. Сон як у руку даў: пад вечар дзеці з унукамі прыехалі. Цэла хата гасцей.* Панкі Люб.

ЯК ХВАРО´БІ КА´ШАЛЬ. Ніяк. *Ты мне сто грам лепяй дай, то я хутко папраўлюся. А твае шэпты памогуць як хваробі кашаль.* Бараны Ягл.

ЯК ХТО ПАДМЯНІ´Ў. Перамяніцца ў горшы або лепшы бок. *Паляжала два тыдні ў бальніцы, прыехала дахаты, а мужыка як хто падмяніў. Гэдакі добры стаў – вядра вады ні дае прынясці. Паглядзеў, як аднаму жыць.* Кушняры Падст.

ЯК ЦАРКО´ЎНАЯ МЫШ. Пра беднасць. *От я сабе думаю, чаму так даўней казалі: бедны як царкоўная мыш. А раздумоўся – праўду казалі. А чым ты там пажывісся, шчо возьмяш? Адны абразы да харугвы.* Бялавічы Кос.

ЯК ЦЕНЬ. 1. Неадступна (хадзіць за некім). *Не валачыся за ёю як цень. Ты ёй ні пара, яна за цябе замуж ні пойдзя.* Квасевічы Квас. 2. Засмучаны, прыгнечаны нечым. *Ходзіць з кутка ў куток як цень, места сабе ні знаходзіць: жонку ў бальніцу забрала скорая. Кажуць, інсульт у яе.* Ёдчыкі Квас.

ЯК ЧАРАПА´ХА. Марудна. *Хучэй ідзі, а то паўзеш як чарапаха. На аўтобус спознімся.* Хрышчонавічы Квас.

ЯК ЧО´РНА ХМАРА. Быць у дрэнным настроі. *Чаго ты ходзіш як чорна хмара? Малады, здаровы, чаго табе ні хватая? Мухі ля цябе дохнуць. Паглядзі, сонцо свеціць, вясна на дварэ.* Альшаніца Квас.

ЯК ЧО´РНЫ ВОЛ. Многа (працаваць). *Усё жыццё рабіла як чорны вол, і нічого ні мела. На смерць грошай назбірала, то і тыя гасударство ўкрало. Зараз во лягчэй людзі робяць, на машынах ездзяць і смачно ядуць.* Размеркі Стайк.

ЯК ЧОРТ З ТАБАКЕ´РКІ. Нечакана. *Паехоў у лес па дрова. Ано спусціў сухастоіну – ляснік як чорт з табакеркі. Добра, шчо з свайго сяла. І бутылка віна была ў мяне, то паладзілі.* Бялавічы Кос.

ЯК ЧОРТ ЛА´ДАНУ (КРЫ´ЖА). Моцна (баяцца). *Кажа сват, каб я развёў пчол. А я іх баюся як чорт ладану: укусіць пчала за паляц, то пухня ўся галава.* Любішчыцы Люб.

ЯК ЧОРТ ПАНЁ´С. Хутка пабегчы. *Сонцо паднялосё. Як забзыялі авадне, то кароў маіх як чорт панёс: ніяк не утрымаў, адно у сяле запынілі.* Мілейкі Міл.

ЯК ЧЭ´РЦІ ГАРО´Х МАЛАЦІЛІ´. Так скажуць пра чалавека, твар у якога пабіты воспаю. *Паглядзі на яго твар, як чэрці гарох малацілі. Мусіць, малым на воспу хварэў.* Заполле Кос.

ЯК ШВЕД ПАД ПАЛТА´ВАЮ. Бясследна (згінуць, прапасці). *Паехоў на заробкі і згінуў як швед пад Палта-*

*ваю. Ні слуху ні духу. І ні звоніць, і ні піша.* г.Івацэвічы.

ЯК ШКЛЯ́НКА. Так звычайна кажуць пра новы прыгожы дом. *Доўго будаваўся. Але зрабіў хату – як шклянка стаіць.* Няхачава Стайк.

ЯК ШТЫК. Своечасова (быць, з'явіцца). *Ні перажывай, заўтры роўно ў восім як штык буду. Грыбы ад нас ні ўцякуць.* Альшаніца Квас.

ЯК ШЫ́ЛО З МЯШКА́. Немагчыма схаваць. *Колькі ні таіся, а праўда вылязя як шыло з мяшка. Усе будуць ведаць, шчо твой сын ні ў арміі, а ў цюрму папаў.* Заполле Кос.

ЯК ЯЗЫ́КА ПРАГЛЫНУ́Ў (-ЛА, -ЛІ). Зацята (маўчаць). *О гэто жаніх: пайшлі ў сваты, то за цэлы вечар і слова ні аказаў. Маўчаў як языка праглынуў. Шчо ён будзя з жонкаю гаварыць?* Квасевічы Квас.

ЯНО́ ДУХ У НО́СІ. Слабы, хворы. *Ляжыць мая суседка яно дух у носі.* Заполле Кос.

ЯСНО́ ЯК ДЗЕНЬ. Зразумела. *Ты ні віляй хвастом. Тут усё ясно як дзень: гэто ты падбіў майго хлопца ўкрасці матацыкла, каб пакатацца.* Стайкі Стайк.

ЯШЧЭ́ НА СВЕ́ЦІ ДУ́РНІ НІ ПЕРАВЯЛІ́СЯ. Так кажуць пра даверлівых людзей, якіх лёгка ашукаць. *Чаго я буду гарба гнуць? Яшчэ на свеці дурні ні перавяліся – найму выкапаць картоплі.* Лазаўцы Міл.

ЯШЧЭ́ ЧЭ́РЦІ НА КУЛАЧКІ́ НІ БРА́ЛІСЯ. Далёка да світання, можна яшчэ паспаць. *Чаго спароўся рано? Спі. Яшчэ чэрці на кулачкі ні браліся.* Альшаніца Квас.

## Прынятыя скарачэнні

Сельскія саветы Івацэвіцкага раёна (Косаўшчына).

Жытл. – Жытлінскі, Квас. – Квасевіцкі, Кос. – Косаўскі, Люб. – Любішчыцкі, Міл. – Мілейкаўскі, Падст. – Падстарынскі, Стайк. – Стайкаўскі, Ягл. – Яглевіцкі.

Даведачнае выданне

**ЗАЙКА**
**Алесь Фаміч**

**Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны**

**Рэдактар**
Таццяна Саванеўская

**Камп'ютарны набор:**
Антаніна Зайка, Ганна Хаванская

**Дызайн і вёрстка**
Валерый Гапееў

**Тэхнічны рэдактар**
Алег Філанюк

**Карэктар**
Антаніна Зайка

Падпісана ў друк 26.03.2014 г.
Фармат 84x108 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 17,96. Ул.-выд. арк. 15,24.
Тыраж 300 экз. Заказ 100.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
ААТ «Брэсцкая друкарня»
224013 г. Брэст, пр-т Машэрава, 75
ЛВ 02330/0056981 ад 08.04.2009 г.
ЛП 02330/0494170 ад 03.04.2009 г.



Алесь Фаміч Зайка нарадзіўся 12 жніўня 1948 года ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1966 годзе скончыў Косаўскую сярэднюю школу, у 1971 – філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Пасля службы ў Савецкай Арміі вярнуўся ў родную вёску, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Цяпер загадвае школьным этнаграфічным музеем.

Аўтар кніг "Дым з коміна" (2011), "Дыялектны слоўнік Косаўшчыны" (2011), "Населеныя пункты Івацэвіччыны" (2012).

"Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны" – плён шматгадовай працы руплівага збіральніка народнай фразеалогіі аднаго з куточкаў Беларусі – насельнікаў паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна.

Фразеалагічны склад кожнае мовы вызначае нацыянальную адметнасць народа, раскрывае самабытнасць яго духоўнага свету, маральна-эстэтычныя каштоўнасці, мастацка-вобразны лад маўлення. Фразеалогія ж пэўнага дыялекта спрыяе пашырэнню і ўзбагачэнню агульнанароднай фразеалогіі. Прапанаваны слоўнік – яркае таму пацвярджэнне.

У папулярнай этнаграфічна-гістарычнай серыі Алеся Зайкі, якую запачаткаваў «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» і працягнуў «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны», у бліжэйшы час плануюцца да выхаду новыя кнігі аўтара: «Прыказкі, прымаўкі, выслоўі Косаўшчыны», «Мікратапаніміка Івацэвіцкага раёна».


ISBN 978-985-524-168-4
9 789855 241684